**МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
**Установа адукацыі**
**«Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт**
**імя Максіма Танка»**

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ МОВА І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КУЛЬТУРА: АСПЕКТЫ ЎЗАЕМАДЗЕЯННЯ

***ЗБОРНІК НАВУКОВЫХ АРТЫКУЛАЎ***

**Мінск 2009**

Друкуецца па рашэнні рэдакцыйна-выдавецкага савета БДПУ

**Рэцэнзенты**:

Ю.М.Бабіч, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П.М.Машэрава;

Л.П.Кузьміч, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай мовы Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны

**Рэдакцыйная калегія:**

Д.В.Дзятко, кандыдат філалагічных навук (адказны рэдактар),
П.А.Міхайлаў, кандыдат філалагічных навук,
Н.А.Радзіваноўская, кандыдат філалагічных навук,
Ф.С.Шумчык, кандыдат філалагічных навук,
В.В.Урбан, кандыдат філалагічных навук

**Нацыянальная мова і нацыянальная культура: аспекты ўзаемадзеяння**: зборнік навуковых артыкулаў / рэдкал.: Д.В.Дзятко (адк. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Выд-ва БДПУ, 2009. – 204 с.

У зборнік навуковых артыкулаў увайшлі матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Нацыянальная мова і нацыянальная культура: аспекты ўзаемадзеяння», якая праходзіла на базе кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка 5 – 6 мая 2009 г.

Адрасуецца навуковым работнікам, выкладчыкам, аспірантам, студэнтам і ўсім, хто цікавіцца праблемамі беларускай лінгвістыкі.



ISBN © ВВЦ БДПУ

**Т.М.Аліферчык (Мінск, Інстытут мовы
і літаратуры НАН Беларусі)**

## ЭТНАЛІНГВІСТЫЧНАЕ ДАСЛЕДАВАННЕ ТАПАНІМІІ: ЛАНДШАФТНАЯ МАДЭЛЬ ТАПАНІМІЧНАЙ СІСТЭМЫ ЗАХОДНЯГА ПАЛЕССЯ

На тапонімы, ўтвораныя ад геаграфічныях тэрмінаў, звярталі ўвагу многія даследчыкі – В.А.Жучкевіч, Л.М.Лыч, С.Басік, І.Я.Яшкін, Ю.А.Карпенка і нш. У прыватнасці, В.А.Жучкевіч сцвярджае, што геаграфічныя тэрміны паслужылі асновай утварэння 10% гідронімаў і больш за 60% назваў населеных пунктаў [1]. Неабходна адзначыць, што пры такім падыходзе – выдзяленні айконімаў, матываваных геаграфічнымі тэрмінамі ў асобную групу – у тапонімах выяўляецца толькі базавая інфармацыя, г. зн. непасрэдна лексічнае значэнне апелятваў, ад якіх яны ўтвораны. Пры ўмове рэканструкцыі ландшафтнай мадэлі тапанімічнай сістэмы выяўляецца іншы падыход да адзначанай класіфікацыі – этналінгвістычны. Асноўнай мэтай такога падыходу з’яўляецца «даследаванне асаблівасцей успрыняцця асобных відаў геаграфічных рэалій, спецыфікі выбару на пэўнай тэрыторыі «аб’ектных прыярытэтаў» – аб’ектаў, якія устойліва выдзяляюцца ў структуры ландшафта і становяцца своеасаблівымі вехамі пры прывязцы іншых ландшафтных рэалій» [2, с. 225]. У такім выпадку ў тапонімах вылучаецца небазавая – этнакультурная інфармацыя, змест якой – сістэма уяўленняў, адзнак, што апісваюць з’явы унутранага і знешняга свету чалавека.

Пры ландшафтнай мадэлі тапанімічнай сістэмы суб’ектам-намінатарам выступае непасрэдна чалавек, які свядома выбірае сярод аб’ектаў рэльефа толькі найбольш значныя. Аналізуючы і класіфікуючы тапонімы Заходняга Палесся, можна выдзеліць толькі тры ландшафтныя аб’екты, якія ўстойліва выдзяляюцца ў структуры ландшафту – гэта лес, балота і вадаём (возера або рэчка).

Неабходна адзначыць, што «на касмалагічныя погляды старажытных людзей, на шэраг з’яў рэлігійнага, сацыяльна-палітычнага і псіхалагічнага характару ўздзейнічала такое ўспрыманне свету, калі «чалавек яшчэ не вырваны з акаляючага яго геаграфічнага ландшафту намаганнем абстрагуючай думкі, не можа яшчэ ў думках паглядзець на зямлю як бы збоку… Ён яшчэ частка гэтага ландшафту, прычым частка цэнтральная і цэнтралізуючая, арганізуючая астатнія аб’екты акаляючай рэчаіснасці адносна самой сябе» [3, с. 30]. Больш таго, ландшафтны тып намінацыі адлюстраваўся не толькі ў тапаніміі, але і ў этнаніміі. «Ландшафт быў істотны для старажытнай рускай этнаніміі: Нестар-летапісец супрацьпастаўляў палян драўлянам; характэрны і балта-славянскі этнонім *дрыгавічы* (*другувіті*) – *дрыгва*, *балота*. Такім жа чынам, па думцы Р.Якабсона, этнонім *чэхі*, што абазначаў ‘сапраўдны народ, чадзь’, супрацьпастаўлены імені *ляхі*, новага народа, які засяліў неапрацаваную зямлю» [4, с. 180]. Відавочна, што ландшафтная мадэль з’яўляецца даволі старажытнай і выяўляе сваю актуальнасць не толькі ў тапаніміі, але і ў этнаніміі. Пры гэтым і ў познія часы яна захавала сваю прадуктыўнасць.

Неабходна адзначыць, што ў гаворках Заходняга Палесся словы *балота*, *лес*, *рака*, *возера* з’яўляюцца абагульняючымі геаграфічнымі тэрмінамі. У залежнасці ад розных прыкмет – топкасці, прыгоднасці ў сельска-гаспадарчых адносінах і інш. балота, памеры, глыбіні і інш. возера або рэчкі, масіўнасці, аднасастаўнасці і інш. лесу, адзначаныя аб’екты абазначаюцца іншымі спецыяльнымі тэрмінамі: *лес – бор*, *дуброва* (*дубрава*), *гай*, *смаліна*, *палонь* і інш, *балота – багно*, *алёс*, *валока*, *марочнэ*, *руда*, *бель*, *струга*, *смуга* і інш. [5]. Сярод тапонімаў Заходняга Палесся сустракаюцца і айконімы, утвораныя непасрэдна ад назоўнікаў *балота*, *лес*, *рака*, *возера*, і айконімы, утвораныя ад адзначаных дыялектных слоў.

Па статыстычных падліках сярод назваў населеных пунктаў, матываваных фларыстычнымі назвамі, каля 11% айконімаў, утвораных непасрэдна ад апелятыва *лес* – *Белалессе*, *Вялікі Лес*, *Залессе*, *Падалессе, Пералессе* і інш. У большасці выпадкаў айконімы гэтай групы з’уляюцца так званымі тапонімамі-арыенцірамі. У некаторых выпадках у якасці лексічнага рэсурсу для тапанімічнай намінацыі выступаюць больш дыферэнцыраваныя геаграфічныя тэрміны для абазначэння лясных масіваў – *Дубрава*, *Дуброўкі*, *Дубраўцы*, *Смолін*, *Гайкоўка*, *Гайкоўцы* і інш. Сярод тапонімаў Заходняга Палесся даволі шматлікая група айконімаў, утвораных ад назоўніка *балота* і некаторых іншых апелятываў для абазначэння балотнага масіва – *Падбалоцце, Забалацце, Струга, Бельск, Белін, Марочнае* і інш. Даволі шматлікая таксама група айконімаў, утвораных ад апелятываў *возера*, *рэчка – Белаазёрск*, *Белае Возера*, *Заазер’е*, *Заазёрная*, *Рэчкі*, *Рэчыца* і інш.

А.Г.Бодарава сцвярджае, што ў большай частцы найменняў лясной прасторы, якія ўваходзяць у дэнататыўны клас <лес>, істотных зменаў у семантычнай структуры за ўвесь перыяд існавання не зафіксавана [6, с. 197]. Аднак некаторыя адзінкі адзначанага класа усё ж такі страцілі асобныя значэнні. Так, напрыклад, лексема *бор<*borъ* у славянскіх літаратурных мовах вядома з семантыкай ‘сасновы лес’ або ‘сасновы лес на сухой глебе’. Аднак у дыялектным матэрыяле Заходняга Палесся выдзяляюцца і такія значэнні лексемы (дыялектныя варыянты – *бур,быр,бір*), як ‘невялікая ўзвышанасць з супясчанай (радзей пясчанай) глебай, звычайна зарослай лесам, часце за ўсё сасновым’, ‘невялікая ўзвышанасць, сопка’, ‘бугрыстая мясцовасць з супясчанай глебай’, ‘высокае месца, дзе расце сасна, бяроза, ягады’, ‘чарналессе’ і інш. [5, с. 23 – 24]. Ф.Д. Клімчук сцвярджае, што перш за ўсё пад лексемай *бор* разумеецца пэўны рэльеф мясцовасці. Верагодна, у некаторых выпадках тапонімы адлюстроўваюць менавіта такую, у літаратурнай мове страчаную, семантыку.

Спецыфіка выбару «аб’ектных прыярытэтаў» абумоўлена не толькі геаграфічнымі ўмовамі развіцця рэгіёну, але і успрыняццем акаляючага ландшафту як рэсурсу гаспадарчай дзейнасці чалавека-намінатара. С. Басік адзначае, што «індыкацыйны патэнцыял» народных геаграфічных тэрмінаў у тапаніміі дазваляе выявіць змены ландшафтаў рэгіёну і іх найбольш мабільных кампанентаў пад уздзеяннем асноўных антрапагенных фактараў: рассялення, развіцця прамысловасці, сельскай гаспадаркі, транспатру, меліярацыі і гд. [7, с. 45].

Ландшафтная мадэль тапанімічная сістэмы з'яўляецца, верагодна, самай старажытнай. Значна пазней пачынаюць узнікаць адантрапанімічныя тапонімы. І нават яны першапачаткова служаць толькі для дыферэнцыяцыі адапелятыўных тапонімаў (тыпу Андрэеў Лес і г.д). Пераход да антрапанімічнай мадэлі звязаны з новай формай гаспадарання – пераходу да палявога земляробства і, як вынік, з фарміраваннем іншай формы свядомасці, іншай формы ўспрыняцця акаляючага асяроддзя.

***Літаратура***

1. Жучкевич, В.А. Местные географические термины в топонимии БССР / В.А.Жучкевич // Местные географические термины в топонимии: тезисы докладов и сообщений / редкол.: Э.М.Мурзаев [и др.]. – М.: Изд-во АН СССР, 1966. – С. 21 – 22.
2. Березович, Е.Л. Русская топонимия в этнолингвистическом аспекте. / Е.Л.Березович. – Екатеринбург: Уральский ун-т, 2000. – 532 с.
3. Подосинов, А.В. Ориентация по странам света в архаических культурах Евразии / А.В.Подосинов – М.: Языки русской культуры, 1999. – 463 с.
4. Петрухин, В.Я., Раевский, Д.С. Очерки истории народов России в древности и раннем средневековье / В.Я.Петрухин, Д.С.Раевский. – М.: Знак, 2004. – 416 с.
5. Толстой, Н.И. Славянская географическая терминология. Семасиологические этюды / Н.И.Толстой. – М.: Наука, 1969. – 262 с.
6. Бондарева, А.Г. Семантическое развитие единиц денотативного класса <лес> в русском языке 11 – 18 вв. / А.Г.Бондарева // Язык. Культура. Человек. Этнос. – Landau: Verlag Empirische padagagik, 2002. – С. 197 – 199.
7. Басик, С. Географические термины в топонимии Западного Полесья как индикаторы изменения ландшафтов в XX веке / С. Басик // Загароддзе-1: матэрыялы междысцыплінарнага навуковага семінара па пытаннях даследавання Палесся (Мінск, 19 верасня 1997 г.). – Минск: БелІПН, 1999. – С. 45 – 47.

**А.У.Андрэева (Мінск, Інстытут мовы і літаратуры НАН Беларусі)**

## СУФІКСАЛЬНЫЯ АДПРЫМЕТНІКАВЫЯ ДЗЕЯСЛОВЫ СА ЗНАЧЭННЕМ 'НАДАВАЦЬ ПРЫМЕТУ' Ў СУЧАСНЫХ РУСКАЙ І БЕЛАРУСКАЙ МОВАХ

Супастаўляльнае вывучэнне словаўтварэння блізкароднасных моў з'яўляецца адным з цікавых і перспектыўных напрамкаў сучаснай лінгвістыкі. Параўнанне дэрывацыйных сістэм роднасных моў, а таксама іх асобных фрагментаў дазваляе ўстанавіць на фоне падабенства глыбокія, істотныя адрозненні, якія вызначаюць спецыфіку кожнай мовы.

Суфіксальнае адыменнае (адсубстантыўнае і ачад'ектыўнае) дзеяслоўнае словаўтварэнне, якое займае значнае месца ў дзеяслоўным словаўтварэнні рускай і беларускай моў, выступаючы сродкам узбагачэння і папаўнення іх слоўнікавага складу, уяўляе сабой важны прадмет навуковага даследавання, у тым ліку і ў кампаратыўным плане.

Адпрыметнікавыя дзеясловы са значэннем ‘надаваць прымету, названую матывавальным словам’, утвараюцца ў рускай і беларускай мовах з дапамогай амаль ідэнтычных суфіксальных фармантаў: -**и**-, -**ова**- (-**изирова**-, -**изова**-, -**фицирова**-), -**а**- (-**я**-) // -**і**- (-**ы**-), -**ава**- (-**ізава**-, -**ызава**-, -**фікава-**), -**а**- (-**я**-).

Прадуктыўны ў абедзвюх мовах, асабліва ў размоўным стылі, словаўтваральны тып дэрыватаў з суфіксам -**и**- // -**і**- (-**ы**-): рус. *весёлый – весел**и**ть, узкий – уз**и**ть (разг.) // бел. вясёлы – весял**і**ць, шчаслівы – шчаслів**і**ць (разм.)*. Дзеясловы данага СТ як у рускай, так і ў беларускай мове пераходныя, са значэннем незакончанага трывання. Яны матывуюцца, як правіла, якаснымі прыметнікамі разнастайнай семантыкі. Самая вялікая група – дэрываты, утвораныя ад прыметнікаў са значэннем уласцівасцей (прадметаў, чалавека ці жывых істот), якія непасрэдна ўспрымаюцца органамі пачуццяў (колер, форма, памер, даўжыня, смак і г. д.): рус. *белый – бел**и**ть*, *круглый – кругл**и**ть (разг.), шершавый – шершав**и**ть (разг.)* // бел. *белы – бял**і**ць*, *кіслы – кісл**і**ць, круглы – кругл**і**ць (разм.).* Невялікая частка дзеясловаў суадносіцца з прыметнікамі, што абазначаюць фізічны стан (чалавека або жывой істоты): рус. *живой – жив**и**ть, пьяный – пьян**и**ть, слепой – слеп**и**ть* // бел. *жывы – жыв**і**ць, п’яны – п’ян**і**ць, сляпы – сляп**і**ць*. Прыметнікі са значэннем унутраных якасцей чалавека (рысы характару, разумовыя здольнасці, настрой, эмацыянальны стан і г. д.) служаць у якасці дэрывацыйнай базы вельмі рэдка: рус. *бодрый – бодр**и**ть, злой – зл**и**ть* // бел. *бадзёры – бадзёр**ы**ць, маркотны – маркоц**і**ць*.

Дэрываты ў даследуемых мовах падобныя таксама і па сваёй структуры. Так, большасць лексем суадносіцца з невытворнымі прыметнікамі: рус*. гладкий – глад**и**ть, родной – родн**и**ть* // бел. *гладкі – гладз**і**ць, родны – радн**і**ць*. Пры гэтым сустракаецца нямала дзеясловаў, матываваных вытворнымі прыметнікамі: 1) суфіксальнымі адсубстантыўнымі прыметнікамі, ускладненымі афіксамі -**ав**- (-**яв**-, -**ляв**-) // -**ав**-: рус. *кровавый – кровав**и**ть* // бел. *крывавы – крываві**ць*; -**ат**- // -**ат**-: рус. *косматый – космат**и**ть (разг.)* // бел. *касматы – касмац**і**ць (разм.)*; -**оват**- // -**ават**-: рус. *виноватый – виноват**и**ть* (прост.) // бел. *вінаваты – вінавац**і**ць*; -**н**- // -**н**-: рус. *грязный – грязн**и**ть* // бел. *брудны – брудз**і**ць*; -**л**- // -**л**-: рус. *круглый – кругл**и**ть (разг.)* // бел. *круглы – кругл**і**ць (разм.)*; -**лив**- // -**лів**-: рус. *счастливый – счастлив**и**ть (устар.)* // бел. *шчаслівы – шчаслів**і**ць (разм.)* -**ив**-, -**ян**-: рус. *червивый – червив**и**ть (разг.), багряный – багрян**и**ть*; -**ов**-: бел. *барвовы – барвов**і**ць*; 2) нульсуфіксальнымі ад-субстантыўнымі прыметнікамі: рус. *золотой – золот**и**ть // бел. залаты – залац**і**ць*; 3) прэфіксальна-суфіксальнымі адсубстантыўнымі прыметнікамі з прыстаўкай **бес**- і суфіксам -**н**-: рус. *бесславный – бесслав**и**ть*; 4) суфіксальна-складанымі прыметнікамі з суфіксам -**н**-: рус. *разнообразный – разнообраз**и**ть*, з нулявым суфіксам: бел. *касабокі – касабоч**ы**ць.*

На стыку ўтваральнай асновы і суфікса ў рускай і беларускай мовах адбываецца альтэрнацыя парна-цвёрдых зычных з адпаведнымі мяккімі: б – б’, в – в’, д – д’, д –дз’, з – з’ і г. д.: рус. *слабый – слаб**и**ть, живой – жив**и**ть, гладкий – глад**и**ть* // бел. *слабы – слаб**і**ць, жывы – жыв**і**ць, брыдкі – брыдз**і**ць*, заднеязычных з шыпячымі: г – ж, г’ – ж, к’ – ч, х – ш, х’ – ш: рус*. дорогой – дорож**и**ть, мягкий – мягч**и**ть, сухой – суш**и**ть //* бел. *дарагі –*

*даражыць, мяккі – мякчыць, глухі – глушыць*. У сувязі са зменай націску ў суадносных парах ‘прыметнік – дзеясловў’ чаргуюцца голосныя фанемы: о – е: рус. *жёлтый – желтить*, а – е, о – а: бел. *вясёлы – весяліць*. У абедзвюх мовах назіраецца і ўсячэнне фіналей матывавальных асноў: *-к-*: рус. *узкий – узить (разг.)* // бел. *груваcткі – грувасціць*; *-н-*: рус. *мутный – мутить* // бел. *брудны – брудзіць*; *-ок-*: рус. *широкий – ширить (разг.)* // бел. *шырокі – шырыць*; *-р-*: рус. *мокрый – мочить* // бел. *мокры – мачыць*; *-ит-*: рус. *сердитый – сердить*. Даная марфаналагічная з’ява прадстаўлена ў беларускай мове больш шырока.

Супастаўляльны аналіз дэрыватаў з суфіксам **-и-** // **-і-** (**-ы-**) паказвае, што многія дзеясловы ў рускай і беларускай мовах утвораны ад ідэнтыч-ных матывавальных асноў: рус. *глухой – глушить, кривой – кривить* // бел. *глухі – глушыць, крывы – крывіць*. Некаторыя з гэтых дэрыватаў адрозніваюцца стылістычна (беларускія дзеясловы з’яўляюцца літаратурна-нейтральнымі, іх рускія эквіваленты належаць да размоўнай або проста-моўнай лексікі): рус. *дырявый – дырявить (прост.), узкий – узить (разг.)* // бел. *дзіравы – дзіравіць (нейтр.), вузкі – вузіць (нейтр.)*. Пэўнай групе беларускіх дзеясловаў адпавядаюць у рускай мове лексемы з тоесным фармантам, але з іншай утваральнай асновай: рус. *багряный – багрянить, грязный – грязнить* // бел. *барвовы – барвовіць, брудны – брудзіць*. Беларускімі эквівалентамі для асобных дзеясловаў рускай мовы выступаюць дэрываты з аналагічнай матывавальнай асновай і сінанімічным суфіксам: рус. *готовый – готовить, злой – злить* // бел. *гатовы – гатаваць, злы – злаваць*. Дзеясловам адной мовы могуць адпавядаць у другой мове дэрываты (звычайна з ідэнтычным коранем), якія ўтвараюцца ў межах іншых спосабаў словаўтварэння: рус. *мягкий – мягчить* // бел. *мяккі – змякчыць – змякчаць*; бел. *меншы – меншыць (разм.)* // рус. *меньший – уменьшить – уменьшать*. Некаторыя дзеясловы беларускай мовы не маюць прамых лексічных эквівалентаў у рускай мове і наадварот: ім звычайна адпавядаюць словазлучэнні са стрыжнёвым словам ‘рабіць’: *рус. взрослить (разг.)* – бел. *рабіць больш дарослым*; бел. *чырваніць* – рус. *делать красным*.

Значэнне ‘надаваць прымету, названую матывавальным словам,’ рэалізуюць і дзеясловы незакончанага трывання з суфіксам **-а-** (**-я-**) // **-а-** (**-я-**): рус. *равный – равнять, ровный – ровнять //* бел. *гатовы – гатаваць, роўны – раўняць*. Даны тып у абедзвюх мовах непрадуктыўны. На марфемным шве назіраюцца чаргаванні цвёрдых зычных з адпаведнымі мяккімі: н – н’: рус. *ровный – ровнять* // бел. *роўны – раўняць*, у аснове – галосных о – а: бел. *барвовы – барваваць*.

СТ дэрыватаў з суфіксам **-ова-** (**-изирова-**, **-изова-**, **-фицирова-**) //**-ава-** (**-ізава-**, **-ызава-**, **-фікава-**), наадварот, вельмі прадуктыўны ў рускай і беларускай мовах пераважна ў кніжных стылях. Яго ядро складаюць пераходныя двухтрывальныя дзеясловы і зрэдку дзеясловы незакончанага трывання з морфамі **-изирова-**, **-изова-**, **-фицирова-** // **-ізава-**, **-ызава-**, **-фікава-**, якія далучаюцца, як правіла, да запазычаных асноў: рус. *активный – активизировать, идентичный – идентифицировать* // бел. *актыўны – актывізаваць, ідэнтычны – ідэнтыфікаваць*. Адметная рыса беларускай

мовы – афармленне морфаў -**ізава**-, -**ызава**-, -**фікава**- без элемента -*ір*-. Сярод даных дэрыватаў вылучаецца група дзеясловаў з канкрэтызаваным значэннем ‘надзяляць прыметай адносна нацыянальнасці, культурнай, грамадска-палітычнай ці тэрытарыяльнай групоўкі’: рус. *американский – американ**изирова**ть, европейский – европе**изирова**ть* // бел. *амерыканскі – амерыкан**ізава**ць, еўрапейскі – еўрапе**ізава**ць*. Некаторыя лексемы ўтвораны ад славянскіх асноў: рус. *белорусский – белорус**изирова**ть* // бел. *беларускі – беларус**ізава**ць*. У межах гэтага тыпу прадстаўлены адзінкавыя дзеясловы незакончанага трывання з морфам -**ова**- // -**ава**-: рус. *рад – рад**ова**ть* // бел. *злы – зл**ава**ць, рады – рад**ава**ць.*

У супастаўляемых мовах дэрываты матывуюцца прыметнікамі наступнай структуры: 1) невытворнымі: рус. *актуальный – актуал**изирова**ть, нейтральный – нейтрал**изова**ть* // бел. *актуальны – актуал**ізава**ць, нейтральны – нейтрал**ізава**ць*; 2) суфіксальнымі адсубстантыўнымі з морфамі: -**н**-: рус. *индивидуальный – индивидуал**изирова**ть* // бел. *індывідуальны – індывідуал**ізава**ць*; -**альн**-: рус. *нормальный – нормал**изова**ть* // бел. *нармальны – нармал**ізава**ць*; -**ск**-: рус. *европейский – европе**изирова**ть* // бел. *еўрапейскі – еўрапе**ізава**ць.* Утварэнне дэрыватаў суправаджаецца ўсячэннем фіналей матывавальных асноў: -*н*-: рус. *центральный – централ**изова**ть* // бел. *цэнтральны – цэнтрал**ізава**ць*; -*ск*-: рус. *американский – американ**изирова**ть* // бел. *амерыканскі – амерыкан**ізава**ць* і г. д. На марфемным шве парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з адпаведнымі мяккімі: в – в’, ў – в’, м – м’ і г. д.: рус. *активный – актив**изирова**ть, приватный – приват**изирова**ть, военный – воен**изирова**ть* // бел. *актыўны – актыв**ізава**ць, ваенны – ваен**ізава**ць*. СТ у абедзвюх мовах характарызуецца практычна аднолькавым лексічным складам.

Такім чынам, словаўтварэнне суфіксальных адад’ектыўных дзеясловаў са значэннем ‘надаваць прымету’ ў рускай і беларускай мовах мае істотнае падабенства, якое праяўляецца у ідэнтычным наборы суфіксальных фармантаў, у ступені прадуктыўнасці, семантыцы, структуры і сферы функцыянавання словаўтваральных тыпаў, у значным супадзенні іх лексічнага складу, у агульнасці марфаналагічных з’яў. Разам з тым у гэтых мовах назіраюцца адрозненні, якія выражаюцца ў неідэнтычным складзе СТ, у разыходжаннях у структуры і стылістычнай афарбоўцы некаторых лексем, у пашыранасці канкрэтных марфаналагічных з’яў. Найбольшую адметнасць у абедзвюх мовах выяўляе СТ дзеясловаў з суфіксам -**и**- // -**і**- (-**ы**-).

**А.М.Асіпчук (Гродна, ГрДУ )**

## СТЫЛІСТЫЧНАЕ ВЫКАРЫСТАННЕ АНТОНІМАЎ-НАЗОЎНІКАЎ У ПАЭЗІІ ЯЎГЕНІІ ЯНІШЧЫЦ

Лірыка Яўгеніі Янішчыц, адметная сваёй кранальнай жаноцкасцю, мілагучнасцю, рамантычным, а часам і трагічным светаўспрыманнем, – адна з самых прыгожых і непаўторных старонак беларускай паэзіі. Востра адчуваючы жыццё ў яго розных праявах,

супярэчлівасць чалавечай існасці, паэтэса стварае вобразы, якія хвалююць, напэўна, кожнага.

Яўгенія Янішчыц выкарыстоўвае цэлы спектр мастацкіх сродкаў, сярод якіх пэўнае месца займаюць і антонімы, у прыватнасці, антонімы-назоўнікі. Кожная пара антонімаў (у прааналізаваных творах зафіксавана 82 антанімічныя рады назоўнікаў), акрамя лексічнага значэння, выконвае і пэўную стылістычную функцыю. Як сведчыць фактычны матэрыял, найбольш пашыранымі сярод стылістычных фігур, заснаваных на антаніміі назоўнікаў, з'яўляюцца **антытэза**, фігуры **злучэння**, **нейтралізацыі**, **супярэчлівасці**. Разгледзім іх на прыкладах.

Менавіта ў антытэзе, якая падкрэслівае максімальную розніцу, кантраст процілегласцей, выяўляецца прырода антаніміі. Напрыклад: *Гэта **міг**, а ці **вечнасць** здалёк? Чуйна звоніць у траве кавалёк. Прахалода душы і расы. Паўзабытыя дрэў галасы…* [1, с. 183]; *У лёгенькім, як вецер, паліто, Нясмелая, нагадваю лілею. З **бядой** да Вас звярнуцца не пасмею. А з **радасцю** кароткаю – нашто?* [1, с. 209]; *Ўдыхні яе жывы глыток наноў, перш Чым накрые незвароту навісь. Я знаю: Свет багаты на **любоў**, Бо толькі у разлюбленых – **нянавісць*** [2, с. 255]; *Бы ў самы першы раз На рэсквасі расстання Прымаю не **адказ**, А цішыню **пытання*** [2, с. 197] і інш. Аднак, як заўважае Л.А.Новікаў, «функцыі антонімаў не абмяжоўваюцца толькі антытэзай. Антонімы могуць выражаць, напрыклад, узмацненне, удакладненне, пастаянства і бесперапыннасць дзеянняў або стану, іх змену і чаргаванне і г. д.» [3, с. 248].

Асноўны змест фігуры злучэння, або амфітэзы, заключаецца ў «складанні» супрацьлегласцей да агульнага цэлага. Антанімічныя рады назоўнікаў, якія ілюструюць дадзеную стылістычную фігуру, у залежнасці ад значэння, можна падзяліць на такія дзве групы:

1) антанімічны рад, які мае значэнне складання, адпавядае словам усе, усё: *Будуць вёсны і пралескі, Будзе **радасць** і **туга**. Адцвіце вясна на ўзлеску, Пабяжыць за сіні гай* [2, с. 276]; *Жыццё маё – **узлёты** і **падзенні**, Трывожны цень на выстылай сцяне. І там, дзе сустракаюць па адзенні, – Наіўныя, не ўбачыце мяне* [2, с. 266]; *Як добра ёй журыцца беспрычынна! Да твару ёй і **лета**, і **зіма**… Ўсміхнуся я: яшчэ бяжыць дзяўчынка па кладцы той, якой даўно няма* [2, с. 252]; *Людзі. **Анёлы і д'яблы**. Міране. Плыць альбо не дабрыні караблю… Што табе, сэрца, сыграць на кургане, Як на малітву за маці-зямлю!* [2, с. 313]; *Язычнікаў куточак? Не, музык! Вось паляшук узяў скразную ноту. Струна душы, падобная на ўскрык, перажагнала **радасць і гаркоту*** [4, с. 31]; *Не зараслі быллём гадоў паляны. Жыву, пакуль смуткую і люблю. Прыходзяць людзі – **гномы і вулканы** – У кожным штосьці таемнае лаўлю* [4, с. 172] і інш.

2) значэнне пастаянства, бесперапыннасці дзеянняў, працэсаў. Кампаненты антанімічнага рада можна замяніць словам заўсёды: *Так жыву, бы з **вечара** да **ранку**, дзе гнязда і птушка не саўе. Дык чаму ж струною-ашуканкай Не канае сэрца, а пяе* [2, с. 259]; *І ў **спякоту**, і ў **завею** Кліча вуліца хлапцоў – У бабулі Паланеі Пяць асілкаў-малайцоў* [2, с. 160]; *З бытнасці першай, з сярэднявечча Ў **радасці** і ў безвыходнай*

***журбе** Кім ты ні быў за свой век, чалавеча?!... Час наступіў, каб успомніць сябе!* [4, с. 170]; *Дурніцам гэтым жа важней Спазнанне поўнай перамогі, Чым нашай еднасці дарогі ў бялюткі **май** і ў **суравей**…* [2, с. 234].

Стылістычная фігура нейтралізацыі выкарыстоўваецца ў кантэксце не для супрацьпастаўлення, а з мэтай адмаўлення, нейтралізацыі антонімаў: *Яшчэ ў нас не было Ні **стрэчы**, ні **расстання**. Адкуль жа б'е святло Бясконцага світання?* [2, с. 303]; *Ні на **міг**, ні на **век** – не твая. Так і трэба, відаць, так і трэба! Распрыгонена сцежка мая Аж да самага хмарнага неба* [5, с. 62]; *Ты той, каго няма са мной Ні ў **будзень**, ні ў **нядзелю**. Ды цаплю я (якой цаной!) Вясёлую надзею* [2, с. 209]; *Бы ў дзяцінстве, ног зямля не коле. І на промень дзень мой багацей. Як шуміць і як гукае поле! Шкода: ні **старых** і ні **дзяцей*** [2, с. 50]. Гэтым прыёмам паэтэса карыстаецца і для выражэння прамежкавай ступені ў развіцці якога-небудзь дзеяння ці якасці прадмета: *Невядомыя зоры планет Дакляруюць святло пакахаўшым. Серада. Пасярэдзіне свет. Пасярэдзіне **праўды** і **фальшу*** [4, с. 31]; *Так погляд не паўторыцца ніколі Паміж скупым **быццём** і – **небыццём**. У кожнага – свая галінка болю І радасці, пазначаных жыццём* [1, с. 127]; *Хоць прашумі вясёлым ліўнем! – Хай след падкажа каляя. Паміж **няшчасных** і **шчаслівых** – Якая я, якая я?* [2, с. 187] (у апошнім прыкладзе ў ролі антанімічных кампанентаў выступаюць субстантываваныя прыметнікі) і інш.

Асабліва цікавай і запамінальнай у творах Я. Янішчыц з'яўляецца стылістычная фігура **супярэчнасці**, сэнс якой заключаецца ў падкрэсленым выражэнні неадпаведнасці, супярэчлівай сутнасці душэўнага стану чалавека, наогул супярэчнасці якой-небудзь з'явы: *Забыць на момант дробязі і гора, І свет чытаць нанова, па складах, І ў **непагадзь** шукаць сабе **надвор'я** У музыцы, у людзях, у радках* [2, с. 63]; *Нібы ў часы раскосага Батыя, На сэрцы словы пікай упадуць. Ярлык прыклеяць самыя **святыя** І **грэшныя** – упасці не дадуць* [2, с. 75]; *Шукаю песню, як іголку ў стозе. Шукаю кроплю **праўды** у **мане**. Калінаю гарушчай пры дарозе Я многім абавязана і – не!* [2, с. 258]; *У добры шлях! У добры час! Трывога адкалосіцца. Смяешся ты – і я ў адказ, Хоць **смех** на **слёзы** просіцца* [2, с. 195]; *Парваліся, рассыпаліся струны? Як Паганіні – на адной сыграй! – Кажу сабе, такой старой і юнай… А дзіўны гном рыхтуе ў **пекле рай*** [4, с. 172]; *Маны і звадаў болей, чым дарэчы. І ў **ласцы лёну** – **хіжасці асот**. Усё кладзецца, горкі мой, на плечы, А рукі зноў адчаіліся ў лёт* [2, с. 139] і інш.

Зафіксаваны адзінкавыя прыклады такіх стылістычных фігур, заснаваных на антаніміі назоўнікаў, як **чаргаванне**, **раздзяленне** і **пераўтварэнне**.

Сутнасць фігуры чаргавання ў тым, што кампаненты антанімічнага рада паказваюць на паслядоўную змену, чаргаванне супрацьлеглых паняццяў, дзеянняў і г. д.: *Па кветках тых даўно тугі не маю. Мінае **лета**. Коціцца **зіма**. І ўсё ж адну да сэрца прытуляю, Хоць назвы ёй і памяці няма* [2, с. 216].

У стылістычнай фігуры раздзялення антанімічны рад адпавядае сінанімічным спалучэнням усё роўна, усё адно: *Быць такою маладою Над нядоляй маладой! …Ці умыюся **слязою** Ці **усмешкаю** тваёй* [2, с. 251]; *Чытаеш **боль** ці **песню** на абліччы,*

*Баішся дакрануцца да рукі. Віхор прашкуматаў мой лёгкі сітчык, Але прыліплі к целу васількі* [2, с. 221].

Для выражэння пераўтварэння адной супрацьлегласці ў другую паэтэса выкарыстоўвае фігуру пераўтварэння: *Няўмольны час жыцця і смерці, Прашу: змяні на* ***літасць гнеў****, Каб адгукнуўся ў кожным сэрцы Жаночы смех, жаночы спеў!* [1, с. 213].

З прыведзеных прыкладаў відаць, што кампанентамі стылістычных фігур выступаюць як моўныя, так і кантэкстуальныя антонімы-назоўнікі. У сваю чаргу, сярод моўных антонімаў пераважаюць рознакаранёвыя (аднакаранёвых занатавана ўсяго тры пары).

Такім чынам, у паэтычных творах Яўгеніі Янішчыц стылістычныя фігуры, пабудаваныя на антаніміі назоўнікаў, служаць для паказу шэрагу з'яў аб'ектыўнай рэчаіснасці, для перадачы пачуццяў і настрою лірычнага героя. Увогуле, «семантычная прырода антонімаў… дазваляе шырока выкарыстоўваць іх у мове ў якасці аднаго з найважнейшых сродкаў выразнасці» [3, с. 244].

***Літаратура***

1. Янішчыц, Я. Пара любові і жалю / Я.Янішчыц. – Мінск: Маст. літ., 1983. – 223 с.
2. Янішчыц, Я. Выбранае / Я.Янішчыц. – Мінск: Маст. літ., 2000. – 351 с.
3. Новиков, Л.А. Антонимия в русском языке / Л.А.Новиков. – М.: Моск. ун-т, 1973. – 290 с.
4. Янішчыц, Я. Каліна зімы / Я.Янішчыц. – Мінск: Маст. літ., 1987. – 206 с.

**Г.У.Аўчыннікава (Гродна, ГрДУ)**

## НАЙМЕННІ АСОБ ПАВОДЛЕ ПРАФЕСІІ Ў СФЕРАХ ВЫТВОРЧАЙ І НЕВЫТВОРЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ Ў БЕЛАРУСКАЙ, РУСКАЙ І ПОЛЬСКАЙ МОВАХ

Супастаўляльнае даследаванне назоўнікаў, што назваюць асоб паводле прафесіі, з'яўляецца актуальным у сучасным мовазнаўстве. Канцэптуальная сфера чалавечай дзейнасці (у тым ліку і прафесійнай) «адкрытая як для лінгвакрэатыўнай дзейнасці чалавека, так і для выкарыстання ім аналогіі, г.зн. для стварэння слоў паводле наяўных словаўтваральных мадэляў» [3, с. 3]. Аб'ектам нашай увагі сталі назоўнікі, што абазначаюць асобу паводле прафесійнай дзейнасці, у трох славянскіх мовах – беларускай, рускай і польскай. Выбар менавіта гэтай групы моваў абумоўлены тым, што яны роднасныя і на працягу доўгага часу зведвалі ўзаемаўплыў, які працягваецца і цяпер. Крыніцамі даследавання сталі «Польска-беларускі слоўнік» (Мінск, 2004) і «Беларуска-рускі слоўнік» (Мінск, 2003).

Найменні асоб паводле прафесіі ў сферах вытворчай і невытворчай дзейнасці характарызуюцца сваімі адметнасцямі ў словаўтварэнні. Кожная семантычная група мае абмежаванае кола прадукцыйных мадэляў утварэння слоў, і, адпаведна, пэўнае кола фармантаў, з дапамогай якіх утвараюцца лексічныя адзінкі. Асновы, ад якіх утвараюцца назоўнікі – назвы асоб паводле прафесіі – найчасцей тоесныя ў беларускай, рускай і польскай мовах. Адрозненні ў выбары фармантаў абумоўлены некалькімі прычынамі, сярод якіх можна назваць неаднолькавую ступень прадукцыйнасці гэтых сродкаў у розных

мовах, уплыў адной мовы на другую і несупадзенне дэрывацыйнага значэння словаўтваральных сродкаў (напрыклад, суфікс *-czyk* ёсць і ў польскай мове, але не ўтварае назваў асоб паводле прафесіі).

У групе найменняў вытворчай сферы аддзеяслоўныя ўтварэнні (у тым ліку дэрываты ад дзеяслоўных словазлучэнняў) складаюць больш за палову (52%) назоўнікаў. Такім чынам, у аснову намінацыі асоб паводле прафесіі ў сферы вытворчасці найчасцей пакладзена працэсавая прыкмета.

У трох мовах пераважаюць суфіксавыя дэрываты, але значнае месца займаюць таксама складаныя і складана-суфіксавыя ўтварэнні і назоўнікі, утвораныя пры дапамозе прэфіксоідаў. Найбольш пашыранымі з'яўляюцца універсальныя фарманты, здольныя далучацца да асноваў розных тыпаў.

У беларускай, рускай і польскай мовах у вытворчай сферы найбольш прадукцыйныя словаўтваральныя сродкі славянскага паходжання: для беларускай і рускай мовы гэта *-чык / -шчык / -льшчык* (68%), для польскай – *-arz* (29%), *-acz* (18%). Беларускім назоўнікам на *-чык / -шчык / -льшчык*, якія распаўсюдзіліся ў беларускай мове пад уплывам рускай, амаль заўсёды адпавядаюць аналагічныя рускія ўтварэнні, а таксама дэрываты на *-тель*.

Акрамя гістарычных прычын распаўсюджання фарманатаў *-чык / -шчык / -льшчык* у сучаснай беларускай мове, вылучаюць іншыя адметнасці, якія дазваляюць гэтым суфіксам функцыянаваць ва ўтварэнні назваў асобы паводле вытворчай дзейнасці (найбольш пашыраны фармант *-чык / -шчык / -льшчык*). Навукоўцы зазначаюць, што, у адрозненне ад назоўнікаў з суфіксам *-нік*, утварэнні на *-чык / -шчык / -льшчык* звычайна маюць выразнае, дакладна акрэсленае значэнне і, часцей за ўсё, называюць асобу паводле прафесіі і што суфіксу *-нік*, у процілегласць *-шчык, -чык*, «уласціва семантычная differentiated» [1, с. 54]. Такая «невыразнасць» значэння суфікса *-нік* не можа быць перашкодай для ўтварэння з дапамогай гэтага фарманта назваў прафесій у сферы вытворчасці, бо самі ўтваральныя асновы тут з'яўляюцца спецыяльнымі тэрмінамі галін вытворчасці, і таму вельмі інфармацыйныя. Яшчэ адной перашкодай для шырокага выкарыстання фарманта *-нік / -льнік* можна было б лічыць тое, што «суфікс *-нік* акрамя асабовых можа афармляць і назвы неадушаўлёных прадметаў, у выніку чаго магчымае ўзнікненне мнагазначных слоў...» [1, с. 57 – 58]. Але фарманты *-чык / -шчык / -льшчык* таксама валодаюць такой уласцівасцю ў аддзеяслоўным словаўтварэнні: аддзеяслоўныя назоўнікі з гэтым суфіксамі могуць мець значэнне і асобы, і прадмета.

У беларускай мове ў групе найменняў у галіне прамысловасці больш пашыраныя параўнальна з рускай фарманты *-нік*, *-ар*, але адрозненні нязначныя (адпаведна, 5,2 і 3,6%, 2 і 0,5%), на сучасным этапе гэтая група назоўнікаў, разам з найменнямі ў галіне будаўніцтва, з'яўляецца найбольш набліжанай да рускай мовы з-за дэрывацыі тэрмінаадзінак на ўзор рускамоўных. У меншай ступені блізкасць беларускай і рускай моваў выяўляецца ў галіне сельскай гаспадаркі, дзе назіраецца канкурэнцыя паміж выкарыстаннем пазычанага з рускай мовы кампанента *-вод* (у рускай мове такія назоўнікі складаюць 37,3%, у беларускай – 19,6%) і суфікса *-ец*. У галіне рамёстваў у беларускай і

польскай мовах большую ступень прадукцыйнасці выяўляюць фарманты *-ар*, *-нік*; некаторыя назоўнікі, што на сучасным этапе класіфікуюцца як бяссуфіксавыя, гістарычна ўтварыліся з дапамогай суфікса *-ар*: *гарбар, рымар, ганчар* і інш. – аналагічныя ўтварэнні бытуюць у польскай мове і часткова ў рускай. У беларускай мове ў гэтай галіне цалкам адсутнічаюць утварэнні з суфіксамі *-чык / -шчык / -льшчык*, якія ёсць сярод рускамоўных найменняў побач з назоўнікамі на *-ник*, *-арь*, *-тель*.

Намінацыі невытворчай сферы найчасцей з'яўляюцца адсубстантыўнымі дэрыватамі, што абазначаюць асобу паводле аб'екта заняткаў або пазычаннямі з лацінскай мовы. Апошнія ў большай ступені характэрныя для найменняў у галіне навуковай дзейнасці, якія маюць найбольш супольных рысаў у сваёй структуры ў трох мовах і з'яўляюцца інтэрнацыянальнымі. Найчасцей яны ўтрымліваюць элемент *-лаг* (*-лог*, *-log*): *ichtiolog, psycholog, нейрафізіёлаг, планетолог* і інш. Нятоеснасць словаўтваральных мадэляў у беларускай і рускай мовах выкліканая адпаведнасцю беларускіх назоўнікаў на *-ец* рускім нульсуфіксавым утварэнням з элементам *-вед*; у польскай мове тут выкарыстоўваецца фармант *-с-а*, уласцівы і беларускай мове; разыходжанні паміж беларускай мовай і польскай нязначныя і абумоўлены наяўнасцю адпаведнікаў з элементамі *-acz / -чык*, *-ец*; *-et-a / -іст*, *-yk / -ыст*, *-log / -ыст* і *-с-а / -ец*.

Высокую ступень прадукцыйнасці выяўляюць пры ўтварэнні найменняў у невытворчай сферы суфіксы, пазычаныя з заходнееўрапейскіх моваў: *-іст* (*-ист*, *-ista*) – грэк.-лац., *-ёр* (*-er*) – франц., *-ант* (*-ant*) – лац. і інш. У трох мовах найбольш шматлікія назоўнікі, утвораных паводле прадукцыйнай мадэлі ***N + -ist- (-іст-)***. Такія дэрываты складаюць 23% у беларускай і ў рускай мовах і 17% – у польскай.

Хоць у цэлым справядлівае сцверджанне, што польская мова шырэй выкарыстоўвае фарманты, пазычаныя з заходнееўрапейскіх моваў (пра гэта сведчыць і супастаўленне асабовых назоўнікаў іншых семантычных груп, напрыклад, *signalista – сігнальшчык, prenumerator – падпісчык, eksplorator – даследчык, denuncjator – даносчык* ды пад.) і што менавіта праз польскую мову гэтыя сродкі трапілі ў беларускую і рускую мовы [2, с. 119], сярод польскамоўных лексемаў – назваў асобы невытворчай сферы – гэтыя пазычаныя суфіксы менш пашыраныя ў галіне мастацтва. Прыклады выпадкаў, калі беларускім назоўнікаў на *-іст, -ер* адпавядаюць утварэнні на *-arz*, *-acz*: *арфіст – harfiarz, мадэліст – modelarz*, *мадэльер – modelarz*.

Такім чынам, кожная мова мае свой рэестр сродкаў для ўтврэння назваў асоб паводле прафесіі, які вар'іруецца ў залежнасці ад лексіка-семантычных групаў назоўнікаў, і ступень блізкасці словаўтваральных мадэляў беларускай, рускай і польскай моваў з'яўляецца рознай у розных падгрупах, што найперш звязана з гістарычнымі ўмовамі фарміравання лексікі.

***Літаратура***

1. Варановіч, В.Л. Словаўтварэнне назоўнікаў у беларускай мове: манагр. / В.Л.Варановіч. – Гродна: ГрДУ, 2005. – 135 с.

2. Вярхоў, П.В. Запазычаныя назоўнікавыя суфіксы ў беларускай мове / П.В.Вярхоў // Весці АН БССР. – Мінск, 1973. – №6. – С. 119 – 121.

3. Позднякова, Е.М. Категория имени деятеля и пути её синхронного развития в когнитивном и номинативном аспекте: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.19 / Е.М. Позднякова; МГЛУ. – М., 1999. – 36 с.

**М.Л.Бакалинский (Запорожье, ЗНУ, КПУ)**

## ВЕРБАЛИЗАЦИЯ В СОЦИОЛЕКТЕ ИТАЛО-АМЕРИКАНСКОЙ МАФИИ ДИХОТОМИИ «ИТАЛО-АМЕРИКАНСКАЯ МАФИЯ – КРИМИНАЛЬНЫЙ МИР США»: РЕЗУЛЬТАТЫ ИССЛЕДОВАНИЯ

Отношения итало-американской мафии с другими представителями криминального мира США можно представить в виде дихотомии «итало-американская мафия – криминальный мир США». Дихотомия «итало-американская мафия – криминальный мир США» является результатом дифференциации криминальных группировок США. Дифференциация была найдена на общекриминальном уровне (видовая дихотомия «итало-американская мафия – «уличная» преступность»), на уровне организованной преступности (видовая дихотомия «итало-американская мафия – другие криминальные синдикаты»), а также на уровне собственно итало-американской мафии (видовая дихотомия «итало-американская мафия – криминальный мир США» по схеме «разные «криминальные семьи» итало-американской мафии»). Существование в криминальном мире США различных субъектов было предложено называть «интрагрупповой дифференциацией». Отношения между итало-американской мафией и различными криминальными группировками определяются вторым законом диалектики.

Дихотомия «итало-американская мафия – криминальный мир США» вербализируется преимущественно в антонимах и языковых единицах социолекта итало-американской мафии с антонимическим значением. В случаях, если описывается вражда итало-американской мафии с другими криминальными группировками, используются антонимы, основанные на контрадикторной или абсолютной противоположности. Антонимы и языковые единицы с антонимическим значением, которые относятся к этой группе, отличаются и стилистическим маркированием: для обозначения итало-американской мафии используются единицы, в которых актуализируется поэтическая функция языка, а для называния «враждебных» группировок применяются единицы с пейоративным значением или вульгаризмы. В случаях, если описывается мирное сосуществование или «сотрудничество» итало-американской мафии с другими субъектами криминального мира США, используются антонимы и языковые единицы с антонимическим значением, основанные на векторной противоположности.

Для вербализации дихотомии «итало-американская мафия – криминальный мир США» в социолекте итало-американской мафии используются разные типы метафор. В случае, когда указанная видовая дихотомия используется для обозначения вражды между итало-американской мафией и другими группировками, в её социолекте она

описывается поэтическими метафорами, а враждебная группировка – агональными метафорами. В случае, когда указанная видовая дихотомия используется для констатации принадлежности к разным субъектам криминального мира США (тактика дистанцирования), для номинации других группировок в социолекте итало-американской мафии используются метафоры, которые было предложено называть «дистанцирующими» (языковые единицы с нейтральным или положительным значением).

Анализ языкового материала проводился из позиции определения семантико-семиотических оппозиций. Видовая дихотомия «итало-американская мафия – «уличная» преступность» вербалируется в следующих оппозициях: *порядок – беззаконие*, *цивилизованность – варварство* и *человеческие отношения – звериные законы*.

Постоянная вражда с представителями «уличной» преступности привела к исчезновению в социокультурной системе итало-американской мафии некоторых морально-этических принципов (запрет торговли наркотиками). В социолекте итало-американской мафии это проявилось в виде перехода языковых единиц, называвших запрет торговли наркотиками (*First Commandment*, *no-narcotics rule*) к разряду историзмов.

Видовая дихотомия «итало-американская мафия – другие криминальные синдикаты» вербализируется в этнически маркированных языковых единицах: этнофобизмах (вульгаризмах с эксплицитным этническим компонентом) и ксеноэтнонимах (языковых единицах, называющих принадлежность к другому этносу). В большинстве случаев ксеноэтнонимы образованы по аналогии с соответствующими единицами социолекта итало-американской мафии для называния своей группировки и ее членов (*redfella*, *Kosher Nostra* и т.п.). Для называния «сотрудничества» между итало-американской мафией и другими мощными криминальными синдикатами США в ее социолекте используются языковые единицы, описывающие социальные процессы (*marriage*). В этом усматривается стремление представителей итало-американской мафии выглядеть как законопослушные граждане США (символы **энкультурация** и **американизация**).

Видовая дихотомия «итало-американская мафия – другие криминальные синдикаты» представлена также разновидностью «разные «криминальные семьи» итало-американской мафии» («семьи» Нью-Йорка и Нью-Джерси – «семьи» Чикаго, Калифорнии и Невады). На языковом уровне указанный вариант дихотомии проявляется не только в существовании разных региональных вариантов социолекта итало-американской мафии (нью-йоркско-нью-джерского, чикагского и западного), но и в разных ключевых языковых единицах этих региональных вариантов, что свидетельствует о различии социокультурных систем «криминальных семей» в разных частях США. На семиотическом уровне вражда между «семьями» Чикаго и Нью-Йорка привела к потере последними некоторых морально-этических ценностей (описывает лексема *forgotti*), а на языковом уровне эта потеря выразилась в переходе некоторых ключевых языковых единиц нью-йоркско-нью-джерского варианта социолекта итало-американской мафии к разряду историзмов.

Анализ интрагрупповой дифференциации общества может открыть перед лингвистами новые перспективы исследования социальных диалектов, поскольку в соответствии с положениями теории Э.Бенвениста о корреляции знаков языка и культуры и теории изоморфизма языковых и социальных структур А.Гримшо, существование дифференциации в самой социальной группе (т.е., интрагрупповой дифференциации) отражается в социальных диалектах. Это даст возможность выделить, на первый взгляд, в гомогенном социальном диалекте социальные диалекты «низшего порядка», изучить их корреляцию между собой и с социальным диалектом «высшего порядка», в состав которого они входят, выделить в них ядро и периферию, проанализировать социальные диалекты как «высшего», так и «низшего» порядка на предмет существования в них региональной дифференциации, т.е., исследовать социальные диалекты как системы в составе системы национального языка (система в системе).

**Т.В.Балуш (Минск, БГПУ)**

## К ВОПРОСУ О ЛИНГВОКОНЦЕПТУАЛЬНОМ АНАЛИЗЕ ХУДОЖЕСТВЕННОГО ТЕКСТА

Термин «концепт», впервые встречающийся в эпоху средневекового концептуализма в трудах Т.Гобса, П.Абеляра и других мыслителей, стал наиболее актуальным в настоящее время в связи со становлением и развитием когнитивного направления в языкознании. Являясь ключевым понятием когнитивной лингвистики, он до сих пор не имеет единого определения, о чем говорит большое количество работ по данной проблеме.

Появившееся в связи с изучением художественного текста понятие ***художественного концепта*** находится на стадии осмысления и трактуется по-разному. Так, Л.В.Миллер определяет художественный концепт как сложное ментальное образование, принадлежащее не только индивидуальному сознанию, но и психоментальной сфере определенного этнокультурного сообщества, как универсальный художественный опыт, зафиксированный в культурной памяти и способный выступать в качестве строительного материала при формировании новых художественных смыслов [1]. Существует также другая точка зрения на данный феномен, согласно которой художественный концепт – результат креативного, творческого способа познания мира, эксплицирующегося в произведениях автора. Являясь единицей сознания поэта или писателя, она выражает особенности индивидуально-авторского восприятия предметов или явлений действительности.

Таким образом, в научной литературе сложились два диаметрально противоположных подхода к интерпретации художественного концепта: концепт как понятие универсальное и концепт как понятие индивидуально-авторское.

Поскольку художественная картина мира русской литературы – это не столько образ мира, сколько образ отношения человека к миру, коммуникативное отражение эстетической и ценностной ориентации социума, представляющее собой результат

коллективной художественной деятельности, то и творчество отдельного писателя, а также отдельно взятый текст, на наш взгляд, является одним из возможных способов трактовки культурных универсалий, синтез общенационального и индивидуального.

Обращение к текстам художественных произведений позволяет вычленить отдельные слова, несущие на себе нагрузку особого смысла, которые в силу важности для текста в целом выделяются на фоне других языковых единиц, являясь носителем концептуальной информации. Данная информация «извлекается из всего произведения и представляет собой творческое переосмысление <…> фактов, событий, происходящих в обществе и представленных писателем в созданном им мире. Этот мир приближенно отражает объективную действительность в ее реальном воплощении» [2, с. 28]. Само толкование текста, таким образом, есть не что иное, как процесс раскрытия содержательно-концептуальной информации, желание преодолеть поверхностную структуру и проникнуть в его глубинный смысл, который как бы держится на «опорных точках» – словах, кодирующих наиболее значимые концепты. Данные слова, в силу важности для текста в целом, выделяются на фоне других языковых единиц, являясь носителем концептуальной информации. Значимость этих слов, согласно А.Вежбицкой, подтверждается: 1) высокой частотностью употребления в текстах автора; 2) вынесением этих слов в сильную позицию (в заглавие произведения, главы, в эпиграф); 3) особым семантическим наполнением и т.д.

Исследование текста на глубинном уровне позволяет методика лингвоконцептуального анализа, которая по своей сути является текстоцентрической. В пределах контекста происходит расширение семантического объема исследуемой единицы, возникает ряд ассоциативных связей с другими культурно значимыми единицами, может происходить расширение пространства текста за счет эксплицитно не выраженной (имплицитной) информации, заключенной в ключевых концептах.

Рассматривая художественный концепт как полевую структуру, Н.А.Афанасьева выделяет в нём ядро и периферию. Ядро концепта составляют значения слова и его дериваты. Периферия же опирается на экстралингвистические знания и имеет более сложную структуру: включает ассоциативный слой, слой гештальтов, а также слой, через который осуществляется выход в контекст культуры (вертикальный контекст, интертекстуальный слой) [3, с. 8].

Поскольку концепт многомерен и может быть представлен единицами различных структурных типов: фрейм, прототип, гештальт, схема, сценарий и т.д., которые вербализуются посредством лексем, фразеологических единиц, синтаксем и т.п. [4], при его изучении следует прибегать к различным подходам и методам. В настоящее время существует несколько методик описания и изучения концепта: 1) теория вертикальных синтаксических полей (С.М.Прохоровой); 2) теория профилирования (Е.Бартминского); 3) теория гештальтов (Л.О.Чернейко и В.А.Долинского); 4) теория вертикального контекста (О.А.Ахмановой и И.В.Гюббенет).

При описании художественного концепта наиболее продуктивным является метод профилирования. В научной литературе выделяют два основных подхода к его

определению. Автором первой, «классической», теории является Р.Лангакер, который понимает под профилированием выделение сферы воспринимаемого (знаний об отдельных фрагментах действительности), то есть выделение отдельных элементов как наиболее важных и отстранение других на второй план [5, с. 11].

Дальнейшее развитие теория профилирования получила в трудах Е.Бартминского, согласно которому, профилирование представляет собой «субъективную <...> языковую и понятийную операцию, состоящую в своеобразном формировании образа предмета путем его описания по определённым аспектам (категориям, фасетам)» [6, с. 5]. Результатом процесса профилирования является создание профиля предмета исследования, под которым понимают не столько вариант значения, сколько вариант предмета воображения. При профилировании изменяется «ракурс» описания семантики: поскольку всё написанное и сказанное имеет автора, то для адекватной интерпретации текста следует в центр внимания поставить именно точку зрения субъекта.

В «Słowniku stereotypów i symboli ludowych» (1996) Е.Бартминский предлагает схему (фасету) для создания профиля предмета исследования. Вот отдельные её аспекты: 1) название со свойственными ему значениями и отношениями; дериваты, синонимы; 2) коллекция: с какими другими предметами сочетается данный; 3) семантические оппозиции; 4) происхождение; 5) внешний вид; 6) составляющие данного предмета; 7) действия, процессы, состояния, свойственные предмету; 8) экспликация предмета в культуре; 9) символика; 10) выводы, предположения.

Эта схема не является универсальной, в конкретных условиях она может быть расширена и уточнена. Такой широкий, многоаспектный анализ способствует вскрытию ментальных процессов, приводящих к возникновению слова и его значений; сопоставление выявленных в контексте оттенков значений слова с общеизвестными, зафиксированными в словаре, даёт возможность проследить особенности мышления, ощущения автора, а также выявить особенности мировосприятия народа, особенности развития и становления культуры нации. От того, насколько правильно и полно подобрана фасета для исследуемого концепта, зависит конечный результат – профиль концепта.

***Литература***

1. Миллер, Л.В. Лингвокогнитивные механизмы формирования художественной картины мира (на материале русской литературы): дис. ... д-ра филол. наук: 10.02.01 / Л.В.Миллер. – СПб., 2004. – 303 с.

2. Гальперин, И.Р. Текст как объект лингвистического исследования / И.Р.Гальперин. – М., 1981. – 140 с.

3. Афанасьева, Н.А. Соотношение «образ – концепт – символ» в поэтическом тексте (на материале поэтических текстов М.Цветаевой) / Н.А.Афанасьева // От слова к тексту: материалы докладов междунар. науч. конф.: в 3 ч. – Минск, 2000. – Ч. 3. – С. 6–9.

4. Рудакова, А.В. Когнитология и когнитивная лингвистика / А.В.Рудакова. – Воронеж, 2002. – 80 с.

5. Grzegorczykowa, R. Profilowanie a inne pojęcia opisujące hierarchiczną strukturę znaczenia / R. Grzegorczykowa // Profilowanie w języku i w tekscie: materiały międzynar. konf. – Lublin, 1998. – S. 9 –17.

6. Бартминский, Е. Когнитивное определение, профилирование понятий и субъективная интерпретация мира / Е.Бартминский, С.Небжеговска // Когнитивная лингвистика конца XX века: материалы междунар. науч. конф.: в 3 ч. – Минск, 1997. – Ч. 1. – С. 4–8.

**А.В.Барысевіч (Мінск, БДУ)**

## ЦІ ЁСЦЬ СУВЯЗЬ ПАМІЖ СТАРАЖЫТНАЯЎРЭЙСКІМ КАГАРТАТЫВАМ І ФОРМАМІ НА -МО Ў ВЫДАННІ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ? (на матэрыяле Кнігі Быцця)

Формы спецыфічнага загаднага ладу на -мо, якія перадаюць значэнне заклiку да сумеснага дзеяння, напэўна не належаць да найчасцейшых у тэкстах біблейскіх перакладаў, выкананых Францыскам Скарынам. Гэта абумоўлена перш за ўсё тым, што для гэтых формаў неабходны асаблівы кантэкст, які ў Кнізе Быцця, як і ў іншых біблейскіх кнігах, сустракаецца даволі рэдка. Гэта перш за ўсё кантэксты сумеснага планавання дзеянняў, якіх ва ўсёй Кнізе Быцця не больш за дзесяць. Колькасць выяўленых намі формаў не перавышае трох дзесяткаў. Менавіта нязначная – у колькасных адносінах – роля гэтых формаў у тэксце дазволіла А.І.Жураўскаму [3, с. 288] разглядаць формы на -мо ў адной групе з формамі на -мы і кваліфікаваць іх агульным чынам як «формы цяперашняга і будучага часу і загаднага ладу». У сваім артыкуле А.І.Жураўскі не надае гэтым формам істотнай увагі, адзначаючы толькі, што гэта формы, не ўласцівыя іншым сучасным выданням Біблії на старацаркоўнаславянскай мове.

Формы на -мо сапраўды з'яўляюцца адметнасцю скарынаўскай рэдакцыі старацаркоўнаславянскага тэксту. У сучасніка Францыска Скарыны Івана Фёдарава такія формы не адзначаюцца. На іх месцы звычайна сустракаецца форма так званага неспецыфічнага будучага часу ў форме першай асобы множнага ліку: учиниможъ – сътворим (2: 18), сотворимо – сътворимъ (1: 26). Характэрна і тое, што ў выданні Ф.Скарыны большасць форм на -мо сустракаецца на месцы кагартатыўных формаў у старажытнаяўрэйскім тэксце.

Кагартатыў у старажытнаяўрэйскай мове – гэта формы першай асобы імперфекту са значэннем пажаданага дзеяння, да якіх дадаецца часціца *а* (графічна гэта перадаецца як ה): калі ў першай асобе гучаць формы: אשלח,נשלח , то такую форму אשלחה נשלחה яны набываюць у кагартатыве [4, с. 203].

Паводле нашых падлікаў, больш за 85% формаў на -мо ў выданні Францыска Скарыны дакладна адпавядаюць кагартатыўным формам у старажытнаяўрэйскім тэксце: пойдемо инаделаймо плит и спалимо е огнемъ – הבה נלבנה לבנים ונשרפה לשרפה (11: 3), …вчинимо собѣ градъ – הבה נבנה לנו עיר (11: 4). Аднак часамі нават у кампактным шэрагу формаў на месцы чаканага кагартатыву раптам з'яўляецца неспецыфічная форма будучага часу, такая, якія пазней на месцы кагартатыўных форм будуць фігураваць у тэксце Івана Фёдарава: ивчинимъ славно им\ наше – ונעשה לנו

*שם*(11: 4). Як бачым, у яўрэйскім тэксце фігуруе прадказальны ў такіх кантэкстах кагартатыў, а ў тэксце Скарыны – неспецыфічны будучы час. Падобным чынам у некаторых кантэкстах перарываюцца нават шэрагі аднародных членаў: …ступмо и смесим *הבה נרדה ונבלה* — (11:7), і гэта пры тым, што ў яўрэйскім арыгінале паслядоўна ўжыты кагартатыў. Нягледзячы на тое, што такі перарыў уносіць граматычны і сэнсавы дысананс у гучанне цэлых радкоў, перакладчык і рэдактар нібыта гэтага не бачыць.

Адначасова ёсць кантэксты, дзе Францыск Скарына нібыта не звяртае ўвагі на відавочную магчымасць ужывання кагартатыву. Заклік да сумеснага дзеяння выражаны ў тэксце адназначна, і нават сучасны пераклад дазваляе прадбачыць наяўнасць кагартатыўнах формаў у старажытнаяўрэйскім арыгінале: выведи е к намъ дапознаемъ ихъ (19: 5). І сапраўды, у яўрэйскім тэксце разглядаемая граматычная з'ява прадстаўлена прадказальна і дакладна: *הוציאם אלינו ונדעה אתם*. Узнікае пытанне: з чым звязана адступленне Скарынам ад ужо неаднаразова ўжытай ім граматычнай канструкцыі?

Пры наяўнасці працяглай паслядоўнасці кантэкстаў, семантыка якіх патрабуе формаў на -мо, назіраецца тое, што можна было б назваць «сіндромам стомленасці ці няўважлівасці». Напрыканцы прадметнай сітуацыі перакладчык дэманструе істотна меншую паслядоўнасць у рэалізацыі дадзенай граматычнай з'явы: пойди и упоймо его виномъ испимо снимъ – *נשקה את אבינו יין ונשכבה עמו*, даоставимо – *נחיה*, даймо ему – *נשקונו*, іоставимъ – *נחיה*. Усе гэтыя прыклады – з заключных вершаў дзевятнаццатага раздзела, дзе яны фігуруюць у рамках аднаго сюжэта, у якім паўтараюцца дзве сюжэтныя лініі.

Пры агульнай паслядоўнасці ва ўжыванні адзінкавых формаў на -мо на месцы старажытнаяўрэйскага кагартатыву адзначаецца непаслядоўнасць у кантэкстах, дзе прадстаўлены шэрагі формаў. Гэтую з'яву можна было б растлумачыць, калі б у нас быў дакладны і абгрунтаваны адказ на пытанне пра тое, як увогуле ў тэксце скарынінскіх выданняў з'явіліся гебраізмы. Яны адзначаюцца як адзінкавыя з'явы на розных узроўнях тэксту: пачынаючы ад загалоўкаў і заканчваючы асаблівасцямі (а дакладней, вельмі сур'ёзнымі непаслядоўнасцямі) у перадачы ўласных імёнаў. Характар некаторых з іх паказвае на магчымы вусны шлях запазычання, напрыклад, форма Брешисъ замест Берешитъ. Непаслядоўнасць ва ўжыванні формаў на -мо магчыма было б растлумачыць папраўкамі, якія ўносіліся ва ўжо гатовы тэкст. Мэтай магло быць набліжэнне граматыкі перакладу да граматыкі аднаго з зыходных тэкстаў, у дадзеным выпадку яўрэйскага. Гатовы пераклад цэласна і паслядоўна не пераглядаўся, праўкі ўносіліся павярхоўна. Гэтым можна растлумачыць дакладнае супадзенне адзінкавых формаў і разыходжанні ў перадачы іх шэрагаў.

Такім чынам, колькасныя паказчыкі супадзення кантэкстаў, у якіх ужываюцца формы на -мо ў выданні Францыска Скарыны і формы кагартатыву ў арыгінальным яўрэйскім

тэксце, паказваюць на існаванне пэўнай узаемасувязі паміж гэтымі граматычнымі формамі. Крыніцай гэтай узаемасувязі можна лічыць праўку гатовага перакладу, якая праводзілася ў самым канцы працы над падрыхтоўкай выдання да друку і да якой, верагодна, быў прыцягнуты інфармант.

***Літаратура***


1. Библия. Острог, 1581.
2. Біблія / пер. і камент. Ф.Скарыны. – Мінск, 1990 – 1991. – Т. 1.
3. Жураўскі, А.І. Мова друкаваных выданняў Ф.Скарыны / А. І. Жураўскі // 450 год беларускага кнігадрукавання. – Мінск, 1968. – С. 277 – 304.
4. Ламбдин, Т.О. Учебник древнееврейского языка / Т.О.Ламбдин. – Москва, 2003. – 509 с.
5. Biblia Hebraica Stuttgartensia. – Stuttgart, 1977. – 753 p.


**А.І.Белая (Баранавічы, БарДУ)**

## АСОБА І МОЎНАЯ СІТУАЦЫЯ Ў ПРОЗЕ ПЕРШАЙ ТРЭЦІ ХХ ст.

Чалавечы вопыт свету з'яўляецца моўным вопытам. Лексіка і фразеалогія эпохі – надзвычай «эканомныя» і яскравыя мастацкія сродкі перадачы яе духу. У ладзе маўлення літаратурных герояў паўстае іх духоўны свет, характар, настрой. 1-я трэць ХХ стагоддзя асабліва паказальная ў гэтых адносінах. Многія мастацкія творы акцэнтуюць увагу на чалавеку, які апавядае, і чалавеку які піша. Так, квартальны Хаім Рыбс з аднайменнага апавядання (1921) скардзіцца, што атрымаў «цэлую кучу» паперак: «Хто толькі не піша: і выканком, і кувырком, і кулаком…» [7, с. 122]. І, канечне ж, тыя, для каго пісаць азначае жыць. Не пакідае чытача абыякавым апавяданне Я.Коласа «Драматург і лірычны паэт» (1927). Першы з названых герояў, Амелька Шчыт, «ніякіх знакаў прыпынку не прызнае… «І» ён піша ўсюды кароткае. Правапіс яго пераважна фанетычны». Дзіва што напісаў ён такую «песу», што «і Галубок набок!» [7, с. 240 – 241]. У апавяданні Я. Коласа «Трыумф» (1925) паэт, сабраўшыся ў вёску, «увесь райвыканком на ногі паставіў, прадрыку чуць дыхавіцы не нагнаў. Бегае прадрык, на кавалкі разрываецца, у клуб народ зганяе» [7, с. 144]. На сцэне аматар славы «вытрас з кішэні паэзію» і прачытаў, сярод іншага: «Эх, заззяе электрыфікацыя! Пусцім трактар-самацяг: На два локці грунт абмацае Пралетарскае дзіця [7, с. 146]. Акрамя гэтага, паэт пафасна заклікаў: «Лайся, вецер, вол рабы» і «…каціся ды абручыкам, сказ мой, хмелевабуян!» Я.Колас «дэкадзіруе» гэтыя адмысловыя «абразікі» ў духу народнай этымалогіі: «Усё, галубок, зразумелі… як ёсць чысценька: і п'янства гэтае самае, лаянку гэтую, і нашу цёмную нетрафікацыю. Толькі… трахты гэтае не трэба, і мацаць тут ужо няма чаго, і так неспакойна жыць стала» [7, с. 147]. На гэтых прыкладах мы бачым, што для сапраўднага творцы сацыяльныя, эстэтычныя і моўна-маўленчыя праблемы выступаюць у непарыўным адзінстве.

Да Міхайлы Іванавіча, галоўнага героя коласаўскага апавядання «Пракурор» (1925), прыходзіць у госці настаўнік і, замест прывітання, «громка, выразна і важна» кажа: «Чмак!», што «ў перакладзе на мову сучаснасці азначае: чэсць маю кланяцца!» [7, с. 156–

157]. Госць таксама пацяшае гаспадароў паведамленнем аб тым, што школьныя работнікі называюцца «шкрабы». Я.Колас, карыстаючыся сродкамі смехавай культуры, выказвае пратэст супраць неапраўданага засілля абрэвіяцыі. Пракурор рэзюмуе: «Вось камедыянты!.. Не ведаюць ужо, што рабіць, дык давай крывіць мову!» [7, с. 157]. Аднак вуснамі Андрэя Мартынавіча пісьменнік прамаўляе: «… ведаюць яны (бальшавікі – *А. Б.*), добра ведаюць, што робяць, і, трэба аддаць ім справядлівасць, робяць начыстую і гладка» [7, с. 157], напрыклад, у развязанні зямельнага пытання ці ліквідацыі непісьменнасці. Было б, аднак, наіўна бачыць у апошняй грамадскай тэндэнцыі выключна гуманістычны змест. Выснова беларускага класіка ўзыходзіць да меркавання К.Леві-Строса адносна сітуацыі ў Еўропе XIX стагоддзя: «Барацьба з непісьменнасцю… супадае з узмацненнем кантролю над грамадзянамі з боку ўлады. Калі ўсе будуць умець чытаць, Улада зможа ўпэўнена казаць: няма каму адгаворвацца няведаннем закону» [цыт. па 1, с. 204].

У Першым пасланні святога апостала Паўла да карынфянаў гаворыцца: калі «…свірэль ці гуслі… не нараджаюць паасобных тонаў, то як распазнаць тое, што іграюць на свірэлі ці на гуслях? І калі труба будзе выдаваць няпэўны гук, хто пачне рыхтавацца да бітвы? Так, калі і языком прамаўляць незразумелыя словы, то як даведаюцца, што вы гаворыце? Вы будзеце гаварыць на вецер».

Характарызуючы, напрыклад, стылявыя асаблівасці прозы Л.Калюгі, З.Драздова адзначае, што ў яго апавяданнях і аповесцях «можна знайсці вялікае мноства слоўнаватвораў, якія хоць і здаюцца нязвыклымі сучаснаму чытачу, аднак заўсёды зразумелыя, свойскія <...> таму , што з’яўляюцца па-народнаму сакавітымі, жывапіснымі, каларытнымі, абапіраюцца на зрокавыя вобразы» [4, с. 136]. Безумоўна, даследчыца мае на ўвазе не тыя «наватворы», якія нарадзіла новая рэчаіснасць: «Зайдзі ў *Рык*. Там табе ў культаддзел накажуць…» [6, с. 84]; «Перш-наперш выключым з бюро і… аж да выключэння з *касамэ*» [6, с. 111]; «Там зложым пратакол і справу накіруем у *гапаву*» [6, с. 135]. Л.Калюга ніякім чынам не адаптуе новыя словы ў мове сваіх тэкстаў, і ў гэтым выразна бачыцца мастацкая мэта. Пададзеная аўтарам менавіта ў такім варыянце, мова герояў, як справядліва заўважаў К.Чорны, адбівае сучаснасць, але яна штучная, «цяжкая, сухая, нежывая» [9, с. 81], што пралівае яскравае святло на дух эпохі і сутнасць чалавека, які імкнецца некрытычна адпавядаць гэтаму духу. (Гранічна завастрыў увагу на падобнай з’яве рускі паэт М.Валошын, калі так пісаў пра сакавік 1917 года: «На рву у места Лобного, У церкви Покрова, Возносят неподобные, Нерусские слова» [3, с. 104].) У цэлым жа мова Л.Калюгі «не засмечана ніякімі бюракратызмамі, мёртвымі або сцёртымі словамі», а «выбар слова, інтанацыі, стаўленне слова ў радок… па-сапраўднаму беларускія» [4, с. 136]. «…Выйшаў ён (Змітра – *А. Б.*) з хаты, каб схадзіць дзе да мужчын *вочы крыху прахаладаць*» [6, с. 259]; «*Многа бялейшыя ёсць чырвоныя буракі, як тады зрабіўся Савоста»* [6, с. 276]; «Папытаюць чаго – *бы секачом адсячэ,* гаворыць – *што рэдзьку скрыляе*» [6, с. 81]; «Сястра – *самая страйніся*, толькі па вячорках і бегае, як вечар настане» [6, с. 85]; «*На тры качаргі* сонца ўвысь знялося, як згледзелі касцы Ігналіху…» [6, с. 125] з полуднем… Прыведзеныя і шматлікія іншыя прыклады сведчаць, што, нягледзячы на засілле новых слоў, у жыцці немагчыма было абысціся без тых, для якіх не

патрабавалася асаблівага дару вытлумачэння. Падобны матыў уласцівы і рускай прозе. Так, Б.Зайцаў у апавяданні «Вуліца св. Мікалая» піша: « …уж новое пришло… облепило стены сотнями плакатов и декретов, выпустило новые слова, слуху несвычные…» [5, с. 436]. У былога чыноўніка Гукоўскага (апавяданне Я.Нёманскага «Зварот») яны нават выклікалі перапалох. «Самы горад, вуліцы з дамамі, дзе з'явіліся незвычайныя надпісы незвычайных устаноў, зрабіліся яму… жудасна-варожымі…» [8, с. 148]. Але пісьменнікі ўсё ж не губляюць аптымізму, які жывіцца, сярод іншага, і тым, што «поэт бирюзовоглазый», хай сабе і «сильно поседевший, в пальто рваном и шапчонке тёртой» хаця і спяшаецца на лекцыю ці семінар у «пролеткульт и пролетдрам, политотдел и наробраз», усё ж «в словах новых будет поучать людей… старым откровениям писаний» [5, с. 436].

Нобелеўскі лаўрэат І.Бродскі выказаў перакананасць у тым, што прагрэс мовы азначае яе якаснае і колькаснае ўзбагачэнне. Ён не пагаджаўся з тым, лічыць структуру мовы можна змяняць або накіроўваць пры дапамозе нейкіх рэзалюцый, бо «мова эвалюцыянуе, а не рэвалюцыянізуецца...» [2, с. 339]. Творца заклікаў з асцярогай ставіцца да спрашчэнняў і не выпускаць з-пад увагі, «у імя чаго яны праводзяцца», бо складанасць мовы не загана, а найперш сведчанне духоўнага багацця народа, які гэтую мову стварыў. Спрашчэнні ж па сутнасці з'яўляюцца абкраданнем мовы. І.Бродскі папярэджвае, што гэты працэс бясконцы: урэшце можна перайсці на мову жэстаў і нават прывыкнуць да гэтага. Форма не ўплывае на функцыю, але можа знявечыць яе, стварыць адваротнае ўяўленне. «Утылітарызм і стандартызацыя… гэтакія ж шкодныя, як перагрузка дэталямі. Манеж, пазбаўлены калоны, ператвараецца ў хлеў; каланада функцыянальная: яна адыгрывае ролю, падобную да ролі фанетыкі. А фанетыка – гэта моўны эквівалент дотыку, гэта… пачуццёвая аснова мовы» [2, с. 340]. Надзвычай сугучныя думкі знаходзім у М.Валошына: «Словам, якое ёсць зямное цела думкі, мы можам намацваць дарогу перад сабою. <…> Слова заклінае будучыню» [3, с. 445]. З гэтага вынікае, як асцярожна трэба ставіцца да моватворчасці і рэфармавання мовы ў пераходныя перыяды грамадскага развіцця, калі яго шлях сапраўды даводзіцца намацваць, што было ўласцівым 1-й трэці ХХ стагоддзя.

***Літаратура***

1. Акудовіч, В. Код адсутнасці. Асновы беларускай ментальнасці / В.Акудовіч. – Мінск: Логвінаў, 2007. – 216 с.

2. Бродский, И. Форма времени: стихотворения, эссе, пьесы: в 2 т. – Минск: Эридан, 1992. – Т. 2: Стихотворения, эссе, пьесы. – 480 с.

3. Волошин, М. Избранное: стихотворения, воспоминания, переписка / М.Волошин. – Мінск: Маст. літ., 1993. – 479 с.

4. Драздова, З. Творчасць А.Мрыя і Л.Калюгі: стылявыя асаблівасці / З.Драздова. – Мінск: Белар. навука, 1997. – 143 с.

5. Зайцев, Б. Осенний свет: повести, рассказы / Б.К.Зайцев. – М.: Сов. писатель, 1990. – 544 с.

6. Калюга, Л. Ні госць ні гаспадар. Апавяданні і аповесці / Л.Калюга – Мінск: Маст. літ., 1974. – 290 с.

7. Колас, Я. Пісаравы імяніны: гумарыстычныя апавяданні / Я.Колас. – Мінск: Маст. літ., 2008 – 263 с.

8. Нёманскі, Я. Творы / Я.Нёманскі. – Мінск: Маст. літ., 1984. – 598 с.
9. Чорны, К. Збор твораў: у 8 т. / К.Чорны – Мінск: Маст. літ.,1975. – Т. 8: Публіцыстыка, крытычныя артыкулы, дзённік, летапіс жыцця і творчасці, алфавітныя даведнікі твораў, паказчык імён. – 616 с.

**Т.А.Биченкова (Минск, БГПУ)**

## ДИАХРОНИЧЕСКИЙ АСПЕКТ ИЗУЧЕНИЯ ЛЕКСИКИ

Относительно реальной действительности в системе языка функционирует лексико-семантическая группа глаголов со значением разрушения, оформленная на основе общей семемы «разрушающее воздействие субъекта на объект». Однако вопросы семантического развития лексической системы в целом и глагольной как составного элемента этой структуры не могут считаться исчерпанными без их исторического осмысления. С этой целью в диахронии исследуется одна из лексических подсистем обозначенной группы, а именно, ряд глагольных лексем, маркированных семой конкретного разрушающего воздействия субъекта на объект. Такой путь изучения лексики позволяет установить, «каким образом из такого-то строя и состава предшествующего времени мог развиться такой-то строй и состав времени последующего» [1, с. 49].

Среди слов с конкретной семантикой наиболее многочисленны глагольные лексемы, обозначающие разрушение посредством огня, что, вероятно, обусловлено внеязыковым узусом: угасити, съжагати, съжещи, пожжечи, зажещи, запалити, попалити. Например: А переславци…и… …... бежаша, а град их, прешед, **сожгоша** [2, с. 40]; Прииде князь великий…и видеша град **пожжен** [2, с. 41]; Взят же бе град…и огнем **попален** [2, с. 40]; Александр же повеле тростие то **запалити** [3, с. 22]; Он же (Дракоула) повелħ заперети храм и **зажещи** огнем [4, с. 654] и др.

Для периода конца XIV — начала XV вв. истории Руси в связи с объединением в централизованное государство были особенно характерны вооруженные столкновения, которые и нашли отражение в памятниках письменности рассматриваемого синхронного среза.

Глагол угасити во многих древних произведениях использовался, как и другие слова этого ряда, преимущественно в одной типичной конструкции «угасити + огнь» и выступал в прямом значении «погасить, прекратить горение»: XI в. – Огнь поляшть вода **оугасить** [5, с. 80]; *XV в.* – И тогда Александр огнь **угасити** повеле [3, с. 31]; *XVI в.* – И огнь въ мħсте **угасимохъ** [6, с. 258]; *XVII в.* – И многа побиша литвы и огни их **угасишя** [7, с. 143] и др. Семантическая парадигма его немногочисленна. Из трех вариантов, по данным Словаря И.И.Срезневского, «погасить, прекратить горение» являлось регулярным, а «смирить» и «погасить» (в переносном употреблении) – единичными. Метафорическое значение «погасить» наиболее востребовано в древнерусский период, а семема «смирить» появилась в XV веке. Находим ее и в начале XVII столетия: Той же Борисъ по обħтħ своемъ **не угаси** злорасполаемого своего огня славобħс> [8, с. 5]. В дальнейшем именно это значение активизировалось, и в нем

*угасать* функционирует без каких-либо ограничений в современном русском языке; в значении же «погашать, прекращать горение» глагол входит в пассивный состав.

Образованные от разных симплексов, глаголы анализируемой подгруппы называли одно и то же действие и обладали вследствие этого идентичной сочетаемостью. В своей структуре они содержали общую сему, обозначавшую орудие действия, – *огонь*, поэтому существительное в творительном инструментальном чаще всего отсутствовало. Кроме того, в сочетании с аспектуальными приставками *за-, по-, со-*, глаголы данного ряда осложнялись дополнительной семой ингрессивности / финитивности и обозначали различные фазы процесса горения, то есть обнаруживали как семантическое, так и синтаксическое сходство. Различались глагольные лексемы стилистически: *сожещи* и *зажещи* в силу оформленности старославянскими формантами имели более торжественную окрашенность. Впоследствии стилистическая дифференциация у слов с разными симплексами увеличивалась, что в конечном итоге привело к их полному расхождению: в современном литературном языке немаркированными в стилистическом плане являются слова *сжигать* и *зажигать* (*пожигать* относится к устаревшей лексике), *попалить* и *запалить* употребляются как просторечные.

***Литература***

1. Бодуэн де Куртене, И.А. Избранные труды по общему языкознанию / И.А.Бодуэн де Куртене. – М., АН СССР, 1963.

2. Повесть о московском взятии от царя Тахтамыша // Русские повести XV – XVI веков. – М., Л., 1958.

3. Александрия. Роман об Александре Македонском по русской рукописи XV века. – М., Л., 1965.

4. Сказание о Дракуле воеводе // Известия по русскому языку и словесности. – Пг., 1929.

5. Изборник 1076 года / Изд. подготовили В.С.Голышенко, В.Ф.Дубровина и др. – М., 1965.

6. История о великом князѣ Московскомъ // Русская историческая библиотека. – Спб., 1914. – Т. 31.

7. Сказание Авраамия Палицина / под ред. Л.В.Черепнина. – М., Л., 1955.

8. Так называемое Иное сказание // Русская историческая библиотека. – Л., 1925.

**С.Я.Богуш, Г.І.Кулеш (Мінск, БДУ)**

## ДЫЯЛЕКТНАЯ ЛЕКСІКА ЯК КРЫНІЦА ЛІТАРАТУРНАГА СЛОЎНІКА Ў АЦЭНКАХ ДАСЛЕДЧЫКАЎ 20 – 30-х гг. XX ст.

У 20-х – пачатку 30-х гадоў XX стагоддзя адбывалася вырашэнне адной з самых складаных і актуальных праблем таго часу – выпрацоўка агульных лексічных нормаў і фарміраванне слоўніка беларускай літаратурнай мовы.

Праблема тагачаснай лексікалогіі палягала найперш у тым, што, з аднаго боку, пазбаўленая дзяржаўнай функцыі на працягу некалькіх стагоддзяў, беларуская мова не мела разгалінаванай сістэмы стыляў, і як вынік гэтага – слабая развітасць пласту так званай кніжнай лексікі. З іншага боку, наша мова функцыянавала ў дыялектах, шматлікіх гаворках, што спараджала вялікую колькасць лексічных варыянтаў. Усё гэта вымагала ад мовазнаўцаў пошуку агульнай канцэпцыі далейшага развіцця лексікі, яе сістэматызацыі і запаўнення наяўных моўных «прагалаў». Асноўныя тэндэнцыі гэтага працэсу выразна акрэслены ў лінгвістычных артыкулах, што публікаваліся ў перыядычных выданнях таго часу.

Асноўным шляхам развіцця літаратурнай мовы абсалютнай большасцю даследчыкаў было прызнана набліжэнне яе да мовы народнай, дыялектнай. Так, напрыклад, Язэп Лёсік сцвярджаў, што «жыцьцё й сьвежасьць літаратурнае мовы можна захаваць толькі ў тым выпадку, калі нязьменна трымацца народных крыніц», што «літаратурная мова – гэта стылізацыя, або гармонізацыя народных гутарак» і яна «павінна быць морам, куды ўліваюцца народныя дыялекты» [8, с. 194 – 195]. Падобных меркаванняў прытрымліваўся і Сцяпан Некрашэвіч, адзначаючы, што «асноўным грунтам для мовы пісьменьніка павінна быць мова народная» [10, с. 166]. Уладзімір Дубоўка падкрэсліваў: «Беларуская народная мова мае надзвычайна вялікі і цікавы лексыкон, на падставе і з дапамогай якога можна разьвіваць літаратурную мову нормальным парадкам, запазычаючы з суседніх моваў толькі міжнародныя, інтэрнацыянальныя словы» [6, с. 172]. Выключную ролю гаворак у працэсе станаўлення літаратурнай мовы падкрэсліваў і Ян Станкевіч: «У кожнага культурнага народу... з розных нарэччаў мовы народнае творыцца мова літаратурная» [11, с. 112].

У чым жа прычыны тагачаснай пераважнай арыентацыі на дыялектныя крыніцы пры выпрацоўцы лексічных нормаў літаратурнай мовы? На наш погляд, яны неадназначныя. З аднаго боку, імкненне наблізіць літаратурную мову да дыялектнай тлумачыцца папулярнай на той час тэндэнцыяй моўнага пурызму. Найбольш радыкальным і паслядоўным прыхільнікам пурыстычнай плыні быў Ян Станкевіч. Яшчэ ў 1920 годзе ў газеце «Беларусь» ён сцвярджаў, што «трэба ўмець бараніцца ад тае навалы чужых слоў, што бяз ніякае патрэбы заносяцца ў нашую родную мову і якія могуць быць лёгка заменены сваімі словамі» [11, с. 33]. Пашыранасць падобных перакананняў вынікае з тагачаснай моўнай сітуацыі. Натуральная нацыянальная пісьмовая традыцыя была перарвана, беларуская мова зазнала моцны ўплыў суседніх – польскай і рускай – моў. Захавальнікам самабытнасці яе лексічнага багацця з’яўлялася перадусім сялянскае асяроддзе, у якім і варта было шукаць уласна беларускія, «чыстыя» элементы.

З іншага боку, зварот лінгвістаў да «народнай мовы» як да галоўнай крыніцы папаўнення мовы літаратурнай меў пад сабой і ідэалагічныя падставы. Марксісцка-ленінская ідэалогія, якая панавала ў тагачаснай беларускай культуры, катэгарычна

адмаўляла ўсё старое (у тым ліку і лепшыя культурныя здабыткі папярэдніх эпох) як «буржуазныя перажыткі». Мажліва, менавіта гэтым можна патлумачыць даволі асцярожнае стаўленне некаторых рупліўцаў мовы да такой крыніцы, як старабеларуская лексіка.

Яшчэ адным істотным фактарам, які ўплываў на моўны працэс у 20 – пачатку 30-х гадоў, быў сацыяльны. Перад мовазнаўцамі стаяла канкрэтная мэта – распрацаваць літаратурную мову «для народа», які на той момант у большасці сваёй быў непісьменным і неадукаваным. Таму абсалютна лагічным выглядае імкненне лінгвістаў стварыць максімальна зразумелую для шырокіх пластоў грамадства мову, якая здолела б стаць нацыянальным падмуркам тагачаснай маладой беларускай дзяржавы. І ідэалам літаратурнай мовы для многіх даследчыкаў была менавіта тая, што змагла б, як пісаў Я.Лёсік, «стаць на народны, дыалектычны грунт і ў сваім разьвіцьці пайсьці за разьвіцьцём жывое разгаворнае мовы» [8, с. 194].

Аднак памылковым было б меркаваць, што беларускія лінгвісты адно толькі разважалі пра далейшыя шляхі і перспектывы развіцця лексікі. З’яўленне лінгвістычных артыкулаў азначанай тэматыкі было непасрэдным чынам звязана з плённай практычнай дзейнасцю мовазнаўцаў. Варта згадаць хаця б вялікую колькасць слоўнікаў, выдадзеных у гэты час. Апрача таго, у перыядычным друку вялося жывое абмеркаванне мэтазгоднасці ўжывання некаторых слоў, іх формаў, сінтаксічных канструкцый; давалася ацэнка ўзроўню мовы мастацкіх твораў. У 1927 годзе ў часопісе «Узвышша» з’явілася новая спецыяльная рубрыка «Культура мовы», прысвечаная праблемам літаратурнай мовы. Такім чынам, да працэсу моўнай кадыфікацыі далучаліся не толькі навукоўцы ды літаратары, але і чытацкія колы.

Адным з самых галоўных крытэрыяў вартасці кожнага слова, якое абмяркоўвалася ў рубрыцы «Культура мовы», была ступень яго ўжывальнасці ў народных гаворках. Напрыклад, Канстанцін Вашына, больш вядомы як пісьменнік Лукаш Калюга, ў нататцы «Заўвага пра чужыя словы і звароты», ацэньваючы з гэтых пазіцый перайманне асобных выразаў і слоў з рускай мовы, прыходзіць да такой высновы: «чым рабіць пераклады, лепш было-б унесьці ў літаратуру самабытныя звароты мовы, якімі гавораць сяляне розных куткоў Беларусі» [4, с. 192] і падае канкрэтныя ўзоры такіх зваротаў. Падобныя меркаванні не былі адзінкавымі [1; 2; 3].

Як бачым, даследчыкі 20-30-х гадоў XX ст. дыялектную лексіку лічылі пераважнай крыніцай ў папаўненні літаратурнага слоўніка. Аднак з пазіцый сучаснага мовазнаўства гэта тэндэнцыя ацэньваецца неадназначна [7, с. 103; 12, с. 19]. З аднаго боку, у мове дзякуючы гэтай тэндэнцыі захавана вялікая колькасць самабытных слоў. З іншага боку, фарміраванне лексічнага складу літаратурнай мовы на дыялектнай аснове стала прычынай цяжкасці стылістычнай дыферэнцыяцыі мовы. Праблема палягае ў тым, што пэўны пласт слоў мае адценне стылістычна зніжанай, прастамоўнай лексікі, што адмоўна адбіваецца на агульным гучанні мовы.

***Літаратура***

1. Аглядальнік. Некаторыя ўвагі на беларускую літаратурную тэрмінолёгію / Аглядальнік // Полымя. – 1923. – № 7 – 8. – С. 80 – 85.
2. Асот, Г. Пра дзеяслоў забыцца / Г.Асот // Узвышша. – 1929. – № 3. – С. 98.
3. Бардон, М. Колькі заўваг пра некаторыя словы / М.Бардон // Узвышша. – 1929. – № 8. –С. 101.
4. Вашына, К. Заўвага пра чужыя словы і звароты / К.Вашына // Узвышша. – 1928. – № 5. – С. 191 – 192.
5. Дубоўка, У. Некаторыя прыватныя выпадкі мілагучнасьці нашае мовы / У.Дубоўка // Узвышша. – 1927. – № 4. – С. 88 – 93.
6. Дубоўка, У. Пра нашу літаратурную мову / У.Дубоўка // Узвышша. – 1927. – № 2. – С. 167 – 181.
7. Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы / пад рэд. А.Я.Баханькова. – Мінск, 1994. – 463 с.
8. Лёсік, Я. Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы / Я.Лёсік // Полымя. – 1924. – № 2 (10). – С. 192 – 205.
9. Лёсік, Я. Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы / Я.Лёсік // Полымя. – 1924. – № 3 (11). – С. 97 – 116.
10. Некрашэвіч, С. Да пытаньня аб укладаньні слоўніка жывой беларускай мовы / С.Некрашэвіч // Полымя. – 1925. – № 5. – С. 164 – 186.
11. Станкевіч, Я. Збор твораў: у 2 т. / Я.Станкевіч. – Мінск, 2002. – Т.1. – 552 с.
12. Яскевіч, А. Сумежжа: мова, пераклад, вытокі прозы / А.Яскевіч. – Мінск, 1994. – 253 с.

**В.Ю.Бойка (Мазыр, МДПУ)**

## СТЫЛІСТЫЧНАЯ ПРЫНАЛЕЖНАСЦЬ ЖАНРУ БЛОГА: ЭКСТРАЛІНГВІСТЫЧНЫ АСПЕКТ

Пры адносна малой колькасці актыўных носьбітаў беларускай мовы паступова павялічваецца корпус беларускамоўных тэкстаў у інтэрнэт-прасторы. Памнажэнне тэкстаў адбываецца як за кошт інфармацыйных рэсурсаў, так і ў выніку актыўнага развіцця беларускамоўнай благасферы. *Блог* – гэта спецыфічны жанр інтэрнэт-камунікацыі (ІК), «інтэрнэт-дзённік у выглядзе шматфункцыянальнай гасцявой кнігі, дзе кожны жадаючы можа выказвацца наконт напісанага аўтарам» [3, с. 78]. Папулярнасць жанру ў значнай меры абумоўлена яго канстытуцыйнымі прыметамі, сярод якіх неабходна адзначыць: а) пісьмовую форму камунікацыі; б) ананімнасць, што нівелюе шэраг пазамоўных фактараў (узрост, сацыяльнае становішча і інш.); в) моўны «дэмакратызм» – шырокае выкарыстанне элементаў гутарковага маўлення, нязмушанасць, эматыўнасць выказванняў, адсутнасць акрэсленых стылістычных нормаў; г) крэалізаванасць; д) крэатыўная накіраванасць; е) гіпертэкстуальнасць.

Сукупнасць інтра- і экстралінгвістычных параметраў блогаў, якія адрозніваюць яго ад традыцыйных маўленчых жанраў, дазваляюць весці гаворку аб спецыфічным стылі або «падстылі» маўлення. Так, С.А.Важнік адзначае наяўнасць так званага *інтэрнэтнага стылю пісьма*, які праяўляецца «ў кароткіх, абрывістых фразах, дакладнай рубрыкацыі тэксту; у падкрэсленай эматыўнасці выказванняў, у высокай ступені крэалізацыі інтэрнэт-тэкстаў і ўзмацненні тэкстуальнай прагматыкі і гіпертэкстуальнасці» [1, с. 22 – 23].

Адпаведна ўзнікае праблема вызначэння стылістычнай прыналежнасці тэкстаў блогаў, якія могуць быць прызнаны вынікам рэалізацыі сродкаў новага стылю або прыватным выпадкам рэалізацыі сродкаў гутарковага стылю сучаснай беларускай мовы (СБМ).

Перш за ўсё неабходна звярнуцца да вызначэння стылю мовы. У айчынным мовазнаўстве найбольш распаўсюджаным з'яўляецца функцыянальны падыход. Так, М.Я.Цікоцкі аперыруе паняццем *функцыянальнага стылю (ФС) маўлення*, які прадстаўляе сабой «грамадска ўсвядомленую, унутрана аб'яднаную спецыфічную сістэму моўных сродкаў, якая абумоўлена мэтамі і прынцыпамі адбору гэтых сродкаў у той ці іншай сферы грамадскай дзейнасці… і найлепшым чынам абслугоўвае зносіны ў гэтай сферы» [4, с. 243]. А.К.Юрэвіч ужывае тэрмін *моўны стыль* – «разнавіднасць мовы, якая характарызуецца пэўнымі асаблівасцямі адбору, спалучэння і арганізацыі моўных сродкаў у залежнасці ад задач камунікацыі» [5, с. 96]. У абедзвюх дэфініцыях ключавым з'яўляецца паняцце *адбору* моўных сродкаў. Пры гэтым у першым выпадку акцэнтуецца *дзейнасны* фактар, у другім – *камунікатыўны*. У заходняй лінгвістыцы стыль (*style*) у найбольш агульным сэнсе – «a consistent occurrence in the text of certain items and structures, or types of items and structures, among those offered by the language as a whole» [7, с. 510]. Побач з паняццем *style* таксама ўжываецца тэрмін *register* – набор моўных адзінак, які асацыіруецца з пэўнымі камунікатыўнымі сітуацыямі [7, с. 170].

На нашу думку, у вызначэнні паняцця стылю мэтазгодным з'яўляецца камунікатыўна-дзейнасны падыход, які ўлічвае абодва аспекты. Можна сказаць, што з функцыянальнага пункту гледжання стыль – гэта грамадска ўсвядомленая сукупнасць прынцыпаў адбору моўных сродкаў, якія найбольш адпавядаюць задачам камунікацыі ў пэўнай сферы дзейнасці. Даследчыкі вызначаюць шэраг экстралінгвістычных стылеўтваральных фактараў: 1) змест маўлення; 2) форма зносін (вусная – пісьмовая, маналагічная – дыялагічная); 3) мэты і задачы выказвання; 4) сацыяльная сфера зносін; 5) непасрэдныя ўмовы зносін [4, с. 243]. Вынікі экстрапаляцыі гэтых параметраў на беларускае інтэрнэт-маўленне, прадстаўленае тэкстамі блогаў, можна адлюстраваць у выглядзе табліцы.

| | |
|---|---|
| Змест маўлення | Шырокі спектр тэм, якія закранаюць праблемы бытавога, сацыяльна-палітычнага, эканамічнага жыцця, навукі, культуры, рэлігіі і інш. |
| Форма зносін | Пісьмовая, маналагічна-дыялагічная. |
| Мэты і задачы выказвання | Пераважна фатычная накіраванасць (камунікацыя з'яўляецца не сродкам, а мэтай), імкненне да самавыражэння асобы. |
| Сацыяльная сфера | Адсутнасць сацыяльных бар'ераў, дакладна вызначанай сацыяльнай сферы камунікацыі. |
| Непасрэдныя ўмовы зносін | Апасродкаванасць камунікацыі пісьмовай формай зносін, адсутнасць візуальнага і аўдыяльнага канктакту паміж камунікантамі, іх дыстантнасць. |

Такім чынам, тэксты блогаў характарызуюцца спецыфічнымі параметрамі, якія не дазваляюць аднесці іх да гутарковага стылю, паколькі апошні мае вусную дыялагічную форму зносін і адрозніваецца тэматычнай і сацыяльнай замкнёнасцю, наяўнасцю

непасрэднага кантакту паміж камунікантамі. Ці з'яўляюцца названыя экстралінгвістычныя фактары дастатковай падставай для вылучэння блога як жанру, які рэалізуецца ў межах асобнага ФС? З пункту гледжання функцыянальнага падыходу менавіта яны вызначаюць сукупнасць моўных сродкаў, якія найбольш адпавядаюць мэтам камунікацыі. Важным – хаця часта суб'ектыўным – фактарам таксама з'яўляецца «грамадская ўсвядомленасць» пэўнага ФС, яго залежнасць ад канкрэтна-гістарычных умоў развіцця мовы. Так, польскія даследчыкі Г.Куркоўска і С.Скарупка адзначаюць: «Problem stylistychnego zróznicowania jęnzyka jest problemem historycznym… Jénzyk wzbogaca się w style w miarę tego, jak powstają i rozwijają się dziedziny życia społecznego, które obsługue, w miarę tego, jak krystalizuje się społeczna świadomość zasad doboru śródkow jęnzykowych w wypowiedziach pełniących różne funkcje» [6, с. 231]. Пры гэтым прыводзіцца класіфікацыя стыляў сучаснай польскай мовы: *artystyczny, naukowy, urzędowo-kancelaryjny, publicystyczno-dziennikarski, styl przemówień, styl potoczny* [6, с. 231]. Для параўнання прывядзём класіфікацыю стыляў сучаснай украінскай мовы: *художній, офіційно-діловий, публіцистичний, науковий, конфесійний, розмовний, епістолярний* [2]. Сучаснае беларускае мовазнаўства ў асноўным абапіраецца на класіфікацыю стыляў В.У.Вінаградава: *афіцыйна-дзелавы, навуковы, публіцыстычны, гутарковы, мастацкі* [4; 5]. Відавочна, што вылучэнне пэўнага ФС з'яўляецца ўмоўным і залежыць у значнай меры ад асаблівасцей грамадска-палітычнага і культурнага жыцця народа і ад рэальнай моўнай сітуацыі. На дадзены момант мы можам канстатаваць факт наяўнасці вялікага корпусу інтэрнэт-тэкстаў, аб'яднаных гіпер- і кантэкстуальнымі сувязямі ў адну камунікатыўную сферу; іх экстралінгвістычныя і інтралінгвістычныя параметры не супадаюць з адпаведнымі параметрамі вядомых нам стыляў. Такім чынам, пазамоўныя асаблівасці дазваляюць ахарактарызаваць благасферу як спецыфічную, часткова ўсвядомленую грамадствам асобную сферу камунікацыі, што абслугоўвае пэўны набор моўных сродкаў, які, у сваю чаргу, можа разглядацца як асобны ФС беларускай мовы.

***Літаратура***


1. Важнік, С.А. Тры стыхіі Байнэта, або Праява нацыянальнай моўнай самаідэнтыфікацыі / С.А.Важнік. – Мінск: Права і эканоміка, 2007. – 54 с.

2. Мацько, Л.І. Стилістика української мови: підручник / Л.І.Мацько, О.М.Сидоренко, О.М.Мацько. – Київ: Вища школа, 2003. – 462 с.

3. Уласевіч, В.І. Слоўнік новых слоў беларускай мовы / В.І.Уласевіч, Н.М.Даўгулевіч. – Мінск: ТетраСистемс, 2009. – 448 с.

4. Цікоцкі, М.Я. Стылістыка беларускай мовы / М.Я.Цікоцкі. – Мінск: Універсіт., 1995. – 294 с.

5. Юрэвіч, А.К. Стылістыка беларускай мовы / А.К.Юрэвіч. – Мінск: Выш. шк., 1992. – 288 с.

6. Kurkowska, H. Stylistyka polska / H.Kurkowska, S.Skorupka. – Warszawa: Wydawnictwo nauk. PWN, 2001. – 403 s.

7. The linguistics encyclopedia, second edition. – London – New-York: Routledge, 2002. – 643 p.


**Н.Ю.Бойка (Мазыр, МДПУ)**

## УСЕЧАНЫЯ ЛЕКСІЧНЫЯ АДЗІНКІ Ў БЕЛАРУСКІМ ІНТЭРНЭТ-МАЎЛЕННІ

**(на прыкладзе тэкстаў інтэрнэт-дзённікаў *livejournal.com*)**

Адной з характэрных лінгвістычных рыс беларускага інтэрнэт-маўлення з'яўляецца замена літаратурных лексем іх скарочанымі адпаведнікамі пры захаванні першапачатковай семантыкі. Актыўным спосабам утварэння скарочаных лексічных адзінак з'яўляецца ўсячэнне. Усечаныя варыянты ўтвараюцца пераважна ад назоўнікаў, якія часта ўжываюцца ў маўленні і адрозніваюцца складанасцю вымаўлення і напісання: *Дзякуй гэтаму добраму чалавечку, у якога так шмат праблем (з візай праблемна, з грашыма праблемна, з* ***універам*** (універсітэтам) *праблемна, з амерыкай невядома калі ў пасольства* [afradyta]; *…хоць мой* ***комп*** (кампьютэр) *прытарможвае на адкрытых, ландшафтных мапах* [zmila]; *…ветлівасьць – гэта калі ты сядзіш на чужым офісе і трэцюю гадзіну лазіш у* ***нэце*** (інтэрнэце) [dzieja]; *Не ўсе чытаюць віцебскай_бай, таму перапост адтуль, за* ***інфу*** (інфармацыю) *дзякуй вялікі* [devochka-aliska]; *І вось, спяшаюся я неяк на абарону курсавой – у адной руцэ краслюнкі, у другой торба з* ***ноўтам*** (ноўтбукам) [fanhead].

У некаторых выпадках усячэнне асновы суправаджаецца далучэннем дадатковага суфікса: *Вось аднойчы ўзяла я з сабой туды акрамя моба яшчэ і* ***фоцік*** (фотаапарат) [erica-nightmare]; *Толькі прайшоўшы метраў 50, я зразумеў, што нейкі* ***тралік*** (тралейбус) *вышэй па вуліцы заблытаўся ў дроце сеткі* [iks-by].

Асновай для ўтварэння скарочаных намінацый часцей за ўсё з'яўляюцца запазычанні. Асноўны прынцып усячэння – захаванне мінімальнай колькасці фанем, неабходных для перадачы зыходнай семантыкі. Іх выкарыстанне ў тэкстах інтэрнэт-дзённікаў абумоўлена тым, што камунікатны аўтаматычна пераносяць лексічныя сродкі вуснага гутарковага маўлення ў сферу інтэрнэт-камунікацыі.

У беларускім інтэрнэт-маўленні таксама назіраецца тэндэнцыя да скарачэння некаторых займеннікаў, часціц, мадальных слоў, безасабова-прэдыкатыўных слоў, выклічнікаў моўнага этыкету: ***Мо*** (можа) *і так, але нейкая частка мяне ўсё адно схільная сакралізаваць некаторыя рэчы* [extraneus]; *так, а госці насамрэч на карак не мусяць сядзіцца. дакладней – ім* ***трэ*** (трэба) *не даваць сесці* [volny_czalaviek]; *ууу тут* ***шчэ*** (яшчэ) *падумаць трэба...* [toshirskij]; ***Дзяк*** (дзякуй) *за падтрымку..:) яна шчэ вельмі спатрэбіцца як паеду на другія і трэція выходныя ў Мінск..:(* [zhywica]; *яшчэ калі мэтай накіравання з'яўляецца не* ***што неб*** (што-небудзь) *а ёмаё супермаркет* [erica-nightmare]; *Не, не прадаюсь....* ***Гэт*** (гэта) *я так какетнічал* [zbroyar].

Узнікненне і выкарыстанне падобных лексічных адзінак абумоўлена двума фактарамі: 1) нефармальнасцю моўных зносін, што дазваляе ўжываць гутарковыя варыянты літаратурных лексем; 2) імкненнем да эканоміі моўных сродкаў у працэсе інтэрнэт-камунікацыі.

Ужыванне скарачэнняў у інтэрнэт-маўленні, спрашчэнне напісанняў слоў уласціва многім сучасным мовам. Так, у тэкстах нямецкамоўных інтэрнэт-дзённікаў могуць ужывацца скарочанныя варыянты слоў самастойных і службовых часцін мовы,

факультатыўнае напісанне пачатковай вялікай літары ў назоўніках: *Fachoberschule für Gestaltung...also nich(t) ganz so hoch* ***wien*** (wie ein) ***Abi*** (Abitur)*!* [wolkenlos]; *mein* ***reli*** *lehrer der pfarrer ist liest men´s healts und überhaupt ist er voll die coole sau und hat voll die geilen sprüche drauf immer lustig ist* ***reli*** (Religionsunterricht)*!* [snoutbeetle]; *Schade, wohne in* ***ner*** (einer) *kleineren Stadt, da gibts sowas wohl nicht* [vireli]; *Natürlich könnt ihr auch sofort eine PN schreiben, mit eurem Namen, Telefonnummer, kurze* ***Bio*** (Biographie) *und Fotos von euch* [zepheryl]; *Aber, meine Güte, der Sopran ist an dieser* ***Uni*** (Universität) *glaube ich verflucht oder so* [chili_das_schaf].

Такі чынам, у беларускім і нямецкім інтэрнэт-маўленні назіраюцца падобныя працэсы: замена асобных лексем іх скарочанымі варыянтамі і, як вынік, спрашчэнне плану выражэння. Гэта сведчыць аб узмацненні ў сферы інтэрнэт-камунікацыі ролі маўленчай прагматыкі ў параўнанні з традыцыйнай ўстаноўкай на нарматыўнасць пісьмовага маўлення. Усечаныя лексемы ў беларускім інтэрнэт-маўленні адрозніваюцца экспрэсіўнасцю, паколькі рэалізуюцца ва ўмовах нефармальнасці, нязмушанасці зносін. У кантэксце літаратурнага маўлення іх ужыванне з’яўляецца стылістычна недапушчальным. Параўн.: 1) *У Беларускім дзяржаўным* ***універсітэце*** *культуры і мастацтваў прайшлі Кніжныя Каляды*; 2) *У Беларускім дзяржаўным* ***універы*** *культуры і мастацтваў прайшлі Кніжныя Каляды.*

Такім чынам, усечаныя варыянты літаратурных лексем выконваюць у інтэрнэт-маўленні наступныя функцыі: 1) намінатыўную; 2) экспрэсіўную (прымета нязмушанасці маўлення); 3) прагматычную (эканомія моўных сродкаў).

**І.Л.Бурак (Мінск, БДПУ)**

## РАЗВІЦЦЁ СІСТЭМЫ ЗЛУЧАЛЬНЫХ СРОДКАЎ СУВЯЗІ Ў СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Папаўненне сістэмы фармальных сродкаў сувязі адбываецца рознымі шляхамі. Найбольш прадуктыўныя сярод іх – далучэнне да злучальных злучнікаў з абстрактным значэннем некаторых слоў і спалучэнняў слоў (семантычных канкрэтызатараў), якія дапамагаюць дакладна выразіць сэнсава-граматычныя адносіны паміж аб’яднанымі адзінкамі, а таксама ўжыванне слоў некаторых часцін мовы ў ролі функцыянальных аналагаў злучнікаў.

Найбольш тыповымі і шырока ўжывальнымі сярод злучальных злучнікаў з’яўляюцца *і, а, але, ды*. Індывідуальныя іх значэнні выяўляюцца ў кантэксце і ўдакладняюцца з дапамогай спецыяльных канкрэтызатараў. У якасці семантычных канкрэтызатараў часцей за ўсё ўжываюцца часціцы (*нават, толькі, таксама, то*), прыслоўі (*таму, потым, затым, пасля*), мадальныя словы (*значыць, нарэшце*). Часціца *нават* ужываецца пераважна для ўдакладнення далучальных адносін. Яна павышае экспрэсіўнасць выказвання, а таксама ўносіць у паведамленне дадатковае адценне ўзмацнення, падкрэслівання або вылучэння прадмета, дзеяння, з’явы або падзеі, абазначаных разнастайнымі сінтаксічнымі адзінкамі або іх кампанентамі: *Смугой пакрыты нівы, горы, і*

*нават гоман птушак сціх* (М.Танк); *Дзве крайнія хаты гарэлі, ды нават і каля іх нікога не відаць было* (А.Якімовіч); *Ужо даўно павінна была прыехаць машына, але нават далёкага гулу матора не было чуваць* (В.Вольскі). Нярэдка часціца *нават* ужываецца без злучніка і сама выконвае асноўную ролю ў аб'яднанні розных кампанентаў, г.зн. выступае ў функцыі злучніка: *Ён усё рабіў ціха, нават сакрэтна* (М.Машара); *Стала надзвычай лёгка, нават ногі перасталі балець* (І.Шамякін).

Часціца *толькі* ўскладняе абмежавальным адценнем супраціўнае значэнне злучнікаў *і, а, але, ды*: *схавалася сонца, і толькі праз хмары ледзь свеціць прагаліна цьмяна* (Я.Колас); *Шмат хадзіла па нашых дарогах чужынцаў, а толькі назад мала хто з іх вяртаўся* (І.Гурскі); *Пятрок памкнуўся быў нешта сказаць, але толькі махнуў рукой: Сцепаніду не перапыніш* (В.Быкаў); *Ох мачахі! І добрыя ж усе яны без меры, ды толькі чорт ім верыў* (К.Крапіва). Гэта часціца можа самастойна звязваць сінтаксічныя адзінкі, выконваючы функцыю злучніка: *Дзяўчына маўчала, толькі ўсміхалася* (К.Чорны); *У доме панавала цішыня, толькі на дварэ ды на вуліцы чуліся асцярожныя крокі вартавых* (М.Лынькоў).

Часціца *таксама* ўскладняе далучальна-пералічальныя адносіны дадатковым адценнем акцэнтаванага прыпадабнення: *Настала ноч, і таксама цёмная* (К.Чорны); *Раз-пораз бліскала маланка, а таксама грымеў гром* (Я.Колас); *Ён ішоў па вуліцы, але таксама не адзін* (З.Бядуля). У адрозненне ад іншых злучнікаў часціца *таксама* цесна заязваецца са злучнікам *а*. Таму ў сучаснай лінгвістычнай літаратуры спалучэнне *а таксама* звычайна разглядаецца як састаўны злучнік [1, с. 70].

Часціца *то* спалучаецца з рознымі злучнікамі і ўскладняе выражаныя адносіны ўмоўна-выніковым або ўступальным адценнямі. З дапамогай гэтай часціцы на базе невытворных злучальных злучнікаў утварыўся шэраг састаўных злучнікаў, для якіх характэрна кантактнасць структурных элементаў і немагчымасць іх замены або прапуску. Да іх адносіцца *і то, а то, а і то, а не то, ды і то, але і то*: *Я чужая яму, і то ён мяне слухаецца* (М.Паслядовіч); *Сядайце бліжэй да мяне, а то я ўжо недачуваю* (І.Шамякін); *Уцякай, а не то страляць буду* (К.Крапіва); *У мяне дарослыя дзеці, а і то сэрца баліць* (М.Лынькоў).

Праслоўе *таму* ўжываецца для канкрэтызацыі далучальна-прычынна-выніковых адносін: *Старыя ліпы ў скверы адзяваліся ў зялёны колер. І таму здавалася, што яны маладзелі* (І.Шамякін); *Сцяпан Белавус ведае, чаго хоча, а таму не спыніцца і не апусціць рук пры першай няўдачы* (І.Гурскі). Прыслоўе *таму* прымае на сябе функцыю злучальнага слова, калі яно самастойна аб'ядноўвае сінтаксічныя адзінкі: *Дакрананне да жалеза разбурае вітамін С, таму рэзаць бульбу трэба нажом з нержавеючай сталі* (ВАН).

Адносіны паслядоўнасці могуць канкрэтызавацца прыслоўямі *потым, затым, пасля*: *Мішурын пастаяў у нерашучасці і пасля пачаў паволі збірацца ў дарогу* (К.Чорны); *На нейкую гадзіну дождж перастаў, а потым зноў пачало ліць* (І.Мележ); *Ад нечаканасці ён нібы застыў на момант, але потым рашуча накіраваўся да дзвярэй* (М.Зарэцкі). Гэтыя

прыслоўі могуць ужывацца без злучнікаў і самі выконваюць злучальную функцыю: *З-за хмар выглянула сонца, потым зноў схавалася ў іх* (Э.Самуйлёнак).

Мадальнае слова *нарэшце* ўскладняе семантыка-граматычныя адносіны з заключальным адценнем: *У думках пракручваецца эпізод за эпізодам і, нарэшце, план будучага сачынення гатовы* (Настаўніцкая газета); *Ён не хацеў увязвацца ў спрэчку, маўчаў, але нарэшце не вытрымаў* (М.Гарэцкі). Гэта слова можа самастойна аб'ядноўваць розныя сінтаксічныя адзінкі: *Машына раве, буксуе, нарэшце спыняецца* (І.Мележ).

Мадальнае слова *значыць* ускладняе далучальныя адносіны адценнем абагульнення: *Труслівы чалавек заўсёды чаго-небудзь баіцца, і значыць, у цяжкую хвіліну ён можа пайсці на здраду* (М.Лынькоў); *Перабудова гістарычна неабходная, а значыць – непазбежная* (Звязда). У лінгвістычнай літаратуры словазлучэнне *а значыць* звычайна лічыцца састаўным злучнікам, для якога характэрна строгая пазіцыйная замацаванасць другога элемента (слова *значыць*), таму што без яго першы элемент (злучнік *а*) не можа афармляць далучальна-заключальных адносін [2, с. 233 – 234]. Мадальнае слова *значыць* самастойна аб'ядноўвае сінтаксічныя адзінкі: *Будзяць пеўні. Значыць, ужо раніца* (А.Кулакоўскі).

Такім чынам, папаўненне класа злучальных злучнікаў з'яўляецца актыўным працэсам у развіцці граматычнага ладу сучаснай беларускай мовы. Гэты працэс ажыццяўляецца ў выніку пераходу ў разрад злучнікаў пэўных спалучэнняў злучніка са словамі, якія ўдакладняюць яго значэнне, а таксама ў выніку ўжывання асобных часціц, мадальных слоў, прыслоўяў у якасці функцыянальных аналагаў злучнікаў. Працэс папаўнення класа злучнікаў адлюстроўвае далейшае ўдасканаленне граматычнага ладу сучаснай беларускай мовы.

***Літаратура***

1. Рогожникова, Р.П. А также… / Р.П.Рогожникова // Русская речь. – 1979. – № 6.

2. Серебряная, Ф.И. К вопросу о формировании сложных сочинительных союзов на базе непроизводных / Ф.И.Серебряная // Исследования по современному русскому языку. – М., 1970.

**А.М.Воінава (Гомель, ГДУ)**

## НАЙМЕННІ АБУТКУ Ў ГАВОРКАХ МАЗЫРСКА-ПРЫПЯЦКАГА РЭГІЁНА

Вывучэнне рэгіянальнай тэматыкі, у прыватнасці, рознабаковае даследаванне разнастайных лексіка-семантычных груп дыялектнай лексікі па-ранейшаму застаецца адной з самых актуальных праблем беларускага мовазнаўства. «Вывучэнне мовы, лексікі праз гісторыю культуры, матэрыяльнай і духоўнай, уяўляецца вельмі перспектыўным. Безумоўна, узбагачэнне тут мае ўзаемазалежны характар. Веданне этымалогіі слова, яго структуры дапамагае глыбей пранікнуць у гісторыю названай рэаліі, зразумець яе быццам знутры» [1, с. 20].

Аб’ектам нашага даследавання з’явіліся назвы абутку, якія выкарыстоўваюцца ў гаворках Мазырска-Прыпяцкага рэгіёна. Беларускае Палессе ўяўляе для даследчыкаў значную цікавасць перш за ўсё таму, што большасць вучоных лічаць Палессе прарадзімай славян, рэгіёнам, захаваўшым шмат архаічных рыс ў этнакультурным і лінгвістычным аспектах. Гэта акалічнасць дазваляе высветліць моўна-культурныя кантакты паміж этнасамі. «У зонах міжэтнічных кантактаў магчыма ўзнікненне як змешаных, поліэтнічных элементаў, так і наадварот – узмацненне, канцэнтрацыя этнічнага ў процівагу чужому, іншаэтнічнаму. Інтэнсіўнасць і характар міжэтнічных кантактаў залежаць ад тэрытарыяльных узаемаадносін этнасаў, блізкасці іх у моўным і культурна-бытавым аспектах, ад гісторычных асаблівасцей развіцця, адносін паміж палітычнымі сістэмамі, якія аб’ядноўваюць народы». [2, с. 72].

Прадметна-тэматычная класіфікацыя адзначаных назваў выяўляе іх шматлікасць і разнастайнасць. Так, лексіка-семантычная класіфікацыя назваў абутку могуць быць прадстаўлена наступным чынам:

1. Агульныя назвы абутку: *абувак, обуй, вобуй, воувь, обуў, обув* ‘агульная назва вырабаў, прызначаныя для нашэння на нагах’: *Обуй – екі хочэш: чоботы, чэрэвікі.* Шастовічы Петр.

2. Назвы жаночага абутку: *аткрыткі* ‘басаножкі, адкрытыя летнія туфлі’: *Му такіх ні насілі, ето паны хварселі ў етакіх аткрытках.* Харомцы Акц.; *боцікі* ‘жаночыя гумавыя боты’ Прудок Маз.; *лодачкі* ‘жаночыя туфлі’: *Бацька, купі мне лодачкі, сільна красіва.* Хвойнае Хойн.; *румынкі* ‘невысокія вузкія жаночыя чаравікі са шнуркамі’. Гурыны Маз.

3. Назвы мужчынскага абутку: *вуцяжкі, уцяжкі, віцяжкі, вуцяшкі, выцяжкі* ‘хромавыя боты’: *У мушчын вуцяжкі, а ў жонок булі зборкі* Акулінка Маз.; *чабаты*: *У чабатах такжа ходзім, як усе.* Слабада Маз.

4. Назвы дзіцячага абутку: *сандалікі, сэндалікі* ‘летні абутак’: *Дзеткі зімой сапожыкі носяць, а летам сандалікі.* Загорыны Маз.; *сапожыкі*, *сапожакі, баціначкі*: *Я купіла свайму сыну сапожыкі ўзімку.* Слабада Маз.; *балетка* ‘сандаля’: *Не можна набраццa етым дзецям балеток: то загубяць, то парвуць, а грошы заплаці за іх.* Дзяржынск Лельч.

5. Назвы сумеснага (мужчынскага і жаночага) абутку: *валёнкі, валенкі, валёнкі, валянкі, валенцы, валінкі* ‘самаробны абутак, зроблены з воўны’: *Валёнкі бітыя, буркі шытыя, катанкі, jеслі катают.* Галоўчыцы Нар., *дубоўкі* ‘лапці, сплеценыя з дубовай кары’: *Як ты мне надоеў своімі постоламі: дубоўкі да лазоўкі, а лутоўкі ніколі за тобою не бачыла.* Ліпляны Лельч.; *кірзачы, кірзач* ‘кірзавыя боты’: *Як хто маладзейшы, дык ня так ужэ носюць кірзачоў.* Слабада Маз.; *лапці, лапець, лапоць* ‘самаробны плецены абутак’: *Бацька мяне вучыў плесці. Лапці былі лазовыя – з лазы і пеньковыя – з пенькі.* Шастовічы Петр.

У асобную групу выдзяляюцца назвы абутку, якія адрозніваюцца часам нашэння: а) зімовы: *валені, валёны* ‘самаробны зімовы абутак’; *гетры* ‘зімовы абутак на абцасах са шнуркамі’; *сапагі, сапогі* ‘скураны абутак з высокімі халявамі’; *снегаўцы* ‘зімовыя жаночыя боты’; *башмакі* ‘зімовы абутак, бацінкі’; б) вясновы – асенні: *дзеревяшкі, дэраўянікі* ‘абутак з дрэва, які насілі вясной і восенню’; *рэзіна, рэзіны* ‘гумавы абутак’; *паўбацінкі* ‘чаравікі з

кароткімі халяўкамі'; в) летні: *басаножкі* 'летні лёгкі абутак'; *калодкі* 'жаночы летні абутак'; *самаходы* 'летні абутак, басаножкі'; *сандалеты* 'летні абутак, сандаліі'; *танкеткі* 'басаножкі на суцэльнай высокай падэшве'; г) назвы абутку, якое выкарыстоўваюць у розныя пары года: *боты* 'скураны абутак'; *лапці, лапець, лапоць* 'самаробны плецены абутак'; *маршчакі* 'лапці, сшытыя са скуры'; *буркі* 'шытыя валёнкі'; *аборнікі* 'лапці з вяровак'.

У гаворках Мазырска-Прыпяцкага рэгіёна ўжываецца значная група лексем, якія абазначаюць стары зношаны абутак: *атопкі, валэнды, недатопак, ходакі, абрэзкі, астопак, пастопак, гразнікі, окраўкі, шкабурок*, *пантыкі.*

Разнастайнасць і багацце назваў адзення пацвярджае і вывучэнне тыпаў іх матывацыі. Апісанне матывацыі прадугледжвае аналіз унутранай формы найменняў. Разумеючы пад унутранай формай уяўленне, якое захавалася ў слове, аб пярвічнай прымеце, пакладзенай у аснову паняцця, з аднаго боку, і моўную матываванасць, пры дапамозе якой ажыццяўляецца стварэнне новых слоў, з другога боку, заканамерна размяжоўваюць структурную і семантычную матывацыю.

Пад структурнай матывацыяй звычайна маюцца на ўвазе дэрывацыйныя адносіны паміж утваральнай і вытворнай асновамі. У працэсе аналізу былі выдзелены два асноўныя тыпы структурнай матывацыі намінацый абутку і матэрыялу для яго вырабу: аддзеяслоўныя дэрываты і адыменныя ўтварэнні. У ліку аддзеяслоўных дэрыватаў выключную перавагу маюць суфіксальныя ўтварэнні тыпу: *подплетанка, подплетанка* 'спіца для пляцення лапцей'; *пудклейка* 'паднарад у ботах'; *абрэзкі* 'стары зношаны абутак'; *вусцілка, усцілка, стілька* 'тонкая подсцілка на ўнутранай частцы падэшвы ў абутку' і інш.

Адыменныя дэрываты структурна матываваныя найчасцей назвай якасці – асновай прыметніка: *дзеравянікі* 'абутак, які ўяўляе сабой драўляныя калодкі'; *дубоўкі* 'лапці, сплеценыя з дубовай кары'; *керзовікі* 'боты са свіной скуры; *лозоўкі* 'лазовыя лапці'.

У складзе адыменных дэрыватаў сустракаюцца назвы, структурна матываваныя найменнем прадмета, асновай назоўніка: *закаблук, закаблік* 'бяроставая пракладка ў абцасе'; *суконкі* 'суконная абмотка для нагі пад боты або лапці'; *запjяток, запеток* 'заднік у лапця'; *паўбацінкі* 'чаравікі з кароткімі халяўкамі'; *прыголенішчэ* 'ніжняя частка халяў' і інш.

Аналіз семантычнай матывацыі назваў адзення і яго частак у гаворках Гомельшчыны паказаў пэўную колькасць тыпаў намінацыі. Так, у складзе лексем з празрыстай «унутранай формы» можна выдзеліць наступныя прадуктыўныя тыпы матывацыі:

а) многія назвы абутку матываваныя спосабам вырабу відаў абутку або спосабам аздаблення, апрацоўкі: *перэцяжкі* 'новыя саюзкі, прышытыя да старых халяў'; *катанкі, качанкі, самавалкі* 'валёнкі, катаныя з воўны'; *вуцяжкі* 'суцэльныя загатоўкі для ботаў; высокія боты са скуры быка';

б) даволі значная група назваў абутку матывавана матэрыялам вырабу: *гумовікі* 'гумавыя боты'; *керзовікі, кірзачы* 'боты, зробленыя са свіной скуры', *ялавыя* 'абутак,

зроблены з цялячай скуры’; *хромовікі* ‘хромавыя боты’; *дзеравянікі* ‘абутак, які ўяўляе сабой драўляныя калодкі’;

в) нешматлікім тыпам матывацыі назваў абутку з’яўляецца намінацыя паводле месца яго размяшчэння: *запјяток* ’заднік у лапця’; *закаблук* ’бяроставая пракладка ў абцасе’.

Меншай прадуктыўнасцю вызначаюцца тыпы матывацыі, як, матывацыя назвай краіны, адкуль была засвоена рэалія: *румынкі*; месцам нашэння абутку: *балотнікі;* знешнім выглядам: *маршчакі'* .

Сярод матываваных назваў можна вылучыць невялікую групу экспрэсіўных назваў: *вуглікі* ‘складкі на халявах у ботах’; *аткрыткі*; *лодачкі* ‘жаночыя туфлі’; *кандалы'* ‘драўляны абутак’ і некаторыя іншыя.

Такім чынам, назвы абутку, зафіксаваныя на тэрыторыі Мазырска-Прыпяцкага рэгіёна прадстаўляюць сабой разнастайную ў лексіка-семантычных і словаўтваральных адносінах групу і з’яўляюцца часткай матэрыяльнай культуры беларусаў.

***Літаратура***


1. Сендровиц, Е.М. О месте экстралингвистических факторов в изучении заимствований / Е.М. Сендровиц // Вестник Московского ун-та. Сер. 9. Филология. – 1989. № 4. – С. 16 – 22.

2. Базан, Л.Н. Этнакультурныя сувязі беларусаў і літоўцаў у к. XIX – пач.XX стст. (па даных народнай кулінарыі) / Л.Н.Базан // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. – 1990. № 6. – С. 72 – 78.



**Н.В.Гаўрош, Н.М.Нямковіч (Мінск, БДПУ)**


## КАНЦЭПТ *ЖЫЦЦЁ* Ў АФАРЫСТЫЧНЫХ ВЫСЛОЎЯХ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

Да паняццяў вечных, неспасцігнутых, невычарпальна глыбокіх адносіцца канцэпт *жыццё*. Ён шматвектарны, шматаспектны, шматардынатны. Гэта адначасова невымерная паверхня і велічны аб’ём. Сутнасць названага канцэпта спрабавалі раскрыць філосафы, псіхолагі, культуролагі, мастакі і музыканты. Нешта раскрылася, убачылася, нешта засталося таямніцай. Не будзем спыняцца на дасягненнях, знаходках іншых навук.

Нам найперш цікавая філалагічная ардыната. Адным са складнікаў канцэпта з’яўляецца семантыка слова-назвы *жыццё*. Яго семантычнае поле, паводле вызначэння ТСБМ, уключае 9 дэфініцый; падаецца больш за 10 устойлівых выразаў з кампанентам *жыццё.* Лексема *жыццё* (побач з іншымі кампанентамі) стала базай для ўтварэння роднасных слоў *жыццеадчуванне, жыццеапісанне, жыццеразуменне, жыццесцвярджальны, жыццеўстойлівы, жыццёвы, жыццядзейны, жыццяздольны, жыццялюб, жыццяпіс, жыццярадасны…* Заўважым: амаль усе словы складаныя. Выпадковасць? А магчыма, лагічная натуральнасць, калі прыгадаць, пра што вядзецца размова. Парадаксальным падалося наступнае: нягледзячы на багатую семантыку, слова *жыццё* ўступае ў сінанімічныя адносіны толькі з двума найменнямі – жыццё-быццё, век (так, прынамсі, сцвярджае «Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў» М.К.Клышкі). Нечакана. Таямніча. Загадкава.

Надзвычай прыдатнай для акрэслення канцэпта *жыццё* з'яўляецца такая формула маўлення, як афарыстычнае выслоўе. Ён – канцэпт– стаў «тэмай» для многіх афарыстычных формул. Натуральна, што такое шматаспектнае паняцце прадугледжвае розныя расшыфроўкі-тлумачэнні. У творах беларускіх пісьменнікаў знойдзем самыя разнастайныя варыяцыі на тэму жыцця. Для мастака слова важна ўсвядоміць і раскрыць сутнасць гэтага працэсу: *Жыццё – / дзве сціплыя, / простыя даты, / І рыска – як шлях на зямлі…* (С.Законнікаў); *Жыццё заўжды іспыт на мужнасць...* (Н.Мацяш); *Жыццё – не маскарад…* (А.Грачанікаў); *Жыццё – патрэба ўсіх патрэб* (А.Вялюгін); *Жыццё – неаплатны і спадчынны доўг…* (М.Танк); *Апошняга нічога не бывае. / Жыццё і пачынаецца з канца* (Р.Барадулін); *Жыццё – веснаход, а не ціхенькі рай…* (А.Бялевіч).

Афарысты выказваюць свае жыццёвыя арыенціры, адносіны да таго, чым і як чалавек жыве: *Вачыма неба мерай, / Але зямлёй жыві – / І радасная вера / Народзіцца ў крыві* (С.Законнікаў); *Дагараю, але не згараю,/ Бо нязменна гляджу на зару!* (Я.Янішчыц); *Жывіце, людзі добрыя, буйней, і цешцеся, і цешце без апаскі* (Е.Лось); *Высокі сэнс жыцця і шчасця, / Калі жывеш ты для людзей* (А.Бялевіч); *Жыві, шукай, усё рабі як след, / Каб на Радзіме твой свяціўся след* (С.Грахоўскі); *Глядзі людзей, ідзі з людзьмі – чалавекам будзеш* (Ф.Янкоўскі); *Была б праўдзіва песня спета, / А вывад – кожны зробіць сам* (А.Бачыла).

Разуменне напоўненасці жыцця, яго сэнсу ў кожнага сваё. Для адных гэта праца, і нічога акрамя яе (жыву працай). Іншыя не ўяўляюць свайго існавання без кахання (жыву каханнем). Некаторыя бачаць сэнс жыцця ў барацьбе ці ў спазнанні ісціны… Адным словам, колькі людзей – столькі і жыццяў, колькі жыццяў – столькі і іх разуменняў. Адлюстраванне шматаблічнасці, напоўненасці жыцця бачым і ў беларускай афарыстыцы:

*Век пражыць – не поле перайсці, / А такому падлягаць іспыту: / На каменні зернем прарасці / І зняможанаму ўстаць з нябыту* (С.Гаўрусёў); *Гэта – мудрая тайна Жыцця – / Жыць аддана / Да забыцця* (С.Грахоўскі); *А мы ўсё роўна прагнем свята – / Аж да апошняе мяжы. / І дамагаемся ўпарта, / Бо дамагацца – значыць жыць!* (Я.Сіпакоў); *А можа, і трэба гарэць нам дашчэнту? / А можа, і трэба жыць нам ахвярна?* (А.Вярцінскі); *Вечнае па-свойму сеем, / Добрае – на свой манер* (Р.Тармола-Мірскі)*; Даўно з бяссмерцем / людзі ў добрай згодзе. / Яно заўжды трымаецца на тым – / мы каласамі ў гэты свет прыходзім, / Каб сілу даць зярнятам маладым* (С.Законнікаў); *Жыццё зямное – непаўторны дар, / Дзе кожны дзень – і творчасць, і натхненне. / Над ім не ты – народ твой гаспадар!* (А.Звонак).

Яшчэ адзін аспект у раскрыцці афарыстамі канцэпта *жыццё* – гэта законы і каноны жыцця. Яны, як правіла, універсальныя, неаспрэчныя: *Адзіна праца і каханне / У жыцці апірышча і шчыт* (Н.Мацяш); *Быць не можа ў братэрства нічыйных палос, / Між людзей / быць не можа староннягa болю!* (Н.Мацяш); *А беражы, як сад, як жыта, / Як першы сонечны прамень, / І дзень той, што не так пражыты, / Бо ён народзіць новы дзень* (А.Астрэйка); *Адна ў людзей надзея: / на людзей* (У.Някляеў); *А ў жыцці як спатыкнуўся, / Глянеш – дзверы ўсе закрыты* (Якуб Колас); *Бурай змеценае лісце / Не вяртаецца на голле* (П.Панчанка); *Быў бы юнак, а надзея знойдзецца* (Г.Марчук).

Усё на свеце мае сваю меру. Усё рана ці позна ацэньвае чалавек сам, ацэньваюць тыя, хто поруч з ім. І такія меркі, ацэнкі важныя не толькі як нешта часовае, а як тое, што можа быць арыенцірам для будучыні, як *пазачасавае*. У беларускіх афарыстычных выслоўях гэты вектар канцэпта *жыццё* акрэсліваецца наступным чынам: *Даецца толькі тым жывучасць, / Хто годны ў муках сцвердзіць сваё «я»* (Н.Мацяш); *Адны жабракі могуць праз усё жыццё толькі браць* (М.Багдановіч); *Асіліць не магу / На тройку з мінусам / Адзін прадмет – Жыццё* (М.Танк); *Даецца жыццё нам, каб радасць з адчаем / Вучыліся мы прымірацъ* (Н.Мацяш); *Адлегласць ад сяўбы да жніва / Даўжэй за век людскі бывае* (П.Макаль); *Напоўненасць жыцця – / лепшае бессмяроцце* (А.Вярцінскі).

Не намі знойдзена: жыццё і жыта – словы роднасныя. І не толькі словы. Усё, што сеецца, расце, мае свой працяг. Не выпадкова вобраз поля такі часты ў нашай літаратуры. Поле як сімвал жыцця – і ў афарыстычных выслоўях: *Жыццё і жыта – вечная радня* (С.Законнікаў); *Жыццё пражыць – / Не поле перайсці, / А трэба і жыццё / Прайсці, як поле, / І хоць адным зярняткам узысці, / А бур'яном не зарасці ніколі* (С.Грахоўскі); *Жыцця неўзаранае поле / Чакае свайго плугара* (С.Законнікаў).

У гэтых выслоўях жыццёвае крэда і аднаго чалавека, і цэлай нацыі – беларусаў.

Як бачым, афарыстычныя выслоўі валодаюць значнай патэнцыяй у раскрыцці таямніцы жыцця. Магутная плынь часу, адкінуўшы ўсё выпадковае і наноснае, выявіць сапраўдны маштаб усяго існага, высвеціць, выпукліць і акрэсліць тое, што некалі ўжо было прадказана. У афарызмах. І ў гэтым іх сіла.

**У.М.Генкін (Віцебск, ВДУ)**

## СУЧАСНАЯ АЙКАНІМІЯ ВІЦЕБШЧЫНЫ: ЛІЧБЫ І НАЗІРАННІ

Сучасны стан беларускай айканіміі характарызуецца такім негатыўным працэсам, як страта і саміх населеных пунктаў, і іх назваў. Таму вядомую гістарычную цікавасць выклікаюць апісальныя даследаванні тапаніміі, зробленыя ў розныя адрэзкі часу. Аб'ектам нашай увагі будзе сукупнасць назваў сучасных населеных пунктаў Віцебшчыны. Зараз паўночна-ўсходні рэгіён Беларусі налічвае 6528 населеных пунктаў. Параўнаем гэтую лічбу з тымі, што прыводзяцца ў «Слоўніку назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці» Я.Н.Рапановіча: «У 1968 г. з 29 342 населеных пунктаў Беларусі на долю Віцебскай вобласці прыпадала 9007. На 1 студзеня 1977 г. вобласць мела 7785 паселішчаў» [1, с. 5].

Аналіз структурна-граматычных асаблівасцей айканіміі рэгіёна паказаў, што пераважная іх большасць – гэта простыя назвы (92, 45%), ёсць таксама састаўныя (5,7%) і складаныя айконімы (1,85%, прычым прыкладна кожны трэці складаны айконім уключае структурны кампанент *-поль*, *-полле*: *Адамполле, Брыгітполле, Венсамполле, Ірынполле, Міхалполле, Франопаль*). Амаль кожны другі айконім мае форму множнага ліку (больш за 46%), каля 30% – гэта назвы ў форме ніякага роду, 19% – у форме жаночага. Айконімы ў форме мужчынскага роду складаюць невялікую групу (меньш за 5%).

Самая распаўсюджаная назва ў рэгіёне – *Слабада*: яе носяць 39 паселішчаў, уключаючы складаныя і састаўныя айконімы з лексемай *Слабада*, яшчэ 17 – назву *Слабодка*.

Даследчыкі ўжо неаднолькава заўважалі, што на кожнай тэрыторыі выкарыстоўваецца абмежаваная колькасць айканімічных тыпаў. Найважнешай адметнай рысай кожнага тапанімічнага тыпу з'яўляецца агульнасць фарманта. Некаторыя з фармантаў можна лічыць рэгулярнымі і прадуктыўнымі, іншыя, наадварот, характарызуюцца адносна невялікай колькасцю геаграфічных назваў, у якіх вылучаецца гэты фармант. На тэрыторыі сучаснай Віцебшчыны распаўсюджанымі можна лічыць топафарманты *-ова/-ава*, *-ева* (15,36% ад агульнай колькасці простых айконімаў), *-шчына, -оўшчына, -еўшчына* (6,15%), *-іна, -ына* (5,39%), *-је, -оўе* (5,2%), *-ічы/ -ычы, -овічы, -евічы* (4,24%), *-аўка, - еўка* (3,81), *-ішкі, -ышкі* (2,64%), *-іца* (1,47%), *-онкі, -енкі* (1,4%), *-оўцы, -еўцы* (1,25%), *-ец* (0,64%). Падобныя колькасныя паказчыкі актыўнасці фармантаў адзначаюцца таксама ў складаных і састаўных назвах. Ёсць, вядома, тапанімічныя суфіксы і фіналі, якія прадстаўлены нешматлікімі або адзінкавымі прыкладамі. Так, толькі 7 назваў населеных пунктаў маюць фіналь *–ея* (*Арлея, Асвея, Будавея, Верацея, Галбея, Выдрэя, Дабея*); 5 – финаль *-ня (Адворня, Аўштакальня, Ахотня, Ельня, Зачэрня*) і г.д.

Больш за 20% сучасных айконімаў рэгіёна складаюць назвы, аформленыя пры дапамозе суфіксаў *-ова*, *-ева*, *-ава* (911 населеных пунктаў), і *-іна*, *-ына* (320). Шырокае распаўсюджванне такіх айконімаў тлумачыцца «развіццём прыватнага землекарыстання, калі кожны кавалачак зямлі, нават самы маленькі, меў уладальніка і атрымліваў найменне ў большасці выпадкаў па імі гаспадара. З цягам часу на гэтых зямельных участках маглі паўстаць сялібы, селішчы, захоўваючы пры гэтым свае назвы» [2, с. 32]. Часцей за ўсё фарманты *-ова*, *-ева*, *-ава*, *-іна*, *-ына* далучаюцца да поўных, прастамоўных або дыялектных формаў імёнаў, мянушак, а таксама да этнічных і прафесійных назваў асоб. Нярэдка сярод такіх айконімаў сустракаюцца аманімічныя назвы: 8 паселішчаў маюць назву *Янова*, 6 – *Александрова*, па 5 – *Адамова*, *Антанова, Абухава*, *Кавалёва*, *Мазурына*, па 4 – *Багданава*, *Баброва*, *Вострава, Добрына, Зайцава*, *Казімірова*, *Канавалава*, *Кісялёва*, *Кулакова*, *Латыгава*, *Ліпава*, *Станіслававова*, *Юзафова*.

Наогул, большасць сучасных назваў Віцебшчыны паходзіць ад асабовых імен. Па падліках, зробленых Г.М.Мезенкай, група айконімаў, утвораных ад каляндарных імёнаў, налічвае 728 найменняў: «У асновах віцебскіх айконімаў прадстаўлены 134 мужчынскія каляндарныя імёны <…> і 21 жаночае імя» [3, с. 132 – 133].

Адантрапанімічнае паходжанне характэрна і для большасці айконімаў з фармантамі *-шчына*, *-оўшчына*, *-еўшчына* (другі па прадуктыўнасці тып): *Абрамаўшчына*, *Альхімаўшчына*, *Андрэеўшчына*, *Асіпоўшчына*, *Баранаўшчына*, *Быкаўшчына*, *Гаспараўшчына*, *Грыгораўшчына*, *Дзмітроўшчына*, *Юркаўшчына*, *Якубаўшчына* і *г.д*., а таксама для назваў з суфіксамі *-ічы*, *-ычы*: *Алексінічы, Алёнавічы, Анісімавічы, Апанаскавічы, Ганкавічы, Давыдкавічы, Клімавічы, Курылавічы, Лявонкавічы, Пятровічы, Юравічы, Яромкавічы*

Тэрытарыяльная блізкасць да Прыбалтыкі абумовіла і актыўнасць балтыйскіх элементаў у тапаніміі вобласці. «Апрача гідронімаў-балтызмаў, мы сустрэнем тут мноства айконімаў літоўскага паходжання, менш першасных, утвораных ад апелятываў, і больш другасных, асабліва суфіксальных», – адзначае М.Я.Грынблат [4, с. 43]. Па меркаванні даследчыка, літоўскае паходжанне маюць адаптаваныя беларускай мовай фарманты - *ішкі* (*-ішкес*, *-ішкяй*); *-яны* (*-ёны*); *-яты* (*-ёчай*). Населеныя пункты з гэтымі назвамі пераважна размешчаны ў паўночна-заходніх раёнах вобласці. Так, са 158 айконімаў на -*ішкі*, - *ышкі* 115 імянуюць населеныя пункты Браслаўскага раёна і 36 – Пастаўскага (яны мяжуюць з Літвой і Латвіяй), 7 астатніх паселішчаў знаходзяцца ў Шаркаўшчынскім (2), Полацкім, Мёрскім, Талачынскім, Глыбоцкім і Гарадоцкім раёнах. У Браслаўскім раёне назву на *-ішкі*, - *ышкі* носяць каля 17% населеных пунктаў, а ў большасці раёнаў такія айконімы наогул адсутнічаюць.

На тэрыторыі вобласці, багатай воднымі аб’ектамі, фіксуецца досыць вялікая група назваў адгідронімнага ўтварэння (гэта таксама адметная рыса айканіміі Віцебшчыны), прычым большасць з іх утворана лексіка-семантычным спосабам, калі назва воднага аб’екта без структурных змен выкарыстоўваецца для наймення населенага пункта: в. *Абаб’е* ← воз. *Абаб’е*; г.п. *Езярышча* ← *Езярышча*, г. *Глыбокае* ← воз. *Глыбокае* і г.д. Ёсць групы айконімаў флексійнага (г.п. *Расоны* ← воз. *Расоно*, в. *Свечы* ← р. *Свяча*, г.п. *Ушачы* ← р. *Ушача* і пад.) і суфіксальнага ўтварэння (*Віцебск* ← *Віцьба*, *Полацк* ← *Палата*, *Друйск* ← *Друйка*). Для адгідронімных айконімаў Віцебшчыны характэрны і малараспаўсюджаны ва ўсходнеславянскай айканіміі прэфіксальны спосаб утварэння: в. *Завячалле* ← воз. *Вячалле*, в. *Завальынка* ← р. *Вальынка* і інш.

Сярод айконімаў апелятыўнага паходжання значную частку складаюць анімізаваныя назвы тыпаў паселішчаў, назвы зямельных надзелаў, шляхоў зносін: *Маргойцы, Навалокі*, *Астравішкі, Вострaў, Межна, Засценак-Зацішша, Наддаткі, Вугалок, Клінніки, Гаці, Загацце, Масткі*, *Пераброддзе, Пераволока, Перавоз, Сяло, Слабада, Пачынак*.

Айканімія Віцебшчыны захоўвае цікавыя гістарычныя звесткі, напрыклад пра этнічны састаў і прафесійную дзейнасць продкаў. 31 населены пункт мае назвы, звязаныя з прафесіяй каваля. Два з гэтых айконімаў утвораны ад рускамоўнай лексемы: *Кузняцова*, *Кузняцоўка*. У віцебскай айканіміі адлюстраваны такія прафесіі і заняткі, як *бондар, дзягцяр, дрывасек, дудар, жалезнік, жабянцяй, жарнасек, кажамяка, канавал, каплан, сакольнік, касар, кравец, крупадзёр, лапатнік, ляснік, піўвар, пісар, поп, пушкар, рыбак*.

***Літаратура***


1. Рапановіч, Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці / Я.Н.Рапановіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – 504 с.

2. Лемтюгова, В.П. Формирование восточнославянской ойконимии в связи с развитием типов поселений / В.П.Лемтюгова – Минск: Навука і тэхніка, 1983.

3. Мезенка, Г.М. Каляндарнае імя ў айканіміі Віцебшчыны / Г.М.Мезенка // Актуальные вопросы славянской ономастики: материалы II Международной научной конференции «Славянская

ономастика в ареальном, этимологическом и хронологическом аспектах». – Гомель: ГГУ. – С. 132 – 136.

4. Грынблат, М.Я. Беларуска-латышскія сувязі ў тапаніміі і антрапаніміі БССР / М.Я.Грынблат // Беларуская анамастыка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – С. 43 – 63.

**Т.А.Грачыха (Віцебск, ВДУ)**

## ДЫЯЛЕКТНЫЯ АДРОЗНЕННІ НАМІНАЦЫЙ ПЛОТКІ Ў ГАВОРКАХ ПААЗЕР'Я

Адной з актуальных праблем дыялекталогіі з'яўляецца вызначэнне дыялектных адрозненняў на розных узроўнях мовы, пад якімі разумеюць моўныя з'явы, якія адрозніваюць гаворкі адну ад другой. Дыялектолагі вылучаюць два тыпы дыялектных адрозненняў – супрацьстаўленыя і несупрацьстаўленыя. Несупрацьстаўленыя адрозненні ў гаворках рэдкія. Яны ўказваюць на тое, што пэўная моўная з'ява не мае суадносных адпаведнікаў у іншых гаворках. Для дыялектнай мовы характэрны супрацьстаўленыя дыялектныя адрозненні – моўныя з'явы адных гаворак, якія маюць раўназначныя назвы ў іншых гаворках. У дыялекталогіі вылучаюць наступныя супрацьстаўленыя адрозненні: уласналексічныя, лексіка-фанематычныя, лексіка-словаўтваральныя, лексіка-семантычныя [1, с. 171]. Для намінацыі пэўных прадстаўнікоў іхтыяфаўны ў гаворках, дыялектах бытуюць раўназначныя эквіваленты. Гэта значыць, народным найменням рыб, пашыраных па ўсёй тэрыторыі краіны, уласцівы супрацьстаўленыя адрозненні. Спынімся на дыялектных супрацьстаўленых адрозненнях найменняў плоткі ў гаворках Беларускага Паазер'я і параўнаем з адпаведнікамі ў іншых гаворках.

Рыба плотка адносіцца да сям'і Карпавых (рус. плотва, Rutilus rutilus), пашырана ў вадаёмах Беларусі, таму ў дыялектнай мове бытуе шмат намінацый для яе абазначэння.

Уласналексічныя адрозненні (дублеты) у гаворках Паазер'я: *пло́тка* ж. – агульнавядомая назва (Гарадоцкі, Сенненскі, Дубровенскі, Талачынскі, Полацкі, Пастаўскі, Ушацкі, Глыбоцкі, Мёрскі, Браслаўскі, Верхнядзвінскі, Расонскі, Віцебскі раёны) [2, с. 19; 3, с. 244] – *альхо́ўка* ж. (Докшыцкі р-н) [2, с. 19] – *во́бліца* ж. (паўночна-ўсходняя зона) [4, с. 74] – *краснапёрка* ж. (паўночна-заходняя зона) [4, с. 75] – *сіню́ха* ж. (паўночны рэгіён) [4, с. 75]. Параўнайце дублеты ў іншых гаворках: *тара́н* м. (Чэрвеньскі, Слаўгарадскі р-ны) – *чуба́к* м. (усходнемагілёўскія гаворкі) [4, с. 74] – *кляпе́ц* м. (Лоеўскі р-н) [5, с. 160] – *беро́зовка* ж. (рака Прыпяць) [6, с. 166]. Адзначаны дэталізаваныя дублеты для абазначэння вялікай плоткі: *караўка* ж. (паўднёвы рэгіён) – *таўстако́ра* ж. (паўднёвы рэгіён) – *я́брынь* ж. (заходнепалескія гаворкі) – *ба́ба* ж. (*ба́біца* ж., *бу́бліца* ж.) (паўднёвы рэгіён) [4, с. 74]. Сустракаюцца дэталізаваныя дублеты для абазначэння дробнай плоткі і падобнай да яе рыбы: *вязёнка* ж. (Шклоўскі р-р) – *дня́нка* ж. (паўднёвы рэгіён) – *я́бразь* ж. (паўднёвы рэгіён) – *плашчы́ца* (*пласку́ха*) ж. (Гродзенскі рэгіён, Пухавіцкі р-н) – *кле́йка* ж. (паўднёвы рэгіён) – *ку́бар* м. (Гродзешчына) – *аўдо́тка* ж. (Магілёўшчына) [4, с. 74-75].

Літаратурная намінацыя *пло́тка* з'яўляецца агульнавядомай на ўсёй тэрыторыі Беларусі [4, с. 74], параўн. польск. *płotka, płociczka, płocica, płoć, płaskuny, płaszczki,* ням. *Plötze* [7, с. 13-14], прасл. **ploty, *plotъve* 'плоская рыба' [8, 3, с. 285].

Лексіка-фанематычныя адрозненні ў гаворках Паазер'я: *аблі́ца* ж. (Расонскі, Глыбоцкі р-ны) [2, с. 19] – *во́бліца* ж. (Бешанковіцкі, Шаркаўшчынскі, Глыбоцкі, Мёрскі, Полацкі р-ны) [2, с. 19]. Параўн. *аблі́ца* ж. (Невельскі р-н) [9, с. 150], *во́бліца* ж. – *ву́бліца* ж. (паўночна-ўсходняя зона беларускіх гаворак) [4, с. 74], *во́бліца* ж, *бо́бліца* ж. (Украінскае Палессе) [10, с. 11]. Дадзеныя найменні ўтвораны ад прасл. **obьlъ* [11, 2, с. 174]. У прадстаўленым сінанімічным радзе спалучаюцца фанематычныя і акцэнтныя адрозненні.

Акцэнтныя адрозненні ўтвараюць яшчэ адзін рад намінацый для абазначэння плоткі: *платва́* ж. зб. (Гарадоцкі, Віцебскі, Сенненскі, Бешанковіцкі, Полацкі, Глыбоцкі, Пастаўскі, Браслаўскі р-ны) – *пло́тва* ж. зб. (Полацкі р-н) [2, с. 19]. Параўн. *плацьва́* ж. зб. (Шклоўскі р-н) [12, с. 73]. Даследчыкі адзначаюць найменне *платва́* ж. зб. як агульнавядомае ў беларускіх гаворках [4, с. 74].

Лексіка-словаўтваральныя адрозненні ў гаворках Паазер'я: *пло́тка* ж. (агульнавяд. найменне) – *платва́* ж. зб. (пашыраная назва) – *платві́на* ж. (Гарадоцкі р-н) – *плоць* ж. (Шумілінскі, Полацкі р-ны) [2, с. 19]. Параўн. назвы *пло́тка* ж., *платві́на* ж., *платві́ца* ж. – агульнаўжывальныя ў народных гаворках [4, с. 74], *плаці́ца* ж., *плоць* ж. – агульнавядомыя назвы, але больш пашыраныя ў паўднёвым рэгіёне [4, с. 74].

Наступны сінанімічны рад лексіка-словаўтваральных адрозненняў утвараюць намінацыі *во́бліца* ж. (гл. вышэй) – *во́бла* ж. (Сенненскі р-н) [2, с. 19]. Параўн. *абля́к* м. (паўднёвы рэгіён) [4, с. 74]. Дадзеныя рады дыялектных адрозненняў утварылі аднакаранёвыя сінонімы. Складаныя сінонімы з тоеснай каранёвай марфемай утвараюць яшчэ адзін рад лексіка-словаўтваральных адрозненняў, якія адзначаны ў паўночна-заходняй дыялектнай зоне: *краснапёрка* ж. – *краснагла́зка* ж. [4, с. 75].

Лексіка-семантычныя адрозненні ў гаворках Паазер'я ўключаюць з'явы аманіміі і полісеміі, іх утварэнне можа быць звязана з нераспазнаваннем падобных знешне прадстаўнікоў іхтыяфаўны адной сям'і. Напрыклад, *платва́* ж. зб. 'плотка' – *платва́* ж. зб. 'падлешчык' (Пастаўскі р-н) [2, с. 16], а таксама *краснапёрка* ж. 'краснапёрка' – *краснапёрка* ж. 'плотка' (гл. вышэй). У Беларускім Паазер'і не засведчаны састаўныя назвы, у якіх прысутнічае прыкмета відавога адрознення: палеск. *язёва пло́тка, тоўстоко́ра пло́тка, лешчо́ва пло́тка, краснапёра пло́тка, ко́сая пло́тка, кора́ва пло́тка* [4, с. 75; 12, с. 73].

Як бачым, шматлікая варыянтнасць, сінанімія і дублетнасць найменняў для абазначэння вядомага прадстаўніка рыб плоткі звязана з узаемадзеяннем гаворак паміж сабой, з іх фанетычнымі асаблівасцямі, з захаваннем старажытных лексем, з багатымі словаўтваральнымі асаблівасцямі дыялектнай мовы. Для полінайменных радоў найменняў плоткі характэрны мнагачленныя супрацьстаўленныя адрозненні, якія ўключаюць не два, а болей слоў, што гаворыць пра багацце і самабытнасць дыялектнай мовы. Сярод адзначаных найменняў у беларускіх гаворках дамінуюць лексемы *плотка* і *платва*. Лексема плотка мае найбольшае пашырэнне не толькі ва ўсіх раёнах Паазер'я, але і ў іншых рэгіёнах Беларусі, з'яўляецца літаратурнай намінацыяй і навуковым номенам.

***Літаратура***
1. Мяцельская, Е.С. Беларуская дыялекталогія: практыкум / Е.С.Мяцельская, Э.Д.Блінава. – Мінск: Выш. шк., 1991. – 287 с.
2. Грачыха, Т.А. Дыялектны тэматычны слоўнік іхтыя- і герпетафауны Беларускага Паазер'я / Т.А.Грачыха. – Віцебск: ВДУ, 2006. – 31 с.
3. Касьпяровіч, М.І. Віцебскі краёвы слоўнік / М.І.Касьпяровіч; пад рэд. М.Я.Байкова і Б.І.Эпімах-Шыпілы. – Віцебск: ІБК, 1927. – 371 с.
4. Жывёльны свет: тэматычны слоўнік / склад. В.Дз.Астрэйка і інш.; рэд. Л.П.Кунцэвіч, А.А.Крывіцкі. – Мінск: Белар. навука, 1999. – 239 с.
5. Янкова, Т.С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны / Т.С.Янкова; рэд. М.В.Бірыла, А.А.Крывіцкі. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. – 432 с.
6. Кривицкий, А.А. Из словаря полесских рыболовов / А.А.Кривицкий // Полесье. – М.: Наука, 1968. – С. 162 – 174.
7. Mocarska-Kowalska, A. Słownictwo Warmii i Mazur. rybołowstwo / A.Mocarska-Kowalska // Studia Warminsko-Mazurskie. – Wrocław – Warszawa. – Krakow: PAN, 1963. – Nr. 10. – 79 s.
8. Фасмер, М. Этимологический словарь русского языка: в 4 т. / М.Фасмер. – М.: Прогресс, 1986. – 3 т.
9. Яшкін, І.Я. Мясцовая беларуская лексіка 1851 – 1974 гадоў у матэрыялах фондаў аддзела рукапісаў навуковай бібліятэкі Вільнюскага універсітэта / І.Я.Яшкін // Acta Baltico-slavica 22. SOW. – Warszawa, 1994. – С. 147 – 220.
10. Дейниченко, Н.П. Зоологическая лексика в восточно-полесском говоре украинского языка: автореф. … дис. канд. филол. наук: 10.02.02 / Н.П.Дейниченко; КГПИ. – Киев, 1985. – 22 с.
11. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы / Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978 – 2008. – Т. 2. – 1980. – 344 с.
12. Грачыха, Т.А. Фаўністычныя найменні ў беларускай мове: дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.01 / Т.А. Грачыха. – Мінск, 1999. – 173 с.

**П.М.Давідоўскі (Люблін, Універсітэт імя Марыі Складоўскай-Кюры)**

## ДЫСКУСІІ ПА ПРАБЛЕМАХ ВЫПРАЦОЎКІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ГРАФІКІ Ў БЕЛАРУСКАЙ ЛІНГВІСТЫЦЫ 20 – 30 гг. XX ст.

Сучасная беларуская літаратурная мова пачала фармавацца ў двух графічных варыянтах – лацінскім і кірылічным. На пачатку XX стагоддзя два алфавіты суіснавалі, распаўсюджаным было выдавецтва кніг і перыёдыкі ў двух варыянтах: частка наклада лацінкай, частка – кірыліцай. Аднак даволі хутка пачынае пераважаць кірыліца.

Пасля падпісання Рыскай мірнай дамовы, ва Усходняй Беларусі, якая адышла да БССР лацінка не выкарыстоўвалася, нягледзячы на тое, што афіцыйнай яе забароны на было. Аднак дыскусіі над алфавітам для беларускай мовы працягваліся. Абмяркоўвалася гэта пытанне і падчас Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускай азбукі і правапісу ў 1926 годзе, што на думку Н.Б.Мячкоўскай з'яўляецца паказчыкам зацягнутай нестабільнасці, паколькі ў іншых славянскіх краінах час такіх радыкальных праектаў ужо мінуў [6, с. 58]. На Акадэмічнай канферэнцыі абмяркоўвалася і магчымасць увядзення

лацінкі для беларускай мовы: «У сувязі з рэформай беларускай азбукі было закранута пытаньне і аб лацінскай азбуцы. Гэтае пытаньне паднялося яшчэ і ў сувязі з тым, што цюркскія народы СССР адмаўляюцца ад сваіх старых азбук і ўводзяць лацінку. Але дзякуючы таму, што значная большасьць прамоўцаў (Некрашэвіч, Лёсік, Растаргуеў, Фасмэр, Блесэ, Ластоўскі і інш.), на аснове навуковых даных, выказаліся проці ўвядзення лацінкі, а таксама таму, што ўвядзенне лацінкі на ўсім абшары СССР не зьяўляецца актуальным, пытанне аб лацінцы было адхілена» [7, с. VIII]. Даклады на тэму рэформы беларускай кірыліцы былі зроблены Я.Лёсікам і праф. П.Растаргуевым. Так, Я.Лёсік прапаноўваў гукі [дз] і [дж] пазначаць літарамі *д* і *ж* з дыякрытыкамі, увесці літару *ґ* для выбухнога гука [г], замяніць літару *й* літарай *j*, ётаваныя *е, ё, ю, я* пісаць праз *jэ, jо, jу, jа,* але пакінуць літары *е, ё, ю, я* для выпадкаў, калі яны пазначаюць мяккасць зычных, а таксама замяніць літары *э* і *ы* літарамі *є* і *и* адпаведна. П.Растаргуеў прапаноўваў для пазначэння афрыкат *дз* і *дж* увесці літары з сербскага алфавіта – *ђ* і *ћ*, а таксама ўвесці літару *j* для выпадкаў, пра якія казаў Я.Лёсік. У выніку спрэчак было вырашана, што замена літары *э* літарай *є* і літары *ы* літарай *и* з'яўляюцца беспадстаўнымі. Наконт іншых прапаноў «для далейшага больш дэтальнага апрацаваньня пытаньняў азбукі была створана з членаў Конфэрэнцыі асобная Графічная Камісія, якая ў выніку сваёй працы прыйшла да наступных канкрэтных рэзультатаў: 1) афрыкаты дз і дж азначаць сербскімі літарамі ђ і ћ; выкінуць й і замяніць яго j; 3) увесьці напісаньне jа, jэ (ie) jу, jо, заместа я, е, ю, ё ў пачатку складу перад галоснай – jама, баjуся; 4) літары я, е, ю, ё пакінуць для азначэньня мяккасьці зычнай: нясу (ньясу), сёлы (сьолы); іншыя пункты рэформы азбукі адхіліць» [7, с. VII-VIII]. Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускай азбукі і правапісу па сённяшні дзень застаецца самым важным і самым цікавым навуковым форумам у гісторыі беларускай лінгвістыкі, аднак у практычным плане яна аказала нязначнае ўздзеянне на развіццё тагачаснай беларускай мовы [4, с. 21 – 25].

Тут трэба адзначыць, што ў СССР у 20 – 30 гг. ва ўсю разгортвалася «лацінізацыя», якая пачалася з моў цюркскіх народаў і народаў, якія не мелі пісьменнасці, але ў перспектыве планаваўся пераход на адзіны ўніфікаваны алфавіт усіх моў СССР, у тым ліку рускай, украінскай і беларускай. Наркам Асветы СССР А.Луначарскі ў 1930 годзе пісаў: «Огромный толчок идея латинизации русского алфавита (конечно, Украины и Белорусии) получила именно от успехов латинизации письма народов, употреблявших арабский шрифт» [5, с. 23]. Па сведчанні Луначарскага, прыхільнікам «лацінізацыі» быў яшчэ Ленін, які пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі вырашыў не спяшацца з гэтай рэформай, а адкласці яе на больш спакойныя часы [5, с. 22]. Таму не быў выключаны перавод беларускай мовы на лацінскі алфавіт па загаду маскоўскіх улад, незалежна ад поглядаў беларускіх вучоных. Працэс «лацінізацыі» не дайшоў да рускай, украінскай і беларускай моў, дзякуючы таму, што ў сярэдзіне 30-х гг савецкая палітыка ў дачыненні алфавітаў змянілася і пачаўся перавод моў СССР на кірыліцу.

Дыскусіі на тэму алфавіта беларускай мовы працягваліся і пасля канферэнцыі 1926 года. Актыўна за рэформу алфавіта выступаў У.Дубоўка, які быў праціўнікам лацінкі: «Нам, беларусам, трэба загадзя абгаварыць гэтае пытаньне, выказаць сваё дачыненьне

да лацінікі. Перш за ўсё трэба вырашыць, хто зацікаўлены больш у рэформе альфабэтаў на груньце лацінікі – пролетарыят ці буржуазія?» [2, с. 102]. Разам з тым, У.Дубоўка быў прыхільнікам так званага «універсальнага алфавіта», уніфікаванага для розных моў і прапанаваў адмысловыя новыя літары для гукаў [дз] і [дж], кшталт якіх звязваў з будучым міжнародным алфавітам [3, с. 174 – 176].

Канец дыскусіям на тэму рэформы беларускага алфавіта ў БССР паклала рэформа беларускай мовы 1933 года, пасля якой нават ранейшыя выказванні вучоных маглі стацца падставай для абвінавачвання ў «нацдэмаўшчыне» і «контрэвалюцыі».

У Заходняй Беларусі, якая ўваходзіла ў склад Польшчы, працягвалі выкарыстоўвацца два алфвавіты – кірыліца і лацінка. Таму заходнебеларускія дзеячы звярталі ўвагу і на патрэбу рэформы беларускай лацінкі, якая зводзілася да замены «польскага» *w* літарай *v*. Ян Станкевіч пісаў у 1927 годзе ў артыкуле «Беларуская Акадэмічная Конфэрэнцыя 14 – 21.XI.1926 і яе працы дзеля рэформы беларускае абэцэды й правапісу»: «Пакуль у нас побач з кірыліцаю ўжываецца часткава й лацініца – а будзе яна ўжывацца прынамся яшчэ значны час, – Конфэрэнцыі трэба было разгледзіць таксама й рэформу беларускае лацініцы. Дык шкода, што Конфэрэнцыя гэтай справаю не занялася. Рэформа беларускае лацініцы лёгкая: пасьля замены ўжываных раней польскіх cz, sz, ż ужыванымі ў навуцы літарамі č, š, ž і па ўвядзеньню ŭ для нескладовага у, астаецца цяпер замяніць польска-нямецкае w лацінскім v, як гэта зрабілі Ліцьвіны й Чэхі. Што v лепшае за w, гэта відавочна: яно займае на палову меней месца. Увядзеньне v канчальна прыдало-б нашай лацініцы беларускі характар» [8, с. 39]. У хуткім часе ўжыванне v у беларускай лацінцы стала пануючай практыкай. Асноўным шрыфтам беларускіх выданняў у Заходняй Беларусі была кірыліца, якой друкавалася пераважная большасць кніг і перыядычных выданняў. «Гэтае пашырэнне кірылічнага шрыфту за кошт лацінскага ў Заходняй Беларусі, трэба – меркаваннем Станіслава Станкевіча – тлумачыць абаронаю перад пагрозай паланізацыі і тэндэнцыяй да ўніфікацыі з палажэннем у БССР» [1, с. 18].

Такім чынам, 20 – 30 гг. XX стагоддзя – час актыўнай палітызацыі ўсіх сфер жыцця. Таму на канчатковы выбар алфавіту беларускай мовы і нават асобных яго літар паўплывалі перш за ўсё пазамоўныя фактары.

***Літаратура***

1. Баршчэўская, Н. Беларуская эміграцыя – абаронца роднае мовы / Н.Баршчэўская. – Варшава: Варшаўскі Універсітэт, 2004. – 368 с.

2. Дубоўка, У. Лацініка ці кірыліца: да проэкту рэформы беларускага альфабэту / У.Дубоўка // Узвышша. – 1929.– № 1. – С. 100 – 113.

3. Дубоўка, У. Проэкт літар для згукаў «дз» і «дж» / У.Дубоўка // Узвышша. – 1928. – №4. – С. 161 – 177.

4. Запрудскі, С.М. Акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі (1926) / С.М.Запрудскі // Веснік БДУ. – 2004. – Сер. 4. – №3. – С. 21 – 26.

5. Луначарский, А. Латинизация русской письменности / А.Луначарский // Культура и письменность Востока. – 1930. – № 6. – С. 20 – 26.

6. Мечковская, Н.Б. Белорусский язык: социолингвистические очерки (=Specimina philologiae slavicae, Bd. 138) / Н.Б.Мечковская. – München: Verlag Otto Sagner, 2003. – 156 с.

7. Працы Акадэмічнае конфэрэнцыі па рэформе правапісу і азбукі (14 – 21 лістапада 1926 г.) / пад рэд. С.Некрашэвіча і У.Ігнатоўскага. – Менск: ІБК, 1927. – XXVII + 434 с.

8. Станкевіч, Я. Язык і языкаведа / Я.Станкевіч. – Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2007. – 1214 с.

**З.П.Данільчык (Гродна, ГрДУ)**

## ПРА НЕКАТОРЫЯ СІНТАКСІЧНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ ТАЎТАЛАГІЧНАГА ХАРАКТАРУ

У сінтаксічнай сістэме сучаснай беларускай мовы існуе вялікая колькасць сказаў, утвораных шляхам паўтораў назоўнікаў. Яны выклікаюць, бясспрэчна, цікавасць як з боку структуры, так і з пункту гледжання функцыянальных асаблівасцей. Сярод іх вылучаюцца: 1) двухсастаўныя канструкцыі з галоўнымі членамі, выражанымі адным і тым жа назоўнікам; 2) сінтаксічна непадзельныя спалучэнні, утвораныя шляхам лексічных паўтораў назоўнікаў, што выконваюць ролю выказніка. Як сведчыць фактычны матэрыял, канструкцыі таўталагічнага характару вылучаюцца разнастайнасцю.

Найперш гэта двухсастаўныя сказы, у якіх дзейнік і выказнік выражаюцца адным і тым жа назоўнікам, а сувязь паміж галоўнымі членамі рэалізуецца з дапамогай звязкі **ёсць**, якая тут абавязковая: *Завод ёсць завод* (А.Савіцкі); *Аднак пярэчыць ён не мог – пан ёсць пан, хоць і ходзіць пра яго па аколіцах дурная слава* (М.Лужанін); *Школа ёсць школа, і вучэнне ёсць вучэнне: і не пазніся на ўрокі, і ўрокі штодня рыхтуй…* (А.Васілевіч) і інш.

Часам такія канструкцыі могуць ускладняцца прыслоўямі часу і месца **заўсёды**, **усюды**; узмацняльнай часціцай **гэта**, часціцамі **ўсё-такі**, **як**, **дык**, а таксама асабовымі займеннікамі **ён**, **яна**, **яно**, **яны**: *Маці заўсёды ёсць маці* (П.Кавалёў); *Вайна ўсюды ёсць вайна, таму яна і называецца народнай* (Х.Шынклер); *А свята і ёсць свята. Закон!* (А.Савіцкі); *Факт – гэта ёсць факт* (Р.Мурашка); *Справа – яна заўсёды ёсць справа* (М.Лынькоў) і інш.

Цікавай з’яўляецца і тая акалічнасць, што пры наяўнасці пералічаных ускладняльнікаў выказнік можа ўжывацца і з нулявой формай звязкі: *Вядома, сям’я – гэта, так сказаць, сям’я* (П.Пестрак); *– І ты, Васіль, глядзі за імі. Дзеўка – яна дзеўка* (І.Мележ); *Калі распісваешся, будзь акуратным і не псуй ведамасці. Бо дакумент – гэта табе дакумент* (М.Лынькоў); *Факт заўсёды факт, хто б пра яго не гаварыў* (К.Чорны) і інш.

Як сведчаць прыведзеныя прыклады, ускладняльнікі ў такіх сказах набываюць ролю своеасаблівых звязак, без якіх сказ не мог бы існаваць, а «рассыпаўся» б. Яны ўносяць у сінтаксічную канструкцыю пэўныя адценні. Так, часціца **гэта** выкарыстоўваецца менавіта тады, калі гаворачы не можа даць нейкага пэўнага азначэння таму ці іншаму паняццю, прадмету або факту ці хоча звярнуць увагу слухача на іх слушнасць і вылучыць нешта галоўнае, што адпавядала б самой прыродзе гэтага паняцця ці прадмета: *Ад гэтай паперкі Марфа нікуды не дзенецца… Папера гэта папера. А яна ў Трыпута ёсць!* (А.Савіцкі).

Часціца **ўсё-такі** дапамагае рэалізаваць у сказе сцверджанне, што прадмет (паняцце), нягледзячы на іншыя пабочныя фактары, абставіны, застаецца самім сабой: *Усё як усё, – перапыніў мяне Калодка, – а хлеба, хлопцы, больш за ўсё шкада. А то нажэрліся мы гэтай бручкі, і ўсё роўна, што і не еў чалавек… А хлеб – усё ж такі хлеб* (Я.Брыль).

Займеннікі **ён, яна, яно, яны** ў такіх сінтаксічных канструкцыях аслабляюць сваю ўказальна-намінатыўную функцыю і набліжаюцца да службовых слоў, захоўваючы фармальныя прыметы роду, ліку, склону.У такім выпадку даецца нейкае азначэнне паняцця (асобы) праз само паняцце (асобу), указваецца на тое, «што прэдыкатыўны прадмет (ці асоба) выяўляе сябе ў адпаведнасці з уласцівымі яму якасцямі ці існуючымі ўяўленнямі аб ім» [1, с. 101]: *Горад – ён, вядома, горад. Людзям работу дае* (Р.Сабаленка); *А бядняк – ён бядняк. З яго многа не возьмеш* (М.Лобан).

Прыслоўі **заўсёды, усюды** ў канструкцыях таўталагічнага характару характарызуюцца тым, што не могуць уступаць у сінтаксічныя адносіны з назоўнікамі, а адносяцца да ўсяго сказа ў цэлым. Яны тут не выконваюць ролі акалічнасці часу ці месца, а ўносяць у сказ мадальнае адценне пастаянства: *Смерць, якая б сабе яна ні была, – заўсёды смерць. Важна пражыць чыста ды добра…* (Р.Мурашка); *Дзеці – усюды дзеці. І ў Германіі, і ў Польшчы, у Беларусі, Грузіі і Арменіі* (Р.Сабаленка).

Параўнальная часціца **як**, з дапамогай якой рэалізуюцца сказы таўталагічнага характару, указвае на тое, што прадмет ці асоба не вылучаюцца з групы аднародных прадметаў ці асобаў, а з’яўляюцца звычайнымі: *Дзеўка як дзеўка. І тварам не горшая за другіх, і рукі ёсць* (А.Кудравец); *У яго і хата як хата, і жонка як жонка, і дзеці як дзеці* (А.Чарнышэвіч); *Хадоська недаверліва ўгледзелася ў Захарыху і паспакайнела – нічога страшнага, жанчына як жанчына. Не старая, не худая, твар, як у другіх жанок* (І.Мележ).

Як сведчаць прыклады, такія канструкцыі заключаюць мадальнае значэнне звычайнасці, а часам і маюць пры сабе «звычайны» кантэкст.

Спалучэнні, утвораныя шляхам паўтору назоўнікаў з дапамогай часціцы **як**, могуць функцыянаваць не толькі як двухсастаўныя канструкцыі, але ўжывацца ў якасці іменнага выказніка двухсастаўных няпоўных сказаў з адсутным дзейнікам, які лёгка падразумяваецца з моўнай сітуацыі ці кантэксту: – *Ну, як вам, калега, спадабаліся паненкі? – Ну, што ж? Дзяўчаты як дзяўчаты* (Я.Колас).

У іншых кантэкстах канструкцыі «назоўнік + як + назоўнік» могуць выкарыстоўвацца як сінтаксічна непадзельныя спалучэнні, што выконваюць ролю іменнага выказніка пры дзейніку, выражаным іншым словам: – *Дзеці ж у цябе, дурыла ты, думаю, маці старая, жонка, дый сам ты хлопец як хлопец, калі не п’яны…* (Я.Брыль); *З выгляду Старыца – вёска як вёска, такіх шмат у Беларусі* (Т.Хадкевіч).

Спалучэнні «назоўнік + дык + назоўнік», як сведчыць фактычны матэрыял, не ўтвараюць прэдыкатыўнага ядра двухсастаўных сказаў, а могуць функцыянаваць па-рознаму.

Па-першае, як сінтаксічна непадзельныя канструкцыі ў ролі галоўнага члена аднасастаўнага сказа са значэннем унутранай згоды, прыняцця, дапушчэння: *І народ, праўда, стаў адчаянны. Смерць дык смерць, а за сваё кожны гатоў стаяць* (К.Крапіва).

Па-другое, як сінтаксічна непадзельныя спалучэнні ў ролі выказніка ў няпоўных двухсастаўных сказах з прапушчаным дзейнікам, які падразумяваецца з кантэксту, дзе спалучэнні, як правіла, даюць ацэнку, паказваюць на выключнасць якасці: – *Вось хлопец дык хлопец! – нібы жартам звярнуўся да зяця Гаранскі. – Цяпер такіх днём з агнём нялёгка знайсці* (Р.Сабаленка); *Хамовіч глядзіць услед Алімпе. – От баба дык баба… Як печ* (Р.Мурашка).

Па-трэцяе, у функцыі выказніка двухсастаўных сказаў: *Лявон таксама пільна глядзеў на старшыню. Зірнуў на Зосю і ні то ёй, ні то самому сабе сказаў: – От гэта чалавек дык чалавек. От гэта людзі дык людзі!* (Р.Сабаленка).

Як відаць з прыведзеных прыкладаў, такія спалучэнні нярэдка маюць у прэпазіцыі часціцы **вось (от)**, якія інтанацыйна вылучаюцца гаворачым.

Такім чынам, падсумоўваючы назіранні, адзначым, што сінтаксічныя канструкцыі, утвораныя шляхам паўтору аднаго і таго ж назоўніка, вылучаюцца структурнай і семантычнай разнастайнасцю. Функцыі іх залежаць ад пэўных умоў: адны з іх выступаюць як двухсастаўныя сказы з галоўнымі членамі, выражанымі адным і тым жа назоўнікам; другія выкарыстоўваюцца як сінтаксічна непадзельныя спалучэнні ў ролі іменнага выказніка. Сустракаюцца яны звычайна ў мове персанажаў мастацкіх твораў, вызначаюцца нярэдка эмацыянальна-экспрэсіўным каларытам.

***Літаратура***

1. Рословец, Я.И. Предложения, формирующиеся путём лексических повторов имён существительных / Я.И.Рословец // Учёные записки МГПИ. – № 296. – М., 1968. – С. 98-105.

**Д.В.Дзятко (Мінск, БДПУ)**

## ПЕРЫЯД МАДЫФІКАВАНАГА АНТЫПУРЫЗМУ Ў РАЗВІЦЦІ БЕЛАРУСКАЙ МАТЭМАТЫЧНАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ І ТЭРМІНАГРАФІІ

Перыяд мадыфікаванага антыпурызму ў развіцці беларускай матэматычнай тэрміналогіі (1950-я гг. – наш час) характарызуецца дыфузіяй элементаў тэрміналагічнага пурызму і антыпурызму і складаецца з двух асноўных этапаў.

**Першы этап** (1950-я гг. – 1990 г.) вызначаецца інтэнсіўнай інтэрнацыяналізацыяй тэрміналогіі з выразнай тэндэнцыяй да русіфікацыі на ўсіх моўных узроўнях [6, с. 59], што праявілася ў пасрэдніцтве рускай мовы пры запазычванні інтэрлексаў. Меркаванне адносна таго, што «ў пасляваенны ж час (канец 40-х – 50-я гады) <…> амаль поўнасцю адмаўляюцца запазычанні і нават замяняюцца раней асвоеныя лексічныя запазычанні словамі з роднай мовы» [13, с. 25] у дачыненні да беларускай матэматычнай тэрміналогіі, на наш погляд, аберацыйнае і неабгрунтаванае. Як справядліва заўважае А.А.Лукашанец, спецыфічнай асаблівасцю беларускага словаўтварэння гэтага перыяду «з’яўляецца незвычайная актывізацыя іншамоўных па паходжанню словаўтваральных элементаў і іншамоўных слоў, якія ўключаюцца ў працэс словаўтварэння ў якасці матывавальнай базы» [5, с. 22]. На гэтым этапе развіццё словаўтваральнай сістэмы беларускай мовы

«характарызуецца як рух звонку <…> з адначасовым унутрымоўным расшырэннем (з арыентацыяй на знешнія (рускія) узоры)» [6, с. 61]. Русіфікатарская тэндэнцыя ў палітыцы цэнтра, у многім абумоўленая тым, што «ўкраінская і беларуская мовы, а таксама мовы рэспублік Сярэдняй Азіі былі выключаны з групы перспектыўных моў» [7, с. 51], мела вынікам утварэнне тэрмінаадзінак паводле мадэлей, уласцівых рускай мове.

Відавочна, што дынаміка падрыхтоўкі тэрміналагічных слоўнікаў наглядна адлюстроўвае не столькі тэрмінатворчую дзейнасць, колькі моўную сітуацыю і ўмовы функцыянавання беларускай мовы. Матэматычная тэрміналогія гэтых гадоў прадстаўлена шэрагам вучэбных праграм (і створаных пад іх падручнікаў), а таксама акадэмічным выданнем «Слоўнік па матэматыцы: Праект для абмеркавання» (1967 г.), якое ўключала 637 слоўнікавых артыкулаў і было вытрымана ў агульных тэндэнцыях названага перыяду. Прычына нізкай тэрміналагічнай актыўнасці – агульныя сацыяльна-палітычныя ўмовы ў краіне і адсутнасць у пасляваеннай Беларусі адзінага каардынацыйнага цэнтра па ўнармаванні і распрацоўцы тэрміналагічнай лексікі.

Важную ролю ў развіцці беларускай тэрміналогіі адыграла стварэнне ў Інстытуце мовазнаўства АН БССР сектара тэрміналогіі (1955 г.) і Тэрміналагічнай камісіі (1980 г.), якая складалася з дзевяці секцый і асноўнай мэтай мела распрацоўку тэарэтыка-метадычных асноў упарадкавання тэрміналогіі. Праца Тэрміналагічнай камісіі, якая ў 1991 г. была ператворана ў Рэспубліканскую тэрміналагічную камісію пры АН Беларусі, заклала лінгвістычны падмурак у інтэнсіўнае развіццё беларускай тэрміналогіі на працягу наступнага этапу.

**Другі этап у** развіцці беларускай матэматычнай тэрміналогіі перыяду мадыфікаванага антыпурызму пачынаецца з прыняццем Закона «Аб мовах у Беларускай ССР» (1990 г.) і вызначаецца тэндэнцыяй да маніфестацыі спецыфічных рыс нацыянальнай мовы (што знаходзіць аналогію ў тэрмінатворчасці 1920-х гг.) у спалучэнні з тэндэнцыяй да інтэрнацыяналізацыі (суадноснай з аналагічнай тэндэнцыяй 1950-х – пач. 1990-х гг.), абумоўленай узмацненнем ролі англійскай мовы ў міжнароднай камунікацыі [6, с. 61 – 67]. Абедзве тэндэнцыі ў іх спалучэнні з'яўляюцца канструктыўнымі, паколькі арыентацыя на ўласнамоўныя рэсурсы дазваляе тэрмінасістэме гарманічна ўваходзіць у сістэму мовы ўвогуле, а выкарыстанне інтэрнацыянальных элементаў дазваляе не толькі максімальна уніфікаваць міжнародную тэрміналогію, але і ліквідаваць некаторую эмацыйную матываванасць, уласцівую тэрмінаадзінкам, утвораным на базе агульнаўжывальных лексем.

На сучасным этапе навукова-тэхнічную тэрміналогію фіксуюць розныя тэрмінаграфічныя выданні, канцэпцыі якіх выразна адрозніваюцца. У сферы намінацыі тэрмінаў фактычна сутыкнуліся два антаганістычныя метадалагічныя кірункі: **«рэфарматарскі»** [4; 8; 11; 14 і інш.] і **«традыцыяналісцкі»** [2; 12 і інш.].

**«Рэфарматарскі» кірунак** характарызуецца выкарыстаннем сродкаў нацыянальнай мовы: дыялектнай і гістарычнай лексікі, асаблівасцей словаўтварэння, фанетыкі і г.д. з выразнай пурыстычнай тэндэнцыяй у дачыненні да рускамоўнага ўплыву. **«Традыцыяналісцкі» («нарматыўны»**) **кірунак** вызначаецца фарміраваннем і

прэзентацыяй тэрмінасістэмы на аснове сродкаў і спосабаў, аптымальных для перыяду мадыфікаванага антыпурызму.

Да спецыфічных асаблівасцей **«рэфарматарскага»** кірунку адносяцца:

1) актывізацыя тыпова нацыянальных афіксаў:

а) суфікса ***-льн-*** пры ўтварэнні ад'ектываў са значэннем функцыі аб'екта наймення: *апраксімава**льн**ы*, *дыферэнцава**льн**ы*, *сумава**льн**ы* і інш.;

б) суфікса ***-оўн-*** пры ўтварэнні прыметнікаў са значэннем якасці аб'екта наймення: *інтэгр**оўн**ы*, *нарм**оўн**ы*, *рацыяналіз**оўн**ы* і інш.;

в) суфікса ***-н-*** у тэрмінах са значэннем знешняга ўздзеяння на аб'ект наймення: *ануліява**н**ы*, *інтэрпаляява**н**ы*, *руха**н**ы* і інш.;

г) суфікса прыметнікаў ***-ав- (-ов-)*** на месцы аналагічных рускіх ***-н-, -очн-***: *квадрат**ов**ы* > *квадрат**н**ый*; *выбарк**ав**ы*, *выбарк**ов**ы* > *выбор**очн**ый*; *клетк**ав**ы* > *клет**очн**ый і* інш.;

д) суфіксаў ***-ава- (-ява-)*** у дзеясловах і яго формах (інфінітывах і дзееприметніках) і аддзеяслоўных назоўніках: *дэкад**ава**нне, камбін**ава**ны*, *камут**ава**ць*, *квадр**ава**ць* і інш.;

е) суфікса -***н***- як адэквата англ. -***al***: *прапарцый**н**ы* > *proportion**al**ity*.

2) прыярытэт марфалагічнай дэрывацыі перад марфолага-сінтаксічнай: *дзел**ів**а*, *зменш**ыв**а*, *сеч**ыв**а*, *цеч**ыв**а*;

3) пераацэнка неўласцівых беларускай мове лексем і канструкцый: *адлюстраванне* > *адвображанне*; *крата(ы)* > *рашотка*; *мнагасклад* > *мнагачлен*; *прагрэсія бясконца спадальная* > *прагрэсія бесканечна ўбываючая*; *прыкмета* > *прызнак*; *раўнабочны* > *раўнабедраны*; *раўнанне* > *ураўненне*; *спаданне* > *убыванне*; *ступеняванне* > *узвядзенне ў ступень*; *хуткасць* > *скорасць* і г.д.

Для **«традыцыяналісцкага»** кірунку ўласціва:

1) імкненне максімальна захаваць моўнае афармленне тэрмінаў, прынятае ў 1933 – 1980-я гг., што праявілася ў адноснай пашыранасці:

а) суфіксаў ***-уч- (-юч-) у*** тэрмінах са значэннямі функцыі аб'екта наймення і якасці аб'екта наймення: *вяд**уч**ы*, *руха**юч**ы*, *убыва**юч**ы* і інш.;

б) суфікса ***-ем-*** у тэрмінах са значэннем знешняга ўздзеяння на аб'ект наймення: *дыферэнцыру**ем**ы*, *мадэліру**ем**ы*, *фарміру**ем**ы* і інш.;

в) суфіксаў ***-н-***, ***-ачн-*** на месцы суадносных рускіх ***-н-, -очн-***: *квадрат**н**ы* > *квадрат**н**ый*, *выбар**ачн**ы* > *выбор**очн**ый*, *клет**ачн**ы* > *клет**очн**ый* і г.д.;

г) суфіксаў ***-ырава- (-ірава-)*** у дзеясловах і яго формах (інфінітывах і дзееприметніках), аддзеяслоўных назоўніках і прыметніках: *канкур**ырава**льны*, *мадэл**іра**ва**нне*, *функцыян**ірава**ць* і інш.;

д) суфікса ***-анальн-***, як адпаведніка англ. -***al***: *прапарцы**јанальн**ы*;

2) прыярытэт марфолага-сінтаксічнай дэрывацыі перад марфалагічнай *аднімаемае*, *дзялімае*, *складаемае* і інш.;

3) шырокае выкарыстанне нехарактэрных для беларускай мовы лексічных сродкаў і канструкцый (гл. пункт 3 у асаблівасцях рэфармацыйнага кірунку).

Відавочна, што ў нармальных умовах нацыянальны тэрмінатворчы працэс павінен балансавацца, з аднаго боку, пурыстычнай, а з другога – міжнароднай уніфікацыйнай тэндэнцыямі. У шэрагу тэрміналагічных выданняў [1; 4; 9; 10 і інш.]назіраецца дынаміка да спарадычнага спалучэння паасобных прыкмет абодвух існуючых кірункаў. Гэтая дынаміка, характэрная для большасці існуючых тэрмінасістэм, нярэдка дэтэрмінуецца недастатковай лінгвістычный падрыхтоўкай аўтараў-укладальнікаў і вядзе да пашырэння дублетнасці ў тэрміналогіі [15]. Разам з тым, роля названых выданняў у сучаснай лексікаграфіі, нягледзячы на іх асобныя заганныя рысы, не павінна, на наш погляд, адназначна прызнавацца негатыўнай, паколькі ўкладанне *любых* слоўнікаў спрыяе тэрміналагічнай стандартызацыі і нармалізацыі спецыяльнай лексікі.

***Літаратура***

1. Ахраменка, В.К. Руска-беларускі слоўнік матэматычнай тэрміналогіі / В.К.Ахраменка. − Мінск: БДУ, 1991. − 44 с.

2. Воднеў, У.Т. Малы матэматычны слоўнік / У.Т.Воднеў, А.Ф.Навумовіч, Н.Ф.Навумовіч. − Мінск: Універсітэцкае, 1994. − 144 с.

3. Дзятко, Д.В. Беларуская матэматычная тэрміналогія: станаўленне, структура, функцыянаванне: манагр. / Д.В.Дзятко; нав. рэд. П.А.Міхайлаў. – Мінск: БДПУ, 2009. – 192 с.

4. Латоцін, Л.А. Руска-беларускі слоўнік матэматычных тэрмінаў / Л.А.Латоцін. − Магілёў: МДПІ, 1994. − 228 с.

5. Лукашанец, А.А. Актыўныя працэсы ў сучасным беларускім славаўтварэнні / А.А.Лукашанец // Беларуская мова ў другой палове ХХ стагоддзя: матэрыялы Міжнар. навук. канф. // НАН Беларусі, БДУ; рэдкал.: Л.І.Сямешка, М.Р.Прыгодзіч (адк. рэд.) [і інш.]. − Мінск, 1998. − С. 19 − 27.

6. Лукашанец А.А. Сучасныя працэсы ў славаўтварэнні беларускай мовы: да праблемы міжмоўнага збліжэння і адштурхоўвання / А.А.Лукашанец // Мовазнаўства. Літаратура. Культуралогія. Фалькларыстыка: ХІІІ Міжнар. з'езд славістаў (Любляна, 2003): дакл. белар. дэлегацыі / НАН Беларусі, Беларускі камітэт славістаў. − Мінск: Белар. навука, 2003. − С. 52 − 69.

7. Масенко, Л.Г. Мова і суспільство: постколоніальний вимір / Л.Г.Масенко. − Київ: Академія, 2004. − 163 с.

8. Матэматычная энцыклапедыя / гал. рэд. В.Бернік. − Мінск: Тэхналогія, 2001. − 496 с.

9. Руска-беларускі матэматычны слоўнік / склад. Г.Я.Лабачэня, А.М.Шчыракоў. − Мінск: МДПІ, 1993. − 21 с.

10. Руска-беларускі слоўнік матэматычных тэрмінаў / склад. Г.М.Сендер, Т.А.Страчук. − Брэст: БрДПУ, 1994. − 20 с.

11. Русско-белорусский математический словарь / Я.В.Радыно [и др.].; под общ. ред. Я.В.Радыно. − Мінск: Выш. шк., 1993. − 239 с.

12. Русско-белорусский словарь математических, физических и технических терминов / под ред. Н.Н.Костюковича. − Мінск: БелЭн, 1995. − 512 с.

13. Струкава, С.М. Беларуская мова. Тэрміналагічная лексіка па нафта- і газаздабычы: вуч. дапам. / С.М.Струкава. − Наваполацк: ПДУ, 2004. − 300 с.

14. Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ / Т.Сухая [і інш.]. − Мінск: Нав. і тэхн., 1993. − 183 с.

15. Шахоўская, С.У. Дублетнасць у беларускай фізічнай тэрміналогіі / С.У.Шахоўская // Культура речи в условиях билингвизма: состояние, инновационные технологии: материалы ІІ Междунар. науч.

конф., Минск, 3-4 нояюря 2005 г. / БГПУ; редкол.: В.Д.Стариченок [и др.]. – Минск: БГПУ, 2005. – С. 174 – 177.

**А.І.Забаштанская (Мінск, БДПУ)**

## ВАРЫЯНТНАСЦЬ ВЫБУХНЫХ У БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЕ

Аб’ектам увагі ў дадзеным артыкуле з’яўляюцца фанематычныя варыянты, якія адрозніваюцца выбухнымі фанемамі. Крыніцай матэрыялу паслужылі карты ЛАБНГ [1] і шэрагу рэгіянальных слоўнікаў.

/т/ → /к/: *штанда´ры – шканда´ры* ‘штандары’, ‘падмурак у хаце’, *ло´тaць – ло´кaць* ‘лотаць’, *лата´це – лока´тьте* ‘тж’, *тлу´стае – клу´стае* (пра мяса), *тлу´стасць – клу´стасць*, *тлушч – клушч*, *тлу´ма´к – клу´ма´к* ‘клунак’, *жоўтля´к – жоўкля´к* ‘насеннік, жоўты агурок’, параўн. *жоўкнуць*. Варыянты *клу´стае, клу´стасць, клушч, клу´ма´к* – славяна-балтыйскія інавацыі, рэфлексы **dl > gl* [2], верагодна, запазычаныя з польскай. Фанематычная варыянтнасць, звязаная з указанай зменай, вядома яшчэ племянным дыялектам усходніх славян [3] і звязана ў першую чаргу з заходнеславянскім суперстратам у мове старажытных жыхароў Наўгародчыны.

/т/ → /к’/: *ты´рса – кі´рса* ‘пілавінне’.

/к/ → /т/: *бакла´жка – батла´жка* ‘бутэлька’, ‘дзягцярка, пасудзіна для дзёгцю’, *сорокня´ – соротня´* ‘сорак снапоў’. Мадыфікаваны варыянт *батлажка*, хутчэй за ўсё, з’явіўся пад уплывам слова *бутэлька*.

/g/ → /б/: *бэ´gна – бэ´бна* ‘топкае балота’, *бэ´біны* ‘дрыгва’, *жылgу´ці – жылбуці´* ‘матэрыял для пляцення кошыкаў’, *жылgу´ць – жылбу´ць* ‘вітка, прут з лазы, вярбы ці ляшчыны’, параўн. літ. *žĩlgas* ‘разнавіднасць вярбы’, *gі´заўка – бы´заўка* ‘здрок’). Фанематычныя варыянты каранёў *gі´з-* і *быз-* суіснуюць у літоўскай мове, параўн. літ. *byzdėlė* ‘тж’, *gizúoti* 'лётаць, кусаць'. Варыянт *бэбна*, па ўсёй верагоднасці, з’яўляецца вынікам прагрэсіўнай дыстактнай асіміляцыі аказіянальнага характару.

/б/ → /д/: *нязgра´бны – незgра´дны*, *нездрэ´дны* ‘нязграбны’, *бурбулі´ – бурдулі´* ‘пухіры (на вадзе)’. У дадзеным выпадку назіраецца дыстактная асіміляцыя (*бурбалкі?*), лексема гукапераймальнага паходжання, а такія словы характарызуюцца няўстойлівым фанемным складам і найбольш схільныя да розных мадыфікацый нерэгулярнага характару.

/п/ → /к/: *шыпата´ – шыката´* ‘igліца’, *пу´ха – ку´ха* ‘пятка яйца’, *парплі´ца – парклі´ца* ‘металічная планка ў адтуліне верхняга жарна’, *лапчы´вы – лакчы´вы* ‘прагны да яды’, *лапчы´вая – лакчы´вая* ‘пражэрлівая (карова)’, *пляву´згаць – кляву´згаць*.

/к/ → /п/, /п’/: *палу´кашак – палу´пышак* ‘палукаш’, *закру´та – запру´та* ‘закрутка’, *жоўтля´к – жоўпля´к* ‘насеннік, жоўты агурок’. Калі варыянтнасць /т/ – /к/ відавочна развілася на праславянскай глебе, то прыведзеныя прыклады з’яўляюцца пазнейшай вузкарэгіянальнай інавацыяй.

/к’/ → /п’/: *кі´рса – пі´рса* ‘пілавінне’.

/д/ → /g/ (г): *штанда´ры – штанga´ры* ‘штандары’, *вяндлі´на – вянглі´на* ‘вэнджанае мяса’. Варыянт *вянглі´на,* хутчэй за ўсё, узнік на польскай дыялектнай глебе, дзе ў некаторых гаворках назіраецца рэфлекс **dl > gl* [2].

/g/ → /д/: *gрабясці´ць – драбясці´ць* ‘лаціць, прымацоўваць латы да крокваў’, ‘прымацоўваць паплёт паверх саломы’, *gрэ´бест – дрэ´бест, драбя´ст* ‘латы ў страсе, дошкі ці жэрдкі, якія кладуцца ўпоперак крокваў’, ‘паплёт (у страсе паверх саломы), параўн. літ. *grebẽstas* ‘тж’, *праму´gа – праму´да* ‘запечак’, *gру´ца – дру´ца* ‘панцак, буйныя крупы з ячменю’, ‘ячныя крупы’, ‘каша з ячных круп’.

/т/ → /п/, /п’/: *трам – прам* ‘апорная бэлька пад столлю’, *патэ´льня – папе´льня*. У апошнім выпадку відавочны ўплыў народнай этымалогіі.

/п/ → /т/: *парплі´ца – партлі´ца*.

/б/ → /к/: *бручко´ўнік – кручко´ўнік* ‘бручкоўнік’, *бру´чка – кру´чка*.

/к/ → /д/: *сівакра´ка – сівадра´к(а)*. Верагодней за ўсё, варыянты паходзяць ад розных каранёў [4].

Прычынай варыянтнасці ў наступных выпадках з’яўляецца амафанічнасць каранёў – балцкіх або праславянскіх.

/к/ – /д/: *ку´чка – ду´чка* ‘пячурка, ямка з боку печы, дзе сушаць што-н.’

/к/ – /б/: *ку´кса – бу´кса* ‘бязрогая (пра карову)’, параўн. літ. *buksà* ‘бязрогая карова’, ‘чалавек без пальцаў’.

Як паказваюць назіранні, дадзеная з’ява мае месца ў дыялектнай мове пры засваенні моўных элементаў неславянскага паходжання ва ўмовах білінгвізму і адстратнага пранікнення. Фактычны матэрыял, прыведзены ў «Атласе субстратной и заимствованной лексики русских говоров северо-запада» [5], ілюструе прыклады падобных змен на рускай дыялектнай глебе ў словах балтыйскага і балтыйска-фінскага паходжання: *ки´рза – ти´рза, кя´рега – тя´рега.* Блізкасць функцыянальных прыкмет, якая аб’ядноўвае «новую» і «старую» фанему, мінімізуецца, у дадзеным выпадку застаецца толькі адна функцыянальна значная ў перцэптыўных адносінах прыкмета – наяўнасць змычкі пры ўтварэнні. Калі змена адбываецца ва ўмовах білінгвізму ці пры адстратным пранікненні, яе можна растлумачыць асаблівасцямі ўспрыняцця і інтэрпрэтацыі іншамоўнай фаналагічнай сістэмы. Падобная змена, на нашу думку, можа адбыцца і post factum. У тым выпадку, калі іншамоўнае слова пераходзіць з разраду адстратных з’яў у разрад запазычанняў, яно адпаведна пачынае займаць пэўнае месца ў лексічнай сістэме мовы ці дыялекту і для іх носьбітаў працягвае заставацца нематываваным. А гэта, у сваю чаргу, адкрывае дадатковыя магчымасці для народнай этымалогіі, а таксама розных кантамінацыйных і камбінаторных працэсаў нерэгулярнага характару.

У некаторых выпадках фанематычная варыянтнасць слоў на базе выбухных зычных адзначаецца як рэгулярная асаблівасць для аўтахтонных усходнеславянскіх гаворак. Так, паслядоўны пераход /т’/ → /к’/ характэрны для так званай Радастаўскай мікразоны, якая знаходзіцца на мяжы загародскага і валынска-палескага арэалаў: *тітка – кітка*, *тісто – кісто* і г.д. Нерэгулярна такая змена адзначана ў некаторых гаворках на захадзе Камянецкага раёна [6, с. 15]. Аналагічнае вымаўленне характэрнае для многіх рускіх [7, к.

68; 8, с. 4] і польскіх гаворак, паралелі ёсць і ў паўднёваславянскіх мовах (балгарскай, сербскай), дзе вядомыя рэфлексы **dj, *tj → g', k'* [9, с. 16]. На думку Я.В.Воўк-Левановіча, такое вымаўленне з'яўляецца архаічным і адлюстроўвае праславянскія фанетычныя працэсы. Выклікана гэтая змена ўнутрымоўнымі прычынамі, у прыватнасці, дадатковай палатальнасцю мяккіх. Палатальныя гукі з прычыны аслаблення артыкуляцыйнай напружанасці пры іх вымаўленні трансфармаваліся ў дыялектнай мове ў іншыя гукі, што замацавалася і на фанематычным узроўні [10]. У такім выпадку змена ў згаданых прыкладах будзе выглядаць як /т''/→/к''/ і звязана з функцыянаваннем у гаворцы заднепалатальных [11].

Пераважная большасць прааналізаваных фанематычных варыянтаў і інавацый сканцэнтравана ў гаворках заходняй зоны, дзе найбольш яскрава праяўляецца балцкі субстрат.

***Літаратура***

1. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. / пад рэд. М.В.Бірылы, Ю.Ф.Мацкевіч. – Мінск: БФФД: Кам. дзярж. знакаў, 1993 – 1998. – 5 т.

2. Иванов, В.В. Развитие *(-)tl-, *(-)dl- > (-)kl-, (-)gl- в циркумбалтийской языковой зоне и диалектное членение праславянского / В.В.Иванов // Балканская Русистика [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://www.russian.slavica.org/printout8093.html. – Дата доступа: 13.05.2008.

3. Горшкова, К.В. Очерки исторической диалектологии Северной Руси (по данным исторической фонологии) / К.В.Горшкова. – М.: МГУ, 1968. – 192 с.

4. Гісторыка-этымалагічныя нататкі // Беларуская лінгвістыка. – Мінск, 1976. – Вып. 9. – С. 57 – 63.

5. Мызников, С.А. Атлас субстратной и заимствованной лексики русских говоров Северо-Запада / С.А.Мызников. – СПб.: Наука, 2003. – 359 с.

6. Клімчук, Ф.Д. Гаворкі Заходняга Палесся: фанетычны нарыс / Ф.Д.Клімчук. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 128 с.

7. Диалектологический атлас русского языка: центр европ. части СССР: в 3 вып. / под ред. Р.И.Аванесова, С.В.Бромлей. – М.: Наука, 1986 – 1989. – Вып. 1: Вступительные статьи. Справочные материалы. Фонетика. – 1986. – 214 с.

8. Касаткин, Л.Л. Прогрессивное ассимилятивное смягчение задненебных согласных в русских говорах / Л.Л.Касаткин. – М.: Наука, 1968. – 136 с.

9. Воўк-Левановіч, Я.В. Яшчэ да пытання аб ляшскіх рысах у беларускай фанетыцы / Я.В.Воўк-Левановіч // Беларуская лінгвістыка. – Мінск, 1973. – Вып. 3. – С. 15 – 17.

10. Чэкман, В.М. Гісторыя проціпастаўленняў па цвёрдасці–мяккасці ў беларускай мове / В.М.Чэкман. – Мінск: Навука і тэхніка, 1970. – 152 с.

11. Кузнецова, А.М. Некоторые вопросы фонетической характеристики явления твёрдости-мягкости согласных в русских говорах / А.М.Кузнецова // Экспериментально-фонетическое изучение русских говоров: сб. ст. / отв. ред. С.С.Высотский. – М., 1969. – С. 56 – 67.

**І.М.Зуева (Віцебск, ВДУ)**

## АНТРАПАМАДЭЛІ ДЛЯ САМАНАЗЫВАННЯ ЯК АДНАГО З ТЫПАЎ МАЎЛЕНЧЫХ ЗНОСІН (на матэрыяле творчасці У.Караткевіча)

Знаёмячыся, размаўляючы, так ці іначай кантактуючы, субяседнікі называюць сябе, прадстаўляюцца ў працэсе маўленчых зносін. У такіх сітуацыях адбываецца саманазыванне суразмоўнікаў. Рэгулятарам ужывання разнастайных формул іменавання асоб з'яўляецца маўленчы антрапанімічны этыкет, які прадвызначае выкарыстанне этыкетных знакаў-онімаў – «сацыяльна зададзеных сродкаў рэгулявання паводзінаў людзей у сітуацыях устанаўлення, падтрымання і размыкання кантакту камунікантаў у адпаведнасці з іх статуснымі і асабістымі адносінамі [1, с. 283 – 284].

Прадметам нашай увагі паслужыць антрапанімнае афармленне такога тыпу маўленчых зносін як саманазыванне персанажаў у творах У.Караткевіча. Знакі-онімы пры саманазыванні рэалізуюць прэзентатыўную функцыю, пры якой устанаўліваецца неабходная дыстанцыя паміж субяседнікамі і задаецца патрэбная танальнасць узаемаадносінаў. Такую функцыю ў нашым выпадку выконвалі як аднachленныя, так і мнагачленныя антрапаформулы. Пераважнае месца сярод аднachленных формул іменавання пры саманазыванні персанажаў займае мадэль «прозвішча» (з тытульным словам ці без яго). Часцей за ўсё згаданая мадэль ужываецца пры знаёмстве субяседнікаў: ... *грузлы падаў Андрэю руку... і адрэкамендаваўся: –* ***Яхненка****... – хітравата ўсміхнуўся нервовы юнак... Я* ***Пятроўскі*** [2, ІІІ, 187]; – ***Каратынскі****, – зноў жа з выклікам працягнуў Алесю руку мужыкаваты... –* ***Дунін-Марцінкевіч****, – падаючы пульхную руку, мяккім голасам сказаў гарбун*... [2, ІУ, 329]; ...*і я прыстроіўся да яго. –* ***Косміч****. –* ***Старшына Велінец****, – сіпата сказаў ён*... [2, VІІ, 253]; – *Дзень добры, – сказаў дзед. –* ***Мультан*** *мае прозвішча*... [2, VІІ, 325].

Радзей прымяняецца мадэль «прозвішча» пры саманазыванні для падкрэслівання сацыяльнага статуса асобы, для самасцверджання яе: ...*Ніхто яшчэ не казаў, што Загорскія не паважаюць продкаў. – Я таксама* ***Загорскі****. Бацька няшчыра ўздыхнуў: – Не, брат, ты не Загорскі. Загорскія не баяліся самых цяжкіх людзей*... [2, ІУ, 157]; – ...*Я –* ***Альшанскі****. І памру як* ***Альшанскі****. Досыць, што ўсё жыццё жыў інкогніта*... [2, VІІ, 554]. Відавочна, што сціслая, энергічная і разам з тым высокаінфарматыўная мадэль «прозвішча» лічыцца зручнай для саманазывання.

Меншую актыўнасць для такога тыпу маўленчых зносін праяўляюць аднachленныя найменні з мадэллю «асабовае імя» і «мянушка». Яны зафіксаваны ў творах у наступных сітуацыях:

1. Пры дыстантных зносінах бытавога характару (у якасці подпісу з тытульнымі словамі ў прыватнай карэспандэнцыі): ...*цалую цябе пяшчотна і застаюся твой пачцівы пляменнік* ***Антон****...* [2, VІІ, 233].

2. Пры сустрэчы знаёмых людзей, якія даўно не бачыліся, але хочуць нагадаць пра сябе, ужываючы звыклае для ранейшых маўленчых зносін найменне (замена афіцыйнай

поўнай асабовай формы імені **Міхаліна** на неафіцыйную размоўна-бытавую з суфіксам -к- **Майка**): ...*Алесь схіліўся і пацалаваў ёй руку. – Я вельмі ўзрадаваны, – голас чамусьці асекся. – Мы так даўно не бачыліся. – Вельмі даўно. І хаця б ...адзін ліст. – Гэта вы,* ***Ма***... ***Міхаліна**, не адказалі мне. – Я, па-ранейшаму,* ***Майка***... [2, IУ, 353].

3. Пры змене танальнасці зносін і дадатковым расповедзе герояў пра сябе (з каментарыем да ўзнікнення мянушак): ...*Яна ўсё больш цікавіла Лявона. – Хто ж вы такая? – Я* ***Марыя**, – сказала яна, глянуўшы на яго глыбокімі вачыма. – Я сапраўды* ***Марыя**... Я* ***артыстка Марыя Якубовіч**. Вы рэдка бываеце ў тэатры?*... [2, ІІ, 233]; ... – *мяне завуць* ***Яшам**. Можаце зваць проста* ***Якавам Прохаравічам**... Я працую тут ардынатарам*... [2, ІІІ, 304]; ... – *Я табе ўнука свайго малодшага, Стасіка, прышлю. Ён сапраўдны* ***Мультан**... Ён –* ***Мультан**, а я ўжо на старасці пачынаю вулічную нашу мянушку апраўдваць – «**Пацяруха**». Пацяруха старая і ёсць*... [2, VІІ, 328]; – *Я* ***Корч**... Стары* ***Корч**. Гэта быў наш хлеб, пане. Мой, майго бацькі. Наш хлеб – насіць кнігі... – Як ваша прозвішча? –* ***Кірыла Туравец**. Амаль як святы Кірыла Тураўскі... Толькі таго за кнігі хвалілі*... [2, ІІ, 271]. Дарэчы будзе тут заўважыць, што такія намінацыі дарослага чалавека з'яўляюцца узуальна нарматыўнымі ў афіцыйнай (неафіцыйнай) абстаноўцы, а пры змене танальнасці зносін змяняюцца і мадэлі: «поўнае асабовае імя» → «поўнае асабовае імя + прозвішча з тытульным словам» (Марыя → артыстка Марыя Якубовіч), «усечанае імя» → «поўнае асабовае імя + патронім» (Яша → Якаў Прохаравіч), «прозвішча» → «мянушка» (Мультан → Пацяруха), «мянушка» → «поўнае размоўна-бытавое імя + прозвішча» (Корч → Кірыла Туравец).

Самай шматколькаснай сярод усіх найменняў пры саманазыванні персанажаў у творах У. Караткевіча з'яўляецца двухчленная формула іменавання з мадэллю «асабовае імя + прозвішча». Яна характарызуецца большай інфарматыўнасцю, чым адначленная формула, і мае наступны спектр прымянення:

1. Пры ўстанаўленні кантакту камунікантаў у адносінах адрасант ↔ адрасат: ... *Фота куды даслаць? – Часцей за ўсё мы сядзім у вёсцы Горск. Дасылайце* ***Яні Быгоцкай***... [2, ІІ, 429].

2. Для рэалізацыі дыстантных зносінаў (подпіс пад прыватным лістом): ... *Ліст быў ад Якуба Каптура, з Мінска... Цалую цябе па-брацку.*

***Якуб Каптур*** [2, ІІ, 238].

3. Для падкрэслівання асабістай значнасці персанажа: – *Абтрасём прах гэтага горада... вух-х ад ног нашых... Хамы... Гэта яны так... беларускага двараніна... Хай я не буду* ***Багдан Роскаш**... хай я... не ад Усяслава паходжу, а ад свінні, ад гіены, ад малпы... калі я ім гэтага не папомню*... [2, VІ, 59].

4. Пры знаёмстве суразмоўнікаў: а) праз пасрэдніка: ...*Сябар, не слухаючы нараканняў жонкі, цягнуў Міколу знаёміць... – Марыначка, лапачка, вось табе наш інжынер, заапякайся.* – **Мікола Ласевіч**... – ***Марына Леантовіч!*** [2, ІІ, 438]; б) без пасрэдніка традыцыйна (толькі праз мадэль «асабовае імя + прозвішча») або з «разгорнутай прэзентацыяй асобы»: – ...*Цябе як клікаць? – спытаў круглагаловы. –* ***Васілько***

***Стасевіч**, – адказаў я. – Ну вось. А я **Раланд Дзмітрэнка**...* [2, ІІІ, 343]; – ...*Давайце знаёміцца, ці што? Алесь падаў яму руку. – Давай. Я **Алесь Загорскі**. – **Кастусь Каліноўскі**, – сказаў хлопец*... [2, ІУ, 276-277]; – ...*Я **Антон Космiч**. Прыехаў даследаваць Альшанскі замак і касцёл. Маю адносіны да арганізацыі па ахове помнікаў*... [2, VІІ, 317].

Паказальна, што ключавы кампанент у згаданай мадэлі (часцей за ўсё «прозвішча») выдзяляецца ўжо самім адрасантам пры саманазыванні: – ...***Сакрат. Ластоўскі** маё прозвішча*... [2, ІІІ, 480]; – ...*Мытнік я! Мытар! ...**Данель Кадушкевіч** маё прозвішча*... [2, VІ, 116];– ...*Прозвішча маё **Валеры Урублеўскі***... [2, У, 133].

Менавіта такі характар выдзялення галоўнага структурнага кампанента «прозвішча» і ў рэдкаўжывальнай у творах трохчленнай формуле іменавання з мадэллю «прозвішча + асабовае імя + патронім» пры знаёмстве персанажаў: – ...*Вы дырэктар? – Так. Чым магу служыць? Будрыс адрэкамендаваўся. Сказаў аб мэце прыходу. – Здалёк вы да нас. **Дзянісаў** маё прозвішча. **Захар Іраклiевiч***... [2, ІІІ, 464]; – ... ***Зеляпушчанак**... **Мікола Чэсевіч**. – **Косміч**. **Антон Глебавіч***... [2, VІІІ, 302]. Такая мадэль характарызуецца высокай ступенню інфарматыўнасці (як поўная пашпартная форма іменавання асобы), аднак кампаненты «асабовае імя» і «патронім» нясуць дадатковую інфармацыю, служаць для канкрэтызацыі асоб, якія могуць мець аднолькавае прозвішча.

Прааналізаваны матэрыял дае магчымасць зрабіць выснову, што антрапамадэлі для саманазывання персанажаў у творах У. Караткевіча сталі не толькі асноўным сродкам ідэнтыфікацыі адрасата, але і прадвызначылі неабходную дыстанцыю паміж камунікантамі і адрэгулявалі адносіны паміж імі. Лічым, што ўдала падабраныя аўтарам знакі-онімы пры саманазыванні асоб поўнасцю выканалі сваю асноўную прэзентатыўную функцыю, спалучаючы фон, на якім разгортваліся падзеі, і герояў, якія дзейнічалі на гэтым фоне.

***Літаратура***

1. Формановская, Н.И. Коммуникативно-прагматические аспекты единиц общения / Н.И.Формановская. – М.: Наука, 1998. – 290 с.

2. Караткевіч, У. Збор твораў: у 8 т. / У.Караткевіч. – Мінск: Маст. літ., 1987 – 1991.

**Я.Я.Іваноў (Магілёў, МДУ)**

## ПАРАЎНАЛЬНАЕ МОВАЗНАЎСТВА І НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАЯ СЕМАНТЫКА МОВЫ (на матэрыяле парэміялагічных адзінак)

Пошукі нацыянальнай спецыфікі моў сталі ў апошні час адной з дамінантаў лінгвістыкі, у якой паступова акрэсліўся спецыяльны накірунак, прысвечаны вызначэнню і апісанню т.зв. «моўнай карціны свету». Аднак, як гэта часта бывае з новым навуковым адгалінаваннем, імкненне як найхутчэй дасягнуць прывабных сваёй арыгінальнасцю вынікаў, дзякуючы новаму спосабу тлумачэння моўных фактаў, абумоўлівае іх аднабаковую і таму памылковую інтэрпрэтацыю. Памылкі будуць непазбежныя, калі

ігнаруюцца «старыя», але неабходныя для паспяховага развіцця «новага» накірунку вынікі папярэдніх даследаванняў, асобныя метады і нават цэлыя адгалінаванні мовазнаўства. Роля «Папялушкі» пры вызначэнні і апісанні нацыянальна-культурнай семантыкі мовы звычайна дастаецца параўнальнаму мовазнаўству [4].

Адной з праблем лінгвакраіназнаўства (як уласна філалагічнай і як лінгвадыдактычнай дысцыпліны) ў рэчышчы сказанага можна акрэсліць праблему вызначэння тых адзінак, у якіх адлюстравана нацыянальная карціна свету. Нягледзячы на ўсю відавочнасць адказу на гэтае пытанне (маўляў, цалкам зразумела, што гэта ў першую чаргу тыя адзінкі, якія ствараюць нацыянальна-культурны кампанент дадзенай мовы), яно складае адну з асноўных праблем лінгвакраіназнаўства, таму што аб'ектыўна не існуе універсальных крытэрыяў вызначэння як самаго аб'екту лінгвакраіназнаўства (для кожнай асобнай мовы ён павінен вызначацца адмыслова ў дачыненні да нейкай іншай мовы, што набывае асобую значнасць, калі абедзьве мовы з'яўляюцца роднаснымі), так і яго аб'ёму.

Гэтая праблема паўстала перад аўтарам гэтых радкоў, калі яму давялося вызначаць састаў лінгвакраіназнаўчага слоўніка беларускай мовы, прысвечанага апісанню нацыянальна-культурнай семантыкі афарыстычных адзінак – прыказак і крылатых выразаў [1]. У слоўніку быў прапанаваны дыферэнцыяваны падыход да вызначэння лінгвакраіназнаўчай каштоўнасці парэмій і адпаведна іх нацыянальна-культурнай унікальнасці. Гэта дазволіла цалкам унікнуць з'яўлення ў слоўніку не ўласна беларускіх прыказак без абавязковай наяўнасці ў апошніх нацыянальна-культурнай семантыкі ў тым ці іншым яе праяўленні.

Да нацыянальна-культурнага кампанента беларускай мовы, акрамя ўласна беларускіх, таксама могуць належаць і такія моўныя афарызмы, якія з'яўляюцца зараз агульнаўжывальнымі ў беларускай, польскай, рускай, украінскай і іншых мовах, а ў некаторых выпадках трапілі ў беларускую мову шляхам запазычання. Лінгвакраіназнаўчая каштоўнасць таких адзінак дэтэрмінавана найперш тым фактам, што яны набылі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове статус яе нацыянальна-культурнага кампанента паводле свайго значэння і / або лексічна-граматычнага складу. Параўн.: бел. *На языку мядок, а на сэрцы лядок* і польск. *Na języku miód, a pod językiem lód*, рус. *На языке мёд, а под языком лёд*, укр. *На язиці мід, а під язиком лід*, чэш. *V ustech med, a w srdci jed*. Або: бел. *Не лезь у пекла раней за бацьку* (альбо *Паперад (раней) бацькі ў пекла не сунься*) і рус. *Прежде отца (прежде батьки) в петлю не суйся (не лезь)* і да т.п.

Параўнальны аналіз дазваляе вызначыць не толькі тыпы міжмоўных эквівалентаў, але і нацыянальна-культурную спецыфіку адпаведнікаў у кожнай з моў. Так, нацыянальна-культурная каштоўнасці беларускіх парэмій, агульных з польскімі прыказкамі, можа быць выяўлена толькі праз іх параўнальны аналіз.

1) Розныя прататыпы на падставе неаднолькавых сітуацый, праз асэнсаванне якіх будуецца вобразны змест парэмій (фармальна ў розных мовах адрозніваюцца структурна-кампазіцыйныя часткі прыказак). Напр.: бел. *Вольнаму – воля* <*, а шалёнаму – поле*> [1, 52] параўн. з польск. *Wolnemu wola, zbawionemu raj* [5], якая хутчэй за ўсё была запазычана з рус. *Вольному воля* <*, спасённому рай*> (хоць існавала таксама *Wolnemu*

*wolna jego wola*). З'яўленне другой часткі ў беларускай парэміі мае глыбокія міфалагічныя карані і тлумачыцца тым, што ва ўсходнеславянскім фальклоры выхад «у поле» сімвалізуе выхад у свет смерці. Чалавек з неўнармаванай псіхікай таксама лічыўся прыналежным свету смерці. Актуалізацыя менавіта гэтых вобразаў у беларускім варыянце перафразавання агульнага для ўсходнеславянскіх і польскай моў выразу *Вольнаму – воля* і складае нацыянальна-культурную адметнасць гэтай беларускай прыказкі.

2) Розныя прататыпы на падставе неаднолькавых прадметных рэалій, якія згадваюцца ў тэкстах парэмій (фармальна ў розных мовах адрозніваюцца толькі асобныя лексемы ў складзе прыказак). Напр.: бел. *Або (альбо) грай, або (альбо) грошы (скрыпку) аддай* [1, 29] параўн. з польск. *Albo dobrze graj, albo ci skrzypce połamię* [5; 10, 1, 728); *Albo graj, albo pieniądze oddaj* [10, 1, 728); *Graj albo pieniądze daj (płać)* [5, Dop. 2]; *Albo graj, albo pieniądze daj* [7]; *Albo grejcie, albo pinióndze wróćcie* [11]. У беларускай парэміі лексемы *грошы* і *скрыпка* маюць аднолькавую семантычную значнасць, а ў польскай мове пераважаюць варыянты з лексемай *pieniądz*, пры тым, што варыянт з лексемай *skrzypce* мае зусім іншы прататып (*…ci skrzypce połamię*). Таму ў беларускай мове нацыянальна-культурную значнасць набывае варыянт з прататыпам «скрыпка», існаванне якога вымагае разгляду прыказкі як рэпрэзентацыі яшчэ аднаго фрагменту ўласна беларускай моўнай карціны свету («Скрыпка») і яго лінгвакраіназнаўчага тлумачэння.

3) Аднолькавыя прататыпы на падставе аднолькавых сітуацый і прадметных рэалій (фармальна ў розных мовах адрозніваюцца толькі асобныя лексемы ў складзе прыказак, што ніяк не уплывае на змест парэмій), пры тым, што ў сінхраніі міжмоўныя адпаведнікі не з'яўляюцца варыянтамі адной і той жа прыказкі. Напр.: бел. *Відаць пана па халявах* [1, 51] параўн. з польск. (1) *Znać pana po cholewach* [8, BN I, 88]; *Znaj pana po cholewie* – [5; 10, 2, 807; ets.]; *Widać, że pan! Po cholewach znać!* [10, 2, 807]; (2) *Poznać pana po cholewach, a człowieka po stroju i po jego kroju* [10, 2, 807]; (3) *Poznać pana po cholewach, a po piórach ptaka* або *Znać pana po cholewach jak ptaka po pierzach* [5]. У беларускай парэміі замест польск. *znać* ужываецца дзеяслоў *відаць* (яшчэ і *відно* ў слоўніку: [3, 134], пры тым, што толькі ў адным з варыянтаў польскай прыказкі ёсць *widać* (але і ў гэтым выпадку побач з *znać*). Гэта дазваляе меркаваць, што беларускі адпаведнік заўжды ўжываўся асобна ад польскай прыказкі, ніколі не быў яе варыянтам, хоць сваё паходжанне гэтая агульная для беларускай і польскай моў прыказка вядзе яшчэ з тых часоў, калі Беларусь (як этнічная тэрыторыя) ўваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай (XVI – XVIII стст.). Варта асобна спыніцца на этымалогіі гэтай прыказкі. У сучаснай беларускай фразеалогіі прынята (чамусьці наўслед за ўкраінскім фалькларыстам XIX ст. М.Номісам) звязваць яе ўнутраную форму з тым, што «даўней польскія паны абувалі каляровыя саф'янавыя боты, якія пасля даношвалі слугі, прышыўшы да каляровых халяў чорныя галоўкі і гэтым вылучаючыся сярод іншых» [3, 134]. Аднак такое меркаванне не адпавядае ні гістарычным рэаліям таго часу, ні існуючай сувязі паміж значэннем прыказкі і яе ўнутранай формай [2]. Даўней (прынамсі да апошняга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 г.) на Беларусі боты насілі трох

колераў: жоўтыя, чырвоныя і чорныя. Каляровыя халявы рабіліся з дарагіх матэрыялаў і спецыяльных гатункаў скуры, якая называлася кардыбанам, альбо саф’янам. Шляхціцы і магнаты (буйныя феадалы) насілі боты з рознакаляровымі халявамі, а мяшчанам, паводле закону leges sumptuariae, прадпісвалася мець абутак толькі са звычайнай чорнай або шэрай скуры. Такое сацыяльнае размежаванне грамадства, дарэчы, вельмі яскрава адлюстравана ў старой польскай парэміі *Czerwone i żółte cholewy do stołu, a czarne za drzwi* (чырвоныя і жоўтыя халявы да стала, а чорныя за дзверы), якую выдатны польскі парэміёлаг С.Адальберг у выданні «Księnga przysłów polskich» (1889 – 1894) тлумачыць наступным чынам: «Паны, багатыя, усюды на першым месцы, а беднымі пагарджаюць» [9, 2, 246]. Апошняе не меней яскрава адлюстравана ў адным з польскіх анекдотаў XVII ст., у якім распавядаецца пра тое, як у Львове рамеснікі хадзілі ў саф’янавых ботах, што было забаронена, і іх жаўнеры не чапалі, але раз убачыўшы нейкага шляхціца, які хадзіў у чорных ботах, збілі яго, каб не ганьбіў свайго стану шляхецкага [6, fac. № 323]. Менавіта з правам (і абавязкам) шляхты насіць боты з каляровымі халявамі і звязана паходжанне беларускай прыказкі *Відаць пана па халявах* (і яе польскамоўнага аналага *Znać pana po chołewach*), пра што, дарэчы, ёсць прамыя сведчанні ў старажытных пісьмовых крыніцах эпохі Рэчы Паспалітай. У прыватнасці, у адным апісанні звычаяў часоў панавання караля Аўгуста III (1733 – 1763), згадваецца пра тое, што ў дробных шляхціцаў, якія павінны былі ў адпаведнасці са сваім сацыяльным статусам насіць каляровыя боты, не заўжды хапала грошай на новыя боты, і таму часта «дробная шляхта адрознівалася ад яшчэ бяднейшых за іх ботамі, у якіх былі чорныя галоўкі, а жоўтыя ці чырвоныя халявы былі ношаныя. З прагі – якая звычайна характаразуе людскую натуру – паказацца чымсьці большым, чым ёсць на самой справе, кожны такі шляхціц, каб захаваць пра сябе такое ўяўленне, нібыта перад гэтым меў новыя жоўтыя альбо чырвоныя боты, а потым, знасіўшы іх, у мэтах эканоміі загадаў падшыць чорнымі галоўкамі, хоць на самой справе ўжо менавіта такімі ён набыў боты ў шаўца як таннейшыя ад цалкам каляровых новых, нягледзячы на тое, што падшытыя чорнымі галоўкамі каляровыя боты былі даражэйшыя ад цалкам чорных. Адсюль і пайшло здзеклівае выслоўе *Znać pana po chołewach*» [9, 2, 246].

Такім чынам, менавіта параўнальны аналіз мусіць быць тым эмпірычным падмуркам, што дазваляе вызначаць уласнае і агульнае як ва ўнутранай пабудове моўных сістэм, так і ў адносінах да іх нацыянальна-культурнай спецыфікі, у тым ліку і ў лінгвакраіназнаўчым аспекце.

***Літаратура***

1. Іванова, С.Ф. Слоўнік беларускіх прыказак, прымавак і крылатых выразаў: лінгвакраіназнаўчы дапаможнік / С.Ф.Іванова, Я.Я.Іваноў. – Мінск, 1997.

2. Іваноў, Я.Я. Семантыка беларускіх афарызмаў / Я.Я.Іваноў // Весці ГДУ. – 2000. – № 2 (25). – С. 125 – 133.

3. Лепешаў, І.Я. Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў: у 2 ч. / І.Я.Лепешаў. – Мінск, 1981–1993.

4. Мокиенко, В.М. Русская картина мира и сопоставительный анализ фразеологии и паремиологии / В.М.Мокиенко // Русский язык, литература и культура на рубеже веков: IX

Международный конгресс МАПРЯЛ (Братислава, 16 – 21 августа 1999 г.): Тезисы докладов и сообщений: в 2 т. / отв. ред. О.Ковачичова. – Братислава, 1999. – Т. 1. – С. 120 – 121.
5. Adalberg, S. Księnga przysłów, przypowieści i wyrażeń przysłowiowych polskich / zebrał i opracował S.Adalberg. – Warszawa, 1889 – 1894.
6. Dawna facecja polska / wyd. J.Krzyżanowski i K.Żukowska-Billip. – Warszawa, 1960.
7. Jarzyna, S. Księnga przysłów i cytatów / S.Jarzyna. – Cieszyn, 1930.
8. Kitowicz, J. Opis obyczaiów za panowania Augusta III / J.Kitowicz. – Wrocław, 1951.
9. Krzyżanowski, J. Mądrej głowie dość dwie słowie: pięć centuryj przysłów polskich i diabelski tuzin: т. 1 – 3 / J.Krzyżanowski. – Warszawa, 1975.
10. Nowa księga przysłów i wyrażeń przysłowiowych polskich: т. I – IV / red. J.Krzyżanowski. – Warzsawa, 1968 – 1978.
11. Ondrusz, J. Przysłowia i cieszyńskie. Rękopis z 1956 r. / J.Ondrusz/ – Archiwum NKPP.

**Л.Е.Ковалева, Е.И.Малыщик (Гродно, ГрГУ)**

## К ВОПРОСУ О ВЛИЯНИИ ЗАИМСТВОВАНИЙ НА СЛОВАРНЫЙ СОСТАВ АНГЛИЙСКОГО ЯЗЫКА

Заимствование слов из иностранных языков – один из продуктивных источников пополнения лексического состава каждого языка. Это непрекращающийся процесс вхождения новых слов из одного языка в другой и их функционирования в различных сферах нашей жизни. Появление иностранных слов в словарном составе языка обусловлено, прежде всего, разнообразными взаимосвязями, которые объективно складываются между народами и нациями в процессе развития. То или иное влияние одного языка на другой всегда объясняется рядом исторических причин. Войны, завоевания, путешествия, торговля, дипломатические контакты и т.п. приводят к более или менее тесному взаимодействию различных языков. Наряду с отдельными предметами творчества, техники и быта, понятиями общественно-политической, научной и культурной жизни одни народы заимствуют у других и слова, которые обозначают эти предметы и понятия.

Интенсивность проникновения новых заимствованных слов из одного языка в другой в разные периоды различна. В зависимости от конкретных исторических условий, она то увеличивается, то падает. Степень влияния одного языка на другой при этом в значительной мере зависит от лингвистического фактора, а именно от степени близости взаимодействующих языков, т.е. от того, являются ли они близкородственными или нет.

Роль заимствований в различных языках неодинакова и зависит от ряда условий развития каждого языка. В английском языке процент заимствований значительно выше, чем во многих других языках, так как в силу исторических причин он оказался очень проницаемым. Английский язык больше, чем какой-либо другой язык, имел возможность заимствовать иностранные слова в условиях прямого непосредственного контакта: сначала в средние века от сменявших друг друга на Британских островах иноземных

захватчиков, а позже в условиях торговой экспансии и колонизаторской активности самих англичан.

Современный английский язык, со специфическими особенностями его звукового и грамматического строя и словарного состава, предстает перед нами как продукт длительного исторического развития, в процессе которого язык подвергается разносторонним изменениям, обусловленным различными причинами. Как в области звукового состава, так и в области грамматического строя и лексики на протяжении истории языка происходили значительные изменения, в большинстве случаев в силу внутренних законов его развития, а иногда, особенно в области словарного состава, под влиянием внешних воздействий, связанных с историческими судьбами английского народа.

В области словарного состава английский язык претерпел на протяжении более чем тысячелетней своей истории весьма значительные изменения. Словарный состав современного английского языка, несомненно, значительно богаче, чем словарный состав древнеанглийского или среднеанглийского языка. Это обогащение шло в английском языке как за счет внутренних ресурсов – словосложения, аффиксации и переосмысления слов, так и за счет заимствования слов из других языков, которое в английском языке в силу специфических условий исторической жизни английского народа, играло более значительную роль, чем, например, в немецком языке [2, с. 12].

На словарном составе английского языка отразились принятие христианства, столкнувшее англичан с латинской цивилизацией, скандинавское и нормандское завоевания (после которых английский язык утратил некоторую часть своего исконного словарного состава, включая и ряд слов самого повседневного употребления), столетняя война, рост буржуазии, ренессанс, рост морского владычества Англии, колониальные захваты, развитие торговли и промышленности, науки и литературы, рост и развитие самосознания рабочего класса, первая и вторая мировая войны.

В результате всех этих процессов словарный состав современного английского языка, сохранив свое основное ядро исконно английских слов (около 30%), оказывается, однако, весьма смешанным по своему происхождению.

Лексика современного английского языка представляет собой сложное сочетание различных элементов, которые наслаивались один на другой на протяжении истории языка и вступали в различные взаимоотношения между собой.

Состав лексики английского, как и всякого языка, меняется с течением времени. Многие слова, бывшие в употреблении в более ранние периоды, исчезают из живого языка или потому, что обозначаемые ими предметы и понятия устарели, перестали употребляться в изменившихся условиях жизни, или потому, что их место заняли другие слова, ставшие употребительными. Такие слова, вышедшие из живого употребления, могут, однако, использоваться в литературном языке с особыми лексическими целями.

Количественный рост и качественные изменения словарного состава языка, как уже упоминалось ранее, связаны с историей народа, творца и носителя этого языка. Современная английская лексика представляет собой продукт целого ряда эпох. В силу

того, что развитие языка – всех его сторон, в том числе и словарного состава – происходит постепенно. В словарном состава современного английского языка мы находим слова, сложившиеся в разные исторические эпохи, в результате различных способов его пополнения, с помощью различных словообразовательных средств, относящихся к различным моментам истории английского языка.

Ведущим процессом в развитии словарного состава английского языка на всех этапах было словообразование, т.е. образование слов из имеющегося в наличии словарного материала. Словообразование является хотя и не единственным, но главным средством обогащения словарного состава. Однако ни один язык никогда не обходился одними только собственными лексическими средствами. Среди процессов, связанных с пополнением словаря любого языка, в том числе и английского, определенное место занимает заимствование иноязычной лексики как один из способов номинации новых явлений, а также замены существующих наименований.

Таким образом, обогащение словарного состава языка совершается не только средствами словообразования, ресурсами данного языка, но и заимствованиями из других языков, т.е. словарь постоянно обогащается новыми элементами, отчасти заимствованными из других языков, отчасти заново созданными в самом языке. Проникновение заимствований может быть вызвано разными причинами и по-разному сказываться на развитии словарного состава отдельных языков.

***Литература***

1. Аракин, В.Д. История английского языка / В.Д.Аракин. – М.: Просвещение, 1985. – 253 с.

2. Арнольд, И.В. Лексикология современного английского языка / И.В.Арнольд. – М.: Изд-во лит-ры на иностранных языках, 1959.– 352 с.

3. Ахманова, О.С. Словарь лингвистических терминов / О.С.Ахманова. – М.: Советская энциклопедия, 1962. – 602 с.

4. Гальперин, И.Р. Лексикология английского языка / И.Р.Гальперин, Е.Б.Черкасская. – М.: Просвещение, 1956. – 297 с.

5. Ильиш, Б.А. История английского языка / Б.А.Ильиш. – М.: Высш. шк., 1968. – 420 с.

6. Лоттэ, Д.С. Вопросы заимствования и упорядочевания иностранных тэрминов и тэрминоэлементов / Д.С.Лоттэ. – М.: Наука, 1982. – 149 с.

**А.І.Кавальчук (Гродна, ГрДУ)**

## ПРА НЕКАТОРЫЯ ХАРАКТАРЫСТЫЧНЫЯ НАЗВЫ АСОБЫ Ў ГАВОРКАХ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Група лексем, якія называюць чалавека паводле пэўных вонкавых адметнасцяў, – адна з самых цікавых і разнастайных, бо менавіта твар, канстытуцыя цела чалавека найперш прыцягваюць увагу іншых. Калі ж яны яшчэ маюць і нейкія асаблівасці, якія не падпадаюць пад «няпісаныя нормы», дык тут ужо народнай фантазіі няма межаў. На прыкладзе адпаведнай лексікі з гродзенскіх гаворак мы здолеем прасачыць, што большасць адзінак мае эмацыйна-экспрэсіўную афарбоўку. Экспрэсіўнасць маўлення,

прыдумванне розных эмацыйна-ацэнкавых формаў – гэта і ўплыў устойлівых каштоўнасцяў і традыцыйных уяўленняў беларусаў, і вынік прыватных адносінаў да таго, пра каго ідзе гутарка ці да каго звяртаюцца. Нярэдка чалавека менавіта таму і «абзавуць» паводле вонкавай адметнасці, што яго ўчынкі, паводзіны таксама не выклікаюць павагі.

У гродзенскіх гаворках шмат назваў, якія характарызуюць чалавека паводле адметнасцяў твару.

Для характарыстыкі чалавека з тоўстым, шырокім тварам выкарыстоўваюцца празрыстыя экспрэсіўныя назвы *марда´ч* і *мурлы´га*. Словаўтваральныя асновы гэтых лексем даследчыкі лічаць пазычанымі: *морд-а* – з іранскай мовы; назоўнік *мурло´* адныя ўзводзяць да цюркскіх каранёў, іншыя дапускаюць анаматапеічнасць, трэція – кантамінацыю некалькіх лексем як са значэннем ‘брудны, неахайны’, так і ‘шырокая морда, рот, твар, губа, хара’.

Досыць разнастайны шэраг утвараюць асабовыя найменні, якія адлюстроўваюць паняцце ‘вірлавокі, з вялікімі лупатымі вачыма чалавек’. У гродзенскіх гаворках вядомыя наступныя назвы: *зягра´ч* (грубае); *вірла´ч* (абразлівае); *бяльма´ч, лупа´ч, вы´лупак, вы´рачка*.

Цікавасць выклікае яшчэ адна назва чалавека з вялікімі вачыма – *шкляр* (абразлівае). Хутчэй за ўсё яна не мае нічога агульнага (акрамя гукавога складу) з літаратурным *шкляр* ‘1. Рабочы, які ўстаўляе аконнае шкло ў рамы. 2. Работнік шкляной прамысловасці (размоўнае)’, хоць і ўтворана на ўзор назоўнікаў – назваў асобы паводле прафесійнай прыналежнасці, як і *млына´р, каміна´р, пашта´р* і інш. Найбольш верагодна, што назва *шкляр* ‘чалавек з вялікімі вачыма’ ўзнікла па прычыне вонкавага падабенства вочнага яблыка да нечага шклянога, а калі вочы вялікія і лупатыя, то такое падабенства яшчэ больш відавочнае (параўн. мсц. *шкляннё* (абразлівае) – метафарычная назва са значэннем ‘вочы’).

Назоўнік *вы´лупак* шматзначны і ў нашых гаворках мае наступныя значэнні: ‘зіркаты, вірлавокі’, ‘той, хто нядаўна на свет з’явіўся, малеча – пра дзіця’. У адных выпадках слова *вы´лупак* матывуецца дзеясловам *вы´лупіцца* ‘ўтаропіцца шырока расплюшчанымі вачыма’, у другіх – гэтым жа дзеясловам са значэннем ‘вызваліцца ад шкарлупіны’, у трэціх – спалучэннем двух дзеяслоўных значэнняў.

Абсяг лексем, што характарызуюць чалавека з вялікімі, тоўстымі губамі, у асноўным акрэслены дэрыватамі з каранямі – *луп-* і *–губ-*. У гаворках Гродзеншчыны маем наступныя ўтварэнні з такім значэннем: *лу´па* (грэблівае), *лупяндзя´* (зневажальнае), *губе´ня* (абразлівае), *губа´р, губашлёп, лупсе´й* (зневажальнае), *сваці´льнік (сваце´льнік).*

Як вядома, ў беларускіх гаворках ёсць два аманімічныя прыметнікі: *лупаты* ‘з тоўстымі губамі’ і *лупаты* ‘з выпуклымі вачыма’ (у літаратурнай мове – толькі другі), як і ўтваральныя для іх *лупы* ‘губы’ і *лупы* ‘вочы’. Кожнаму з гэтых значэнняў уласцівая свая, досыць акрэсленая тэрыторыя бытавання: першае лакалізуецца на поўначы Беларусі, другое – на поўдні. Што датычыць Гродзенскай вобласці, то тут характарыстыка *лупаты* найчасцей ужываецца, калі гавораць пра губатага чалавека. Значна радзей (і пераважна ў паўднёва-ўсходняй частцы Гродзеншчыны) так кажуць пра вірлавокага чалавека.

Цікава адзначыць, што, паводле лексікаграфічных даведнікаў, назоўнік *лупа´ч* са значэннем ‘чалавек з тоўстымі губамі’ ў гродзенскіх гаворках не бытуе. На нашу думку, гэта не зусім так: такая назва ў нас ёсць і з’яўляецца натуральным утварэннем ад *лупы* ‘губы’, якое лічыцца балтызмам.

У адрозненне ад назваў *лу´па, лупа´ч, лупяндзя´* і г.д., лексема *лупсе´й*, на думку этымолагаў, мае іншае паходжанне. Яна ўтворана паводле рэгіянальнага, малапрадукцыйнага тыпу ад *лупс-і* ‘губы’, як і некаторыя іншыя словы, для якіх утваральнымі ёсць назвы частак цела і якія характарызуюць асобу па выразнай вонкавай прымеце (*чэравей, губрэй, брухлей*). Этымалагічна слова *лупсі* ўзыходзіць да нямецкіх першакрыніцаў.

Назва *свяці´льнік* – метафарычнае ўтварэнне з *свяці´льнік* ‘асвятляльная прылада ў выглядзе лямпы’. Можна, аднак, бачыць тут і іншы спосаб дэрывацыі і трактаваць згаданы назоўнік як экспрэсіўнае суфіксавае ўтварэнне ад *свяціць* («свяціць губамі»).

Асобныя назвы існуюць для абазначэння людзей з вялікімі ці адтапыранымі вушамі: *вуша´цік, абле´вух* (абразлівае), *ві´сла* (абразлівае).

Назва *абле´вух* звязаная з такімі словамі, як *аблаву´х* ‘шапка з вушамі’ і *аблаву´хі* ‘з вялікімі вушамі’. Магчыма, *абле´вух* першапачаткова таксама абазначала галаўны ўбор. У такім выпадку асабовая назва ўяўляе сабой анімістычную метафару, якая, у сваю чаргу, стала крыніцай для наступных пераасэнсаванняў: ‘непаваротлівы, неахайны, някемлівы, няспрытны чалавек’, ‘прыдуркаваты’, ‘някемлівы, няспрытны’, ‘малы, недарослы’. У гродзенскіх гаворках сустракаецца *аплау´х* (зневажальнае) ‘неразумны, дурань’. Утваральная аснова *аблавух-і* па паходжанні, відаць, з’яўляецца складаным утварэннем. Так, руск. *облоухий* выводзяць з *обьљ* (руск. *облый* ‘вялікі, круглы’) і *ухо* ‘вуха’.

Лексема *ві´сла* падаецца з паметай «устарэлае». Сёння часцей ужываецца складаная назва *віславу´хі*, якую як норму падаюць і слоўнікі літаратурнай мовы (параўн. глуск. *віслагу´бы* ‘чалавек з тоўстымі, абвіслымі губамі’). Назва ўтвораная з дапамогай суфікса асобы *–а* ад дзеепрыметніка *вісл-ы (< віслъ)*, які ўзыходзіць да *вісець*.

Словы *но´саль, насуля´, клюка´ч* у гродзенскіх гаворках ужываюцца як грубыя, лаянкавыя і выражаюць паняцце ‘насаты чалавек’. Цікавасць выклікае націск у першым з пададзеных словаў – *но´саль.* Як лічаць укладальнікі «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы», такое становішча націску, верагодна, тлумачыцца польскамоўным уплывам. Праўда, у тураўскіх гаворках сустракаем утварэнне *но´хар,* у докшыцкіх – *но´халь* – таксама з націскам на карані, але і з пэўнымі фанетычнымі зменамі (*с* >*х*). Перамяшчэнне націску – не такая ўжо і рэдкая з’ява ў беларускіх гаворках*,* яна сустракаецца і ў іншых формах: *насу´ля* і *насуля´, насу´ль,* а таксама параўнайце *смаргу´ля* і *смаргуля´, та´тусь* і *тату´ся* і г.д.

Назоўнік *клюка´ч* – натуральнае ўтварэнне ад *клю´ка* ‘нос’, якое, у сваю чаргу, узнікла ў выніку метафарычнага пераасэнсавання з *клю´ка* ‘качарга, гак’, апошняе лічыцца праславянскім вытворным з *ка*-суфіксацыяй.

Паняцці ‘шчарбаты чалавек’, ‘той, у каго не хапае зубоў у роце’ і ‘бяззубы чалавек’ адлюстроўваюцца словамі *шчарбе´ль* (жартаўлівае) і *шчэ´рба* (непахвальнае). Апошні

назоўнік – метафара з *шчэ́рба* ‘шчыліна, зазубрына, выбоіна’. Зрэдку з згаданым значэннем на Гродзеншчыне ўжываецца яшчэ адна назва – *вы́шчарка,* але да згаданай характарыстыкі далучаецца яшчэ і прымета паводле ўзросту, так у Шчучынскім раёне кажуць на маленькую дзяўчынку, якая не мае зубоў. Нарматыўныя слоўнікі таксама падаюць гэтую лексему, але з іншым значэннем – ‘той, хто часта шчэрыць зубы, любіць пасмяяцца, пажартаваць; выскаляка’ з паметай «размоўнае» як суфіксавы дэрыват ад *вы́шчарыцца* ‘засмяяцца, паказаўшы зубы’. Такім чынам, назіраецца пэўная энантыясемія ў двух пададзеных тут значэннях лексемы *вы́шчарка.* Прычынай гэтага можа быць гукавое падабенства словаў *вышчарыць, вышчарыцца* і *вышчарбіць* ‘нарабіць шчарбін, вызубіць’. Не апошнюю ролю ў пераасэнсаванні адыграла, відаць, і эмацыйна-экспрэсіўная афарбоўка, зазвычай уласцівая словам, якія выкарыстоўваюцца ў гутарцы пра дзяцей ці ў звароце да іх.

**Е.А.Казанкова (Минск, БГУ)**

## ПРИЧИНЫ АСИММЕТРИИ ДИАЛОГА В СВОБОДНОМ КОСВЕННОМ ДИСКУРСЕ (на материале повести Х.Ланге «Странник»)

В литературном произведении общение героев всегда отображается модифицированно по отношению к коммуникативному узусу и, в особенности – к конкретным ситуациям общения. В каждом роде художественной литературы, в каждом жанре и в каждой повествовательной форме указанная модификация осуществляется в разных направлениях. В произведении Х.Ланге повествование представляет собой такую повествовательную форму, в которой функции говорящего «переданы» персонажу, а повествователь играет незначительную роль, т.е. авторское повествование, написанное от 3-го лица, пропущено через «призму сознания героя», и взаимодействие героев, в том числе коммуникативное, минимально: *Und doch: Bamberg wollte sich nicht täuschen lassen. Die Stille war volkommen, aber ging da nicht oben jemand hin und her, und wurden da nicht, es war weit, ununterbrochen Möbel gerückt?* ‘Тем не менее: Бамбергу не хотелось вводить себя в заблуждение. Тишина была совершенной, но разве там наверху не ходил кто-то по сторонам и не передвигал, это было далеко, беспрерывно мебель?’ [1, с. 20]. У Х.Ланге особенности взаимоотношений героев и психологических аспектов речи раскрываются при помощи несобственно-прямой речи. В английской литературе такое повествование предстает как «свободный косвенный дискурс» (free indirect discourse) [2, с. 249 – 287].

В структуре художественного текста коммуникация персонажей может занимать разное место как в количественном, так и в функционально-смысловом плане. В повествовании от 3-го лица в принципе удельный вес прямой речи больше, чем в повествовании от 1-го лица. Однако эти общие закономерности могут быть существенно нарушены, когда повествование от 3-го лица, представляет собой свободный косвенный дискурс, как повесть Х.Ланге. В этом произведении коэффициент насыщенности текста репликами героев в прямой речи составляет 0,1 от общего объема текста.

Субъективность, пристрастность, лиризм повествования уменьшают в произведения удельный вес прямой речи героев.

Факторы неполноты и деформированности коммуникации героев в художественной прозе во многом определяются способами передачи речи героев в пределах одного произведения. Для повести Х.Ланге характерны следующие ситуации общения: 1) внутренняя речь, оформленная как прямая речь: *«Wir überqueren den Styx», – dachte Bamberg jedesmal und verzog spöttisch die Mundwinkel* '«Мы пересекаем Стикс», – думал Бамберг каждый раз и насмешливо скривил уголки рта' [1, с. 97]; 2) обобщенно-свернутая передача чужой речи при помощи глаголов речи (*reden* 'говорить', *verhandeln* 'вести переговоры', *versprechen* 'обещать' и др.): *Geiger sagte zu* 'Гейгер согласился' [1, с. 30]; 3) высказывания в косвенной речи: *Sie erklärte, daß sie Kopfschmerzen habe, zog sich in ihr Zimmer zurück* 'Она объяснила, что у нее болит голова, и ушла в свою комнату' [1, с. 36]; 4) малозначимое для взаимоотношений героев ситуативно-ролевое общение: *Er wollte sich für den freundlichen Artikel bedanken und vor allem für jenen klugen Aphorismus* 'Он хотел поблагодарить за приветливую статью и прежде всего за тот умный афоризм' [1, с. 83]; 5) замена высказывания персонажа авторской характеристикой ситуации общения: *Er umarmte sie, flüsterte ihr etwas zu, etwas, das wie eine Entschuldigung gemeint war* 'Он обнял ее, стал ей что-то нашептывать, что-то, что подразумевало извинение' [1, с. 42]. Среди представленных в повести Х.Ланге ситуаций общений первенствует внутренняя речь, оформленная как прямая речь, а также значительная часть коммуникации героев передана в форме косвенной речи, позволяющей автору более свободно передавать «чужую речь» героев. Преобладание определенного способа передачи чужой речи в повести ведет к увеличению количества информации о вербальном поведении героев, что объясняет, почему в повести Х.Ланге низкий удельный вес прямой речи.

Характер редукции коммуникации в произведении определяется количеством и функциональным видом инициальных реплик, представленных в нарративной ткани без ответа. В повести Х.Ланге без ответа представлено значительное количество инициальных реплик. В табличной записи ниже представлено, какие речевые акты (далее – РА) представлены без ответа, а также общее количество РА в повести.

Таблица – Количество РА (с ответом и без ответа) в повести Х.Ланге

| Функциональные виды инициальных РА | Общее кол-во РА | Кол-во РА без ответа |
|---|---|---|
| Информативы эгоцентрические | 47 | 29 |
| Информативы альтруистические | 91 | 59 |
| Побуждения к действию | 25 | 21 |
| Побуждения к ответу (вопросы) | 25 | 12 |
| Экспрессивы | 11 | 6 |
| Фатические и этикетные РА | 5 | 1 |
| Метаязыковые РА | 9 | 7 |
| Эстетические | – | – |
| Итого | 213 (100%) | 135 (63,4%) |

Таблица показывает, что в повести Х.Ланге практически 2/3 РА не получают ответа. Чаще всего ответа не получают информативы альтруистические. В качестве основного фактора, определяющего количество безответных РА, выступает степень субъективности повествования. Видно, что удельный вес побуждений, оставшихся без ответа, максимальный. Отсутствие ответных реакций на побудительные РА компенсируется авторским комментарием, содержащим объяснение причин отсутствия ответа, а также обусловлено развитием сюжетной линии, что позволяет писателю опускать некоторые ответные реплики своих героев. В свободном косвенном дискурсе количество безответных вопросов определяется не их синтактико-коммуникативным видом, а спецификой повествовательной формы. Результаты исследования показали, что в повести Х.Ланге вопросы остаются без ответа независимо от того, являются ли они общими или специальными. Все же чаще ответа не получают вопросы о мнении, об отношении, об интерпретации, о характеристике. Вполне закономерно, что в таком психологическом повествовании, в котором показан распад брака главного героя, который стремиться разобраться в причинах ухода жены, вопросы об отношении, о мнении и о характеристике не получают ответа чаще, чем вопросы о физической реальности.

В повести Х.Ланге редукция прямой речи героев, по-видимому, является намеренным авторским приемом, чтобы усилить интерес читателей. В основном в повести повествователь смотрит на все происходящие события с перспективы главного героя, т.е. его глазами. Однако в кульминационный момент повествования, когда от героя уходит жена, повествователь «вдруг» оказывается разделенным с героем оконным стеклом, залитым дождем, не слышит ни слова, но только видит, как герой полтора часа говорит по телефону с ушедшей от него женой, а потом надолго застывает у окна. Так в камерной психологической повести возникают загадки от недосказанности и усиливается читательское любопытство. Но в силу замысла автора эти «неуслышанные» читателем слова так и остаются неизвестными. Не случайно в тексте повести несколько (пять) раз повторятся заголовок журнальной статьи о книге героя: *Nichts ist, wie es scheint. Oder vielleicht doch?* 'Ничто не является тем, чем кажется. Или все-таки?' [1, с. 37]. Возможно, такие недомолвки в камерной психологической повести создают эффект «кажимости», которая заменяет реальность.

Таким образом, элиминация прямой речи в свободном косвенном дискурсе Х.Ланге связана с литературными поисками «естественности» и «реалистичности» изображения, с широкими возможностями психологического домысливания подтекста, а также со спецификой повествовательной формы, когда в нарративную ткань попадают только «нужные» для сюжета и психологии реплики героев.

***Литература***

1. Lange, H. Der Wanderer: novelle / H.Lange. – Zürich, 2005. – 117 s.

2. McHale, B. Free Indirect Discourse: A Survey of Recent Accounts / B.McHale // A Journal for Descriptive Poetics and Theory of Literature. – 1978. № 3. – P. 249–287.

**І.В.Каленік (Мазыр, МДПУ)**

**ОНІМ-АЛЮЗІЯ І РЭПРЭЗЕНТАЦЫЯ ВОБРАЗА КУЛЬТУРНАГА ДЗЕЯЧА Ў БЕЛАРУСКІМ ПАЭТЫЧНЫМ МАЎЛЕННІ (на матэрыяле паэзіі У.Караткевіча і Р.Барадуліна)**

У кантэксце асаблівай цікавасці сучаснай лінгвістыкі да праблем дыялагічнасці культуры, інтэртэкстуальнасці і прэцэдэнтнасці актуальным становіцца вывучэнне механізму эксплікацыі (разгортвання) культурна-гістарычнай інфармацыі алюзійнымі адзінкамі. Алюзія (лат. *allusio* – намёк) – гэта ўжыванне пэўнага слова альбо фразы ў якасці намёку на агульнавядомы факт – грамадска-палітычны, бытавы або літаратурны. Выкарыстоўваючы ў сваім тэксце стылістычны прыём алюзіі, пісьменнік разлічвае на пэўны ўзровень культурнай дасведчанасці чытача, пры якім алюзійныя ўключэнні дэкадзіруюцца без цяжкасцей.

Разнавіднасцю алюзіі з’яўляецца алюзійны онім, які садзейнічае фармаванню ў тэксце дадатковых сэнсаў шляхам актуалізацыі ў свядомасці чытача асацыяцыйных сувязей з ранейшымі (прэцэдэнтнымі) тэкстамі. Прэцэдэнтны онім (г.зн. той, што ўжо выкарыстоўваўся іншымі аўтарамі і захаваў пэўнае ўстойлівае значэнне, замацаванае ў свядомасці носьбітаў мовы) у структуры алюзіі імплікуе (утрымлівае ў «згорнутым» выглядзе) цэлыя сюжэты, лёсы, мадэлі грамадскіх адносін.

Праілюструем выкладзеныя навуковыя абагульненні на прыкладзе оніма *Сізіф:* 1) дэнататыўнае (прамое) значэнне – персанаж антычнага міфа, які быў пакараны багамі за тое, што імкнуўся хітрасцю пазбегнуць смерці. Ён павінен быў вечна каціць на высокую гару велізарны валун, што на вяршыні раптоўна зрываўся ўніз; 2) метафарычнае значэнне, замацаванае ў соцыуме, – той, каму наканавана рабіць бясконцую няўдзячную працу (параўн. фразеалагізм *сізіфава праца*); 3) аказіянальнае значэнне ў кантэксце верша Р.Барадуліна *«Валун Караткевіча»* – падзвіжнік, усё жыццё якога прысвечана ўпартай высакароднай працы – у выпадку з У.Караткевічам, адраджэнню беларушчыны. Семантычную структуру міфоніма *Сізіф* узбагачаюць аўтарскія канатацыі лексемы *валун*. У дадзеным лірычным тэксце яны трансфармуюцца адпаведна развіццю мастацкай думкі: 1) валун няўдзячнасці і пасіўнасці суайчыннікаў. *Няўдзячнасці глухімі валунамі // Табе плацілі добрыя дзядзькі…* [1, с. 126]; 2) валун запозненага пакаяння. *Валун znямелага ўтрапення // І плачу нашага, // На грудзі лёг // Тваёй магіле* [1, с. 126]. Алюзія на міфалагічны вобраз Сізіфа, відаць, нарадзілася і з таго факта, што на магіле У.Караткевіча замест помніка ляжыць сціплы і велічны палявы камень.

У кожнага народа ў працэсе гістарычнага развіцця складваецца свая карціна свету, якая знаходзіць адлюстраванне, апрача іншага, і ў анамастычным складзе мовы. Імёны, звязаныя з шырокавядомымі (так званымі праграмнымі) творамі або знакавымі для гісторыі, культуры народа постацямі, становяцца канстантамі дадзенай культуры, яе сімваламі.

Прывядзем прыклад. Верш У.Караткевіча «*Багдановічу*» цалкам пабудаваны на міжтэкставых сувязях. Інтэртэкстуальнымі фактарамі, што фарміруюць паэтыку оніма *Багдановіч* у дадзеным мастацкім кантэксце, з’яўляюцца вобразна-метафарычныя

матывы аўтара «Вянка» і евангельская рэмінісцэнцыя. Нас цікавяць найперш алюзійныя онімы ў складзе перыфразы *ўнукі Скарыны* і метафары *Святагораў цяжар.*

Носьбітам імпліцытнай інфармацыі з'яўляецца онім *Скарына* як кампанент перыфразы-зваротка: *унукі Скарыны* – 'беларусы'. Прэцэдэнтнае імя, за якім у свядомасці большасці рэцыпіентаў замацаваны пэўны цэласны вобраз (*Скарына* – вучоны, пісьменнік, перакладчык, заснавальнік кнігадрукарства ва Усходняй Еўропе), набывае ў вершы кантэкстуальныя канатацыі. Актуалізатарам іх выступае тэматычная група «якасці чалавека», лексіка-семантычнымі элементамі якой з'яўляюцца словы *гонар, моц, краса*: *«Ты сказаў нам: // «Унукі Скарыны, // Дзе ваш гонар, моц і краса?»«* [2, с. 47]. Агульным кампанентам іх змястоўнага плану з'яўляецца паняцце *слава (*а таксама *павага, аўтарытэт).* Тым самым У. Караткевіч, апелюючы да гістарычнай памяці, імкнецца абудзіць у суайчыннікаў годнасць, вартую такой унікальнай, таленавітай, актыўнай асобы, як Скарына.

Антрапонім *Святагор* эксплікуе наступныя канатацыі. У паэтычным кантэксце *Святагору* – асілку, герою рускіх былін, які, валодаючы велізарнай фізічнай сілай, не здзейсніў нічога гераічнага, супрацьпастаўляецца хворы юнак, які знайшоў духоўную моц, каб *«узваліць на юныя плечы Святагораў народны цяжар»* – цяжар народнай апатыі, занядбанай стагоддзямі культуры. Катаржная праца не магла не падарваць і без таго слабое здароўе Максіма: *«І не вынеслі жылы напругі: //* ***Знік ты, лебедзь, у хвалях сівых****…»* [2, с. 47]. Выдзелены фрагмент – гэта, зноў жа, літаратурная алюзія. У аднайменнай паэме Максіма Багдановіча *Страцім-Лебедзь* – магутная птушка, якая ўратавала ўсіх іншых птушак ад патопу, але загінула сама. Караткевіч атаясамлівае *Страцім-Лебедзя* з яго аўтарам – самаахвярным паэтам, якому давялося застацца навек маладым у памяці людства.

Анамастычная перыфраза *павятовы Мікеланджэла* трапна і эмацыянальна характарызуе творчае аблічча Язэпа Драздовіча ў вершы Р. Барадуліна *«Язэп Драздовіч – павятовы Мікеланджэла…»*. *Мікеланджэла* – славуты італьянскі скульптар, жывапісец, паэт і архітэктар эпохі Адраджэння. *Язэп Драздовіч* – заснавальнік беларускай школы жывапісу, скульптар, этнограф, фалькларыст, археолаг і пісьменнік. Сапраўдны падзвіжнік, ролю якога ў захаванні матэрыяльнай культуры беларусаў цяжка пераацаніць: *«І ён, адкопваючы замчышчы й паганішчы, // Вяртаў дамоў крывіцкі дух забраны»* [1, с. 254]. Антрапонімы *Язэп Драздовіч* і *Мікеланджэла* аб'ядноўваюць не толькі мастацкія інтарэсы іх носьбітаў, але і рэнесансная celebrating рознабаковасць таленту, пафас стварэння. За той толькі розніцай, што вялікаму беларусу не пашчасціла нарадзіцца ў такую ж вялікую эпоху, як славутаму італьянцу: *«А доле // Па-скупечы доля ўсмешку важыла, // Не дазваляла развінуцца крылам»* [1, с. 254].

Алюзійны онім можа быць заяўлены ў эпіграфе, як у вершы Р.Барадуліна *«У выгнанні»*. Твор перадае перажыванні мужнага і таленавітага чалавека, пазбаўленага радзімы і асуджанага на адзіноту. *Арцём Вярыга-Дарэўскі* – беларускі пісьменнік, за актыўны ўдзел у паўстанні 1863 – 1864 гг. сасланы ва Усходнюю Сібір. Убачыць радзіму яму болей не давялося. У мастацкім кантэксце аўтарскія канатацыі алюзійнага тапоніма

*Сібір* раскрываюцца праз азначэнні *сіберная, багатая на сівер. Сіберная* – значыць суровая (сапраўды, гэта традыцыйнае месца палітычных высылак). Вельмі моцны, рэзкі, люты вецер або мароз называюць *сіберным. Сіверам* – халодны, пранізлівы паўночны вецер. У гэтым краі выгнанец асабліва востра адчувае сваю самоту. Узмацняе такія эмацыянальна-ацэначныя канатацыі асацыяцыйнасць на фанетычным узроўні – Р.Барадулін адмыслова падбірае лексемы не толькі паводле семантычнай, але і гукавой блізкасці: *«**Сібер**ная **Сібір**, // Багатая на **сівер**»* [1, с. 21]. Сцюжа, выццё ветру, суровасць краю, дзе *«совы… маўчаць табе ў спіну»* чуваць у спалучэнні гукаў *с – і –в (б) – е – р*. Алюзійны айконім *Кублічы* (вёска, у якой нарадзіўся А.Вярыга-Дарэўскі) і гідронім *Дзвіна* (буйная рака на роднай яму Віцебшчыне) уключаны Р.Барадуліным у кантэкст метафары, якая ўступае ў дыялагічныя адносіны з паэтычнай фразай А.Вярыгі-Дарэўскага, узятай за эпіграф: *«Паплыла рэчка, слязінкай бліснуўшы, // З роднай зямелькі»* (А.Вярыга-Дарэўскі) – *«Да Кубліч твой радок // Дзвіною даплыве…»* (Р.Барадулін). Тым самым аўтар апошняга тэксту сцвярджае думку аб тым, што мужнасць, адданасць, падзвіжніцкая праца, годнасць і вера не застаюцца незапатрабаванымі, не знікаюць без следу.

Такім чынам, заяўленае ў загалоўку або эпіграфе імя вядомага ў соцыуме творцы апрыоры ўводзіць у паэтычнае выказванне пэўнае асацыяцыйнае поле. Характар кантэкстуальных канатацый такога антрапоніма ў новым тэксце вызначае семантыка іншых алюзійных онімаў, іх лексіка-семантычнае асяроддзе і сінтаксічныя сувязі.

***Літаратура***

1. Барадулін, Р. Збор твораў / Р.Барадулін. – Мінск: Маст. літ., 1998. – Т. 2: Вершы – 382 с.
2. Караткевіч, У. Збор твораў: у 8 т. / У.Караткевіч. – Мінск: Маст. літ., 1987. – Т. 1: Вершы, паэмы. – 431 с.

**А.А.Кірдун (Мінск, Інстытут мовы і літаратуры НАН Беларусі)**

## АБМЕЖАВАЛЬНЫЯ ФАКТАРЫ РАЗГОРТВАННЯ СЛОВАЎТВАРАЛЬНЫХ ГНЁЗДАЎ З НЕМАТЫВАВАНЫМ ТЭМПАРАЛЬНЫМ СЛОВАМ У ВЯРШЫНІ

Нематываваныя тэмпаральныя словы ў беларускай мове ўтвараюць асобы шырокі клас слоў, у межах якога паводле падабенства семантыкі і часцінамоўнай прыналежнасці магчыма выдзяленне разнастайных лексіка-семантычных груп (ЛСГ).

У працэсе словаўтварэння нематываваныя тэмпаральныя словы праяўляюць розную актыўнасць, таму на іх базе фарміруюцца разнастайныя па структуры словаўтваральныя гнёзды (СГ): прадстаўлены як простыя гнёзды (роўныя пары слоў), так і больш складаныя (гнёзды-ланцужкі, гнёзды-пучкі або веерныя, камбініраваныя гнёзды).

Аналіз вытворных адзінак у СГ, вяршынямі якіх з’яўляюцца нематываваныя тэмпаральныя словы, на кожнай ступені дэрывацыі з улікам часцінамоўнай прыналежнасці ўтваральнага і вытворнага слоў, з улікам адпаведнага кожнай

часцінамоўнай мадэлі словаўтваральнага значэння вытворнага слова і фарманта, паказаў, што многія СГ фарміруюцца за кошт дэрыватаў, што належаць аднаму СТ. Некаторыя з іх выдзяляюцца ў СГ, утвораных на аснове зыходных адной-двух ЛСГ, як, напрыклад: дзеясловы з суфіксам *-ава-(-ява-)* са значэннем ‘праводзіць час, абазначаны ўтваральным словам’ (*зімаваць, летаваць, вечараваць, начаваць, дняваць*), прыслоўі з фармантамі *над-...-ø, пад-...-ø* са значэннем акалічнаснай прыкметы часу, які непасрэдна папярэднічае таму, што названа ўтваральным словам (*надвосень, надвечар, падвечар*), прыслоўі з фармантамі *у-...-ø, у-...-ы* са значэннем ‘накіраванасць да таго, што названа ўтваральным словам’ (*увечар, удзень, увосень, уміг, умомант, ураз, увечары, уначы*), прыметнікі з прыстаўкай *за-* са значэннем ‘які значна перавышае ступень якасці, названай утваральным словам’ (*застары, замалады*), прыметнікі з суфіксам *-шн-* са значэннем ‘якасць прадмета паводле часу, названага ўтваральным словам’ (*учарашні, сённяшні, цяперашні, заўтрашні*), назоўнікі жаночага роду з суфіксам *-к-,* матываваныя складанаўтворанымі прыметнікамі, са значэннем ‘прадмет, што мае адносіны да пэўнай прыкметы’ (*васьмігодка, дзесяцігодка, аднадзёнка, пяцімінутка*) і г.д. Іншыя дэрываты, утвораныя пры дапамозе высокапрадуктыўных у беларускай мове фармантаў, з’яўляюцца састаўнымі адзінкамі СГ з зыходнымі, што належаць значнай колькасці выдзеленых намі ЛСГ. Да такіх адносяцца назоўнікі з суфіксамі суб’ектыўнай ацэнкі *-ік (-ык), -ок (-ёк), -к-* (*гадзінка*, *зімка, калядкі, мінутка* і г.д, *годзік, разік, кончык, месячык, вечарок, гадок, разок, дзянёк*), з суфіксам *-асць* з адцягненым значэннем прыметы і ўласцівасці (*абноўленасць, запозненасць, зрэджанасць, застарэласць, маладжавасць, пачашчанасць, старападобнасць* і г.д), з суфіксамі *-нн-, -енн- (-энн-)* са значэннем апрадмечанага дзеяння (*зрэджванне, перазімоўванне, фінішаванне, гадаванне, абнаўленне*, *паскарэнне, заканчэнне* і г.д), прыметнікі з суфіксамі *-ав-, -н- (-ачн-, -очн-, -ычн-, -ярн-, -альн-), -ённ-, -ск-, -к-* са значэннем ‘які адносіцца да часу або ўласцівы часу, што названы ўтваральным словам’ (*аўторкавы, вакацыйны, пятнічны, святочны, мезалітычны, канікулярны, эпахальны, сесіённы, юрскі, пiлiпаўскі* і г.д), прыслоўі з суфіксам *-а* са значэннем прыметы, названай утваральным словам, з дадатковым акалічнасным значэннем (*маладжава, рэдка, зімна, месячна, тэрмінова, позна* і г.д), дзеясловы са значэннем зваротнага дзеяння (*амалоджвацца*, *зрэджвацца*, *паскарацца*, *пачашчацца*, *датавацца* і г.д.), дзеясловы са значэннем працяглага дзеяння (*канчаць, растэрміноўваць, асучасніваць, падмалоджвацца*, *абнаўляцца*, *паскарацца* і інш.), дзеясловы са значэннем ‘утвараць дзеянне паводле таго, што названа ўтваральным словам’ (*гадаваць, святкаваць, стартаваць, фінішаваць* і г.д) і інш.

Такім чынам, семантычная блізасць зыходных слоў вызначае агульнасць іх словаўтваральных магчымасцей. Разам з тым, СГ з тэмпаральнымі словамі ў вяршыні, якія належаць адной ЛСГ, характарызуюцца далёка не аднолькавым наборам вытворных адзінак. Здольнасць мець той ці іншы склад вытворных прадвызначаецца, на наш погляд, як шэрагам уласцівасцей (фармальных і семантычных) зыходнага слова, так і асаблівасцю ЛСГ, да якой яно належыць.

Так, на базе зыходных слоў, якія ўваходзяць у замкнутую ЛСГ «назвы месяцаў» паводле структурнай арганізацыі фарміруюцца разнастайныя СГ:

1) **слабаразгорнутыя**, сярод якіх выдзяляюцца двухслоўныя СГ (роўныя словаўтваральнай пары): *студзень → студзень-**ск**-і, лют-(ы) → лют-**аўск**-і, сакавік → сакавіц-**к**-і, травень → травень-**ск**-і, чэрвень → чэрвень-**ск**-і, жнівень → жнівень-**ск**-і, снежань → снежань-**ск**-і;* веерныя СГ (роўныя словаўтваральнай парадыгме): *красавік → красавік-**ов**-ы, красавіц-**к**-і; ліпень → ліпень-**ск**-і, ліпн-**ёв**-ы; верасень → верасн-**ёв**-ы, верасн-**ёўск**-і; лістапад → лістапад-**аўск**-і, лістапад-**н**-ы.* Усе вытворныя адзінкі маюць адно словаўтваральнае значэнне – 'які адносіцца да часу або ўласцівы часу, што названы ўтваральным словам', якое рэалізуецца некалькімі фармантамі. Аднак у першай групе СГ стрымліваючым фактарам іх разгортвання з'яўляецца немагчымасць марфаналагічнага спалучэння ўтваральнай асновы і суфікса, параўн.: *лістападаўскі* і *лютаўскі, лістападны* і *?*, а таксама *ліпеньскі* і *чэрвеньскі, ліпнёвы* і ? і г.д.

2) **моцнаразгорнутыя**, да якіх адносім дрэвападобныя СГ, што ўяўляюць сабой камбінацыі словаўтваральных пар, ланцужкоў і парадыгм:

*май → ма-**ёўк**-а*
*май-**ск**-і → **перад**-майскі 1*
***пасля**-майскі 1*
***перад**-май-**ск**-і 2*
***пасля**-май-**ск**-і 2*
*перш-**а**-май → першамай-**ск**-і*

*кастрычнік → кастрычніц-**к**-і → **да**-кастрычніцкі 1*
***перад**-кастрычніцкі 1*
***пасля**-кастрычніцкі 1*
***да**-кастрычніц-**к**-і 2*
***перад**-кастрычніц-**к**-і 2*
***пасля**-кастрычніц-**к**-і 2*

Прыведзеныя прыклады паказваюць, што разгорнутай структурай валодаюць СГ, у склад якіх уваходзяць прэфіксальныя прыметнікі. У астатніх СГ дзейнічае абмежаванне (неўтварэнне аналагічных матываваных адзінак), якое, карыстаючыся тэрмінам І.С.Улуханава, можна ахарактарызаваць як адноснае [1, с. 117]. Гэта значыць, што адносна словаўтваральнай сістэмы не існуе перашкод для ўтварэння слоў тыпу *дасакавіцкі, дакрасавіцкі* і інш. або *перадвераснёўскі, пасляверасніёўскі, перадлютаўскі, пасляютаўскі, перадстудзеньскі, пасластудзеньскі* і інш. Аднак, нягледзячы на наяўную магчымасць спалучэння марфем, слоўнікі не фіксуюць гэтых адзінак, таму што дзейнічае абмежаванне з боку лексічнай сістэмы: паняцце, якое яны абазначаюць, у мове выражаецца іншымі лексемамі, напрыклад: *дасакавіцкі – лютаўскі, перадвераснёўскі – жнівеньскі, пасляверасніёўскі – кастрычніцкі* і г.д.

Магчымасць жа ўтварэння прэфіксальных прыметнікаў ад слоў *май* і *кастрычнік* тлумачыцца наяўнасцю ў іх семантычнай структуры семы ‘свята’, якая адсутнічае ў іншых лексем разглядаемай ЛСГ. Прэфіксальныя адзінкі ўзнікаюць на базе менавіта гэтага канкрэтнага значэння ўтваральных [2, с. 179] пры ўмове адсутнасці марфаналагічных абмежаванняў.

Неабходна адзначыць таксама, што з цягам часу і пад уплывам пэўных змен у мове структурны тып канкрэтнага СГ можа мяняцца: простае СГ, або слабаразгорнутае, можа набыць статус больш складанага, або моцнаразгорнутага, калі папоўніцца хаця б адной вытворнай адзінкай. Структурна складанае СГ можа стаць больш простым, напрыклад, калі адбудзецца палярызацыя значэнняў зыходнага слова (узнікненне аманіміі на базе семантыкі мнагазначнага слова).

***Літаратура***


1. Улуханов, И.С. Мотивация в словообразовательной системе русского языка / И.С.Улуханов. – М.: Азбуковник, 2005. – 314 с.
2. Тихонов, А.Н. Проблемы составления гнездового словообразовательного словаря современного русского языка: курс лекций / А.Н.Тихонов. – Самарканд: СГУ, 1971. – 387 с.



**Круталевіч М.М., Шумчык Ф.С. (Мінск, БДПУ)**


## З ГІСТОРЫЯ АКАННЯ: ДА ПАСТАНОЎКІ ПЫТАННЯ

Агульнавядома, што аканне ў гісторыі ўсходнеславянскіх моў мела дыялектны характар. Яно ўласціва для сучасных беларускіх і некаторых рускіх (паўднёва- і сярэднерускіх) гаворак, з’яўляецца нормай у беларускай і рускай літаратурных мовах. Аканне – гэта неадрознене галосных няверхняга пад’ёма ў ненаціскных складах, дзе яны могуць рэалізоўвацца ў розных галосных гуках, якасць якіх залежыць ад пазіцыйных умоў. Канкрэтызуючы такое шырокае паняцце акання, у лінгвістыцы вылучаюць пасля цвёрдых зычных ўласна аканне, а пасля мяккіх – яканне, іканне і еканне. У такім шырокім значэнні аканне супрацьпастаўляецца оканню – адрозненню ненаціскных галосных няверхняга пад’ёма. Для беларускай літаратурнай мовы, у адрозненне ад дыялектаў, уласна аканне вызначаецца як супадзенне ненаціскных галосных гукаў [о], [э], [а] ў адным гуку [а] і з’яўляецца, як ужо адзначалася, яе арфаэпічнай і арфаграфічнай нормай.

Такім чынам, усходнеславянскае аканне ўяўляе сабой даволі складаную з’яву, паколькі ў першым складзе перад націскам прадстаўлена шматлікімі тыпамі, абумоўленымі цвёрдасцю-мяккасцю папярэдняга зычнага і якасцю націскнога галоснага, а сістэма рэалізацыі ненаціскных галосных няверхняга пад’ёму ў першым складзе перад націскам супрацьпастаўляецца ўсім іншым ненаціскным пазіцыям.

Прычыны і час узнікнення акання ў шырокім яго значэнні ва ўсходніх славян да гэтага часу застаюцца, па сутнасці, нявырашанымі. Існуе некалькі пунктаў гледжання на гэтую праблему. Сёння, відаць, нікім не аспрэчваецца толькі тое, што аканне ўзнікла як вынік аслаблення ненаціскных галосных, менавіта як вынік рэдукцыі, а не сама рэдукцыя такіх

галосных. Усе астатнія пытанні гэтай праблемы пакуль спрэчныя. У прыватнасці, не ў поўнай меры асветлены пытанні аб тым, што сабой генетычна ўяўляе аканне як фанетычная з'ява і як яно, храналагічна або прычынна, звязана з іншымі фанетычнымі з'явамі ў гукавой сістэме ўсходнеславянскіх гаворак; як неабходна разумець аканне з пункту гледжання фаналогіі і ў якой ступені фаналагічныя адносіны і іх змены могуць быць прычынай узнікнення акання. А пытанне аб тым, ці з'яўляецца аканне вынікам унутранага развіцця фанетычнай сістэмы некаторых усходнеславянскіх гаворак, або гэта вынік знешняга іншамоўнага ўздзеяння, у тым ліку і для беларускіх гаворак, толькі акрэсліваецца даследчыкамі без яго вырашэння, г. зн. канчаткова не высветлена тэрыторыя яго першапачатковага ўзнікнення і ўмовы далейшага распаўсюджання.

Адказы на гэтыя і іншыя пытанні неабходна шукаць выкарыстоўваючы розны фактычны матэрыял і розныя метады даследавання. Прычым разглядацца пытанні павінны такім чынам, каб прыватныя рашэнні не супярэчылі адзін другому пры гістарычным падыходзе да вывучэння праблемы ў цэлым. Для ілюстрацыі асобных разыходжанняў такога характару варта нагадаць некаторыя тэорыі і гіпотэзы паходжання акання.

Адным з першых лінгвістаў, хто прапанаваў навуковае абгрунтванне паходжання акання, быў А.А.Шахматаў. Праўда, у розныя перыяды сваёй дзейнасці даследчык прытрымліваўся амаль супрацьлеглых пунктаў гледжання. У адным выпадку аканне ён звязваў з вынікам неаднолькавага развіцця праславянскіх галосных, якія адпавядалі індаеўрапейскім галосным ***ă** і ***ŏ**, у другім – з рэдукцыяй ненаціскных галосных няверхняга пад'ёму ў выніку змянення характару націску.

Паводле адной з гіпотэз А.А.Шахматава – індаеўрапейскія галосныя ***ă*** і ***ŏ*** ў праславянскай мове супалі ў гуку ніжняга пад'ёму [$а^о$] (лабіялізаваны [а]) або [$о^а$], а галосны [е] быў адкрытым галосным, які набліжаўся да [а] ([$е^а$]). Галосныя [$о^а$] і [$е^а$] сталі спадчынай ўсходнеславянскіх дыялектаў (гаворак). Пасля змянення музычнага націску на дынамічны адбывалася рэдукцыя ненаціскных галосных. Аднак, на яго думку, галосныя ў першым складзе перад націскам наадварот узмацняліся. Пры гэтым у некаторых гаворках узмацняўся другі элемент паказаных гукаў і ўзнікала ***аканне*** ([$о^а$] і [$е^а$] → [а]), у іншых – першы элемент і ўзнікала ***оканне*** ([$о^а$] і [$е^а$] (з лабіялізацыяй) → [о]).

Гэта гіпотэза знайшла развіццё ў работах іншых славістаў (А.Мейе, А.Вайан, У.Георгіеў і інш.). У прыватнасці, Ф.П.Філін звяртае ўвагу на тое, што аканне з'яўляецца спадчынай праславянскай мовы, якой быў характэрны лабіялізаваны ніжняга пад'ёма [$а^о$]. Паводле яго меркавання, у самой прыродзе названага гука быў закладзены дваісты шлях развіцця: або ўзмацненне лабіялізацыі і змяненне на [о], або страта лабіялізацыі і адпаведна змяненне на [а]. Такое тлумачэнне прычын і часу ўзнікнення акання магло мець месца пры ўмове вымаўлення галоснага [а] на месцы [о], але паказаная думка не ўлічвае фаналагічнай сутнасці з'явы: неадрозненне галосных пры аканні закранае не толькі два галосныя няверхняга пад'ёму, што знаходзяцца пасля цвёрдых зычных, але і тры галосных пасля мяккіх зычных. Акрамя таго, застаецца не зусім зразумелай, напрыклад, пазіцыя У.Георгіева, які сыходзіць з таго, што вымаўленне [а] ў першым складзе перад

націскам нельга растлумачыць вынікам рэдукцыі [о]. У дадзеным выпадку таксама не ўлічваецца фаналагічная сутнасць акання, паколькі ва ўсходнеславянскіх гаворках у названай пазіцыі не заўсёды выразна гучыць [а] або [о], а гэта і ёсць вынік рэдукцыі. Такім чынам, паслядоўныя фанетычныя змены, у выніку якіх склалася сістэма функцыянавання ненаціскнога вакалізму ва ўсходнеславянскіх гаворках, у тым ліку і беларускіх, не могуць быць правільна асэнсаваны без высвятлення фаналагічнай сутнасці акання (якання).

Пазней А.А.Шахматаў адыходзіць ад вышэй названага пункту гледжання і распрацоўвае так званую рэдукцыйную тэорыю акання. Ён лічыць, што ў перыяд колькаснага адрознення галосных, доўгі галосны [а] скарачаецца ў вымаўленні і набліжаецца паводле даўжыні гучання да кароткіх [о] і [е]. У ненаціскным становішчы кароткія галосныя [е], [о] і [а] рэдукаваліся: на месцы першага галоснага развіваўся рэдукаваны пярэдняга рада [ь], а на месцы двух апошніх – рэдукаваны непярэдняга рада [ъ]. Такія рэдукаваныя, як лічыць А.А.Шахматаў, вымаўляліся ва ўсіх ненаціскных складах у час, калі націскныя галосныя адрозніваліся паводле даўжыні гучання. Пасля страты даўжыні перад былымі доўгімі націскнымі галоснымі адбывалася падаўжэнне галосных папярэдняга складу. У выніку гэтага рэдукаваны непярэдняга рада [ъ] змяніўся на [а], рэдукаваны пярэдняга рада [ь] – на [’а] або [е]. Так у гаворках з’явілася ***аканне*** – ***яканне*** – ***еканне***. Перад складамі з націскнымі кароткімі [е], [о] і [а] рэдукаваныя ў першым складзе перад націскам захоўваліся.

Рэдукцыйную тэорыю акання падтрымлівалі і развівалі шматлікія лінгвісты. Праўда, адны з іх (О.Брок, М.М.Дурнаво, С.П.Абнорскі і інш.) згаджаліся з А.А.Шахматавым аб даволі раннім узнікненні акання, іншыя (М.С.Трубяцкой, Р.О.Якабсон і інш.) аспрэчвалі гэты тэзіс. Апошнія сыходзілі з таго, што доўгі [а] не мог скараціцца раней іншых доўгіх галосных.

Даволі пераканаўчай з’яўляецца гіпотэза, выказаная Р.І.Аванесавым і развітая яго паслядоўнікамі. На думку вядомага моваазнаўцы, аканне ўзнікла ў пісьмовы перыяд і звязана са змяненнем былога націску і рэдукцыяй ненаціскных галосных гукаў. Рэдукцыя стала магчыма толькі пасля працэсу падзення рэдукаваных, калі галосныя [ь] і [ъ] перасталі ўжывацца як самастойныя гукі. Таму ўзнікненне акання згодна з прапанаванай тэорыяй неабходна датаваць канцом XII – пачаткам XIII стст. [1].

Паказаныя тэорыі і гіпотызы, як бачым, адрозніваюцца і прычынамі, і адпаведна часам узнікнення акання. Адсюль, толькі сістэмны падыход да вывучэння фаналагічных адносінаў ненаціскнога вакалізму зможа больш пераканаўча схіліць да пэўнай пазіцыі. Так, напрыклад, розная рэалізацыя ненаціскнога галоснага [а] (*вада – выда – върда – вуда – вда*) і інш. абумоўлена адной фаналагічнай прычынай, агульнай для ўсіх акаючых гаворак. Гэта дэфаналагізацыя фанетычных уласцівасцей ненаціскных галосных, якая прыводзіць да уніфікацыі іх дыферэнцыяльных прыкмет. Паколькі артыкуляцыйныя і адпаведна акустычныя адрозненні адной і той самай фанемы, характэрныя кожнай канкрэтнай гаворцы для ненаціскных галосных у пэўных фанетычных пазіцыях, не маюць фаналагічнага значэння, таму яны разглядаюцца як варыянты (алафоны) дадзенай фанемы, хоць фанетычна і адрозніваюцца. Пры такім падыходзе да фаналагічнай

сутнасці акання яго гісторыю неабходна звязваць з гісторыяй дыферэнцыяцыі націскных і ненаціскных галосных пры нейтралізацыі дыферэнцыяльных прыкмет апошніх. А як вядома, дэфаналагізацыя асобных дыферэнцыяльных прыкмет галосных (у прыватнасці, даўжыня гучання) адзначаецца ўжо ў праславянскай мове. Магчыма, і карані ўсходнеславянскага акання – у праславянскай мове. Запазычаная ўсходнеславянскімі гаворкамі сістэма галосных гукаў з дэфаналагізаванай дыферэнцыяльнай прыкметай «даўжыня гучання» і замена музычнага націску дынамічным з цягам часу прывяла да далейшай нейтралізацыі і уніфікацыі дыферэнцыяльных прыкмет ненаціскных галосных фанем, а гэта ў сваю чаргу да акання, станаўленне якога доўжылася не адно стагоддзе. Відаць, не з'яўляецца вельмі пераканаўчым доказам даволі позняга развіцця акання адлюстраванне яго ў пісьмовых крыніцах XIV – XV стст., арыентаваных на кніжную традыцыю, а не гаворкі. Тым больш, што А.І.Яновіч (С. 123) прыводзіць некаторыя прыклады больш ранняй фіксацыі акання (XI – XIII стст.). На параўнальна позняе адлюстраванне названай з'явы ў помніках беларускага пісьменства ўказвае Я.Ф.Карскі, які зазначае, што вялікая колькасць помнікаў XV – XVII стст., створаных на тэрыторыі Беларусі, зусім не адлюстроўваюць акання, а ў шматлікіх тэкстах яно прадстаўлена адзінкавымі напісаннямі [2].

Няма сярод даследчыкаў адзінай думкі наконт найбольш архаічных тыпаў і падтыпаў акання, а таксама тэрыторыі яго распаўсюджання. У дадзеным выпадку ніхто не аспрэчвае толькі думку, што сёння межы тэрыторыі распаўсюджання акання далёка не адпавядаюць першапачатковым, паколькі за перыяд станаўлення ўсходнеславянскай фанетычнай сістэмы яно значна пашырыла свае межы. У такім кантэксце не зусім пераканаўчыя словы В.В.Іванова наконт таго, што аканне, відаць, узнікла ў Разанскай і часткова Ноўгарад-Паўночнай і Чарнігаўскай землях у XII – XIII стст., а ў Беларусь пранікла ў эпоху, калі Курска-Арлоўская тэрыторыя знаходзілася ў складзе Літвы, г. зн. у XV – XVI стст. [3]. У Ф.М.Янкоўскага знаходзім: «Выпадкі адлюстравання акання ў XV ст. сведчаць, што гэта фанетычная рыса беларускага вакалізму ўзнікла ў мове раней» [4] і, магчыма, мала адрознівалася ад сучаснага.

Такім чынам, аканне як фанетычная з'ява беларускай і рускай моў патрабуе далейшага вывучэння.

***Літаратура***

1. Больш падрабязна гл.: Янович, Е.И. Историческая грамматика русского языка / Е.И.Янович. – Минск, 1986. – С. 121 – 128; Иванов, В.В. Историческая грамматика русского языка / В.В.Иванов. – М., 1990. – С. 203 – 218.

2. Карский, Е.Ф. Белорусы. Язык белорусского народа / Е.Ф.Карский. – М., 1955. – Вып. 1. – С. 134 – 135.

3. Иванов, В.В. Историческая грамматика русского языка / В.В.Иванов. –М., 1990. – С. 209 – 210.

4. Янкоўскі, Ф.М. Гістарычная граматыка беларускай мовы / Ф.М.Янкоўскі. – Мінск, 1989. – С. 122.

**И.П.Кудреватых (Минск, БГПУ)**

## ЭКСПРЕССИЯ ГРАММАТИКИ ТАТЬЯНЫ ТОЛСТОЙ

Лирические эссе Т.Толстой – это зарисовки событий, нашедших отражение в исторической судьбе родины, в искусстве и в личной жизни писательницы. Повествовательная система текстов как особое коммуникативное пространство, или особый дискурс, отмеченный экспрессией, а следовательно, оценочностью, предполагает определенную структуру лексико-грамматических средств и подтверждает характеристику языка Т.Толстой, данную ей Н.Фатеевой: проза Т.Толстой – это тип прозы интеллектуальной, которая проявляется в 1) жанрово-композиционных особенностях рассказов, 2) временной перспективе, 3) авторской концептуализации. Все произведения писателя объединяет острая сатирико-драматическая направленность, Язык Т.Толстой – язык бичующий, разящий, иногда уничтожающий, но в любом случае – обнажающий пороки человеческого общества.

Коммуникативное пространство Т.Толстой – это структурно-текстовые функции видо-временных форм, устанавливающих глубинные связи между событиями, их повествовательно-описательная функция, т. е. способность участвовать в передаче точки зрения. Основная временная форма рассказов – настоящее длительное актуальное, диапазон которого не заключен в определенные хронологические рамки и не ограничен событиями речевой ситуации – поэтому его можно проецировать на композиционно-стилистические особенности всех рассказов.

Оппозиция прошедшее результативное / настоящее актуальное как привативная бинарная оппозиция между реальным временем, художественным и перцептуальным выступает основой текстообразования, т. е. композиционно структурирует рассказы и устанавливает функционально-семантическую зависимость лексико-грамматических единиц, стирая границы между реальным и возможным. Контаминация перфекта и презенса как выражение противоборства прошлого и настоящего становится экспрессивным элементом текста – той реляционной структурой, которая определяет различного рода отношения: отношения эмоционального контраста, тождества, сравнения. Наконец, временная оппозиция – это и концептуальный метатроп, отражающий позицию автора как резко отрицательную, например: Малевич ***расположил*** *«Квадрат» в углу, под потолком – там и так, как принято вешать икону. ... этот важнейший, сакральный угол* ***называется «красным»;*** *Толстой* ***попытался*** *заснуть –* ***рвется*** *что-то и* ***не разрывается****;* (Малевич) ***попытался вернуться*** *к фигуративному искусству; и эти вещи* ***выглядят*** *так страшно* («Квадрат»); *Читатель и глотатель прессы* ***расположен*** *посредине, он нормален, каждодневен, безлик, он* ***не роется*** *ни в помойном бачке, ни в бутике. Но это он* ***платит*** *за сказки: ежедневно – по рублю за помоечно-криминальный мусорок, ежемесячно – …за слепящую, сахарную, благоухающую роскошь. Сегодня, похоже, время…*

***остановилось**.., все **ушли** на иные фронты. Гламурная пыльца **осыпается*** («Я планов наших люблю гламурьё») и др.

Так, в рассказе «Квадрат», посвященном известной картине Казимира Малевича, Толстая в ироничной форме говорит о «достоинствах» этого произведения искусства: это *самая знаменитая, самая загадочная, самая пугающая картина на свете, теоретическое достижение, «икона нашего времени»* и т.д. Поставленные в фокус противопоставления со словосочетаниями *вечная тьма, мерзость запустения, зловещее полотно, абсолютная форма, конец искусства*, они становятся логико-стилистической доминантой рассказа и устанавливают интегральные отношения со структурными частями всего текста. Временная перспектива рассказа характеризуется многомерностью, т. к. развивается несколько линий повествования, но для упорядочения событий используется одна точка отсчета – появление «Квадрата». С одной стороны, Т. Толстая четко противопоставляет время «доквадратного» периода и «послеквадратного», с другой – сравнивает «арзамасский ужас» Л.Толстого и результат, к которому пришел Малевич в конце своей жизни: *когда ты достигаешь вершины, то дальше – путь только вниз, но ужас в том, что на вершине – ничего нет*. Временная оппозиция перфект / презенс как указание на результат в настоящем способствует экспрессивности формы настоящего как основы времени эмотивного. Его семантический потенциал – участие в описательной форме изложения, качественная характеристика субъекта, передача «застывшего» времени, интенсификация процессности действия. Композиционно-стилистический потенциал презенса – создание дополнительных экспрессивно-эмоциональных значений.

В рассказе «Засужу, замучаю, как Пол Пот – Кампучию» автор в ироничной форме сравнивает «проблемы» американского общества и русского, точнее особенности взаимоотношения людей, доходящие до судебных разбирательств. Рассказ состоит из 2-х абзацев – и это уже концептуальный метатроп: интенсификация действия, нерасчлененный временной поток способствуют экспрессии повествования. 1-й абзац – описание «нравов» американцев, у которых *сума и тюрьма – неизбежные элементы американской демократии.* 2-й – сопоставление реальной действительности американского общества с литературой, в частности с романтическим произведением Гёте «Лесной Царь». Автор интерпретирует содержание поэмы в свете современных американских реалий: *Случись то в Америке, ездок бы в ту же минуту, потирая руки, прямоходом – к адвокату, составлять телегу на Лесного Царя.* Форма будущего условного как выражение ирреального действия создает основу для настоящего в будущем, т. е. между художественным и грамматическим временем складывается определенная иерархия: с одной стороны, видо-временные формы, участвующие в создании художественного времени, обусловливают их многозначность, устанавливая соотнесенность событий, с другой – создают особую форму познания мира, сочетая в себе особенности реального, перцептуального и индивидуального времени. Переход от реального наклонения к формам ирреального как связь настоящего с будущим или прошедшим создает двуплановость повествования, раздвигая не только временные

рамки изображения, но и пространственные: *Случись то в Америке.., Лесной Царь немедленно подал бы встречный иск; органы социальной опеки могли бы заинтересоваться; автоинспекция проверила бы коня на выхлоп и наличие ремней безопасности; отец таскался бы по судам; его наперебой звали бы на ток-шоу; кончилось бы все хорошо; все-все обогатились бы… и ездок женился бы на молоденькой, что создало бы новый виток судебных процессов: старая жена подает в суд, претендует, обвиняет, пишет книгу, получает поддержку, теряет поддержку, делает подтяжку лица, засуживает врача* и т.д

Функциональная нагруженность видо-временной оппозиции становится средством актуализации смысла, создает социально-драматическое звучание. Семантическая подвижность сопоставлений вызывает у читателя ряд ассоциаций: если судебные разбирательства в Америке – извращенная, гипертрофированная норма демократии, то в России – *ни совести, ни справедливости, ни честного, демократического судопроизводства.*

Изобразительный синтаксис Т.Толстой – это перечислительные ряды однородных структур, эллипсис, контаминация разностилевых единиц (*плюнуть, махнуть рукой, око за око, узкопленочное большинство* (корейцы), *хоп-цоп – и муж в тюрьме, напозволять радостей* и др.), и даже грубо просторечных, рождает определенный речевой смысл: *руку протяни, обернись – рай достижим, самое простое, правильное, детское и честное* ***в нас*** («Вкус ворованных яблок»). Экспрессия лексико-синтаксических форм, достигающая эмоционального напряжения к середине рассказов, к концу постепенно спадает. Настоящее постоянное как коммуникативное пространство приобретает острую психологическую значимость и глубокий подтекст – безысходность: пока человек не научится мыслить, пока его будут прельщать даровыми благами (*за утюгом, за миксером, за кофемолкой* ***спускаются*** *семьи с гор, из заснеженных аулов..,* ***штурмуют*** *поезда… В Москву!.. к колесу! Там их оплюют, обхамят, зато им достанется целый телевизор!* («Человек!.. Выведи меня отсюда»), он есть *нравственный слепец,* ***теряющий*** *остатки достоинства при встрече с дармовым электроприбором..,* ***он раб колеса***.

Названия рассказов Т.Толстой можно рассматривать как свернутую пропозицию: «Засужу, замучаю, как Пол Пот – Кампучию», «Биде черный с Вольтером», «Дедушка-дедушка, отчего у тебя такие большие статуи?», «Ползёт!», «Ложка для картоф.» и др. Таким образом, экспрессия грамматики Т.Толстой – это прежде всего оппозиция видо-временных форм, способствующая движению смысла.

**К.М.Куршук (Гродна, ГрДУ)**

## БЕЛАРУСКА-АНГЛІЙСКІЯ АДПАВЕДНІКІ АСАБОВЫХ НАЗОЎНІКАЎ-НАВАТВОРАЎ

Вывучэнне і супастаўленне новай лексікі і ўвогуле асаблівасцей працэсу словатворчасці розных моў выклікае вялікую цікавасць і з’яўляецца актуальнай лінгвістычнай праблемай.

Супастаўляльны аналіз лексічных адзінак розных моў звычайна праводзіцца на матэрыяле зафіксаванай лексікі, якая ўваходзіць у акадэмічныя агульныя або галіновыя слоўнікі. Матэрыял нашага даследавання – наватворы, якія, як вядома, не сустракаюцца ў тлумачальных і перакладных слоўніках. Іх можна знайсці толькі ў спецыяльных слоўніках новай лексікі, такіх, як *The Oxford Dictionary of New Words або Fifty Years Among the New Words by John Algeo*. У беларускай лінгвістыцы такія слоўнікі, на жаль, увогуле адсутнічаюць. Аднак гэта не сведчыць пра неактыўнасць працэсу словатворчасці ў межах беларускай мовы. Новыя лексічныя адзінкі з’яўляюцца і фіксуюцца асобнымі даследчыкамі ў перыядычных выданнях і даведніках.

Новыя словы могуць узнікаць пры наступных умовах: калі з’яўляецца новае паняцце і калі існуючае слова выціскаецца новым найменнем [1, с. 69]. Для англійскай мовы больш характэрны першы варыянт, і таму англійскія наватворы звычайна не маюць эквівалентаў у беларускай мове. Яны запазычваюцца або перакладаюцца апісальным спосабам. Многія новыя словы, якія прыйшлі з англійскай мовы, маюць у сваім складзе асабовы суфікс *-іст (-ist)*, які ўласцівы англійскім назоўнікам са значэннем дзейнай асобы: *цэнтрыст, біхевіярыст, канфарміст, футурыст, манетарыст, апартуніст*. Аднак большасць даследаваных намі англійскіх асабовых наватвораў не маюць беларускіх эквівалентаў, бо абазначаюць новае паняцце, неўласцівае беларускай рэчаіснасці. Так, *comper* – гэта ‘чалавек, які рэгулярна ўдзельнічае ў разнастайных рэкламных конкурсах і спаборніцтвах з мэтай атрымання як мага большай колькасці прызоў і падарункаў’. Неабходнасць стварэння гэтага наймення ўзнікла ў многіх англамоўных краінах у сувязі з пашырэннем рэкламных і прамацыйных акцый і, адпаведна, павелічэннем колькасці іх удзельнікаў.

Сярод беларускіх асабовых наватвораў пераважаюць не словы, якія абазначаюць новае паняцце, а новыя найменні – дублеты нарматыўных лексем. Зазначым, што каля 80% беларускіх дзеясловаў-наватвораў таксама належаць да патэнцыяльнай лексікі і толькі 20% з'яўляюцца ўласна наватворамі, сярод якіх, між іншым, шмат запазычанняў і калькаў [2, с. 15].

Наяўнасць у мове значнай колькасці лексічных дублетаў можна патлумачыць імкненнем носьбітаў выкарыстоўваць варыянты, якія гучаць найбольш натуральна і адпавядаюць законам беларускай мовы. Калі раней існаваў толькі адзін рэкамендаваны варыянт – *засядацель*, то ў наш час актыўна пачалі выкарыстоўвацца *засядальнік* і *засядач*. Гэтым абумоўлена існаванне ў сучаснай беларускай мове вялікай колькасці патэнцыяльных слоў. Мы ўключаем іх у групу наватвораў і вывучаем нараўне з іншымі новымі словамі.

Каля 90% даследаваных намі беларускіх асабовых наватвораў маюць у сваім складзе суфікс, гэта значыць утвораны суфіксальным, прэфіксальна-суфіксальным ці складана-суфіксальным спосабам.

Колькасны аналіз, праведзены на фактычным матэрыяле з 426 асабовых наватвораў, паказвае, што 23% беларускіх суфіксальных асабовых назоўнікаў не маюць суфіксальных адпаведнікаў у англійскай мове. Ім адпавядаюць бессуфіксальныя назоўнікі (*пацярпелец – victim, чалец – fellow, водца – guide, дасціпнік – wag*), бівер态 (*братаннік – blood brother, марозіўнік – ice-cream vendor, выступоўца – public speaker, сямейца – family man*) і фразавыя найменні (*сямнастка – a girl of seventeen*). Яшчэ 11% беларускіх наватвораў – безэквівалентныя: *маёвачнік, вечароўнік, хаванец, дбайца, застольнік, панічык, месціч, спадабанка*. Адсутнасць у адной з моў пэўных паняццяў тлумачыцца тым, што ў аб'ектыўнай рэчаіснасці прадметы, з'явы маюць шэраг прымет і якасцей. Розныя мовы на гэтай аснове па-рознаму класіфікуюць прадметы і з'явы, вылучаюць іх розныя бакі і якасці [3, с. 61]. Зразумела, што перакласці такія словы можна: *спадабанка – a beloved girl*, *месціч – one who lives in a borough or a small town,* аднак знайсці аднаслоўныя адпаведнікі амаль немагчыма.

Звернем увагу на беларуска-англійскія суфіксальныя адпаведнікі. Беларуская мова мае багаты арсенал суфіксальных фармантаў. Мы вылучылі 44 агентыўныя суфіксы, у тым ліку 10 суфіксаў, якія ўтвараюць жаночыя асабовыя найменні. Традыцыйна самы пашыраны агентыўны суфікс *-нік*. У 55% выпадкаў яму адпавядае англійскі фармант *-er*. Абодва суфіксы могуць утвараць дэрываты ад дзеясловаў і назоўнікаў, а ў некаторых выпадках ад прыметнікаў і лічэбнікаў. Большасць асабовых наватвораў з суфіксам *-нік* у беларускай мове і *-er* у англійскай мове аддзеяслоўныя і абазначаюць асобу, якая выконвае дзеянне, названае утваральным словам: *даследнік (даследаваць + -нік) – researcher (to research + -er)*. У некаторых выпадках аддзеяслоўныя агентывы маюць у сваім складзе інтэрфікс *-ль-*, які з'яўляецца часткай словаўтваральнага фарманта *-льнік*. Гэтаму фарманту таксама ў большасці выпадкаў адпавядае англійскі *-er*: *натхняльнік – inspirer, транспартавальнік – shipper*.

Другі па прадукцыйнасці суфікс *-ец (-эц)*. Ён сустракаецца ў 74 суфіксальных наватворах (26%). У англійскай мове яму адпавядаюць *-er (53%), -ant (11%), -or (9%)*: *атрадавец – trooper, уліковец – accountant, невяртанец – defector*. Суфікс *-ец* актыўны пры ўтварэнні назваў асобы ад найменняў паселішчаў (адкуль родам чалавек, дзе ён жыве): *Бярэсце > бе́расцец, Гародня > гарадзенец, Лагойск > лагоец, Магілёў > магілёвец, Наваградак > нава́градзец*. Гэтыя найменні пачалі выкарыстоўвацца падчас беларускага адраджэння замест назоўнікаў з суфіксам *-чанін (магіляўчанін)*. Да групы назваў асобы паводле тэрытарыяльнай прыкметы можна таксама аднесці наватворы *лідчук, мінчук, пінчук*. У англійскай мове назвы асобы паводле прыналежнасці да населенага пункта ўтвараюцца з дапамогай суфіксаў *-er, -ese, -(i)an, -i, -ine, -al* [3, с. 87]. Звычайна суфіксальным спосабам утвараюцца найменні жыхароў сусветна вядомых гарадоў. Яна з'яўляюцца універбамі ў абедзвюх мовах: *Milan → Milanese, Мілан →*

*міланец, Paris → Parisian, Парыж → парыжанін* [3, с. 88]. Назвы такіх беларускіх гарадоў, як Лагойск, Ліда, Пінск, перадаюцца ў англійскай мове бівербамі: *лагоец – the inhabitant of Lagoisk, пінчук – the inhabitant of Pinsk*.

У апошняе дзесяцігоддзе назіраецца актывізацыя выкарыстання ў маўленні, у перыядычным друку і на беларускамоўных форумах у Інтэрнэце суфікса *-ц-а*. Гэты праславянскі фармант быў вельмі прадукцыйны пры словаўтварэнні назоўнікаў яшчэ ў XIX стагоддзі [4, с. 25]. Ён лічыцца найбольш характэрным і ўласцівым для асабовых назоўнікаў, бо утварае толькі найменні асобы. Іншыя ж асабовыя суфіксы, напрыклад *-ец*, *-нік* могуць утвараць найменні і з прадметным значэннем. Суфіксальны фармант *-ц-а* ўжыты ў 47 асабовых наватворах (17%). Абсалютная іх большасць (каля 90%) маюць англійскія адпаведнікі з агентыўнымі суфіксамі *-er*, *-or*: *вандроўца – traveler, ахоўца – protector, змоўца – conspirator, перамоўца – negotiator, прадаўца – traitor*. Асабовыя назоўнікі з фармантам *-or* найчасцей належаць да юрыдычнай і палітычнай лексікі [5, с. 45].

Што да асабовых найменняў жаночага роду, то яны не маюць суфіксальных адпаведнікаў у англійскай мове акрамя суфікса *-ess*, які сустрэўся толькі ў 7 выпадках. Астатнія англійскія жаночыя найменні супольныя з агентывамі мужчынскага роду: *бягун – runner, бягунка – runner*. У англійскай мове ўзнікае своеасаблівая неадпаведнасць паміж семантычным родам і сродкамі яго выражэння [6, с. 100].

Параўнальны аналіз беларускіх асабовых наватвораў і іх англійскіх адпаведнікаў паказаў, што набор агентыўных суфіксальных фармантаў у беларускай мове багацейшы: 44 беларускія суфіксы і 18 англійскіх. У складзе беларуска-англійскіх адпаведнікаў найчасцей сустракаюцца: *-er* (59%), *-or* (17%), *-ant* (6%), *-ian* (2%), *-ist* (2%). Доля ўсіх астатніх суфіксаў, сярод якіх *-ar, -ee, -ent, -on, -ion, -ie, -ess*, суфіксоід *-man* складае 14%. Самыя прадукцыйныя агентыўныя суфіксы ў беларускай мове: *-нік, -ец*, *-ц-а*, у англійскай – *-er, -or*. Пры гэтым беларускія назоўнікі на *-нік, -ец, -ц-а* звычайна маюць англійскія адпаведнікі на *-er, -or*. Зазначым, што ўсе высновы і колькасныя дадзеныя адносна суфіксальных дачыненняў паміж беларускай і англійскай мовамі датычацца толькі абмежаванай групы беларускіх асабовых назоўнікаў-наватвораў і іх адпаведнікаў у англійскай мове.

***Літаратура***

1. Скуратов, И.В. Типологическая характеристика неологизмов в современном разговорном и деловом французском языке: лингвистический и социолингвистический аспекты: монография / И.В.Скуратов. – М.: МГОУ, 2006. – 273 с.

2. Barковіч, А.А. Лексічны патэнцыял беларускай мовы ў кантэксце корпуснай лінгвістыкі (на матэрыяле новай дзеяслоўнай лексікі): аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / А.А.Барковіч; БДУ. – Мінск, 2008. – 22 с.

3. Мачалава, А.А. Структурна-семантычная характарыстыка найменняў асобы паводле прафесійнай і тэрытарыяльнай прымет у беларускай і англійскай мовах: дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01; 10.02.20 / А.А.Мачалава. – Мінск, 2008. – 157 л.

4. Сцяцко, П.У. Культура мовы / П.У.Сцяцко. – Мінск: Тэхналогія, 2002. – 444 с.

5. Каращук, П.М. Словообразование английского языка / П.М.Каращук. – М.: Высш. школа, 1977. – 303 с.

6. Нехай, О.А. Сравнительная типология английского и белорусского языков / О.А.Нехай, Т.В.Поплавская. – Минск: Выш. шк., 1983. – 173 с.

**Н.П.Лобань (Мінск, БДПУ)**

## НАЗОЎНІКІ З УЗУАЛЬНЫМ КАНАТАЦЫЙНЫМ ЗНАЧЭННЕМ (на матэрыяле мастацкіх твораў)

Культура стварэння мастацкіх вобразаў у творах беларускіх пісьменнікаў звязана з выкарыстаннем шматлікіх слоў-ацэнак, на якія багата жывая народная мова. Асаблівую выразнасць і мастацкую выяўленчасць яны набываюць тады, калі ўжываюцца для характарыстыкі чалавека (літаратурнага персанажа). З ліку такіх адзінак вылучаецца вялікая група канатацыйных найменняў асобы з агульнай семай *'чалавек'*, якая падзяляецца на наступныя падгрупы: 1) назоўнікі з уласна канатацыйным значэннем, 2) назоўнікі з фармальна выражаным канатацыйным значэннем, 3) назоўнікі з пераносным канатацыйным значэннем.

1. Назоўнікі з уласна канатацыйным значэннем. Словы першай падгрупы характарызуюцца генетычна ўласцівай і ўстойлівай канатацыяй, якая не страчваецца і па-за кантэкстам. Большая частка слоў першай падгрупы ўзнікла паводле словаўтваральных мадэляў з дапамогай адпаведных фармантаў – суфіксаў -к-а (-к-о), -ак (-як), -ак-а (-як-а), -ек-а (-эк-а), -ік (-ык), -нік, -ук (-юк), -ух (-юх), -ун, -ань (-ень), -ец (-эц), -іц-а (-ыц-а), -ач, -ачк-а, -ар (-яр), -ёр, -аль, -ель, -уль, -ыль і інш., якія ўзмацняюць ацэначнасць, заключаную ў самім рэчыўным значэнні лексічнай адзінкі. Тут вылучаюцца, напрыклад, наступныя ЛСГ назоўнікаў, што характарызуюць чалавека паводле: фізічнай сілы: *мацак, лабан, грукач, граміла, вярзіла, слабак, дохлік, заморак, зломак, нездаляка*; камплекцыі, целаскладу: *худзізна, сухарляка, загладуха, каржак, таўсцяк, сухарэбрыца, дзябёліна*; узросту: *піскля, галапуз, карапуз, падуроста, падшывалец, малакасос, перастарак*; росту: *бамбіза, дыёміна, недаростак, карантыш*; інтэлектуальных якасцей: *мудрэц, разумец, абэлтух, надаўбень, прастак, абармот*; адносін да працы: *руплівец, старэнніца, працавень, рабацяга, паваляка, неўставака, няўдака, пустадомак, пэцкаль, туляка, папіхач*; матэрыяльнага становішча: *міраед, куркуль, лапцюжнік, абшарпанец, рэпанка, жабрачка, багатырка*; маральна-этычных якасцей: *часняга, абдзірач, прайдоха, крутасвет, урвіцель, хвастакрут, шэльма, махляр*; манеры гаварыць: *балбатун, лапатуха, брахун, гугніла, вярза, прастарэка, пустамол* і інш.

Асобную ЛСГ складаюць назоўнікі - назвы частак цела чалавека: *трыбух* – жывот*, капылы* – ногі, *патлы, кудлы* – валасы, *зяпа, пашча* – рот, *зекры, бізюкі* – вочы, *башка, галаўня, мазгавешка* – галава, *морда, рожа, мыза, мурло, храпа, рыла* - твар і інш.

2. Назоўнікі з фармальна выражаным канатацыйным значэннем. Да другой падгрупы адносяцца словы, канатацыйная значнасць якіх акрэсліваецца суфіксамі эмацыйнай ацэнкі: -ік (-ык), -чык, -ок (-ёк), -ёнак, -ічк (-ычк), -ок (-ёк), -ёнак, -ачк-а (-ічк-а, ечк-а), -ічак (-

ічок), -ачак (-очак, -ечак), -ул-я (-ульк-а, -уленьк-а, -улечк-а, -уленцыя) і інш. Вызначаюцца наступныя суфіксальныя ўтварэнні: 1) формы з ласкальным або зневажальным значэннем: *сынок, бабулечка, зяцёк, начальнічак, бабуленцыя*; 2) формы з памяншальна-ласкальным або памяншальна-зневажальным значэннем: *дзядок, мужычок, папок, чалавечак*; 3) формы са значэннем іроніі, насмешкі: *гаспадарык, паэцік, архітэктарышка*; 4) формы з павелічальна-зневажальным значэннем: *п'янтос, п'янчуга, кацюга, зладзюга* і інш.

3. Назоўнікі з пераносным канатацыйным значэннем. У склад трэцяй падгрупы ўваходзяць словы, эмацыйнасць, ацэначнасць якіх абумоўліваецца вобразным, фігуральным ужываннем. Іх канатацыйныя значэнні звычайна адлюстроўваюцца ў слоўніках пры характарыстыцы сэнсавай структуры лексічнай адзінкі, а самі словы шырока бытуюць у маўленні. Метафарычныя значэнні назоўнікаў узнікаюць на базе назваў: жывёл (дзікіх і свойскіх): *мядзведзь, ліса, слон, сабака, бугай, свіння, парася;* птушак (дзікіх і свойскіх): *верабей, качка, арол, сакол, варона, певень, удод*; насякомых і земнаводных: *жук, труцень, смоўж, вуж, змей, гадзюка*; рыб: *акула, маляўка*; раслін і іх частак: *дуб, націна, калода, ламачына*; казачных, міфічных істот: *фея, каралева, прынцэса, бог, багіня*; карт і фігур у шахматнай гульні: *туз, пешка*; сельскагаспадарчых прадметаў і прадметаў хатняга ўжытку: *мянташка, малатарня, балабон, таўкач, завала, заткала, торба, ануча*; частак цела чалавека: *галава, барада*; хвароб: *халера, чума, язва*; назваў іншай тэматыкі: *шкарпэтка, смала, шышка, кат, ваяка* і інш.

Асобна вылучаецца група назоўнікаў – эмацыйных зваротаў да чалавека, т.зв. заамарфізмаў: *саколік, каток, галубок, рыбка, зайчык, ластаўка* і г.д., дзе важную ролю адыгрывае перш за ўсё ацэнка эстэтычнага характару.

Адзначым некалькі ЛСГ назоўнікаў, якія характарызуюць чалавека паводле: узросту: *маляўка, птушаня, жаўтароцік, зялёнка, зялепуха, шчанюк, смаркач*; целаскладу, камплекцыі: *бандура, торба, верабей, ламачына*; фізічнай сілы, здароўя: *бугай, мядзведзь, дуб, націна;* прыгажосці: *фея, каралева, царыца, багіня;* адносін да працы: *труцень, завала, заткала, калода;* разумовых якасцей: *булава, таўкач, тумак, калун, цемната, галава;* грамадска-сацыяльнай значнасці, прыналежнасці: *туз, шышка, пешка, бог, цар;* унутраных якасцей, якасцей характару: *ануча, шкарпэтка, язва, звер, жук, ліс* і інш.

Як сведчыць фактычны матэрыял, словы з узуальным канатацыйным значэннем – адзін з самых яркіх, моцных сродкаў выражэння эмацыйных ацэнак і характарыстык асобы і ў мове і ў мастацкім маўленні.

**М.М.Макарэвіч (Мазыр, МДПУ)**

## МЕТАФАРЫЗАЦЫЯ Ў НАРОДНАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ РЫБАЛОЎНАГА ПРОМЫСЛУ

Метафарызацыя, як адзін з відаў лексіка-семантычнага спосабу словаўтварэння, з даўніх пор цікавіць многіх лінгвістаў. Так, вывучэнню метафары ў літаратурнай мове, тэрміналогіі (розных тэрмінасістэмах) прысвечаны працы В.Ахманавай, В.Краснея,

Л.Кудраўцавай, А.Рэфармацкага, Е.Чаркасавай, Д.Шмялёва і інш. У апошнія гады метафарызацыя была разгледжана на матэрыяле навукова-тэхнічнай, біялагічнай, прыродазнаўчай тэрміналогіі беларускай мовы ў працах Т.Капейко [1], А.Лапкоўскай [2], Л.Мінаковай [3].

Фактычным матэрыялам для нашага аналізу з'явіліся 426 лексем, сярод якіх 43 – метафарызаваныя, што складае 10,1% ад агульнай колькасці адзінак.

Метафарызацыя, як працэс, уяўляе сабой перанос назвы з аднаго прадмета на другі на аснове адзінства іх прымет. Выяўленне агульных прымет, характарыстык магчыма толькі пры супастаўленні, у выніку чаго з шэрага агульных прымет выбіраюцца найбольш істотныя. У далейшым адбываецца фарміраванне новага паняцця ў цесным кантакце з семантыкай агульнаўжывальнага слова. Вынікам усіх названых працэсаў з'яўляецца замацаванне абранай намінацыі за новым паняццем. Пры гэтым старое і новае паняцці аддаляюцца адно ад другога ў плане лексічнага значэння.

Супастаўленне ў народнай тэрміналогіі рыбалоўства адбываецца паводле адной або некалькіх прымет (інтэгральных характарыстык). Сярод такіх інтэгральных характарыстык вылучаюцца наступныя: колер, асацыяцыі, знешні выгляд, функцыя, форма і месцазнаходжанне.

**1. Колер**: *сінь* – 1. 'Сіні колер', 2. 'Назва некаторых руд, якія маюць сіні колер' (ТСБМ, т. 5, кн.1, с. 139); *сінь* – 'малы шчупак сіняватага колеру'. Е пескозоб, е ерш, е судак, е сінь (ТС, т.5, с. 36).

**2. Асацыяцыі**: *бык$^1$* – 'самец буйной рагатай жывёлы', *бык$^2$* – 'прамежкавая апора маста' (ТСБМ, т. 1, с. 429); *бык* – 'жэрдка, на якую вешаюць рыбалоўныя сеткі для прасушвання'. Былі відаць лоткі, хаты, на цэлы кіламетар расьцягнуліся быкі з развешанымі сеткамі (СГЦРБ, с. 47);

*сапляк* – Разм. 'Саплівае дзіця' (ТСБМ, т. 5, кн.1, с. 56); *сапляк* – 'ёрш'. Соплякі колкія, стадамі ходзяць, выцягнеш, увесь у вазграх (СПЗБ, т. 4, с. 365).

**3. Знешні выгляд**: *гак* – 'востры металічны выступ на чым-небудзь' (ТСБМ, т. 2, с. 14); *гак* – 'востры зубец у васцях'. Выломився гакъ у восцей (СБМН, с. 108);

*дуга* – 1. 'Частка конскай збруі', 2. 'Частка акружнасці' (ТСБМ, т. 2, с. 207); *дуга* – 'паўабруч, да якога прымацоўваецца пярэдні край сеткі ў мярэжы, жаку, саку, наратку' (Баханькоў, с. 220);

*каза* – 'невялікая парнакапытная жвачная жывёліна (свойская і дзікая) сямейства пустарогіх; самка казла' (ТСБМ, т. 2, с. 574); *каза$^1$* – 'невялікая рыба тыпу ўюна, якая жыве ў іле' (назву атрымала з-за двух вырастаў-рожак на ніжняй губе); *каза$^2$* – 'драцяная сетка ў форме чарпака, якая на чатырох ножках устанаўліваецца на носе лодкі для раскладвання агню' (Баханькоў, с. 221);

*шпілька* – 1. 'Прыстасаванне для заколкі валасоў у жаночай прычосцы', 2. 'У шавецкай справе – цвік з падвойнай плешкай'(ТСБМ, т. 5, кн.2, с. 389); *шпілька* – 'прыстасаванне для лоўлі ракаў'. Шпільку з жабай утыкалі ў зямлю, у вадзе, і як прыпаўзуць ракі, тады ён кубар у ваду і пад ніз падстаўляе, і яны, ракі, тады ўваляцца, ад жабы адрываюцца – і ў кубар (СПЗБ, т. 5, с. 496);

*каробка* – 1. ‘Невялікая скрынка з кардону, дрэва, бляхі і пад., звычайна з вечкам’, 2. ‘Футляр якога-небудзь механізма’, 3. ‘Каркас будынка’ (ТСБМ, т. 2, с. 644); *коробка* – ‘круглая рыбалоўная стаўная лавушка на ўюноў’. Коробка кругла, посерэд дзірочка, туды рыба лезе, а одтуль не вулезе (ТС, т.2, с. 219).

**4. Функцыя (дзеянне):** *калючка* – 1. ‘Усякае невялікае колкае вастрыё’ (ТСБМ, т. 2, с. 595); *калючка* – ‘ёрш’. Гэту калючку німа як у рукі ўзяць, коліцца! (СГЦРБ, с. 179);

*піскун* – Разм. ‘Той, хто часта пішчыць’ (ТСБМ, т.4, с. 259); *піскун* – ‘уюн’. Злавілі піскуна, рыба такая, яна, праўда, пішчыць (СПЗБ, т.3, с. 523);

*валакуша* – 1. ‘Прымітыўнае прыстасаванне для перавозкі грузаў канём’, 2. ‘Агульная назва сельгаспрылад для зграбання сена’ (ТСБМ, т. 1, с. 455); *валакуша* – ‘рыбалоўнапя снасць, невялікі невад’. Валакушу ўдваіх цягаюць, а брадзень – утраіх (СПЗБ, т. 1, с. 272);

*сторадж* – 1. ‘Чалавек, які ахоўвае што-небудзь, вартаўнік’, 2. Разм. ‘Прыстасаванне для малака, каб не пабегла’ (ТСБМ, т. 5, кн.1, с. 329); *сторож* – ‘нацягнуты шнурок у рыбалоўнай прыладзе, які сігналізуе аб наяўнасці рыбы’. Сторож дзержыш у руцэ і вон показвае, шо рыба е (ТС, т.5, с. 100).

**5. Форма і месцазнаходжанне:** *вус* – 1. ‘Валасяное покрыва над верхняй губою (у мужчын)’, 2. ‘Шчаціністыя валасы па баках верхняй губы ў некаторых жывёл’ (ТСБМ, т. 1, с. 514); *вус* – ‘цвёрды волас на пярэдняй частцы галавы ў сома’ (Белайчук, с. 228);

*горла* – ‘храстковая трубка, якая змяшчаецца ў пярэдняй частцы шыі’ (ТСБМ, т. 2, с. 71); *горла* – ‘лейкападобная сетачка, якая ўшываецца звужаным канцом унутр мярэжы, жака, як уваход для рыбы’ (Баханькоў, с. 220).

Аналіз адпаведнай навуковай тэрміналогіі сведчыць, што ў ёй не выкарыстоўваецца разгледжаны від семантычнай дэрывацыі. Гэта абумоўлена адсутнасцю ў навуковай тэрміналогіі полінайменных радоў, што адпавядае аднаму з асноўных патрабаванняў, прад’яўляемых да навуковых тэрмінаў – адсутнасці сінонімаў (1 паняцце = 1 лексема).

Такім чынам, метафарычныя адзінкі народнай тэрміналогіі рыбалоўства не ўвайшлі ў адпаведную навуковую тэрміналогію па прычыне наяўнасці ў першай найбольш ужывальных, стылістычна нейтральных эквівалентаў з шырокім семантычным аб’ёмам азначаемага паняцця.

***Умоўныя абазначэнні***

Баханькоў – Баханькоў, А. З рыбалоўнай лексікі Полаччыны / А.Баханькоў // З народнага слоўніка / рэд А.А.Крывіцкі, Ю.Ф.Мацкевіч. – Мінск, 1975. – С. 218 – 225.

Белайчук – Белайчук, Т. З лексікі нараўлянскіх рыбакоў / Т.Белайчук // З народнага слоўніка / рэд А.А.Крывіцкі, Ю.Ф.Мацкевіч. – Мінск, 1975. – С. 226 – 230.

Каспяровіч – Каспяровіч, М.І. Віцебскі краёвы слоўнік / М.І.Каспяровіч. – Віцебск: Выд-ва Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства, 1927. – 56 с.

СБМН – Насовіч, І.І. Слоўнік беларускай мовы / І.І.Насовіч. – Мінск: БелСЭ, 1983. – 756 с.

СПЗБ – Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979 – 1986. – Т. 1 – 5.

СГЦРБ – Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі: у 2 т. – Мінск: Універсітэцкае, 1990. – Т. 1. – 287 с.

ТС – Тураўскі слоўнік: у 5 т. / рэдкал.: А.А.Крывіцкі [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982 – 1987.

***Літаратура***

1. Капейко, Т.В. Лексіка-семантычны спосаб тэрмінаўтварэння: манаграфія / Т.В.Капейко. – Магілёў: МДУ, 2007. – 148 с.
2. Лапкоўская, А.М. Сучасная беларуская батанічная тэрміналогія: манаграфія / А.М.Лапкоўская. – Гродна: ГрДУ. – 166 с.
3. Мінакова, Л.М. Беларуская навукова-тэхнічная тэрміналогія: фарміраванне, функцыянаванне, развіццё: манаграфія / Л.М.Мінакова, С.М.Аніськова, А.А.Станкевіч. – Гомель: ГДУ, 2004. – 146 с.

**А.А.Мачалава (Гродна, ГрДУ)**

## ДА ПЫТАННЯ АБ СІНХРАНІЧНА-ДЫЯХРАНІЧНАЙ АБУМОЎЛЕНАСЦІ ЛІНГВІСТЫЧНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ

У сучасным мовазнаўстве падкрэсліваецца неабходнасць адрознення сінхранічнага і дыяхранічнага аналізу. Так, размежаванне дыяхранічнага і сінхранічнага аспектаў вывучэння назваў асобы мае прынцыповае значэнне пры разглядзе, напрыклад, адносін матываванасці паміж лексемамі. Разам з тым, трэба адзначыць, што нават у даследаванні, якое традыцыйна лічыцца сінхранічным, прысутнічаюць элементы дыяхранічнага падыходу.

У нашым артыкуле пытанні словаўтварэння назоўнікаў разглядаюцца ў сінхранічным аспекце, праводзіцца параўнанне гэтага працэсу ў беларускай і англійскай мовах, аднак бясспрэчна, што ў шэрагу выпадкаў правесці гэты аналіз немагчыма без уліку дыяхранічнага кампанента.

Вывучэнне суфіксаў толькі ў сінхранічным аспекце не дазваляе стварыць дакладную класіфікацыю суфіксальных марфем: Р.Г.Зяткоўская зазначае, што ў «агульнавядомых спісах суфіксаў адсутнічае значная колькасць марфем, якія не з’яўляюцца ў сучаснай англійскай мове актыўнымі словаўтваральнымі элементамі» [2, с. 4]. Таму для даследавання істотным з’яўляецца вызначэнне ступені ўліку дыяхранічнага кампанента. Дыяхранічны падыход дазваляе трактаваць *-or* як асобную марфему, а не варыянт *-er,* прызначаны для афармлення раманскіх назваў асобы ў сферы палітыкі і права, і ўстанавіць сферы функцыянавання суфікса *-er* і запазычанага з французскай мовы суфікса *-or.*

Відавочна, што сучасная сістэма суфіксаў беларускай мовы з’яўляецца гістарычным набыткам і, як зазначае шэраг даследчыкаў (П.В.Вярхоў, М.А.Паўленка і інш.), асобныя яе элементы належаць да праславянскага перыяду. Некаторыя элементы суфіксальнай сістэмы англійскай мовы таксама старадаўнія, адносяцца да агульнагерманскага перыяду [190, с. 4].

Аднак пры вызначэнні ў назве падзельнасці структуры і наяўнасці суфіксальнай марфемы выкарыстанне фармальна-дыяхранічнага падыходу стварае пэўныя цяжкасці

(напрыклад, пры аналізе марфемнай структуры запазычанняў). Так, І.М.Акулаў зазначае, што ў савецкі перыяд у беларускую мову пранікалі словаўтваральныя мадэлі назоўнікаў з суфіксамі *-цель / -іцель (выхавацель), -чык / -шчык (выкладчык, лічыльшчык), -іст (вакаліст),* а таксама з інтэрнацыянальнымі суфіксамі *-ант / -ент (-янт / -энт) (фабрыкант, рэферэнт), -атар (каланізатар)*, *-ер / -анер (калекцыянер),* аднак на марфемным узроўні нават пры наяўнасці аднакаранёвых слоў (*спорт – спартсмен, бізнес – бізнесмен*) сёння немагчыма гаварыць аб запазычванні пэўных марфем [1, с. 15].

Мы лічым, што было б неапраўданым адмаўляць наяўнасць суфіксоіда (суфікса) у лексемах *спартсмен, impressionist* пры наяўнасці аднакаранёвага *спорт, impression* толькі на падставе таго, што гэтыя словы запазычваліся ў мову асобна. У нашым даследаванні наяўнасць аднакаранёвых слоў і значная колькасць лексічных адзінак з аднолькавым структурным элементам лічыцца дастатковым для вылучэння ў назвах тыпу *спартсмен* суфіксоіднага элемента *-мен (-смен).*

Сінхранічны падыход з'яўляецца прыярытэтным пры аналізе суаднесенасці назвы асобы з матывавальным словам, структуры і матываванасці / нематываванасці запазычанняў сярод назваў асобы паводле прафесійнай і тэрытарыяльнай прымет.

Па розных меркаваннях, каля 70% лексікі англійскай мовы ў дыяхранічным плане з'яўляецца запазычанай, што не абмяжоўвае запазычванне гэтых адзінак у іншыя мовы як уласнаанглійскіх лексем. Так, найменні асобы ў сферы права, запазычаныя англійскай мовай з раманскіх моў, пры пераходзе ў беларускую мову ўспрымаюцца як уласнаанглійскія. Так, А.Мее зазначае, што каля 50% англійскай лексікі – запазычанні лацінскага і раманскага паходжання [4, с. 143]. У выніку гэтага ўзнікаюць пэўныя цяжкасці пры марфалагічным аналізе лексем: «для словаўтваральнай марфалогіі англійскай мовы характэрна наяўнасць вялікай колькасці семантычных гнёзд, якія ўключаюць побач з англійскімі словамі і запазычанні <...> масавы характар запазычанняў прыводзіць да зацямнення марфалагічнай структуры слова. Рэч у тым, што разам з запазычанымі словамі ў англійскую мову праніклі іншамоўныя словаўтваральныя сродкі, якія часам адлюстроўвалі словаўтваральныя формы той мовы, з якой запазычваліся. Таму ў англійскай мове існуе шмат слоў, дзе цяжка праводзіць марфалагічны аналіз» [5, с. 221].

Пры наяўнасці аднакаранёвага слова лексемы лічацца матываванымі нават у тых выпадках, калі яны запазычваліся з іншай мовы раней за гэтае аднакаранёвае слова. Запазычанні, трапляючы ў мову, уступаюць у розныя сувязі з ужо вядомымі словамі, у тым ліку з запазычанымі раней і могуць разглядацца як матываваныя, бо перадаюць значэнне пры ўказанні на іншае, вядомае ў мове аднакаранёвае слова, з'яўляюцца двухмарфемнымі па структуры (фармальна маюць адсылачную частку і фармант), і семантычна з'яўляюцца блізкімі: *дыстрыбутар* і *дыстрыбуцыя.*

Л.М.Шакун заўважыў, што з'яўленне ў агульнаўжывальнай лексіцы запазычаных тэрмінаў не можа не зрабіць уплыву «на члянімасць суадносных з імі слоў, як, скажам, пашырэнне спецыяльнага тэрміна *тралей* (адсюль *тралей**ны***) падмацавала члянімасць слова *тралейбус*» [6, с. 54].

У большасці выпадкаў запазычаныя найменні асобы, якія падлягаюць працэсу ўскладнення структуры ў беларускай мове, былі суфіксальнымі і ў мове-рэцыпіенце. Суфіксы, аднак, вылучаюцца не ва ўсіх запазычаных з англійскай мовы найменнях асобы: беларускія назвы *брокер, дылер* і пад. класіфікуюцца намі як нематываваныя найменні асобы, хаця ў англійскай мове з'яўляюцца суфіксальнымі з фармантам *-er.* Такі падыход дазваляе больш дакладна вызначыць сродкі афармлення беларускіх назваў асобы і прагназаваць магчымасць вылучэння суфіксаў у тых словах, якія сёння лічацца нематываванымі.

Што да суаднесенасці назвы асобы з матывавальным словам, то і тут мы прытрымліваемся выключна сінхранічнага падыходу да з'явы. Як зазначае А.А.Лукашанец, пазбяганне полiматываванасці і фіксацыя асноўных (адзіных) матывацый «уяўляецца больш мэтазгоднай, паколькі такім чынам не толькі ўлічваюцца сучасныя сэнсавыя сувязі, але і паказваюцца патэнцыяльныя магчымасці словаўтваральнай сістэмы сучаснай беларускай мовы з пункту гледжання сінхронных матывацыйных адносін» [3, с. 15].

Такім чынам, пры разглядзе структуры і матываванасці / нематываванасці запазычанняў сярод назваў асобы намі не ўлічваецца дыяхранічны падыход, і пры наяўнасці аднакаранёвага нематываванага слова найменні асобы лічацца матываванымі нават у тых выпадках, калі яны запазычваліся з іншай мовы раней за гэтае аднакаранёвае нематываванае слова.

***Літаратура***

1. Акулаў, І.М. Іншамоўная лексіка ў сучаснай беларускай мове / І.М.Акулаў // Беларуская мова і мовазнаўства: міжвуз. зб. – Мінск, 1974. – Вып. 2. – С. 10 – 15.
2. Зятковская, Р.Г. Суфиксальная система современного английского языка / Р.Г.Зятковская. – М.: Высш. шк., 1971. – 187 с.
3. Лукашанец, А.А. Граматычныя аспекты беларускага словаўтварэння: аўтарэф. дыс. … д-ра філал. навук: 10.02.01 / А.А.Лукашанец; Ін-т мовазнаўства НАН Беларусі. – Мінск, 2001. – 37 с.
4. Мейе, А. Основные особенности германской группы языков / А.Мейе. – М.: Иностр. лит., 1952. – 168 с.
5. Смирницкий, А.И. Лекции по истории языка / А.И.Смирницкий. – М.: Добросвет, 2000. – 235 с.
6. Шакун, Л.М. Словаўтварэнне/ Л.М.Шакун. – Мінск: Выш. шк., 1978. – 127 с.

**Г.М.Мезенка (Віцебск, ВДУ)**

## ДЫНАМІКА УРБАНОНІМАЎ ПОЛАЦКА: КУЛЬТУРНЫЯ ТРАДЫЦЫІ І ІНАВАЦЫІ

У наш час ужо не патрабуе доказаў думка, што ў анамастыцы адлюстроўваецца культура ва ўсіх яе праявах. Кожная культура параджае пэўныя тыпы уласных імён, у тым ліку і імён унутрыгарадскіх аб'ектаў. Змены ў культурным жыцці краіны суправаджаюцца зменай імён. На характар і тып унутрыгарадскіх назваў моцна ўплывае развіццё матэрыяльнай культуры, мноства рукатворных аб'ектаў, створаных чалавекам. У сувязі з

гэтым вывучэнне дынамікі урбанонімаў – найлепшы шлях для выяўлення змен у гістарычным і культурным развіцці народа.

Нягледзячы на тое, што Полацк – адзін з самых старажытных населеных пунктаў нашай краіны, поўны звод назваў яго ўнутрыгарадскіх аб'ектаў да XVI ст. невядомы. Асобныя з іх, напрыклад, *Св.Софья*, ці *Сафійскі сабор*, існавалі яшчэ ў XI ст.

Мэтай даследавання з'яўляецца аналіз дынамікі назваў унутрыгарадскіх аб'ектаў горада, апісанне арганізацыі полацкай урбананімнай сістэмы як захавальніцы гістарычных і культурных традыцый Захаду і Усходу.

Летапісныя сведчанні пра назвы ўнутрыгарадскіх аб'ектаў Полацка XI – XV стст. не вельмі шматлікія. Першыя пісьмовыя сведчанні пра гадонімы знаходзім толькі ў XVI ст. [1]. У «Полацкай рэвізіі 1552 г.» зафіксаваны назвы пяці вуліц і двух завулкаў, якія сведчаць пра тое, што галоўным намінацыйным кірункам палачан XVI ст. было прасторавае вызначэнне «тут размешчана» або «туды вядзе»: *Петровская улица, Ильинская улица, Пятницкая улица, Вознесенский заулок, Ондронов заулокъ* (назвы прыводзяцца ў арфаграфіі крыніцы-арыгінала). Найважнейшымі арыенцірамі, у адрозненне ад нашага часу, з'яўляліся храмы і манастыры. Напрыканцы XVI ст. яго планіровачная структура ўключала *Вышні* і *Ніжні замкі* і шэсць пасадаў: *Вялікі, Запалоцкі, Востраўскі, Якіманскі, Краўцоў, Слабодскі.*

Прыкметнай асаблівасцю падачы назваў лінейных а'ектаў у «Полацкай рэвізіі 1552 г.» з'яўляецца тое, што ў ёй зафіксаваны урбанонімы, утвораныя спосабам першаснай атрыбуцыі геаграфічных апелятываў, у той час як у Гродне, Нясвіжы і іншых беларускіх гарадах гэтага перыяду назвы звычайна мелі форму невялікага урбананімнага апавядання (параўн.: *Ulica z Rynku ku Polu* – Нясвіж; *улица до Несвижа* – Магільная), што можа ускосна сведчыць пра большы ўзрост горада, за час існавання якога сінтаксічныя тапанімныя апавяданні паспелі згарнуцца ва урбананімную сінтагму.

Адрознівае полацкую гаданімную сістэму XVI ст. ад сярэдне- і заходнебеларускай і польскай адсутнасць найменняў вуліц і завулкаў, утвораных ад назваў населеных пунктаў, у бок якіх лінейныя аб'екты вялі. Трэба адзначыць таксама, што гадонімы, звязаныя па сваім паходжанні з царкоўнымі паняццямі, узнікалі ў гэтым горадзе не ў выніку словаўтваральнага акта, а ў выніку трансанімізацыі размоўна-бытавой формы эклезіоніма, напрыклад: афіцыйная форма назвы царквы – *царква Святога Прарока Ільы* – размоўна-бытавая форма – *Ільінская царква* – гадонім *Ільінская вуліца.* Урбанонімы, утвораныя ад эклезіонімаў, праломлена адлюстроўваюць не толькі духоўны стан палачан тых часоў, а і Полацкую школу дойлідства, якая склалася яшчэ ў XII ст. і паўплывала на будаўніцтва ў Гродне, Смаленску, Ноўгарадзе і іншых гарадах.

Пасля велізарнага пажару 1643 г., які прынёс вялікае спусташэнне гораду, вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654 – 1667 гг. [2, с. 238], асабліва ў другой палавіне XVIII ст. назіраецца пэўны заняпад горада.

Значна вырас Полацк толькі ў XIX ст. Назвы вуліцам даваліся па найменні размешчанай на вуліцы царквы, прасторавым вызначэнні (*Спаская вуліца, Ніжне-Пакроўская вуліца, Верхне-Пакроўская вуліца*), па ўласных асаблівасцях і якасцях

абъекта (*Канаўная вуліца*). Новымі ў параўнанні з XVI ст. сталі для горада найменні па нацыянальнай прыналежнасці жыхароў (*Яўрэйская вуліца*), па назве населенага пункта, у бок якога вуліца вяла (*Сіроціцкі завулак*).

XX стагоддзе характарызуецца штучнай намінацыяй унутрыгарадскіх аб'ектаў, пры якой імя пасля свайго ўзнікнення зацвярджаецца адпаведнымі ўладамі або прыдумваецца пэўнай, на тое ўпаўнаважанай камісіяй. Цэнтральны кірунак намінацыйнай палітыкі ў гэты час – пануючая ідэалогія і антрапацэнтрызм. З гэтым стагоддзем звязаны і шмат якія іншыя інавацыі. Таму цікава прасачыць дынаміку ўнутрыгарадскіх назваў стагоддзя, узяўшы для параўнання гаданімікон першай (1930 г.) і другой (1983 г.) яго палавіны.

Даведнікам «Вся Белоруссия» у 1930 г. ў горадзе зафіксавана 49 вуліц. Назвы з геаграфічнымі апелятывамі *завулак, праезд* і іншымі проста не браліся пад увагу. Першае месца (18,4%) сярод іх займаюць назвы вуліц па ўласцівасцях і якасцях самога аб'екта, ландшафтнай характарыстыцы: *Агародная вул., Азёрная вул. Балотная вул., Баравая вул., Вялікая вул., Зялёная вул., Канаўная вул., Крывая вул., Лугавая вул.* У 1983 г. іх працэнтная колькасць знізілася ў 4 разы, пры гэтым у склад названай групы ў другой палавіне стагоддзя ўваходзілі таксама *Вуглавы завул., Паркавая вул., Пясчаная вул., Палявая вул., Ручайная вул., Тупы завул.*

Блізкай да названай (16,3%) была і ўдзельная вага назваў, дадзеных па найменнях аб'ектаў, размешчаных на іх: па цэрквах і манастырах (*Барыса-Глебская вул., Узнясенская вул., Манастырская вул.*); па лячэбных і іншых установах (*Прытулкавая вул.*); па розных службах горада (*Ветраная вул., Чыгуначная вул*); па назвах заводаў і фабрык (*Фабрычная вул*). Амаль у два разы зменшыўся ў 1983 г. працэнт урбанонімаў, утвораных ад назваў населеных пунктаў, у напрамку да якіх вуліцы вялі, *Віцебская вул., Ленінградская вул., Лепельская вул., Мінская вул., Невельская вул., Рыжскі завул.*

Прыблізна аднолькавым у 30-я і 80-я гады быў і працэнтны састаў вуліц, названых па месцазнаходжанні аб'екта: 8,2% у 1930 г. (*Усходняя вул., Задзвінская вул., Заканаўная вул.*), 7,4% у 1983 г. (*Усходняя вул., Паўночная вул., Паўднёвая вул., Прыгарадная вул., Зарэчная вул.*).

Іншы лёс у гадонімаў, звязаных з ідэямі і рэаліямі новага грамадства. Калі ў спісе 1930 г. прыводзіцца толькі адна такая назва (*Савецкая вул.*), то ў 1983 г. іх ужо больш за 7%: *Савецкая вул., Камуністычная вул., Камсамольская вул., Піянерская вул., Пралетарская вул., Кастрычніцкая вул., Дэпутацкая вул., Стаханаўская вул.* і інш. Актыўна на ідэі новай савецкай улады «працавалі» і назвы, дадзеныя ў гонар заснавальнікаў марксізму-ленінізму, паплечнікаў Леніна, колькасць якіх у 1983 г. узрасла больш чым у 8 разоў.

Заслугоўваюць асобнай увагі урбанонімы, якія з'явіліся ў рэчышчы названай інавацыі – замкнёнасці урбананіміі на чалавеку, але ў пэўным сэнсе пазбаўленыя яркай палітызаванасці. Да іх адносяцца назвы вуліц, што носяць імёны пісьменнікаў і дзеячаў навукі і культуры (1930 г. – толькі *Пушкінская вул.;* 1983 г. – *вул. П.Броўкі, Я.Купалы, Я.Коласа, Каліноўскага, Скарыны, Хадкевіча, Пушкіна, Някрасава, Серафімовіча, Фурманава, Тургенева, Чарнышэўскага, Шаўчэнкі, Маякоўскага, Дабралюбава, Грыбаедава, Талстога, Радзішчава, Пярова, Сярова, Галёркіна, Ціміразева,*

*Цыялкоўскага* і інш.); герояў мірнага часу (1930 г. – няма; 1983 г. – *вул. Гагарына, Камарова, Цітова,Чкалава*); рускіх военачальнікаў, герояў паўстанняў і войн – руска-японскай, айчыннай 1812 г., Вялікай Айчыннай (1930 г. – *Сувораўская вул.;* 1983 г. – 93 назвы: *вул. Суворава, Чапаева, Кутузава, Кандраценкі, Фабрыцыуса, Катоўскага, Азіна, Будзёнага, Лазо, Савенкі, Кульнёва, Міронавай, Аляксеева, Баграмяна, Заслонава, З. Партновай, Даватара, Касмадзям'янскай* і інш.). Самымі шматлікімі сярод іх з'яўляюцца назвы ў гонар герояў Вялікай Айчыннай вайны (53), што з'явіліся ў асноўным у 1960-1970-я гг. і звязаны з імёнамі абаронцаў і вызваліцеляў г Полацка. Менавіта ім належыць першае месца ў гаданіміі горада 1983 г. і сучаснай.

На карысць існуючай палітычнай сістэмы, якая ўжо хісталася, скіраваны і назвы ў гонар гістарычных падзей – *вул. 5 Снежня, вул. 8 Сакавіка, вул. 11 Ліпеня.*

Наяўнасць у гаданіміі Полацка, у адрозненне ад гаданіміконаў Польшчы, толькі адной эмацыянальнай назвы (*Сонечная вул.*) сведчыць пра рознанакіраванасць намінацыйнага выкарыстання онімных эмацыянальных азначэнняў. Тое ж можна адзначыць і ў адносінах да інавацыйных фларыстычных назваў, якіх так шмат у кожным польскім і мала (адзінкавыя) у беларускіх гарадах – *Кветкавая вул.* (1983 г.).

Такім чынам, аналіз дынамікі урбанонімаў Полацка прымушае канстатаваць, што палачане, на жаль, не захавалі назвы ўнутрыгарадскіх аб'ектаў XVI – XVIII стст., што не робіць гонару нам, беларусам, і нашым папярэднікам, якія абыякава ставіліся да сваёй культурна-гістарычнай спадчыны. З гэтага пункту погляду нельга не ўхваліць намінацыйных намаганняў жыхароў горада апошніх гадоў, скіраваных на адраджэнне у памяці сучаснікаў самых лепшых сваіх прадстаўнікоў, старонкі мінуўшчыны, пра што гавораць назвы *вуліцы Еўфрасінні Полацкай* і *Стралецкай вуліцы.*

Паступова ўзрастаўшая дынамічнасць жыцця горада, што знайшла адлюстраванне ў сацыяльных, палітычных, эканамічных пераўтварэннях, абумовіла і дынамічнасць урбананіміі.

Назіранні за назвамі вуліц самага старажытнага беларускага горада сведчаць, што полацкая урбананімная сістэма адлюстроўвае як культурныя традыцыі Усходу і Захаду, так і інавацыі, спецыфічныя з'явы, якія ствараюць яе непаўторнае аблічча.

***Літаратура***

1. Полоцкая ревизия 1552 г. – М.: Изд-во Общества истории и древностей российских при Московском университете, 1905.

2. Городские поселения в Российской империи: в 7 т. – СПб., 1860. – Т.1.

**Н.Р.Мордас (Мінск, БДПУ)**

## МОЎНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ПЕРАКЛАДУ ТЭКСТУ СВЯШЧЭННАГА ПІСАННЯ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

Згодна з падлікамі, на сённяшні дзень Біблія застаецца адзінай кнігай, якую часцей за ўсё перакладаюць у свеце. Так, да пачатку 2009 г. яна была поўнасцю перакладзена на

451 мову і часткова на 2479 моў свету. У 2007 г. упершыню тэкст Свяшчэннага Пісання быў перакладзены на сучасную беларускую мову ў форме, прызначанай для выкарыстання пры богаслужэннях. Безумоўна, гэта вельмі актуальна ў цяперашняй духоўнай і моўнай сітуацыі на Беларусі. Пераклад тэкстаў сакральнага характару з іншых моў – даволі складаны працэс, які прадугледжвае не толькі дакладнае веданне лінгвістычных законаў, але і добрае валоданне царкоўнымі паняццямі, неабходнасць знаходжання тэксту і самога перакладчыка на адной духоўнай хвалі. Звычайна асэнсаванне перакладчыкам мастацкага арыгіналу прыводзіць да яго непазбежнай суб'ектыўнай трансфармацыі і як вынік – да праяўлення індывідуальна-творчага пачатку. Менавіта гэтага і немагчыма дапусціць пры перакладзе Свяшчэнных Тэкстаў. Праблема яшчэ і ў тым, што старагрэчаская і царкоўнаславянская мовы, з якіх рабіўся пераклад, вельмі старажытныя – шмат якія лексічныя адзінкі ў розныя гістарычныя перыяды неслі неадэкватную семантычную нагрузку і на цяперашні момант ужо не маюць такога значэння, якое было ім уласціва ў даўнія часы. Гэтыя словы ў асноўным носяць абстрактны характар і ў сучаснай беларускай мове маюць не адзін, а некалькі лексічных эквівалентаў. Таму цікава з пункту погляду менавіта мовы прааналізаваць пераклад аднаго ўрыўка Евангелля з Нагорнага казання Іісуса Хрыста: И ^верзъ qста сво#, qчаше ихъ, гл#: б͠Л жени нищ¿и дuхомъ: «««kw тhхъ есть црс͠Т вие нб͠С ное (Мф. 5, 2 – 3). Стараславянскі прыметнік б͠Л жени ў рускіх варыянтах перакладаецца аналагічным эквівалентам *блаженны*: *И Он, отверзши уста Свои, учил их, говоря: Блаженны нищие духом, ибо их есть Царство Небесное* (Мф. 5, 2 – 3). Тлумачальны слоўнік беларускай мовы падае толькі адно значэнне адпаведнага прыметніка *блажэнны*: дзікаваты, юродзівы (пра некаторых святых) [І, І, с. 108]. Такое значэнне гэтага слова, безумоўна, для перакладу не падыходзіць. Праўда, руска-беларускі слоўнік фіксуе гэтую лексему ўжо як полісемантычную: 1) шчаслівы; 2) прыдуркаваты, блазнаваты; 3) царк. блажэнны [2, І, с. 108]. Стараславянізм б͠Л жени, безумоўна, з'яўляецца дэрыватам назоўніка блажэнства. Калі меркаваць, што гэтая лексема выконвае ролю абсалютнага сіноніма назоўніка *шчасце*, то лагічна для перакладу царкоўнаславянскага прыметніка выкарыстаць слова *шчаслівыя*. На самой жа справе, назоўнікі *блажэнства* і *шчасце* – не дублеты, а семантычныя сінонімы (адрозніваюцца адценнямі значэння). Як сведчаць царкоўнаславянскія лексікаграфічныя крыніцы, *блаженство* **–** не проста шчасце, а такое шчасце, такі ўзнёслы стан чалавека, які не залежыць ні ад выпадковых перамен, ні ад усялякай нясталасці, у адрозненне ад нашага «зямнога», зменлівага шчасця, іншымі словамі – шчасце ў вышэйшай ступені [3, с. 18]. Таму пераклад царкоўнаславянізма б͠Л жени на беларускую мову адпаведным прыметнікам у поўнай форме *блажэнныя* менавіта ў такім значэнні найбольш удалы і правільны: *І, адкрыўшы вусны Свае, Ён вучыў іх, кажучы: блажэнныя ўбогія духам, бо іх ёсць Царства Нябеснае* (Мф. 5, 2 – 3).

Для сувязі галоўнай і даданай часткі складаназалежнага сказа ў Нагорным казанні паслядоўна ўжываецца злучнік «««kw: Б͠Л жени нищ¿и дuхомъ: «««kw тhхъ есть

црс Т̃ вие нб С̃ ное. Б Л̃ жени плачущ¿и: «««kw тiи qтħшатс# (Мф. 5, 3 – 4). У царкоўнаславянскай мове службовае слова «««kw можа выконваць ролю падпарадкавальнага злучніка, пры гэтым мець некалькі значэнняў: тлумачальнае значэнне «што» (звычайна пасля дзеясловаў слышати, видħти, глаголати и г.д.); прычыннае значэнне «таму што», «бо»; значэнне часу «калі» (звычайна знаходзіцца ў першай частцы сказа: и «««kw приближис# ¿исъ ко градu, плакас# w немъ); спалучэнне «««kw да ўжываецца з мэтавым значэннем «каб», «з тым каб»: Совħтъ сотвориша iuдее, «««kw да qбiютъ его. У некаторых выпадках службовае слова «««kw можа выступаць у якасці параўнальнай часціцы: Человħкъ «««kw трава, днiе егw «««kw цвħтъ сельный. Часам выконвае функцыю прыназоўнікаў *а, каля* для абазначэння адносін прыблізнасці: Бħ же час «««kw шестый. Безумоўна, для перакладу на беларускую мову Нагорнага казання найбольш падыходзіць падпарадкавальны злучнік з прычынным значэннем *бо* (рускі эквівалент *ибо*), які і быў выкарыстаны ў беларускім Евангеллі.

Даволі складаным для перакладу на беларускую мову з’яўляецца стараславянскі прыметнік нищ¿и: б Л̃ жени нищ¿и дuхомъ: «««kw тħхъ есть црс Т̃ вие нб С̃ ное (Мф. 5, 3). У рускіх тэкстах Свяшчэннага Пісання даецца аналагічны эквівалент *нищие*: *Блаженны нищие духом, ибо их есть Царство Небесное* (Мф. 5, 3). Беларуская лексічная сістэма такога слова не мае, руска-беларускі слоўнік прапануе для перакладу наступныя варыянты: *(убогий) убогі, (бедный) бедны, (нищенский) жабрачы, жабрацкі* [2, II, с. 250]. На першы погляд, больш прыдатным для перакладу здаецца прыметнік *бедны*, даволі разнастайны ў сваіх значэннях: 1. Які не мае або мае вельмі мала сродкаў на жыццё; незаможны. 2. Аднастайны, мізэрны. 3. Які мае недахоп у чым.-н., змяшчае ў сабе мала чаго-н. (гэтаму значэнню, відаць, і можна аддаць перавагу). 4. Які выклікае спачуванне да сябе; нешчаслівы. 5. Танны, просты, небагаты. [1, I, с. 357]. Калі прыняць пад увагу, што «нищета» – гэта вышэйшая ступень беднасці, то падыходзіць па сваім сэнсе і адносны прыметнік *жабрацкі*. Полісемантычным з’яўляецца і магчымы варыянт *убогі*: 1. Які знаходзіцца ў беднасці, бедны. // Які сведчыць аб беднасці, уласцівы бедняку. 2. Разм. Які мае калецтва, фізічны недахоп. 3. Нязначны (па аб’ёме, колькасці), небагаты. // Недасканалы, прымітыўны. // Пазбаўлены раскошы і ўпрыгожанняў; просты. // Варты жалю. 4. Бедны па зместу. // Абмежаваны духоўна. [1, V, с. 594]. Слоўнік царкоўнаславянскай мовы падае прыметнік *нищий* са значэннем «слабый, немощный, бессильный» [3, с. 133]. Як бачым, менавіта такое значэнне не ўваходзіць у семантычнае поле беларускага прыметніка *бедны*. Для правільнага выбару патрэбнага слова для перакладу неабходна дакладна вызначыць, што азначае выраз *«нищие духом»*, якія гэта людзі? Духоўная літаратура адзначае, што быць *«нищим духом»* – гэта свядома ўяўляць, разумець, што ўсё, што ў цябе ёсць, чым ты валодаеш, атрымана ад Бога, – дар Божы. Сам па сабе чалавек без Божай ласкі – ніхто і нішто. Іншымі словамі, быць *«нищим духом»* – усведамляць сваю грахоўнасць, духоўную абмежаванасць, нават і не абмежаванасць, а

ўбогасць (не беднату!). Такім чынам, на наш погляд, беларускі прыметнік *убогія* найбольш адпавядае царкоўнаславянізму нищ¿и.

Не мае адзназначнага перакладу на беларускую мову і царкоўнаславянскі прыметнік кротцыи: б҇л жени кротцыи: «««kw тіи наслhд#тъ землю (Мф. 5, 5). Рускамоўныя выданні прапануюць шарокаўжывальнае слова *кроткие*: *Блаженны кроткие, ибо они наследуют землю* (Мф. 5, 5). Беларуская мова такой лексічнай адзінкай не валодае, слоўнік жа прапануе некалькі варыянтаў для перакладу: *лагодны, ціхі, рахманы; (смиренный) пакорлівы*. [2, I, с. 690]. І зноў-такі, каб выбраць найбольш правільны варыянт, трэба добра разумець сэнс стараславянізма кротцыи. Пэўна, быць «кротким» – гэта значыць цярпліва пераносіць усе няшчасці, не крыўдзіцца ні на кога і ні на што, быць пакорлівым ва ўсім. У такім выпадку для перакладу больш падыходзіць прыметнік *пакорлівы*. Але духоўная літаратура тлумачыць сэнс «кротости» трошкі інакш: быць мяккім і добрым, не прагнуць славы, ніколі не адказваць злом на зло, быць цвёрда ўпэўненым, што дабро мацнейшае за зло і заўсёды перамагае. Менавіта такі сэнс мае ўжыты ў перакладзе беларускі прыметнік *лагодныя*: *Блажэнныя лагодныя, бо яны ўнаследуюць зямлю* (Мф. 5, 5).

***Літаратура***


1. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. – Мінск,1977 – 1983.
2. Русско-белорусский словарь: в 3 т. – Мінск, 1994.
3. Свирин, А. Церковнославянский словарь / А.Свирин. – М., 2008.


**О.Е.Мочалова, П.И.Поварго (Гродно, ГрГУ)**

## ПРОБЛЕМЫ ОПРЕДЕЛЕНИЯ ПОНЯТИЙ БЕЗЭКВИВАЛЕНТНОЙ ЛЕКСИКИ, РЕАЛИИ, ЛАКУНЫ В ТЕОРИИ ПЕРЕВОДА

Проблема эквивалентности в переводе неоднократно затрагивалась в литературе по переводоведению и специальных исследований, однако, не существует единого взгляда на понятие «безэквивалентной лексики». В большинстве работ по теории перевода под безэквивалентной лексикой чаще всего подразумевается почти исключительно реалии исходного языка

В связи с этим следовало бы определить терминологические рамки понятий «реалия», и «безэквивалентная лексика», тем более, что в переводоведческой литературе они получили достаточно широкое распространение. Термин *реалия* в научной литературе отождествляется с понятием, которое используется в данной работе, а именно – с безэквивалентной лексикой [4, с.55]. Однако объяснение одного термина через другой, содержание которого недостаточно точно определено, способно вызвать дальнейшие трудности. Следовательно, целесообразно было бы разграничить между собой понятия «реалия» и «безэквивалентная лексика». Для этого следует рассмотреть различные определения указанных понятий.

В тех случаях, когда соответствие той или иной лексической единице одного языка в словарном составе другого языка полностью отсутствует, принято говорить о безэквивалентной лексике. Этот термин ввели Е.М.Верещагин и В.Г.Костомаров. Под *безэквивалентной лексикой* они понимают «слова, служащие для выражения понятий, отсутствующие в иной культуре и в ином языке, слова, относящиеся к частным культурным элементам, т.е. к культурным элементам, характерным только для культуры А и отсутствующим в культуре В, а также слова, не имеющие перевода на другой язык, одним словом, не имеют эквивалентов за пределами языка, к которому они принадлежат» [2, с. 53].

При этом отмечается, что характерной чертой безэквивалентных слов является их непереводимость на другие языки с помощью постоянного соответствия, их несоотнесенность с некоторым словом другого языка. Но это не обозначает того, что они совсем непереводимы [2, с. 53].

Само собой разумеется, что возможность правильно передать обозначения вещей, о которых идет речь в подлиннике, и образов, связанных с ними, предполагает знание действительности, изображенной в переводимом произведении. За этими знаниями, как в страноведении, так и в сопоставительном языкознании и теории перевода закрепилось определение «фоновых». *Фоновые знания* – это «совокупность представлений о том, что составляет реальный фон, на котором развертывается картина жизни другой страны, другого народа» [7, с. 146].

Согласно определению О.С.Ахмановой, реалии – это «в классической грамматике разнообразные факторы, изучаемые внешней лингвистикой, такие, как государственное устройство страны, история и культура данного народа, языковые контакты носителей данного языка и т.п. с точки зрения их отражения в данном языке». О.С.Ахманова отмечает, что реалии – это также предметы материальной культуры [1, с. 381].

В.С.Виноградов считает, что имя собственное – всегда реалия. В речи оно называет действительно существующий или выдуманный объект мысли, лицо или место, единственное в своем роде и неповторимое. В каждом таком имени обычно содержится информация о локальной и национальной принадлежности обозначаемого им объекта [3, с. 124].

На наш взгляд наиболее полное определение реалии дают болгарские ученые С.Влахов и С.Флорин: «Реалии – это слова (и словосочетания), называющие объекты, характерные для жизни (быта, культуры, социального и исторического развития) одного народа и чуждые другому, будучи носителями национального и / или исторического колорита, они, как правило, не имеют точных соответствий (эквивалентов) в других языках, и, следовательно, не поддаются переводу на общем основании, требуя особого подхода» [4, с. 55].

По определению Г.Д.Томахина, *реалии* – это «названия присущих только определенным нациям и народам предметов материальной культуры, фактов истории, государственных институтов, имена национальных и фольклорных героев, мифологических существ и т.п.» [6, с. 13].

Кроме понятий безэквивалентной лексики и слов-реалий в научной литературе можно обнаружить попытку описания расхождений в языках и культурах с помощью понятия «лакуны».

Распространение понятия «лакуна» на сопоставление как языков, так и других аспектов культуры, представляется целесообразным и методически оправданным. С одной стороны, такое расширение понятия «лакуна» основывается на положении о тесной связи языка и культуры; с другой – выявление наряду с языковыми лингвокультурологических и культурологических лакун способствует установлению некоторых конкретных форм корреляции языка и культуры.

Лакуны в самом общем их понимании фиксируют то, что есть в одной локальной культуре и чего нет в другой. В этой связи встает вопрос о соотношении специфического и универсального в отдельных культурах.

Согласно подходу, предложенному Ю.А.Сорокиным, лакуны существуют в тексте (главным образом в художественном). Проблему существования лакун в текстах можно интерпретировать с точки зрения несовпадения национально-культурных типов реципиентов текста. Свойственный каждой локальной культуре комплекс знаний в соединении с психическими особенностями и национальным характером носителей той или иной культуры формирует определенный тип реципиента/читателя, на который обычно ориентируется автор художественного произведения. Установление лакун в инокультурном тексте, следовательно, есть выявление того, в чем не совпадают национально-культурные типы реципиентов, принадлежащих двум различным культурам [5, с.32 – 37].

Таким образом, можно придти к выводу, что нет единого определения лексики, имеющей в своем значении культурный компонент. В научной литературе используется для этого разные термины: реалии, фоновая лексика, безэквивалентная лексика, лакуны, фоновая информация.

***Литература***

1. Ахманова, О.С. Словарь лингвистических терминов / О.С.Ахманова. – Москва: Советская энциклопедия, 1966.

2. Верещагин, Е.М. Язык и культура: лингвострановедение в преподавании русского языка как иностранного / Е.М.Верещагин, В.Г.Костомаров. – Москва: Русский язык, 1983.

3. Виноградов, В.С. Лексические вопросы перевода художественной прозы / В.С.Виноградов. – Москва: Издательство Московского университета, 1978.

4. Влахов, С. Непереводимое в переводе / С.Влахов, С.Флорин. – Москва: Международные отношения, 1986.

5. Сорокин, Ю.А. Теория лакун и оптимизация межкультурного общения / Ю.А.Сорокин // Семантика и прагматика текста, 1998.

6. Томахин, Г.Д. Реалии в языке и культуре / Г.Д.Томахин // ИЯШ. – 1997. – №3.

7. Федоров, А.В. Основы общей теории перевода / А.В.Федоров. – Москва: Высш. шк., 1983.

**В.А.Лешык (Баранавічы, БарДУ)**

# РОЛЯ МЕТАФАРЫЗАЦЫІ Ў СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ ЖЫВЁЛАГАДОЎЧАЙ ВЫТВОРЧАСЦІ Ў БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

З развіццём новых галін сельскай гаспадаркі адбываецца бесперапынны працэс узнікнення новых паняццяў, якія ў сваю чаргу патрабуюць для сябе адпаведных назваў. Таму даследаванне спосабаў утварэння сельскагаспадарчых тэрмінаў жывёлагадоўчай вытворчасці з'яўляецца вельмі важнай і неабходнай задачай, вырашэнне якой дапаможа ва ўпарадкаванні і сістэматызацыі акрэсленай навуковай тэрмінасістэмы.

Намінацыя рэалій сельскагаспадарчай тэрміналогіі жывёлагадоўчай вытворчасці ў беларускай мове можа ажыццяўляцца з дапамогай метафарычнага пераносу, сутнасць якога заключаецца ў прысваенні прадметам імені, якое належыць чаму-небудзь іншаму.

Падставай для пераносу з'яўляецца адзіны для ўжо існуючай лексемы і новаўтварэння семантычны кампанент — інтэгральная прымета (ІП), якая і кладзецца ў аснову новай намінацыі, выступаючы пасрэднікам паміж аб'ектам, што перадаецца назвай, і аб'ектам тэрміналагізацыі. Акрамя таго, пры супастаўленні слоў агульнаўжывальнай лексікі і ўтвораных на іх базе тэрмінаў мэтазгодна вылучаць і дыферэнцыяльную прымету (ДП) — семантычны кампанент, які адрознівае тэрмін (Т) ад адпаведнага агульнаўжывальнага слова (АС) [1, с. 122].

Даследчык пераносу па асацыяцыях Д.М.Шмялёў сцвярджае, што «значэнне слова ўстанаўліваецца дэрывацыйнымі (у шырокім сэнсе) і асацыятыўнымі сувязямі: слова знаходзіцца ў пэўных асацыятыўна-дэрывацыйных адносінах з іншымі словамі» [3, с. 225]. У некаторых выпадках значэнні мнагазначных слоў аб'ядноўваюцца на аснове так званых асацыятыўных прымет (АП). АП звычайна не адзначаецца пры тлумачэнні слова ў яго асноўным значэнні. АП не ўдзельнічае ў фарміраванні значэння слова. Яна толькі патэнцыяльна спадарожная слову ў яго асноўным значэнні, пападае пад уплыў свайго роду «крышталізацыі» ў вызначаных кантэкстах «вобразнага» ўжывання слова; калі такое ўжыванне становіцца дастаткова ўстойлівым – у асобным пераносным значэнні [3, с. 227].

Аналіз разгледжаных намі намінатыўных адзінак дазваляе сцвярджаць, што сельскагаспадарчыя тэрміны жывёлагадоўчай вытворчасці, утвораныя ў выніку метафарызацыі, аб'ядноўваюцца ў пяць прадуктыўных мадэлей. У якасці інтэгральных характарыстык, паводле якіх яна адбываецца, выступаюць:

1) **форма (знешняе падабенства):** *бародка* 'выступ у якой-н. прыладзе (ключы, касе, хамуце і пад.)' < *бародка* 'памяншальна-ласкальнае да *барада;* валасяное покрыва ніжняй часткі твару'; *шацёр* 'для сушкі сена' < *шацёр* 'лёгкае пераноснае жыллё з тканіны, скуры і пад., якое будуецца звычайна ў форме конуса'; *каштан* 'пра масць коней: светла-каштанавы, рыжаваты' < *каштан* 'колер'; *шчотка* 'у коней: частка нагі над капытом і пучок валасоў на гэтым месцы (спец.)' < *шчотка* 'прыстасаванне для чысткі, мыцця, змятання чаго-н. у выглядзе плоскай калодачкі з густа насаджаным на яе шчаціннем ці іншым матэрыялам'; *раскол* 'калідор з дошак на пашы для прапускання жывёлы па адной' < *раскол* 'месца, па якім што-н. расколата або раскалолася; трэшчына';

2) **функцыя:** сустракаецца ў тэрміналогіі жывёлагадоўчай вытворчасці і функцыянальны перанос, які адны даследчыкі (У.І.Куліковіч, А.П.Занкавіч, Т.М.Капусціч) разглядаюць як разнавіднасць метафарычнага, а другія (В.П.Красней, Д.М.Шмялёў) — не адносяць да метафары на падставе таго, што метафарычны перанос, на іх думку, можа быць заснаваны толькі на знешнім падабенстве. Мы лічым функцыянальны перанос разнавіднасцю метафарычнага. Такім чынам утварыліся наступныя адзінкі: *бойня* ‘прадпрыемства, дзе забіваюць жывёлу на мяса’ < *бойня* ‘масавае забойства людзей; пабоішча’; *важак* ‘павадыр статка, чарады’ < *важак* ‘кіраўнік, арганізатар’; *гусятніца* ‘работніца, якая даглядае гусей’ < *гусятніца* ‘прадаўгаватая авальная пасудзіна з тоўстымі сценкамі для смажання і тушэння гусей, качак, курэй’; *качачніца* ‘работніца, якая даглядае качак на птушкаферме’ < *качачніца* ‘прадаўгаватая пасудзіна з тоўстымі сценкамі для прыгатавання мяса качкі’; *танк* ‘спецыяльна абсталяваны рэзервуар для захоўвання і транспарціроўкі вадкасцей’ < *танк* ‘баявая браніраваная машына на гусенічным ходу’;

3) **якасць:** *эліта* ‘лепшыя расліны, насенне або жывёлы, якія па сваіх якасцях найбольш прыгодныя для далейшага развядзення’ < *эліта* ‘лепшыя прадстаўнікі грамадства або якой-н. часткі’; *яслі* ‘кармушка для жывёлы ў выглядзе вузкай унізе скрынкі ці рашоткі, нахільна прымацаванай да сцяны’ < *яслі* ‘выхаваўчая ўстанова для самых маленькіх дзяцей, дзе яны знаходзяцца ў час працы бацькоў’. Удзел у тэрмінаўтварэнні прымаюць не толькі словы так званай канкрэтнай лексікі. «Дастаткова актыўныя і лексемы з адцягненай семантыкай, якія ў адрозненні ад канкрэтнай лексікі, класіфікаваць па групах цяжка» [2, с. 41]. Так, у тэрміналогіі жывёлагадоўчай вытворчасці метафарызацыя ажыццяўляецца і ў галіне **абстрактнай лексікі** (словы з адцягненым значэннем якасці, уласцівасці, дзеяння, стану), дзе другаснае значэнне названых тэрмінаў развіваецца на аснове **падабенства па якасці**: *кампактнасць* ‘кампактнасць корпуса жывёліны’ < *кампактнасць* ‘уласцівасць кампактнага; сціснуты шчыльна, без прамежкаў’; *пругкасць* ‘пругкасць шэрсці свойскай жывёлы’ < *пругкасць* ‘якасць і ўласцівасць пругкага; уласцівасць цела ўзнаўляць сваю першапачатковую форму і аб’ём пасля спынення дзеяння на яго якой-небудзь сілы’; *прадукцыйнасць* ‘здольнасць даваць прадукцыю (пра сельскагаспадарчую жывёлу, птушку)’ < *прадукцыйнасць* ‘уласцівасць прадукцыйнага (у 1 знач.); плённы’. Гэтыя намінанты пацвярджаюць, што калі раней лексіка-семантычным спосабам ствараліся ў асноўным прадметныя найменні, то ў сучаснай тэрміналогіі выкарыстоўваюцца і словы адцягненай семантыкі;

4) **месцазнаходжанне:** *адводак* ‘пчаліны рой, які толькі што ўтварыўся і аддзяліўся ад старога’ < *адводак* ‘галінка або частка кораня з вочкамі, пасаджаныя ў зямлю асобна ад мацярынскай расліны’; *вяршок* ‘густы тлусты верхні слой на малацэ, якое адстоялася’ < *вяршок* ‘верхняя частка чаго-н., верх, верхавіна’;

5) **спосаб існавання:** *калода* ‘вулей, зроблены з камля дуплістага дрэва’ < *калода* ‘кароткае тоўстае бервяно’; *ляжак* ‘ляжачы вулей’ < *ляжак* ‘месца для ляжання; ніжняе апорнае ляжачае бервяно зруба’;

У аснове ўзнікнення рада метафарычных пераносаў ляжыць некалькі прымет — **‘форма + выконваемая функцыя’**: *клешчы* ‘драўляная частка хамута, якая складаецца з дзвюх кляшчын’ < *клешчы* ‘металічныя шчыпцы’; *каромысел* ‘барак для запрэжкі’ < *каромысел* ‘драўляная дуга з кручкамі на канцах для нашэння вёдзер з вадой і інш. грузаў’; *пасак* ‘частка збруі — рэмень, працягнуты ад адной аглоблі да другой цераз падсядзёлак’ < *пасак* ‘вузкі доўгі кавалак чаго-н. (тканіны, скуры і пад.); рэмень, шнурок, матуз і пад.’.

Як паказаў аналіз фактычнага матэрыялу, найбольш схільныя да метафарычнага ўтварэння тэрмінаў наступныя тэматычныя групы лексікі жывёлагадоўчай вытворчасці: найменні свойскіх жывёл і птушак, іх уласцівасцей і частак цела; назвы месцаў, памяшканняў; намінацыі прыладаў працы, прыстасаванняў, механізмаў; найменні асоб, работнікаў сферы жывёлагадоўчай вытворчасці; абстрактная лексіка. Метафарызацыя — прадуктыўны спосаб семантычнай дэрывацыі ў межах тэрміналогіі жывёлагадоўчай вытворчасці: 5 асноўных мадэлей, сярод якіх найбольш прадуктыўныя — перанос па знешнім падабенстве: *бародка, шацёр, каштан, раскол* і пад., функцыянальны перанос: *бойня, важак, танк* і пад. Гэта складае спецыфіку тэрмінаўтварэння названай галіны.

***Літаратура***


1. Капяйко, Т.В. Роля метафарызацыі ў сучасным тэрмінаўтварэнні / Т.В.Капяйко // Язык и социум: материалы II Междунар. науч. конф., Минск, 1998 г. / БГУ. – Минск, 1998. – С. 120 – 125.
2. Прохорова, В.Н. Тематические группы лексики русского языка и терминообразование / В.Н.Прохорова // Славянская филология. – М.: МГУ, 1979. – С. 39 – 45.
3. Шмелев, Д.Н. Современный русский язык. лексика / Д.Н.Шмелев. – М. : Едиториал УРСС, 2004. – 336 с.


**Л.М.Мазуркевіч (Мазыр, МДПУ)**

## ФУНКЦЫЯНАВАННЕ НАЗОЎНІКА *ПІЖМА* Ў НАРОДНА-ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЕ БЕЛАРУСАЎ

Словам *піжма* ў сучаснай беларускай літаратурнай мове абазначаецца расліна сямейства складанакветных з моцным пахам, горкая на смак [6, т. 4, с. 253], якая вызначаецца сваімі адметнымі лекавымі ўласцівасцямі, што дазваляе актыўна выкарыстоўваць яе не толькі ў народнай, але і ў афіцыйнай медыцыне. Этымолагі выказваюць меркаванне, што старажытнаверхненямецкае *bisamo* ‘мускус’ з’явіліся ў польскай мове з пазначаным значэннем у выглядзе *piimo*, а адтуль было запазычана і перанесена ў беларускай мове на расліну *Tanacetum vulgare L.*, паколькі лісты акрэсленай расліны мелі спецыфічны пах і замянялі карыцу і мускатны арэх [3, с. 105]. Назоўнік *піжма* і яго шматлікія фанетычныя і словаўтваральныя варыянты тыпу *піжмак*, *пізьма*, *пожма*, *пужма*, *пыжма*, *спіж*, *спіжма*, *спізьма*, *ціжма*, *чыжма* актыўна функцыянуюць ва ўсіх беларускіх народных гаворках [4, с. 104 – 105].

Адзін са спектраў лекавага ўздзеяння расліны – выкарыстанне ў якасці глістагоннага сродку – знайшоў сваё адлюстраванне ў найменні *глiснік* (< гліст) і яго фанетычна

мадыфікаваных варыянтах тыпу *ліснік*, *лэсньык*. Названы намінатыўны сродак актыўна функцыянуе ва ўсходнепалескіх народных гаворках, а таксама сведчыцца ўсходнемагілёўскай і заходнепалескай групамі гаворак [2, т. 1, карта № 242].

Тоесным арэалам пашырэння абмежавана выкарыстанне наймення *цытвар* (< польск. cytwar – 8, т. 4, с. 307) і яго словаўтваральнага варыянта *цытварнік*.

Кветкі і плады піжмы ў народнай медыцыне актыўна выкарыстоўваюцца як заспакаяльны сродак ад ламоты (пры рэўматызме), што адлюстравана ў семантычна празрыстай назве *ромацізнік*, якую давялося засведчыць толькі ў тураўскіх гаворках [7, т. 4, с. 309].

Піжма – эфектыўны сродак для барацьбы са шкоднымі насякомымі. Менавіта па гэтай прычыне, акрамя названых найменняў, у якасці сінанімічных сродкаў для абазначэння расліны ў беларускіх народных гаворках адзначаецца ўжыванне такіх слоў, як *дурман*, *пінавея*, *чамярыца*, а таксама двухкампанентнай назвы *палявы хмель* [1, с. 128; 5, т. 5, с. 400]. Пералічаныя ўтварэнні адлюстроўваюць спецыфічную адметнасць расліны – характэрны камфарны пах яе.

Паралельна з акрэсленымі вышэй у гродзенска-баранавіцкай і віцебскай групах гаворак функцыянуе назоўнік *рабіннік* і спалучэнне *дзікая рабінка* [4, с. 105]. Існуе думка, што ўласна руская назва *Tanacetum vulgare L.* – *рабінка*. Расліна называецца так таму, што суквецце яе нагадвае гронку рабінавых ягад [3, с. 105 – 106], што дазваляе кваліфікаваць слова як запазычанне (русізм).

Даўняе і актыўнае выкарыстанне расліны не толькі ў медыцынскай практыцы, але і ў гаспадарчай дзейнасці людзей паўплывала на з'яўленне шматлікіх рэгіянальных назваў тыпу *калаваротнік*, *коваратнік*, *серабрысцік* – палеская група гаворак, *конскі слепацень* – слуцкія гаворкі, *калуфер* – віцебскія гаворкі, *півоня* – заходнепалескія гаворкі, *рута* – тураўскія гаворкі [4, с. 105].

Існаванне ў беларускіх народных гаворках значнай колькасці сінанімічных утварэнняў для абазначэння расліны дае падставы сцвярджаць, што падобная з'ява абумоўлена не толькі вуснай формай існавання народна-дыялектнай мовы, аднак і мясцовымі моўнымі адметнасцямі народных гаворак.

***Літаратура***

1. Киселевский, А.И. Латино – русско – белорусский ботанический словарь / А.И.Киселевский. – Минск: Навука і тэхніка, 1967. – С. 128.

2. Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. / пад рэд. М.В.Бірылы, А.А.Крывіцкага. – Мінск: Мінская картаграфічная фабрыка Белгеадэзіі, 1993 – 1998. – Т. 1.

3. Меркулова, В.А. Очерки по русской народной номенклатуре растений (Травы. Грибы. Ягоды) / В.А.Меркулова. – М.: Наука, 1967. – С. 105 – 106.

4. Раслінны свет: тэматычны слоўнік / склад. В.Дз.Астрэйка [і інш.]; навук. рэд. Л.П.Кунцэвіч, А.А.Крывіцкі. – Мінск: Белар. навука, 2001. – С. 104 – 105.

5. Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: у 5 т. / рэдкал.: Ю.Ф.Мацкевіч (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979 – 1986. – Т. 5.

6. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. / пад агул. рэд. К.К.Атраховіча (К.Крапівы). – Мінск: БелСЭ, 1977 – 1984. – Т. 4.
7. Тураўскі слоўнік: у 5 т. / рэдкал.: А.А.Крывіцкі [і інш.]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982 – 1987. – Т. 4.
8. Фасмер, М. Этимологический словарь русского языка: в 4 т. / М. Фасмер. – М.: Прогресс, 1986 – 1987. – Т. 4.

**С.С.Мароз, М.С.Ржавуцкая (Мінск, БДПУ)**

## ЗАЙМЕННІКІ СА ЗНАЧЭННЕМ ПАСЕСІЎНАСЦІ ЯК ЛЕКСІКА-СЕМАНТЫЧНАЯ ГРУПА

Тыповым праяўленнем сістэмнасці лексікі з'яўляецца наяўнасць у мове лексіка-семантычных груп (ЛСГ), пад якімі звычайна падразумяваюць класы слоў адной часціны мовы, якія ўтрымліваюць у сваіх значэннях агульны інтэгральны семантычны кампанент (сему) і ўдакладняльныя (дыферэнцыяльныя) семантычныя кампаненты, а таксама характарызуюцца падабенствам спалучальнасці, шырокім развіццём функцыянальнай эквівалентнасці і рэгулярнай мнагазначнасці [1, с. 7]. У дадзенай працы будзе зроблена спроба аналізу займеннікаў са значэннем пасесіўнасці як лексічнай групоўкі.

Навуковая літаратура прапануе дастаткова шырокі дыяпазон азначэнняў паняцця пасесіўнасці. Традыцыйна пад пасесіўнасцю разумеюць «такое отношение между объектами экстралингвистической действительности, при котором один из них вбирается в другой, образуя вкупе с ним единое физическое или функциональнае целое «[2, с. 24]. Моўная катэгорыя пасесіўнасці характарызуецца неаднароднасцю, гетэрагеннасцю, г. зн. канструіруецца рознаўзроўневымі моўнымі адзінкамі. Як правіла, названая катэгорыя разглядаецца ў мовазнаўстве ў сувязі з вывучэннем прыналежных прыметнікаў, прыналежных займеннікаў і роднага склону назоўніка. Аднак даследаванне лінгвістычнага матэрыялу паказвае, што гэта далёка не ўсе магчымыя сродкі выражэння пасесіўнасці. У беларускай мове ядром (цэнтрам) катэгорыі пасесіўнасці выступае найперш лексіка-граматычны разрад прыналежных прыметнікаў і лексіка-граматычны разрад прыналежных займеннікаў.

Лексіка-граматычны разрад прыналежных займеннікаў – традыцыйны, найбольш распаўсюджаны сродак перадачы пасесіўных адносін у мове. У семантыцы такіх займеннікаў, як *мой*, *твой*, *ваш*, *наш*, *свой* абавязкова прысутнічае сема 'належыць': І ты, ***мой*** дубе, бывай, братка (Якуб Колас). У мае часы дваране ***твайго*** ўзросту валілі дзікоў (Уладзімір Караткевіч). Я ж выйшаў на дарожку проста перад ***вашай*** альтанкай… (Ян Скрыган). Нялёгкі выпаў лёс на ***нашу*** долю (Кастусь Кірэенка). У прагнасці ***сваёй*** да новага малы як быццам забыўся нават пра мора (Янка Брыль). Дэфініцыя названых займеннікаў наступная 'які належыць (мне, табе, вам, нам, сабе), мае адносіны да (мяне, вас, цябе, нас, сябе)'. Як бачым, сэнс пасесіўнасці, дакладней адной з яе субкатэгорый – прыналежнасці (аб'ект належыць суб'екту), у семантыцы названых адзінак спалучаецца з сэнсам адноснасці, што ўвогуле характэрна для пасесіваў.

Семантыку прыналежнасці ў беларускай мове перадаюць і асабовыя займеннікі *яго*, *яе*, *іх*, якія ўказваюць на прыналежнасць 3-й асобе: Ва ўсёй ***яго*** [немца] паставе баец не бачыў нічога варожага (Васіль Быкаў). І зноў успамінаўся Аленцы ***яе*** верш (Якуб Колас). Гэтак я і памятаю Кузьму Чорнага: у вечным разгадванні людзей – ***іх*** аблічча, характару, лёсу (Ян Скрыган).

У гутарковай мове, а таксама ў мове мастацкай літаратуры і публіцыстыкі для ўказання на прыналежнасць 3-й асобе выкарыстоўваюцца і займеннікі *ягоны*, *ейны*, *іхні*: Нагавіцы ***ягоныя*** [Юрасевы] былі мокрыя (Уладзімір Караткевіч). [Цётка:] – Ай, бабачкі, гэтую ж кабеціну ***ейны*** муж адшукаў! З вайны пагублялі адно аднаго (Васіль Быкаў). Народавольцы лічылі цара непасрэдна вінаватым у смерці ***іхніх*** паплечнікаў («Полымя»).

Творы мастацкай літаратуры XX ст. даюць нам яшчэ прыклады займеннікаў з пасесіўным значэннем: Песня пачулася, ***наская***, нудная (Янка Купала). Але ёсць суд народны, ***наскі*** (Якуб Колас), «Якая гэта Таццяна? Вёскі якой?» – «Ды ***нашынская*** … Таццяна» (Міхась Лынькоў). Ілюстрацыі сведчаць, што семантыка гэтых займеннікаў відавочна шырэйшая за семантыку прыналежнасці.

Сэнс прыналежнасці характэрны і для цэлай групы няпэўных займеннікаў, у семантычнай структуры якіх прысутнічае агульная катэгарыяльная сема ‘належыць’: Чуліся ***нечыя*** дзіўныя ўздыхі (Міхась Лынькоў). А там вочкі ***чыесь*** зораць (Якуб Колас). – Няхай паможа, калі хоча! – адказвае ***чыйсьці*** жаночы голас (Кузьма Чорны). Дэфініцыя такіх займеннікаў утрымлівае адрозныя дыферэнцыяльныя семы ‘які належыць (невядома каму, каму-небудзь, таму-сяму)’, што надаюць названым займеннікам сэнс няпэўнасці, які і выступае на першы план у семантычнай структуры гэтых займеннікаў.

Значэнне адмоўнай (негатыўнай) прыналежнасці выразна праяўляецца ў семантыцы адмоўнага займенніка *нічый* і сінанімічнага яму пранамінатыва *нічыйны*: [Якім:] – Вось мы з табой … ***нічыёй*** ласкі прасіць не будзем (Янка Купала). Зямля тут ***нічыйная*** (Тарас Хадкевіч). Дэфініцыя займенніка *нічый* – ‘які не належыць нікому’, аналагічную мае, на наш погляд, і адзінка *нічыйны*.

У творах мастацкай літаратуры зафіксавана дыялектная форма азначальнага займенніка *ўсіхны*, утвораная ад формы множнага ліку роднага склону займенніка *ўсіх* пры дапамозе суфікса *-н-*: «Будзе твая ўся [зямля] – самая лепшая! Сказаў, парадуваў! ***Усіхная*** – ето не твая …» – падумаў Васіль, прыпыніўшыся на двары (Іван Мележ). Відавочна, што значэнне названага займенніка, па аналогіі з папярэдне разгледжанымі, будзе наступным ‘які належыць усім’.

Агульны пасесіўны кампанент прысутнічае і ў дэфініцыі пытальнага займенніка чый – ‘указвае на прыналежнасць каму, чаму-небудзь’: ***Чые*** рукі з мазалямі тут знялі свае дары? (Якуб Колас). [Яўхім:] – ***Чые*** авечкі? (Іван Мележ).

Сэнс прыналежнасці перадаецца і адноснымі займеннікамі *які*, *чый*, *што*, якія падпарадкоўваюць даданыя азначальныя сказы: Хто ж такі Мартын Рыль, ***чый*** арышт узрушыў новага войта (Якуб Колас). Калісьці князь, замак ***якога*** відаць адгэтуль у гарадку,

прыслаў з Еўропы добрага аўчара (Кузьма Чорны). На магчымасць адносных займеннікаў ужывацца са значэннем прыналежнасці ўказваў яшчэ А.А.Шахматаў [3, с. 499].

Такім чынам, наяўнасць агульнага пасесіўнага семантычнага кампанента дае падставы ўключыць у лексіка-семантычную групу займеннікаў са значэннем пасесіўнасці наступныя разрады слоў: прыналежныя займеннікі *мой*, *твой*, *ваш*, *наш*, *свой*, а таксама *наскі*, *нашынскі*, *ягоны*, *ейны*, асабовыя *яго*, *яе*, *іх*, няпэўныя *нечы* (*нейчы*), *чыйсьці* (*чыйсь*), *чый-небудзь*, *абы-чый*, *чый-нічый*, пытальны *чый*, адмоўны *нічый* (*нічыйны*), азначальны *ўсіхны*, адносныя *чый*, *які*. Невялікая па колькасці слоў група займеннікаў са значэннем пасесіўнасці тым не менш дазваляе выразіць прыналежнасць 1-й, 2-й, 3-й асобам, прыналежнасць пасэсару, які мысліцца няпэўна, неакрэслена, адмоўную прыналежнасць, прыналежнасць групе асоб, а таксама пытанне аб прыналежнасць каму, чаму-небудзь.

***Літаратура***


1. Лексико-семантические группы русских глаголов / под ред Э.В.Кузнецовой. – Иркутск: Иркут. ун-т, 1989. – 180 с.
2. Проблемы функциональной грамматики: категории морфологии и синтаксиса в высказывании / Е.В.Андреева [и др.] – СПб: Наука, 2000. – 345 с.
3. Шахматов, А.А. Синтаксис русского языка / А.А.Шахматов. – Л.: Учпедгиз, 1941. – 620 с.



**С.І.Міхайлаў (Віцебск, ВДУ)**


## ПЕРАКЛАД ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ У КАНТЭКСЦЕ МІЖМОЎНАЙ КАМУНІКАЦЫІ (на матэрыяле славянскай фразеалогіі)

Пры ажыццяўленні моўных кантактаў паміж славянскімі народамі важнае значэнне набывае дакладнасць і сэнсава-стылістычная выверанасць перакладу ўстойлівых адзінак мовы. Фразеалагізм як устойлівая, узнаўляльная адзінка мовы з цэласным значэннем, як правіла, не можа быць перакладзены літаральна. Перакласці фразеалагізм – гэта значыць знайсці сэнсавы і стылістычны адпаведнік у іншай мове. Разам з тым, самая высокая ступень адпаведнасці пры перакладзе, натуральна, дасягаецца пры наяўнасці ў іншай мове фразеалагізма з тым жа самым, што і ў зыходнай мове, планам зместу і планам выражэння.

План зместу фразеалагічнай адзінкі (ФА) уяўляе сабой складаную семантычную структуру, якая ўключае катэгарыяльна-граматычны, дэнататыўны, сігніфікатыўны і канататыўны сегменты. План выражэння (форма) праяўляецца перш за ўсё ў кампанентным складзе, марфалагічнай арганізацыі і сінтаксічнай структуры фразеалагізма.

Пры поўным супадзенні элементаў плана выражэння фразеалагізмы беларускай і іншых славянскіх моў (рускай, польскай, балгарскай), як правіла, характарызуюцца семантычнай тоеснасцю. Такое поўнае супадзенне элементаў плана выражэння і ў адпаведнасці з гэтым тоеснасць не толькі дэнататыўна-сігніфікатыўнага, але і

канататыўнага аспектаў значэння назіраецца, напрыклад, у наступных беларуска-іншаславянскіх фразеалагічных структурна-семантычных адпаведніках: 1) бел. *заблудная авечка* – рус. *заблудшая овца* – балг. *заблудена овца* 'чалавек, які збіўся з правільнага жыццёвага шляху'; 2) бел.(*гаварыць*, *крычаць* і пад.) *на вецер* – рус. *на ветер* – польск. *na wiatr* – балг. *на вятъра* 'дарэмна, упустую, безвынікова'; 3) бел. (*адчуваць сябе*) *як рыба ў вадзе* – рус. *как рыба в воде* – польск. *jak ryba w wodzie* – балг. *като риба във вода* 'вельмі свабодна, натуральна і проста' і інш.

Аднак далёка не ўсе фразеалагізмы беларускай і іншых славянскіх моў з тоесным (ці гранічна блізкім) планам выражэння, г.зн. аднолькавым кампанентным складам і сінтаксічнай структурай, могуць разглядацца ў якасці перакладных фразеалагічных адпаведнікаў. Так, напрыклад, мнагазначны фразеалагізм беларускай мовы *зямлю грызці* ні ў адным са сваіх трох значэнняў (1. 'прыкладваць усе намаганні, каб ажыццявіць што-н.'; 2. 'клятвенна абяцаць што-н.'; 3. 'затаіўшы злосць, ледзьве стрымліваць свае пачуцці') не мае сэнсавай адпаведнасці з тоесным у плане выражэння фразеалагізмам польскай мовы *gryźć ziemię* (1. 'не жыць, памерці', 2. 'не мець што есці'), пра што выразна сведчаць наступныя кантэксты ўжывання дадзенай ФА ў польскай мове:

*Zboże porosło mu w snopach, więc pomyślał, że na przednówku chyba ziemię będą gryźli.* («Збожжа прарасло ў снапах, таму ён падумаў, што ў галодную гадзіну давядзецца ім зямлю грызці» <у 1-м значэнні>);

*Wczoraj człowiek układał sobie na życie, a jutro może już gryźć ziemię.* («Учора чалавек складаў жыццёвыя планы, а заўтра можа ўжо зямлю грызці» <у 2-м значэнні>).

Не з'яўляюцца міжмоўнымі перакладнымі адпаведнікамі і наступныя ФА: бел. *як лёду* 'роўна столькі, колькі названа (гадоў, рублёў, працэнтаў і пад.)' – польск. *jak lodu* 'вельмі многа, у вялікай колькасці', бел. *даць дуба* 'памерці' – польск. *dać dęba* 'ўцячы, даць драпака', бел. *насыпаць солі на хвост* 'моцна дапячы, зрабіць непрыемнасць' – польск. *nasypać soli na ogon* 'не здолець дастаць, злавіць, схапіць каго-н.', бел. *трымаць камень за пазухай* 'затойваць злосць на каго-н., быць гатовым зрабіць што-н. дрэннае каму-н.' – балг. *държа камък в пазвата си* 'спакойна, стрымана адносіцца да нечага' і інш.

Як паказваюць прыведзеныя вышэй прыклады, носьбіты розных славянскіх моў могуць па-свойму «расшыфраваць» унутраны вобраз, што ляжыць у аснове фразеалагізма, суаднесці яго з агульным значэннем ФА на падставе нацыянальна спецыфічнай матывіроўкі. Так, значэнне згаданага вышэй фразеалагізма беларускай мовы *трымаць камень за пазухай* 'затойваць злосць на каго-н., быць гатовым зрабіць што-н. дрэннае каму-н.' матывуецца ўнутраным вобразам, у аснове якога ляжыць уяўленне аб прызначэнні «каменя» як прадмета, пры дапамозе якога наносяць удар. Значэнне тоеснага ў плане выражэння фразеалагізма балгарскай мовы *държа камък в пазухата си* 'спакойна, стрымана адносіцца да нечага', наадварот, матывуецца ўнутраным вобразам, заснаваным на непрымяненні гэтага прадмета, а значыць, захаванні стрыманасці, спакою, вытрымкі. Значэнне балгарскага фразеалагізма, не тоеснае значэнню ФА беларускай мовы, выразна выяўляецца ў наступным кантэксце: *Ако моята глава и да ми заповяда да държа камъка в пазухата си и да бъда доколкото е възможно*

*по-хладнокръвен, то за моето нещастие езикът и сърцето ми са не повиняват.* («Хоць мая галава і загадвае мне трымаць камень за пазухай і быць наколькі гэта магчыма спакойным, але, на маё няшчасце, язык і сэрца мне не падпарадкоўваюцца»).

Пры адсутнасці абсалютна тоесных фразеалагічных адпаведнікаў у той або іншай славянскай мове ў якасці перакладных эквівалентаў могуць выступаць міжмоўныя фразеалагічныя варыянты – тоесныя па змесце ФА, якія маюць частковыя адрозненні ў кампанентным складзе і (або) структурна-граматычнай арганізацыі. Пераменныя кампаненты (на ўзроўні слоў) звычайна звязваюцца сінанімічнымі адносінамі. Іншыя віды сувязі ў пераменным кампаненце: родава-відавыя, тэматычныя і, умоўна кажучы, метанімічныя і метафарычныя. Напрыклад: бел. *(пісаць) як курыца <u>лапай</u>* – польск. *jak kura <u>pazurem</u>* («кіпцем») 'вельмі неразборліва і неахайна', бел. *адным стрэлам забіць двух <u>зайцаў</u>* – польск. *ubić dwie <u>zwierzyny</u> jednym strzałem* 'дасягнуць адначасова дзвюх розных мэт', бел. *падліваць <u>масла</u> ў агонь* – польск. *dolewać <u>oliwy</u> do ognia* 'абвастраць непрыязныя адносіны паміж кім-н., узмацняць якія-н. пачуцці, настрой і пад.', бел. *(збіць, стаўчы) на <u>горкі</u> яблык* – польск. *na <u>kwaśne</u> jabłko* («на кіслы яблык») 'вельмі моцна, бязлітасна', бел. *быць на <u>валасок</u> ад гібелі* – польск. *być na <u>cal</u> od zguby* («быць на цалю ад гібелі»), бел. дыял. *як <u>баран</u> у ваду* – польск. *jak <u>kozioł</u> na wodę* 'нічога не разумеючы, разгублена, збянтэжана (глядзець, узірацца і пад.)', бел. *(разумець, разбірацца) як свіння ў <u>апельсінах</u>* – балг. *като свиня от <u>диня</u>* («як свіння ў кавунах») 'зусім нічога не разумець', бел. *(відаць, бачыць) <u>птушку</u> па палёце* – балг. *<u>орелът</u> по летенето* '(відаць) па знешнасці, паводзінах, справах, што за чалавек', бел. дыял. *(упірацца) як <u>каза</u> на мосце* – балг. *(запъвам се) като <u>магаре</u> на мост* («як асёл на мосце») 'зацята, упарта, наравіста' і г.д

Пры адсутнасці абсалютна тоесных і варыянтных структурна-семантычных фразеалагічных адпаведнікаў на міжмоўным узроўні пры перакладзе мэтазгодна выкарыстоўваць фразеалагічныя сінонімы, якія, адрозніваючыся вобразнай асновай і кампанентным складам, характарызуюцца функцыянальна-семантычнай эквівалентнасцю: бел. *салаўі пяюць у жываце* – польск. *żaby w brzuchu kruczą* («жабы ў жываце бурчаць») – балг. *жаби ми куркат в корема* («жабы квакаюць у жываце») 'хто-н. вельмі хоча есці, адчувае моцны голад', бел. *куды крумкач касцей не заносіў* – польск. *gdzie pieprz rośnie* («дзе перац расце») – балг. *през девет баира* («за дзевяццю ўзгоркамі») 'вельмі далёка, у вельмі аддаленае ці цяжкадаступнае месца (трапіць і пад.)', бел. *дабёр бабёр* – польск. *szczwany lis* – балг. *от стара коза яре* («ад старой казы казляня») 'хітры, выкрутлівы чалавек', бел. *ні з пушчы ні з поля* – руск. ни к селу ни к городу – польск. *ni w pięć ni w dziewięć* – балг. *ни в клин ни в ръкав* '(гаварыць) зусім недарэчна, неўпапад', бел. *мяняць быка на індыка* – руск. *менять кукушку на ястреба* – балг. *сменям кон за магаре* («мяняць каня на асла») 'дзейнічаць, рабіць неабдумана, неабачліва; выбіраць горшае', бел. *бярозаю ліцца* – руск. *реветь белугой* – польск. *śpiewać baranim głosem* – балг. *напоявам мишките* («паіць мышэй») 'горка плакаць', бел. *снегу леташняга не дапросішся* – польск. *ma węża (jeża) w kieszeni* («мае змяю (вожыка)

у кішэні») – балг. *змия се е свила в кесията* («змяя скруцілася ў кішэні») ‘хто-н. страшэнна скупы’ і г.д

Нацыянальна спецыфічныя ў плане зместу (безэквівалентныя) фразеалагізмы могуць быць перакладзены на іншую мову, як правіла, толькі пры дапамозе лексічных сродкаў, г.зн. апісальным шляхам, напрыклад: бел. *паказаць як барсук сваіх дзяцей гладзіць* ‘пакараць каго-н. (звычайна дзяцей), моцна прайшоўшыся сагнутым пальцам па галаве ад лоба да патыліцы і наадварот’.

**С.У.Палашкевіч (Мінск, БДПУ)**

## СІСТЭМА ПАМЕТ У БЕЛАРУСКІХ АНАМАСТЫЧНЫХ СЛОЎНІКАХ

У мікраструктуры анамастычных слоўнікаў досыць шырока выкарыстоўваюцца разнастайныя паметы: стылістычныя, граматычныя, этымалагічныя і інш., што складаюць т.зв. *зону памет*. Традыцыйна ў тэорыі лексікаграфіі паметай называецца слова, якое прыводзіцца найчасцей у скарочаным ці ўмоўным (сімвалічным) запісе і дае пэўную характарыстыку рэестравай лексічнай адзінцы [3].

Адным з найбольш пашыраных тыпаў памет у тапанімічных лексікаграфічных выданнях з’яўляюцца *граматычныя паметы*. Як адзначаў Ф.П.Філін, граматычныя паметы – абавязковы элемент структуры слоўнікава артыкула, а іх пропуск можна патлумачыць толькі адсутнасцю адпаведных звестак у крыніцах, адкуль узяты слоўнікавы матэрыял, і немагчымасцю рэканструявання пэўных формаў слоў [14, с. 154]. У сувязі з названымі фактарамі граматычныя звесткі адсутнічаюць у тапанімічных слоўніках XIX ст.

У некаторых лексікаграфічных працах па тапаніміцы граматычная інфармацыя не фіксуецца з-за энцыклапедычнай скіраванасці выданняў. Часам яе пропуск абумоўлены мэтай складання слоўніка, якая заключаецца ў кадыфікацыі тапанімічнага матэрыялу або фіксацыі не ўласна тапонімаў, а адтапанімічных дэрыватаў.

Тыповымі паметамі ў слоўнікавым артыкуле тапанімічнага слоўніка з’яўляюцца абазначэнне роду тапанімічнай адзінкі ў сінгулятыўнай форме і абазначэнне ліку («*мн.*») для тапонімаў у форме pluralia tantum:

> ДАБРЫНЕЦ **м.** Невялікі луг… [11, с. 59]; ВЫГАРЫ **мн.** Узгорак каля лесу… [9, с. 20].

Адносна рэдка выкарыстоўваецца памета «*адз.*» пры фіксацыі катайконімаў і размежаванні назваў для асоб жаночага і мужчынскага полу ад іх агульнай назвы:

> ХЛЕБАЎКА // Хле́бовка хле́баўскі / хле́бовскі; хле́баўцы / хлебовці́, **адз.** хле́бкавец / хлебковы́ць, з Хле́баўкі / з Хле́бовкы (Мал.) [5, с. 63].

Нягледзячы на досыць працяглую працу навукоўцаў па складанні тапанімічных слоўнікаў, пры падачы граматычных памет да рознаструктурных тапонімаў нявырашанымі застаюцца пытанні вызначэння роду шматкампанентавых тапанімічных адзінак і тапонімаў-арыенціраў.

Існуе два падыходы да адлюстравання ў слоўнікавым артыкуле роду полікампанентавых тапонімаў. У адных крыніцах родавая прыналежнасць тапоніма вызначаецца па галоўным слове ў складанай адзінцы і звычайна адпавядае роду субстантыва:

МОСКАЛЁВ ЛЕС, **м.** Смешанный лес в окрестностях дер. Селицкая [11, с. 99].

У іншых выданнях род шматслоўных тапонімаў у слоўнікавым артыкуле не вызначаецца зусім:

ДОБРЫ ЛЕС**.** Сямігосцічы [13, с. 383].

Пры вызначэнні роду тапонімаў-арыенціраў у розных тапанімічных слоўніках таксама назіраецца непаслядоўнасць. Часам гэтая граматычная памета ўкладальнікамі слоўнікаў прапускаецца:

КАЛЯ ДУ́БА. Дарога (каля яе расце дуб). Дашкаўцы Маст. [6, с. 156].

У некаторых выданнях род тапонімаў-арыенціраў вызначаецца па родзе геаграфічнага тэрміна або ўласнай назвы, што ўваходзяць у склад такой тапанімічнай адзінкі:

ЗА ЛІСОЮ ***ж.*** Сенажаць за р. Лісой. Поўстка Глуск [9, с. 75].

Асабліва сумніўным выглядае выяўленне роду тапонімаў-арыенціраў, у якіх граматычнае значэнне роду ідэнтыфікатара не адпавядае родавай семантыцы геаграфічнага тэрміна, што ўваходзіць у склад тапанімічнай назвы:

ЗА ДОБРЫМ АСТРАВОМ ***м.*** поле… [7, с. 89];

КАЛЯ САВІНЫХ ХВОЯЎ ***мн.*** урочышча… [7, с. 108].

Акрамя граматычнай паметы роду ў некаторых слоўніках па тапаніміцы вызначаюцца і іншыя граматычныя характарыстыкі слоў – найчасцей парадыгма скланення тапонімаў (фіналі ў родным і месным склонах). Калі ў родным склоне магчыма варыянтнае выкарыстанне канчаткаў, то гэта фіксуецца ў слоўнікавым артыкуле:

СІДАРАВІЧЫ мн.л., **-іч/-чаў**, -чах Сидоровичи. Сідаравіцкі Сидоровичский в.-ц. Сідаравіцкага с/с Магілёскага р-на і к-са «Расія» [10, с. 159].

У слоўніках, дзе падаюцца дэрываты тапонімаў (катайконімы і ад’ектонімы), прыводзяцца іх канчаткі ў родным і месным склонах:

БО́РКІ, в. у Камаровіцкім с/с – мн.л., -рак/-каў, -ках Бо́рки бо́ркаўскі, **-кага**, **-кім** бо́рковский, бо́ркаўцы, **-цаў**, **-цах**. бо́ркаўскія, -кіх; бо́ркавец, -ўца, -ўцу… [1, с. 257].

Найбольш дасканалая, на наш погляд, сістэма граматычных памет прапанаванана ў нарматыўным даведніку «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь» пад рэдакцыяй В.П.Лемцюговай. Зона граматычных памет у слоўнікавым артыкуле выдання ўключае паметы роду (ліку для тапонімаў у форме pluralia tantum) і фіналі роднага, творнага і меснага склонаў [8, с. 120]:

| Тып пасе-лішча | Назва на беларускай мове | **Род (лік)** | **Парадыгма скланення** | Транслітарацыя на лацінку | Назва на рускай мове |
|---|---|---|---|---|---|
| п. | Граза́ | ж. | -зы́, -зо́й і -зо́ю, -зе́ | Hraza | Гроза |

У слоўніку абазначаюцца варыянтныя фіналі для роднага склону і падаюцца поўныя формы тапонімаў у месным склоне, калі пры скланенні адзінкі назіраюцца змены ў каранях слоў.

У антрапанімічных слоўніках, наадварот, граматычныя паметы выкарыстоўваюцца абмежавана. Вузкае ўжыванне граматычнай паметы роду абумоўлена ў асноўным сучаснымі спосабамі арганізацыі мегаструктуры лексікаграфічных выданняў (напр., калі антрапонімы падаюцца ў дадатках да слоўніка – асобна мужчынскія і жаночыя найменні).

Акрамя паметаў роду, у «Беларуска-расійскім слоўніку» М.Байкова і С.Некрашэвіча сустракаецца памета «*ўл.*» (уласнае), наяўнасць якой абумоўлена тым, што антрапанімічны матэрыял не адасабляецца, а падаецца ў рэестры слоўніка побач з іншымі (няўласнымі) лексічнымі адзінкамі:

СІЛІВОН м. **ўл.** – Силуан [2, с. 286].

За выключэннем граматычных паметаў, у слоўніках, якія змяшчаюць антрапанімічны матэрыял, выкарыстоўваюцца *этымалагічныя паметы*, што ўказваюць на паходжанне наймення з пэўнай мовы:

ПАЎЛІНА (***лац.***) – малая; відаць, варыянт ад мужчынскага імя Павел [15, с. 237].

У антрапанімічных слоўніках *стылістычныя паметы* выкарыстоўваюцца звычайна ў дадатковых артыкулах пры спасылцы на галоўны:

ЯНКА (***разм***. Ян, Ясь, Янук)…*Гл.*: Іван [15, с. 235].

У асобных антрапанімічных крыніцах да ўласных імёнаў прыводзяцца таксама паметы, што ўказваюць на прыналежнасць наймення да праваслаўнага і каталіцкага календароў:

ИАКОВ ***правасл.***, Якуб ***каталіцк.*** … Зарэгістрыравана ў XVII ст. … [4, с. 77].

Такім чынам, у беларускай тапанімічнай лексікаграфіі існуе шэраг нявырашаных пытанняў адносна прынцыпаў арганізацыі граматычных памет у слоўнікавых артыкулах, якія прысвечаны апісанню рознаструктурных тапонімаў. У сваю чаргу, у антрапанімічных лексікаграфічных выданнях ужо выпрацавана дастаткова стройная і навукова абгрунтаваная сістэма памет, якая дазваляе паўней раскрыць для адрасанта слоўніка шматлікія характэрныя асаблівасці антрапанімічнай лексікі.

***Літаратура***

1. Багамольнікава, Н.А. Айканімія Гомельшчыны / Н.А.Багамольнікава, А.А.Станкевіч. – Гомель: ГДУ, 2003. – 392 с.

2. Байкоў, М.Я. Беларуска-расійскі слоўнік / М.Я.Байкоў, С.М.Некрашэвіч. – Менск: Дзярж. выд-ва Беларусі, 1926. – 360 с.

3. Берков, В.П. Двуязычная лексикография / В.П.Берков. – М.: АСТ, 2004. – 236 с.

4. Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія: уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы / М.В.Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1966. – 327 с.

5. Заіка, З.М. Слоўнік тапонімаў і адтапанімічных дэрыватаў у арэале заходнепалескіх гаворак / З.М.Заіка. – Брэст: БрДУ, 2001. – 68 с.

6. Ламака, В.М. Анамастычны слоўнік Гродзеншчыны: у 2 ч. / В.М.Ламака [і інш.]; пад. рэд. П.У.Сцяцко. – Гродна: ГрДУ, 2005. − Ч 1: Мікратапонімы. – 347 с.

7. Мікратапанімія Беларусі: матэрыялы / пад рэд. М.В.Бірылы, Ю.Ф.Мацкевіч. – Мінск: Навука і тэхніка, 1974. – 328 с.

8. Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Мінская вобласць: нарматыўны даведнік / І.А.Гапоненка; пад рэд. В.П.Лемцюговай. – Мінск: Тэхналогія, 2003. – 605 с.

9. Рагаўцоў, В.І. Анамастычны слоўнік Магілёўшчыны / В.І.Рагаўцоў, С.Я.Кечык. – Магілёў: МДУ, 2000. – 168 с.

10. Рапановіч, Я.Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобласці / Я.Н.Рапановіч; рэд. П.П.Шуба. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. − 240 с.

11. Рогалев, А.Ф. Топонимический словарь Ветковского района Гомельской области / А.Ф.Рогалев. – Гомель: Барк, 2004. – 193 с.

12. Слоўнік мікратапонімаў Магілёўшчыны / склад.: С.В.Клімуць [і інш.]. – Магілёў: МДУ, 2004. – 208 с.

13. Тураўскі слоўнік: у 5 т. / пад. рэд. А.А.Крывіцкага. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982 − 1987. − Т. 5. – 423 с.

14. Филин, Ф.П. Проект «Словаря русских народных говоров» / Ф.П.Филин. – М. – Л.: АН СССР, 1967. – 197 с.

15. Шур, В. Беларускія ўласныя імёны: беларуская антрапаніміка і тапаніміка / В.Шур. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1998. – 239 с.

**И.В.Пальянова (Минск, БГПУ)**

## ФУНКЦИОНАЛЬНАЯ ОНОМАСИОЛОГИЯ КАК ОДИН ИЗ НАИБОЛЕЕ ПРОДУКТИВНЫХ АСПЕКТОВ ТЕОРИИ НОМИНАЦИИ

Вопрос о том, каким образом происходит наименование предметов и явлений объективного мира, интересовал лингвистов уже давно. Наукой об именах, о природе и типах наименований стала ономасиология (теория номинации), главная задача которой заключается в изучении средств и способов называния отдельных элементов действительности и обозначения целостных событий. Ономасиологическая трактовка исходит из анализа того, что должно быть обозначено в акте словообразования, к анализу того, какими языковыми средствами это достигается. Такая направленность исследования позволила отделить теорию номинации от семасиологии (теории значения) и собственно лексикологии, расширив круг рассматриваемых единиц: объектом внимания стало не только слово, но и означающие более сложной структуры – описательные конструкции, словосочетания, предложения. Таким образом, изучение лексики и процесса номинации с точки зрения ономасиологии представляется более продуктивным, чем при семасиологическом подходе, что не раз отмечалось лингвистами (Т.В.Кобышева, Е.Л.Кривченко, В.Н.Телия). Учет отношения говорящего как создателя слова к объектам

окружающей действительности, путь от содержания к форме, а не наоборот, динамический путь анализа создания производного слова способствует объяснению различных процессов, происходящих в лексике.

В рамках теории номинации выделяется динамический подход, рассматривающий номинацию как процесс (И.С.Топорцев, А.А.Уфимцева, А.Ф.Журавлев, Г.В.Колшанский, И.Г.Милославский), и статический подход, описывающий номинацию как результат акта присвоения фрагменту действительности определенного имени (Е.С.Кубрякова). Попытку решения данной проблемы сделал И.С.Улуханов, предложив разделить предмет теории номинации на «изучение смысловой структуры готовых наименований, имеющихся в современном языке, и процессы номинации, свойственные современному языку» [5, с. 11].

Среди многообразия аспектов теории номинации особый интерес вызывает функциональная ономасиология. В белорусской лингвистике наиболее значимы работы по номинативной деривации В.М.Никитевича [3] и др. Автор включает в единые номинативные ряды разноуровневые структуры, способные замещать друг друга в процессе коммуникации (выделяются словообразующая, детерминирующая, транспонирующая и предицирующая формы), определяя тем самым предмет функциональной ономасиологии. Идеи В.М.Никитевича были продолжены в работах А.В.Никитевича, посвященных русскому глаголу [4] и др. В польской лингвистике такой обобщенный подход успешно использовался в работах, посвященных анализу строя польского языка (Я.Анусевич, Р.Гжегорчикова).

Объединение в одну функциональную группу единиц разных уровней дает возможность системного описания средств и способов наименования. Ведь для названия определенного фрагмента действительности используются не только слова, но и более сложные конструкции. Это влечет за собой, во-первых, увеличение стилистической и функциональной маркированности конструкций, во-вторых, появление новых конструкций, как на уровне словосочетания, так и на уровне предложения.

Следует отметить, что особую роль при этом играет глагольная номинация. «В сфере глагола усиливается тенденция к эксплицитному выражению коммуникативно существенных антропоцентрически обусловленных семантических компонентов. Возникают аналитические глагольные лексемы, ведущие себя в тексте как функционально-семантические синонимы морфологических (однословных)» [1, с. 118]. Формирование аналитических структур неразрывно связано с десемантизацией отдельных глагольных лексем, которые ведут к их превращению в полуслужебный или служебный элемент. Причинами десемантизации глагола оказываются «лексическое обособление этого глагола, его тенденция к специализации, к употреблению только в функции полуслужебного компонента аналитической структуры», а также «смысловая избыточность» [2, с. 140 – 141]. Этот процесс «свидетельствует не о деградации глагола, как считают некоторые ученые, а о самообеспечении прогрессивных тенденций в сфере глагольной номинации» [1, с. 118].

В сферу аналитической глагольной номинации вовлекается имя, именно оно является в лексико-аналитической конструкции (знаменательное слово + десемантизированный глагол) семантическим ядром, основным носителем значения всего сочетания. Исследования показывают, что глагольные сочетания более часты, многочисленны и употребительны, чем именные, так как возможности распространения глагола превосходят возможности распространения существительного в среднем на одну словоформу. Описательные конструкции также незаменимы в преодолении словообразовательной недостаточности, когда не может быть образована синтетическая форма глагола. Кроме того, одно и то же действие может быть названо одновременно различными синонимичными способами – синтетическим и аналитическим (ср. *na przestrzeni września – we wrześniu*, *akcja żniwna – żniwa*; *адчуваць радасць – радавацца*, *жыхар Мінска – мінчанін*).

Однако такая избыточность языковой системы, предполагаемая самим ее определением, не совсем однородна. Описательные конструкции и их синтетические корреляты, как правило, не идентичны – они различаются дополнительной семантикой и стилистической окраской (ср. *на працягу лістапада – у лістападзе*, *czynić wołanie – wołać*). Рассмотрение неоднословных и однословных номинаций с соответствующей семантикой в системе представляется необходимым и важным, ведь известно, что чем важнее для языка какое-нибудь формальное значение, тем более разнообразными способами оно обозначается, и важно найти и исследовать все эти факты и способы. Осуществить такой подход к описанию разноуровневых единиц дает возможность как раз функциональная ономасиология. Комплексный подход позволяет показать всю важность участия описательных конструкций, прежде всего, глагольных, наряду со средствами собственно словообразования, в процессе номинации, позволяет включить их в общее функционально-семантическое поле глагола, расширив тем самым его границы.

***Литература***

1. Гайсина, Р.М. Тенденции в глагольной номинации / Р.М.Гайсина // Языковая номинация: тез. докл. Междунар. науч. конф. Минск, 25-26 июня 1996 г. / МГЛУ; редкол.: Н.П.Баранова (отв. ред.) [и др.]. – Минск, 1996. – С. 118.

2. Гак, В.Г. Десемантизация языкового знака в аналитических структурах синтаксиса / В.Г.Гак // Аналитические конструкции в языках различных типов / В.Г.Гак. – Москва-Ленинград, 1965. – С. 129 – 142.

3. Никитевич, В.М. Словообразование и деривационная грамматика / В.М.Никитевич / Словообразовательные единицы и семантика производных разной структуры. – Гродно: ГРГУ, 1982. – Ч. 2. – С. 94

4. Никитевич, А.В. Русский глагол в составе номинативных рядов / А.В.Никитевич. – Гродно: ГрГУ, 2004. – 347 с.

5. Улуханов, И.С. О некоторых проблемах ономасиологии и словообразования / И.С.Улуханов // Проблемы ономасиологии: сб. ст. / редкол.: отв. ред. М.С.Малеева и др. – Курск, 1977. – Т. 175. – С. 10 – 12.

**Г.В.Пальянова (Минск, БГПУ)**

## АНАЛИТИЗАЦИЯ КАК ПРОЦЕСС УСЛОЖНЕНИЯ ГРАММАТИЧЕСКОГО СТРОЯ ЯЗЫКА

Аналитизация (мультивербизация) представляет собой «своего рода декомпозицию содержания традиционных лексем, выражающуюся в образовании соотносительных с ними по значению сложных номинативных структур» [5, с. 54]. На современном этапе развития славянских языков эта тенденция наблюдается повсеместно, поскольку сочетания слов являются наиболее простым и прозрачным способом номинации.

В белорусском и польском языках результатом действия этой тенденции является все более активное использование грамматических конструкций определенного типа. Прежде всего, это появление рядом с синтетическими падежными формами их соответствий с предлогом, при этом в языке может сохраниться употребление обеих конструкций либо лишь одной из них. В рамках этого процесса наблюдается переход каузальных дополнений, обстоятельств и определений в предложные конструкции, использование сочетаний существительного с предлогом вместо единичного предлога (*praca na rzecz miasta* ‘работа в пользу города’ – *dla miasta* ‘для города’) [9; 6].

Вторая группа языковых изменений связана с глаголом и сочетаниями с ним. Так, в польском языке наблюдается все более частая замена глаголов с прозрачной семантикой глаголами с широким лексическим значением – сочетаниями с *być*, *dawać*, *mieć*. В связи с этим происходит формирование категории сложного прошедшего времени – польского перфекта (*Mam pokój posprzątany – posprzątałem pokój*). Он схож со сложными прошедшими временами во французском (passé composé – *j'ai écrit*) или немецком (Perfect – *ich habe geschrieben*) языках. Широко используются также конструкции «*mam* + инфинитив», которые выражают: ‘действие, которое осуществится в ближайшем будущем’– *Mam wyjechać za granicę*; ‘нереальное прошедшее действие, задуманное, но не осуществленное’ – *Miałem właśnie wyjść* (прошедшее потенциальное время) или ‘действие, независимое от воли субъекта и в последний момент остановленное’ (*Chciałem się wygadać*). Происходит также замена verbum finitum конструкциями «причастие + вспомогательный глагол *być*» (*być pachnącym – pachnąć*), которые формально схожи с английской continuous form, что приводит к аналитизации языковой системы.

В обоих языках наблюдается также использование описательных синтаксических конструкций с относительно стабильной структурой типа *зрабіць памылку*, *правесці даследаванне*, *dokonać zakupu*, *ulec zniszczeniu*, которые выступают рядом с синтетическими формами глагола, чаще всего с тем же значением, в некоторой степени дублируя их, но вместе с тем сохраняя ряд специфических особенностей.

Первым существование и функционирование подобных конструкций заметил Ф.И.Буслаев: «Вместо одного глагола, иногда употребляется глагол с именем служащим ему дополнением; например, *думать думу* вместо *думать*, *держать речь* вместо *говорить*. В таких выражениях, разлагающих название действия на глагол и имя, оказывается возможным определять самый предмет: *думать глубокую думу* (но *глубоко*

*думать* – не говорится), *держать умную речь* (вместо *умно говорить*), *вести разговор самый жаркий* и т. п. В отличие от прочих глагольных форм эти выражения называются описательными. Некоторые из них выражают ту же самую мысль, как и простые глаголы, в прочем, придавая ей новый оттенок; потому что в языке каждая форма имеет собственный свой смысл, например: *держать речь – говорить*; иные же служат в дополнение недостающим формам глагола, например: *вести знакомство*, *вести дружбу* (вместо самостоятельных глаголов, которые следовало бы произвести от существительных *знакомство*, *дружба*)» [1, с. 10]. Зависимость одного из компонентов в подобного рода сочетаниях подчеркивала Д.Бутлер: «Семантические процессы, охватывающие глаголы – глагольные элементы конструкций типа *ulec zniszczeniu* заключается в их постепенном переходе во вспомогательные слова, являющиеся показателями глагольных категорий лица, времени, наклонения, а также общего значения действия или состояния, присущего всей конструкции» [7, с. 356].

Наблюдаемые изменения связаны, прежде всего, со «стремлением к предельной (в соответствии с возможностями языка) мотивированности языка» [3, с. 397], точности высказывания, а достичь этого мы можем, используя аналитические конструкции. Анализ языкового материала подтверждает, что сочетания с глаголом семантически более выразительны, чем однословные глаголы, например, при передаче так называемых фазовых значений: ср. *засяпваць – пачаць спяваць*, *Ø – пачаць есці*. Описательные обороты преимущественно однозначны и, в отличие от морфологических форм, могут приобретать дополнительные оттенки значения. Некоторые аналитические конструкции выполняют важную компенсаторную функцию: они заполняют лакуны, образующиеся в языке вследствие недостаточности средств собственно словообразования (так, есть *stawać się czarnym – czarnieć*, *stawać się czerwonym – czerwienieć*, но: *stawać się kulawym – Ø*, *stawać się lekkim – Ø*; *станавіцца белым – бялець*, *станавіцца сінім – сінець,* но: *станавіцца фіялетавым – Ø*, *станавіцца рудым – Ø*). Такого типа глагольные сочетания, часто являющиеся единственным средством номинации, можно назвать деривационными [2].

Причины экспансии аналитических конструкций в славянских языках имеют различный характер. Одной из самых общих семантических причин этого явления является «тенденция к выражению отдельными элементами категориальных и индивидуально-лексических семантических характеристик, которые «аккумулировано» выражает простая форма глагола» [7, с. 357]. При этом процесс экспансии аналитических конструкций «можно расценивать как тенденцию формально-грамматическую, т.к. он ведет к изменению морфологической системы языка, к возникновению препозитивной флексии; однако в то же самое время это процесс семантический, поскольку его основой является стремление к замещению общих и неточных показателей определенных реляционных значений – синтетических падежей – конструкциями более специализированными, выражающими эти значения с помощью отдельных элементов – предлогов» [8, с. 6].

Важные последствия для аналитизации славянских языков имело также «ослабление действия стиля художественной литературы на языковую норму в пользу газетного и, в некотором смысле, языка научного стиля» [4, с. 9]. Не следует, однако, думать, что белорусский и польский языки становятся более аналитичными. В обоих языках параллельно действует противоположная тенденция – к экономии языковых средств, синтетизации строя.

***Литература***


1. Буслаев, Ф.И. Историческая грамматика русского языка: в 2 ч. / Ф.И.Буслаев. – Москва: бр. Салаевы, 1868 – 1869. – Ч. 2: Синтаксис. – 1869. – 394 с.
2. Никитевич, В.М. Основы номинативной деривации / В.М.Никитевич. – Минск: Выш. шк., 1985. – 157 с.
3. Шмелев, Д.Н. Основные процессы в лексике современных восточнославянских языков / Н.Д.Шмелев // Славянское языкознание. VI Международный съезд славистов (Прага, август 1968 г.). Доклады советской делегации / редкол.: В.В.Виноградов [и др.]. – Москва, 1968. – С. 393 – 406.
4. Anusiewicz, J. Konstrukcje analityczne we współczesnym języku polskim / J. Anusiewicz. – Wrocław: Ossolineum, 1978. – 199 s.
5. Buttler, D. Procesy multiwerbizacji we współczesnej polszczyźnie / D.Buttler // Poradnik Językowy. – 1978. – Z. 2. – S. 54 – 62.
6. Buttler, D. Innowacje składniowe współczesnej polszczyzny. Walencja wyrazów / D.Buttler. – Warszawa: PWN, 1976. – 278 s.
7. Buttler, D. Połączenia typu „ulec zniszczeniu» w języku polskim / D.Buttler // Poradnik Językowy. – 1968. – № 7. – S. 349 – 359.
8. Buttler, D. Semantyka a składnia w związkach wyrazowych. V.Ekspansja konstrukcji analitycznych / D.Buttler // Poradnik Językowy. – 1967. – № 1. – S. 6 – 18.
9. Lesz-Duk, M. Przejście konstrukcji syntetycznych w analityczne w polszczyźnie / M.Lesz-Duk // Poradnik Językowy. – 1985. – Z. 3. – S. 157 – 171.



**Н.В.Паляшчук (Мінск, Інстытут мовы і літаратуры НАН Беларусі)**


## СТРУКТУРНА-ФАРМУЛЯРНЫ АНАЛІЗ ТЭКСТАЎ СТАРАБЕЛАРУСКАЙ ДЗЕЛАВОЙ ПІСЬМЕННАСЦІ

У інтэрпрэтацыі тэкстаў дзелавой пісьменнасці сёння найбольш прадуктыўным прызнаецца інтэграваны падыход, заснаваны на палажэннях лінгвістычнага крыніцазнаўства, дыпламатыкі, гістарычнай стылістыкі (гл., напрыклад, працы В.В.Бараковай, Г.І.Багранцавай, С.С.Волкава, М.С.Выхрысцюк, В.Я.Дзярагіна, А.І.Зіноўевай, А.П.Маёрава.). Адным са спосабаў яго рэалізацыі можа лічыцца структурна-фармулярны аналіз дакументальнага тэксту, накіраваны на 1) разгляд суадносін і размяшчэння яго асобных частак у адпаведнасці з іх інфарматыўным прызначэннем; 2) вызначэнне *фармуляра*, г.зн. набору формул – канструкцый з адносна пастаянным лексічным складам, граматычнай структурай, з'яўленне і выкарыстанне якіх абумоўлена ў

тэкстах пэўнай жанравай разнавіднасці ідэнтычных ці падобных сітуатыўных схем і традыцыі іх афармлення.

Структурна-фармулярны аналіз дакументаў уключае наступныя этапы: 1) прачытанне дакумента; 2) асэнсаванне яго зместу, устанаўленне яго прызначэння, мэты стварэння; 3) падзел тэксту на часткі, або клаўзы – закончаныя па сэнсу выказванні, прадстаўленыя самастойнымі простымі ці складанымі сказамі; 4) вызначэнне іх колькасці, а таксама пазіцыі ў структуры дакумента (наяўнасць у пачатковым пратаколе – invocatio, intitulatio, inscriptio, salutatio; у асноўнай частцы – arenga, prooemium, prologus, promulgatio, publicatio, praescriptio, notificatio, narratio, dispositio, corrobaratio; у канцавым пратаколе (эсхатаколе) – datum, subscriptio, пераліку асоб, прысутных пры прыняцці ці напісанні пастановы); 5) выяўленне агульнай схемы пабудовы дакумента (указаныя вышэй часткі – усе магчымыя кампаненты *структуры любога дакумента, яны ўтвараюць яго найбольш агульную схему; намінацыя агульная схема выкарыстоўваецца ў адносінах да тэкстаў пэўнага жанру*); 6) выяўленне адступленняў ад агульнай схемы дакумента, іх магчымае абгрунтаванне; 7) вылучэнне ў кожнай частцы формул; 8) устанаўленне мадэлей формул; 9) вызначэнне іх апорных элементаў; 10) выяўленне варыянтаў формул.

Вывучэнне асаблівасцей кампазіцыйнай арганізацыі асобнага дакумента дазваляе вызначыць таксама корпус моўных сродкаў (у першую чаргу лексічных і фразеалагічных), якія забяспечвалі адпаведнасць дакумента мэце яго стварэння і сферы выкарыстання.

Вынікі падобных доследаў істотныя для тыпалогіі дзелавых тэкстаў (праз выяўленне дакументаў, блізкіх па змесце і структуры) і ўстанаўлення на яе аснове асаблівасцей мовы дзелавой пісьменнасці ў пэўны гістарычны перыяд; актуальныя для ўдакладнення спецыфікі дзелавога стылю, механізмаў тэкстаўтварэння ў дзелавой мове, а таксама прынцыпаў інтэрпрэтацыі дзелавога тэксту.

Структурна-фармулярны аналіз дакументаў «Кнігі запісаў», тома 28 Метрыкі Вялікага княства Літоўскага, дазволіў:

1) удакладніць жанравую прыналежнасць дзелавых тэкстаў. Так, дакументы, якімі афармляліся дараванні на землі і людзей, пасады, шляхецтва, дазвол на будаўніцтва замкаў, гандаль на пэўнай тэрыторыі, вызваленне ад плацяжоў і павіннасцей, адносяцца да *прывілеяў*. Дакументы, у якіх на падставе прад'яўлення раней выдадзеных афіцыйных папер пацвярджалася дараванне, купля-продаж і пад., вызначаюцца як *пацвярджэнні*. Дакументы, у якіх утрымліваўся загад, даручэнне пэўнай асобе або групе асоб ажыццявіць што-небудзь, класіфікуюцца як *інскрыпцыі*;

2) выявіць найбольш агульную схему разгледжаных дакументальных тэкстаў «Кнігі запісаў»: invocatio (прысвячэнне богу), intitulatio (абазначэнне асобы, ад якой зыходзіць дакумент), inscriptio (абазначэнне асобы, якой накіраваны дакумент), arenga (прэамбула), promulgatio (публічнае аб'яўленне), narratio (выклад абставін справы), dispositio (распараджэнне), corrobaratio (пасведчанне), datum (месца і час выдачы дакумента), пералік прысутных асоб, subscriptio (подпіс);

3) устанавіць агульную схему для тэкстаў асобнага жанру. Так, пацвярджэнні і прывілеі маюць наступную кампазіцыю: intitulatio, promulgatio, narratio, dispositio, corrobaratio, datum;

інскрыпцыі ўключаюць intitulatio, inscriptio, narratio, dispositio, datum;

4) канстатаваць, што выяўленыя формулы заўсёды маюць строга фіксаваную пазіцыю ў пэўнай клаўзе тэксту, а таму з'яўляюцца маркёрам яе межаў. Рад формул носіць універсальны характар. Напрыклад, формула promulgatio (*Чинимъ знаменито симъ н(а)шимъ листомъ, хто на него посмотрить або чтучи его услышить, нинешнимъ и напотомъ будучимъ, кому будеть потреба того ведати або, чтучи его, слышати*), формула пасведчання (*дали листъ зъ нашою печатью*), формула месца і часу стварэння дакумента (*Писан у Вильни, под лет(о) Божего нарож(енья) 1541, м(е)с(я)ца нояб(ря) 20 ден(ь), индикт* 15). Формулы нарацыйнай і дыспазіцыйнай частак прывілеяў і пацвярджэнняў характарызуюцца падабенствам, аднак у пацвярджэннях абавязкова прысутнічаюць спалучэнні *покладалъ передъ нами листы* і *потвердити нашимъ листомъ*; *тотъ листъ потвержаемъ симъ нашимъ листомъ* (яны называюцца *формуламі пацвярджэння*). Dispositio інскрыпцый прэзентуецца спалучэннямі *приказуемъ вамъ* і *вы бы о томъ ведали* – аднымі з паказальных сродкаў выражэння імператыўнасці. Намі вылучаны таксама этыкетныя формулы (тыпу *ваша милость*, *твоя милость, его/ее милость*, *ваша мосць, твоя мосць*, *божью милостью, блаженной (светобливой, святой, славное, солодкое, щастное) памети* і пад.), трактоўка якіх звязана з паняццем маўленчага этыкету – зводу норм і правіл, на аснове якіх засноўваюцца зносіны (у нашым выпадку дзелавыя). У гэтым сэнсе этыкетныя формулы – інструметарый для выканання гэтых правіл, набор адзінак, розных па структуры, якія служаць для забеспячэння кантакту паміж камунікантамі;

5) выявіць для кожнай структурнай часткі дакументаў паказальны набор лексіка-фразеалагічных адзінак. Напрыклад, narratio і dispositio актаў утрымліваюць багаты і інфарматыўны тапанімічны матэрыял; ва ўсіх частках дакументаў, за выключэннем invocatio, promulgatio, datum, налічваецца звыш 500 антрапонімаў; для inscriptio, narratio, dispositio паказальнымі з'яўляюцца назвы асоб па пасадах і сацыяльнаму становішчу; асаблівасцю dispositio ўсіх дакументаў з'яўляецца наяўнасць імператываў, а таксама падрабязны пералік аб'ектаў, якія перадаваліся ў маёмасць, указанне на прызначаныя віды пошлін і павіннасцей, вызначэнне тэрміну валодання атрыманай маёмасцю.

Аднастайнасць, паслядоўнасць размяшчэння структурных частак актаў двух перыядаў (1522 – 1542 гг. і 1551 – 1552 гг.), тыпізаваны набор іх формул, а таксама лексем і фразем з'яўляецца паказчыкам існавання адзіных правіл стварэння і афармлення тэкстаў пэўнага жанру (у нашым выпадку прывілеяў, пацвярджэнняў, інскрыпцый), сведчыць пра тэндэнцыю да уніфікаванасці іх формы, выступае пацвярджэннем тэкставай кампетэнтнасці аўтараў дакументаў.

Прапанаваную методыку даследавання структуры і фармуляра дакументальных тэкстаў мэтазгодна апрабіраваць на матэрыяле іншых кніг Метрыкі Вялікага княства Літоўскага, напрыклад, на матэрыяле кніг судовых спраў, пасольскіх кніг, кнігах публічных спраў, а таксама на зборы рашэнняў Галоўнага Трыбунала Вялікага княства Літоўскага, на матэрыяле агульнадзяржаўных кодэксаў – Вісліцкага статута, Трыбунала Вялікага княства Літоўскага (1586), Статутаў Вялікага княства Літоўскага (1529, 1566, 1588). Пашырэнне

фактaлагічнай базы навуковых доследаў дазволіць вызначыць агульнае і адметнае паміж «вялікімі» і «малымі» жанрамі дзелавой пісьменнасці. На аснове гэтых і іншых помнікаў у перспектыве стане магчымым стварэнне хрэстаматыі старабеларускіх дзелавых тэкстаў і падрыхтоўка разнастайных лексікаграфічных даведнікаў (напрыклад, слоўніка мовы старабеларускай дзелавой пісьменнасці, слоўніка мовы Метрыкі Вялікага княства Літоўскага, слоўніка формул, гістарычнага фразеалагічнага слоўніка).

**Т.А.Паўлоўская (Баранавічы, БарДУ)**

## МОВА КАМУНІКАТЫЎНЫХ ЗНОСІН СУПРАЦОЎНІКАЎ СФЕРЫ АДУКАЦЫІ

Рэчаіснасць паказвае, што без спецыяльнага дэталёвага вывучэння цяжка ўявіць усю складанасць рэальнага маўленчага жыцця грамадства, у якім мовы функцыянуюць не самі па сабе і для сябе, а ўзаемаабумоўлена і ўзаемазвязана, утвараючы складаныя і шматмерныя камунікатыўныя макрасістэмы. Адрозніваючыся па сацыяльным і культурным значэнні, функцыянальным спектры, ступені абмежаванасці і пад., у агульнай маўленчай сітуацыі яны дапаўняюць і кампенсуюць адна адну і тым самым забяспечваюць у сваім балансе ўсе камунікатыўныя і экспрэсіўныя патрэбы грамадства [1, с. 3].

Як вядома, узаемадзеянне моў – характэрная, адметная рыса любой лінгвістычнай сітуацыі. Яно шматаспектнае, мае надзвычай разнастайныя праявы, у выніку чаго наступствы яго могуць быць значнымі. Таму вывучэнне гэтых пытанняў у мовазнаўчай навуцы заўсёды было і застаецца актуальным. Аналіз любой мовы без яе сувязі з іншымі мовамі і ўзаемаўплывам на яе магчымы толькі са значнай ступенню верагоднасці [1, с. 4].

У дадзеным артыкуле прадстаўлены вынікі праведзенага сацыялінгвістычнага анкетавання 170 супрацоўнікаў адукацыйных устаноў г. Баранавічы (дзіцячага садка-яслі, 4 школ, гімназіі, 2 каледжаў).

Беларускую мову з 38 апытаных жанчын у **садку** назвалі роднай 26 чалавек (68,4%), рускую мову – 10 інфармантаў (26,3%), а 2 рэспандэнты (5,3%) вызначылі роднымі дзве мовы – беларускую і рускую. Нацыянальны склад супрацоўнікаў дзіцячага садка-ясляў наступны: 33 жанчыны – беларускі, 3 – рускія, 2 – полькі.

Інфарманты, якія роднай мовай назвалі беларускую, ва ўсіх камунікатыўных зносінах ужываюць рускую мову. Беларускую мову прадстаўнікі дашкольнай сферы адукацыі выкарыстоўваюць радзей за «трасянку». Супрацоўнікі дашкольнай установы ў сваіх штодзённых камунікатыўных зносінах ужываюць беларускую і рускую мовы, а таксама «трасянку». Выкарыстанне польскай мовы абмежавана: на ёй гаворыць толькі адзін рэспандэнт са сваім мужам.

Сярод апытаных супрацоўнікаў сферы **школьнай адукацыі** 43 рэспандэнты адзначылі высокую ступень валодання дзвюма мовамі – беларускай і рускай, 9 – трыма мовамі, а адзін інфармант напісаў пра валоданне ў дастатковай ступені чатырма мовамі. Рускай мовай у рознай ступені валодаюць 74 настаўнікі, польскай – 5.

Камунікатыўныя зносіны супрацоўнікамі школ і гімназій ажыццяўляюцца на трох мовах – беларускай, рускай, польскай і на «трасянцы». Беларускую мову часцей ужываюць у сямейна-бытавых зносінах (адзначылі 31 чалавек), амаль у два разы радзей (16 інфармантаў) – з сябрамі, суседзямі і калегамі па працы, а ў грамадскіх месцах – вельмі рэдка (толькі 4 чалавекі). Пры гэтым руская мова пераважае ў колькасных адносінах ва ўсіх сферах маўленчай дзейнасці. Польскую мову ўжываюць 4 супрацоўнікі. Выкарыстанне «трасянкі» ў розных камунікатыўных зносінах напісалі 20 рэспандэнтаў.

Сярод 34 апытаных выкладчыкаў **каледжа лёгкай прамысловасці** высокі ўзровень валодання толькі беларускай мовай не адзначыў ні адзін выкладчык, а рускай – 19 выкладчыкаў. Патэнцыяльныя актыўныя маўленчыя навыкі адзначылі на дзвюх мовах – беларускай і рускай –10 рэспандэнтаў, рускай і літоўскай – адзін, на рускай і грузінскай – адзін. Пры гэтым у апошняга ўсе родныя, акрамя бабулі-беларускі, грузіны, а мова зносін, навучання і другая родная – руская. Большасцю рэспандэнтаў у высокай ступені адзначана валоданне менавіта роднай мовай ці мовамі. Толькі адзін інфармант не вызначыў высокую ступень валодання рускай мовай. Высокі ўзровень валодання трыма мовамі адзначылі тры інфарманты (беларускай, рускай і польскай; беларускай, рускай і нямецкай; беларускай, рускай і англійскай). Ва ўсіх сферах камунікатыўнай дзейнасці 17 рэспандэнтаў размаўляюць толькі па-руску. Па нацыянальнасці 10 з іх – беларусы, 6 – рускія, 1 – украінец. Яшчэ тры інфарманты ў асноўным карыстаюцца рускай мовай, а з бацькамі, бабуляй і дзядулем ужываюць «трасянку». Адзін выкладчык адзначыў, што заўсёды гаворыць на «трасянцы». Сярод рэспандэнтаў былі і такія, якія роднай мовай назвалі беларускую, пачатковую і сярэдне-спецыяльную адукацыю набывалі ў беларускамоўных навучальных установах, вышэйшую – рускамоўных, жаданне вучыцца – на рускай мове; адзначылі высокі ўзровень валодання рускай мовай і разуменне толькі вуснай беларускай мовай, а ў камунікатыўнай дзейнасці ўжываюць дзве мовы – беларускую і рускую, пры гэтым у некаторых сферах – паралельна ці папераменна выкарыстоўваюць абедзве.

З 14 апытаных работнікаў **эканоміка-юрыдычнага каледжа** 11 чалавек (78,6%) – беларусы па нацыянальнасці, 1 – рускі (7,1%) і два палякі (14,3%). Роднай мовай беларускую напісалі 6 інфармантаў (42,9%), рускую – 7 чалавек (50,0%) і адзін (7,1%) – дзве мовы (рускую і беларускую). Пры гэтым апошні рэспандэнт (34-гадовая жанчына) у камунікатыўнай дзейнасці ўжывае рускую мову. Усяго 7 выкладчыкаў (50,0%) вызначылі, што гавораць толькі па-руску.

Маўленчая актыўнасць інфармантаў, занятых у сферы адукацыі, прадстаўлена ў табліцы 1.

***Табліца 1*** – Маўленчая актыўнасць супрацоўнікаў сферы адукацыі

| Сфера камунікатыўных зносін | Мова камунікатыўных зносін рэспандэнтаў | | | |
|---|---|---|---|---|
| | беларуская | руская | польская | «трасянка» |
| са сваімі бацькамі | 33 (18,9%) | 110 (62,9%) | 3 (1,7%) | 29 (16,6%) |
| са сваімі дзецьмі (калі ёсць) | 14 (9,1%) | 128 (83,1%) | 2 (1,3%) | 10 (6,5%) |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| з мужам (жонкай) | 17 (10,6%) | 130 (81,3%) | 1 (0,6%) | 12 (7,5%) |
| з сябрамі | 20 (11,0%) | 138 (75,8%) | 4 (2,2%) | 20 (11,0%) |
| з суседзямі | 18 (10,2%) | 140 (79,6%) | – | 18 (10,2%) |
| з калегамі па працы | 9 (5,4%) | 149 (88,7%) | 2 (1,2%) | 8 (4,8%) |
| з бабуляй і дзядулем | 32 (21,9%) | 82 (56,2%) | 2 (1,4%) | 30 (20,6%) |
| у грамадскіх месцах (крама, транспарт, цырульня) | 6 (3,57%) | 157 (93,45%) | – | 5 (3,0%) |

Такім чынам, супрацоўнікі сферы адукацыі ў разнастайных камунікатыўных зносінах выкарыстоўваюць беларускую, рускую, польскую мовы і «трасянку». Пры гэтым ужыванне той ці іншай мовы дэтэрмінавана шэрагам сацыяльных, гістарычных, эканамічных, культурных і псіхалагічных фактараў.

***Літаратура***

1. Языковые ситуации и взаимодействие языков / Н.Н.Быховец [и др.]; отв. ред. Ю.А.Жлуктенко. – Киев: Наук. думка, 1989. – 204 с.

**В.І.Рагаўцоў (Магілёў, МДУ)**

## ВЕРБАЛЬНЫЯ СРОДКІ СТВАРЭННЯ КАМІЧНАГА Ў ІНТЭРМЕДЫІ «МУЖЫК»*

Інтэрмедыя змешчана ў рукапісным зборніку «Выпісана з былых у Смаленскай семінарыі камедый», датаваных 1760 г. М.І.Пятроў лічыць, што інтэрмедыі «Мужык» і «Змірок і Свірыд» уваходзілі ў драму «Дэкламацыя», напісаную ў 1752/53 навучальным годзе прафесарам паэтыкі Смаленскай калегіі Мануілам Базілевічам [4, с. 543].

Галоўным героем інтэрмедыі з'яўляецца пажылы селянін Церах – «разумны, дасціпны, кемлівы, не пазбаўлены пачуцця гумару», які ўмее «прыкідвацца перад людзьмі прасцячком, неразумным чалавекам» [5, с. 8 – 9].

З доўгага маналога селяніна вынікае, што ён, выконваючы волю жонкі схадзіць у Любавічы богу памаліцца, са сваімі пабачыцца ды заадно нешта купіць на кірмашы, прыйшоў у мястэчка, выпіў там з кумам Анціпам «па карцу» і знячэўку трапіў у касцёл, дзе ў гэты час ішло набажэнства. За парушэнне царкоўнай этыкі (пусціўся ў скокі) яго схапілі, закавалі ў кайданы. Потым сын выратоўвае бацьку: разбівае кайданы, затым яны ўдвух нападаюць на паляка-канваіра і б'юць яго.

Галоўныя ідэйныя матывы інтэрмедыі – «насмешлівае стаўленне да абрадаў каталіцкай царквы (недарэчнасць музыкі ў час набажэнства з пункту гледжання праваслаўнага), пагарда да ляхаў…» [6, с. 113], што абумоўлена гвалтоўным акаталічваннем і апалячваннем праваслаўных беларусаў. Як справядліва адзначае

* Прыклады падаюцца з інтэрмедыі, змешчанай у кн.: [4, с. 216 – 219].

Я.К.Усікаў, з тэксту і падтэксту рэплік селяніна вынікае, што ён не задаволены «гвалтоўніцкай палітыкай польскіх феадалаў-каланізатараў, якія сілай навязваюць свае законы, свае нормы, свае звычаі, сваю мову, імкнучыся ператварыць цэлую нацыю ў пакорлівую парабчанку-нявольніцу» [6, с. 114].

Для стварэння камічных сцэн (развагі селяніна аб сваёй набожнасці, аб стаўленні да царквы, да папа) у творы ўжываюцца розныя вербальныя сродкі, асноўнымі з якіх з'яўляюцца наступныя.

**Дыялектызмы.** У інтэрмедыі сустракаюцца словы з адступленнем ад лексічных, фанетычных, марфалагічных ці словаўтваральных нормаў беларускай мовы. Такія словы толькі ўмоўна можна назваць дыялектызмамі (з пазіцыі сучаснай літаратурнай мовы), паколькі ў творах, напісаных у дакастрычніцкі час, калі яшчэ не ўсталяваліся моўныя нормы, яны «не былі дыялектнымі словамі» [2, с. 83]. Таму ўжыванне такіх слоў не з'яўляецца ў творы стылістычна матываваным, бо яны не выступаюць як сродак маўленчай характарыстыкі персанажаў. Тым не менш у сучасных носьбітаў беларускай літаратурнай мовы такія «дыялектызмы» выклікаюць камічны эфект, паколькі прыкметна адрозніваюцца ад адпаведных нарматыўных слоў, напр.: [Мужык:] *А так, праўды, я ў сваім двары застаўляю: жонка, **бій** паклоны земляныя, граза **ідзець**, нашу меру нешта ізба **цякець***; …*Мяне ўся дзярэўня **знаіць**…* Прывядзём прыклады некаторых выразаў, у якіх ужываюцца ненарматыўныя адзінкі (у маўленні мужыка): *паслухаўся* [жонкі] *да і **падзісь***; *вот я **пайдзісь** у іх **касцёлу*** (аказіянальная форма жаночага роду *касцёла*); *да і **падзісь** скакаць*; *а тут пад тую пару і **прыдзісь** па нашаму поп*; ***ажну** там і сталі бразгаць*; *калі поп **прыедзець***; ***апослі** людзям не жаліўся*; ***віць** ты неякі не **хрысцянін***; ***віць** там не па-нашаму*; ***віць** ты **тута** адзін* (параўн: *віць* – і рус. літ. *ведь* 'гэта (ж), дык').

**Ідыялектныя клішэ.** Яны адметны сродак маўленчай характарыстыкі персанажа (мужыка) і, апрача таго, стварэння камічнага эфекту. Гэта поліафектыўны выклічнікавы фразеалагізм *охці мне* (*ахці мне*)*, эмацыйнае значэнне якога выяўляецца ў кантэксце ('выказванне здзіўлення, задавальнення, захаплення, спачування, абурэння і пад.'): ***Охці мне!** Ці ведает то ета мая баба, што я ў ета ліха папаўся...; То я, **охці мне**, ета нехта ж з маскалёў…*; ***Охці мне**, Церых, я і ў пана так не гуляў, як у цябе цяпер!; **Охці мне**, да калі ж бы тыя не відзелі паганыя; **Охці мне!** Ета маяго сына голас…*

**Прыдаткі.** Камічны эфект прыдаткаў абумоўлены найперш іх адмоўнай семантыкай і зніжанай эмацыйна-экспрэсіўнай афарбоўкай. Так, селянін, абураны ўчынкамі паляка, карыстаецца прыёмам ампліфікацыі адмоўна ацэначных слоў і выразаў, ад чаго камічны эфект становіцца больш насычаным і яскравым: [Мужык:] *Нешта ты* [паляк] *прывязаўся як гавённым лыкам, **харпостнік** ты**, скурва сын, саланіннік, гарэлый** ты **кутак!***

**Параўнанні.** Функцыю камічнага выконвае параўнальная канструкцыя, якая сведчыць, што селянін з крыўдаю і пэўнай доляй самаіроніі «ацэньвае» тую сітуацыю, у якую ён

---

* Гэта фанетычны варыянт фразеалагізма *авохці мне!*, які падаецца ў фразеалагічных слоўніках: [1, с. 8] і [3, с. 46].

трапіў: [Мужык:] *Вот і паймалі, **як зайца** ў мот.* У словах селяніна адчуваецца горкі дакор, што ён не можа пастаяць за самога сябе.

Частуючы папа, каб той «у вочы не лез і ў апослі людзям не жаліўся», селянін Церых выкарыстоўвае гіпербалізаванае, камічна насычанае аказіянальнае параўнанне: [Мужык:] *Я, бывала, і к сабе-такі пазаву* [папа] *да ўкладу яго блінамі, сачнямі, **як гонтам.***

**Праклёны.** Сустракаецца праклён фразеалагічнага тыпу, у якім канататыўны аспект значэння пераважае над дэнататыўным: [Мужык:] *Ох, калі б яе* [жонку] ***калом у зямлю*!** Такое «зычэнне» абумоўлена тым, што жонка не дачакаецца «калі б мужыка з двара збыць». З падтэксту вынікае, што за намер мае «бабёнка ў сіле», каб збыць мужыка, які, як ён сам прызнаецца, «стар». Вылучаны тлустым шрыфтам праклён сэнсава блізкі з узуальным выклічнікавым фразеалагізмам *калом зямля* – праст. ‘пажаданне хутчэйшай смерці’.

**Фразеалагізмы.** Камічны эфект ствараецца ўжываннем прастамоўнага фразеалагізма *пуза развяжыць* [‘уволю, колькі хоча (наесца)’] з ненарматыўнай дзеяслоўнай формай: [Селянін:] *Ажну і папа не відна еўшы, да і **пуза развяжыць**.* З дапамогай устойлівага словазлучэння з ярка выражанай адмоўнай экспрэсіяй выяўляецца негатыўнае стаўленне простага селяніна да прадстаўніка праваслаўнай царквы, для якога галоўнае – не «боскі промысел», а ўласны трыбух.

**Сінонімы.** Камізм дасягаецца ампліфікацыяй аказіянальных сінонімаў: да аднаго сіноніма дадаюцца іншыя, якія ўдакладняюць яго, ствараючы насычаны «шумавы эфект»: [Мужык:] *Як **застукаюць, заскоглюць, заклюкаюць, затопаюць**.*

**Выклічнікі.** Яны з’яўляюцца яркім выяўленчым сродкам гутарковага маўлення і служаць для стварэння камічнай экспрэсіі часцей за ўсё пры канцэнтраваным ужыванні: [Сын:] *Бацька! **Гу, агу,** бацька!* Тут выклічнік *агу* і яго варыянт *гу* ўжыты як аклікане з мэтай знайсці бацьку.

**Комплекснае ўжыванне сродкаў.** Камічны эфект узмацняецца комплексным ужываннем розных вербальных сродкаў – як аднатыпных, так і разнатыпных. Прыкладам можа служыць аб’ёмны маналог мужыка [4, с. 216 – 217], які на сцэне паяўляецца закаваны ў кайданы (дарэчы, большасць вышэй прыведзеных вытрымак узяты з гэтага маналога).

Такім чынам, для стварэння камічнага ў інтэрмедыі выкарыстоўваюцца розныя вербальныя сродкі (умоўныя дыялектызмы, ідыялектныя клішэ, прыдаткі, параўнанні, праклёны, фразеалагізмы, сінонімы, выклічнікі). Інтэнсіфікацыі камічнай экспрэсіі служыць прыём комплекснага ўжывання сродкаў.

***Літаратура***

1. Гаўрош, Н.В. Фразеалагічны слоўнік: Для сярэд. школы / Н.В.Гаўрош, І.Я.Лепешаў, Ф.М.Янкоўскі; пад рэд. Ф.М.Янкоўскага. – Мінск: Нар. асвета, 1973. – 352 с.

2. Лепешаў, І.Я. Лінгвістычны аналіз літаратурнага твора: [У 2 ч.] / І.Я.Лепешаў. – Мінск: Нар. асвета, 1981. – [Ч. 1.] – 159 с.

3. Лепешаў, І.Я. Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы: у 2 т. / І.Я.Лепешаў. – Мінск: БелЭн, 1993. – Т. 1. – 590 с.
4. Народны тэатр / рэд. А.С.Фядосік, А.В.Сабалеўскі. – Мінск: Бел. навука, 2004. – 554 с.
5. Семяновіч, А.А. Гісторыя беларускай драматургіі: XIX – пач. XX ст. / А.А.Семяновіч. – Мінск: Выш. шк., 1985. – 167 с.
6. Усікаў, Я. Беларуская камедыя: ля вытокаў жанру / Я.Усікаў. – Мінск: Выш. шк., 1964. – 199 с.

**Н.А.Радзіваноўская (Мінск, БДПУ)**

## СЛОВАЎТВАРАЛЬНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ АЙКОНІМАЎ, СУАДНОСНЫХ З НАЗВАМІ РАСЛІННАГА СВЕТУ

Важным і неабходным этапам у даследаванні айканіміі з'яўляецца словаўтваральны аналіз. Вывучэнне тапанімічных дэрывацыйных працэсаў дае магчымасць вызначыць асноўныя тапонімаўтваральныя тыпы і мадэлі. На аснове марфалагічнайі словаўтваральнай структур онімаў можна акрэсліць час і грамадска-гістарычныя ўмовы ўзнікнення найменняў, паколькі іх марфалогія непасрэдна звязана з пэўнай культурна-гістарычай эпохай.

Як сведчыць аналіз фактычнага матэрыялу, усе айконімы, суадносныя з назвамі расліннага свету, можна падзяліць на тры групы: а) простыя айконімы, б) складаныя айконімы, в) састаўныя айконімы. У артыкуле намі будуць прааналізаваны словаўтваральныя асаблівасці простых айконімаў у форме адзіночнага ліку.

Сярод найменняў, суадносных з назвамі расліннага свету, у форме адзіночнага ліку вылучаюцца дзве словаўтваральныя мадэлі: 1) айконімы бязафікснага ўтварэння і 2) айконімы суфіксальнага ўтварэння.

Бязафіксныя айконімы па граматычнай структуры роўныя невытворным апелятывам (*Асака – асака, Бяроза – бяроза, Крушына – крушына*) або поўнасцю супадаюць з вытворнымі апелятывамі (*Асінавы – асінавы, Бярозавы – бярозавы, Ягадная – ягадная*). Група айконімаў, утвораных семантычным спосабам, колькасна даволі нязначная ў агульным айканімічным фондзе Беларусі. Усяго было зафіксавана 129 айконімаў (з іх 60 – айконімы ў форме назоўніка і 69 айконімаў-прыметнікаў), якія з'яўляюцца назвамі 358 населеных пунктаў: *Алешына (Паст.), Вярба (Гор., Кам.), Вішнёвая (Барыс., Віц.), Хмяльное (Б.-Каш.)* і інш. Бязафіксныя айконімы-назоўнікі шырока прадстаўлены на ўсёй тэрыторыі рэспублікі. Назвы ў форме прыметніка таксама пашыраны на Беларусі, за выключэннем Гродзенскай вобласці, дзе занатавана толькі некалькі найменняў.

Зыходнай адзінкай, пакладзенай у аснову суфіксальнага ўтварэння айконімаў, суадносных з назвамі расліннага свету, выступае словаўтваральная мадэль, тапафарманты якой характарызуюцца наяўнасцю агульнага суфіксальнага элемента. Так, у адну групу аб'яднаны айканімічныя мадэлі з фармантамі *-ка, -аўка(-оўка), -еўка(-ёўка), -анка (-янка), -онка (-ёнка), -ынка (-інка), -ачка (-ячка), -ок (-ёк), -ак (-як), -ык (-ік), -нік, -енск, -скі (-цкі), -аўскі (-оўскі), -ецкі, -іцкі, -ская (-цкая), -скае (-цкае), -аўскае (-оўскае),-ецкае* на той падставе, што яны маюць агульны суфіксальны элемент *-к-*. Асобныя групы

складаюць айканімічныя мадэлі, фарманты якіх маюць агульныя суфіксальныя элементы *-ц-, -н-, -в-, -j-*. Айконімы з суфіксальнымі элементамі *-ч-, -ш-, -х-, -ш- (<-х-), -л-, -м-, -т-* аб'яднаны ў адну групу. У аналізуемай айканімічнай сістэме зафіксавана 588 найменняў (1402 населеныя пункты), якія ўтвораны пры дапамозе разнастайных фармантаў. Назвы суфіксальнага ўтварэння складаюць каля 82% ад агульнай колькасці айконімаў у форме адзіночнага ліку.

Як паказаў аналіз фактычнага матэрыялу, найбольш прадуктыўнай з'яўляецца словаўтваральная мадэль з суфіксальным элементам *-к-* (195 айконімаў, якія з'яўляюцца назвамі 708 населеных пунктаў): *Вішанскі (Гом., Касц.), Клёнаўка (Гарад.), Ляшчэўнік (Бялын.), Сасноўск (Краснап.), Хвойка (Жытк.)* і інш. Сярод назваў гэтай групы найбольш пашыраны айконімы, афармленыя фармантамі *-аўка (-оўка); -ак(-як), -ык(-ік), -нік; -анка (-янка), -онка (-ёнка), -ынка (-інка): Кашанаўка (Пруж.), Кустоўка (Гор., Маст.), Бярэзінка (Старадар.), Аўсяначка (Брасл.)* і інш. Яны адпаведна складаюць каля 33%, 14% і 13% ад агульнай колькасці назваў з суфіксальным элементам *-к-*. Айконімы, утвораныя пры дапамозе фарманта *-аўка(-оўка)*, пашыраны на ўсёй тэрыторыі Беларусі, за выключэннем толькі некалькіх раёнаў на поўдні і захадзе краіны.

У групу айконімаў з суфіксальным элементам *-ц-* уключаны назвы з фармантамі *–ец (-эц), -іца (-ыца), -ніца: Альхавец (Гарад., Гор., Лаг.), Арэшніца (Кл.), Лазовіца (Карм., Клім.), Ракітніца (Жаб.), Сасновіца (Слаўг.)* і інш. Усяго занатавана 77 айконімаў (130 населеных пунктаў), што складае прыкладна 13% ад агульнай колькасці назваў суфіксальнага ўтварэння. Найменні, утвораныя пры дапамозе фармантаў *-іца (-ыца), -ніца*, прадстаўлены практычна на ўсёй тэрыторыі Беларусі, за выключэннем Віцебскай вобласці, дзе адзначаны адзінкавыя ўтварэнні. Затое айконімы з фармантам *-ец (-эц)* пашыраны на тэрыторыі ўсёй краіны.

Структурныя разнавіднасці айконімаў з суфіксальным элементам *-н-* прадстаўлены фармантамі *-ін (-ын), -іна (-ына), -іно (-ыно); -шчына, -аўшчына (-оўшчына); -на (-но); -ня, -оўня; -ізна: Альшына (Ашм.), Лозіна (Глыб.), Бярозаўшчына (Барыс.), Грушоўшчына (Валож.), Омельна (Пух.), Крапіўня (Бярэз.)* і інш. Усяго занатаваны 151 айконім (248 населеных пунктаў) з суфіксальным элементам *-н-.* Найбольш прадуктыўнымі з'яўляюцца фарманты *-шчына, -аўшчына (-оўшчына); -ін (-ын), -іна (-ына), -іно (-ыно); -на (-но).* Яны адпаведна складаюць каля 39%, 35% і 18% ад агульнай колькасці найменняў гэтай групы. Айконімы з фармантамі *-шчына, -аўшчына (-оўшчына)* атрымалі пашырэнне ў паўночнай і паўночна-заходняй частках Беларусі. Назвы, афармленыя фармантам *-ін (-ына)*, распаўсюджаны на поўначы, паўночным усходзе і паўднёвым усходзе краіны, а найменні, утвораныя пры дапамозе фарманта *-ін (-ын)*, – на поўдні і паўднёвым усходзе рэспублікі. Арэал пашырэння айконімаў з фармантам *-на (-но)* уключае паўночную, паўночна-ўсходнюю і заходнюю часткі Беларусі.

Найменні з суфіксальным элементам *-в-* аб'ядноўвае не толькі наяўнасць гэтага элемента, але і адзінства структуры і семантыкі агульных па паходжанні суфіксаў з прыналежным значэннем *-аў (-оў), -еў (-ёў), -ава (-ова), -ева (-ёва): Буракова (Верхнядзв., Лёзн., Міёр.), Вербаў (Добр.), Вішнёва (Пол.), Мохаў (Лоеў.)* і інш. Гэта група скаладае 108

айконімаў, якія з’яўляюцца назвамі 205 населеных пунктаў, ці 18% ад агульнай колькасці суфіксальных найменняў. Назвы на *-ава (-ова), -ева (-ёва)* пашыраны на ўсёй тэрыторыі Беларусі, за выключэннем паўднёва-ўсходняй яе часткі. На паўднёвым усходзе больш распаўсюджаны айконімы на *-аў (-оў), -еў (-ёў)*.

Словаўтваральная мадэль з суфіксальнымі элементамі *-ч-, -ш-, -х-, -ш- (<-х-), -л-, -м-, -т-* аб’ядноўвае назвы з суфіксамі *-ішча (-ышча), -іха (-ыха), -уха, -ча, -уга (-юга), -ар, -ма, -та, -ля, -ёл: Баравішча (Глуск.), Баравуха (Барыс., Жлоб., Пол., Сл.), Кветча (Леп.), Беразуга (Краснап.)* і інш. Гэта мадэль малапрадуктыўная. Усяго зафіксаваны 31 айконім, які з’яўляецца назвай 65 населеных пунктаў.

Найменні з суфіксальным элементам *-j-* аб’яднаны па чыста фармальнай прыкмеце наяўнасці элемента. Унутры словаўтваральнай мадэлі вылучана два варыянты мадэлі:

1) назвы з фармантам *-je-.* У афармленні гэтага фарманта адзначана 17 айконімаў, якія з’яўляюцца назвамі 34 населеных пунткаў: *Бабоўе (Бабр., Шарк.), Малінне (Кліч.)* і інш.

2) назвы з фармантам *-jь-: Вязань (Дзярж.), Ліпень (Асіп.)* і інш. Фармант *-jь* адносіцца да старажытных сродкаў утварэння формаў прыналежных прыметнікаў ад асноў асабовых назоўнікаў тыпу *княжь, Ярославль*, дзеясловаў тыпу *дзерць, чысць*. У сучаснай беларускай мове ні ў адной з указаных функцый гэты суфікс не ўжываецца. Ён захаваўся толькі ў тапаніміі, пераважна ў айканіміі. Гэта словаўтваральная мадэль таксама з’яўляецца малапрадуктыўнай. Усяго занатавана 25 айконімаў (45 населеных пунктаў) ці толькі 4% ад агульнай колькасці суфіксальных назваў.

Фармант *-паль(-поль)* сустракаецца ў беларускай айканіміі спарадычна. Намі адзначаны толькі 1 айконім *Ружаполь (Астр. да 1979)*.

Такім чынам, сабраны фактычны матэрыял сведчыць, што група айконімаў у форме адзіночнага ліку складае 717 назваў (1760 населеных пунктаў) ці каля 55% ад агульнай колькасці простых найменняў. Як паказаў аналіз фактычнага матэрыялу, найбольш пашыраны сярод айконімаў у форме адзіночнага ліку назвы суфіксальнага ўтварэння. У агульнай айканімічнай сістэме намі зафіксавана 588 айконімаў (1402 населеныя пункты), якія ўтвораны пры дапамозе разнастайных суфіксаў. Назвы суфіксальнага ўтварэння складаюць каля 82% ад агульнай колькасці айконімаў у форме адзіночнага ліку. Найбольш прадуктыўнымі з’яўляюцца фарманты *-аўка (-оўка), -анка (-янка), -ынка (-інка), -ак (-як), -нік; -іца (-ыца), -ніца, -ец (-эц); -шчына, -аўшчына (-оўшчына); -ава (-ова); -ішча (-ышча).* Айконімы, аформленыя гэтымі фармантамі, шырока прадстаўлены на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

Айконімы бязафіксанага ўтварэння складаюць невялікую групу ў агульнай сістэме адзіночналікавых айконімаў. Усяго намі адзначана 129 айконімаў (358 населеных пунктаў). Бязафіксныя айконімы складаюць прыкладна 18% ад агульнай колькасці айконімаў у форме адзіночнага ліку. Назвы, утвораныя семантычным спосабам, шырока прадстаўлены на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

**М.С.Ржавуцкая, С.С.Мароз (Мінск, БДПУ)**

# КАНКРЭТЫЗАЦЫЯ ЯК ТЫП ЛЕКСІЧНЫХ ТРАНСФАРМАЦЫЙ ПРЫ ПЕРАКЛАДЗЕ МАСТАЦКАГА ТЭКСТУ

У семантычных адносінах сутнасць лексічнай трансфармацыі заключаецца «в замене переводимой лексической единицы словом или словосочетанием иной внутренней формы, актуализирующем ту слагаемую иностранного слова (ту сему), которая подлежит реализации в данном контексте» [2, с. 38].

У навуковай літаратуры вылучаюць некалькі тыпаў лексічных трансфармацый: канкрэтызацыя, генералізацыя, антанімічны пераклад, дыферэнцыяцыя значэнняў, сэнсавае развіццё, цэласнае пераўтварэнне.

На матэрыяле арыгінала і перакладу твораў Івана Мележа на рускую мову паспрабуем прааналізаваць разнавіднасці і падставы выкарыстання такога тыпу лексічнай трансфармацыі як канкрэтызацыя.

Канкрэтызацыя – замена слова або словазлучэння мовы арыгінала з больш шырокім рэферэнцыяльным значэннем словам або словазлучэннем мовы перакладу з больш вузкім значэннем.

Як паказаў даследаваны матэрыял, канкрэтызацыя як тып трансфармацыі прымяняецца перакладчыкамі пры ўзнаўленні як самастойных, так і службовых слоў. Назіранні выявілі, што канкрэтызуюцца ў перакладзе твораў Івана Мележа назоўнікі, займеннікі і дзеясловы. Напрыклад, … мужчыны і жанкі, ***старыя*** і ***маладыя*** рупіліся з радамі, з копамі, са стагамі .. (Подых навальніцы). – …мужчины и женщины, ***старики*** і ***подростки*** хлопотали над рядами, над копнами, над стогами (пераклад Д.Кавалёва). У арыгінале – ***старыя*** і ***маладыя***, у перакладзе – ***старики*** и ***подростки***. Відавочна, што больш канкрэтную акрэсленасць паводле ўзросту маюць адзінкі перакладу ***старики*** і ***подростки***. Заўважаем ўзроставую канкрэтызацыю і пры параўнанні наступных ілюстрацый: … у кожным двары, ля кожных калёс завіхаліся ***старыя*** і ***маладыя***… (Подых навальніцы). – …в каждом дворе, у каждой телеги суетились ***старики*** и ***дети*** (пераклад Д.Кавалёва). Найбольш вузкую ўзроставую канкрэтызаванасць мае адзінка перакладу ***дети*** (адзінка арыгінала – ***маладыя***).

Канкрэтызуюцца назоўнікі не толькі адносна ўзроставага паказчыка, але і паводле родава-відавой суаднесенасці: Жанчыны, якія стаялі за ёй [Ганнай], глядзелі з зайздрасцю, гаманілі, хвалілі: добрая ***хустка***, да твару… (Людзі на балоце). – Женщины, стоявшие за её спиной, смотрели с завистью, обсуждали, хвалили: хороший ***полушалок***, к лицу … (пераклад Н.Кісліка). У арыгінале: ***хустка*** – «кавалак тканіны ці вялікага палатна, звычайна квадратнай формы, які завязваюць на галаву, шыю, ці накідваюць на плечы» [ТСБЛМ, с. 726]. У перакладзе – ***полушалок*** – «просторечн. устар. Шаль, платок небольших размеров» [ТСРЯ под ред Д.Н.Ушакова. **–** Т. 3, с. 551]. Як бачым, ***полушалок*** – хустка канкрэтнага тыпу.

Родава-відавая неадпаведнасць назіраецца і пры параўнанні наступных адзінак: … мераў і мераў ***пакой*** чарнявы чалавек у сіняй гімнасцёрцы (Завеі, снежань). – … мерил и мерил ***кабинет*** чернявый человек в синей гимнастёрке (пераклад Д.Кавалёва і Т.Залатухінай). У арыгінале – ***пакой***, «асобнае памяшканне для жылля ў кватэры» [ТСБЛМ, с. 426]. У перакладзе – ***кабінет***, «пакой для работы, заняткаў» [ТСБЛМ, с. 261].

Канкрэтызацыя семантыкі адносна часу выяўлена пры параўнанні наступных адзінак арыгінала і перакладу: – Е ў вас калі ***час*** для сябе? (Завеі, снежань). – Есть у вас хоть ***часок*** для себя? (пераклад Д.Кавалёва і Т.Залатухінай). Беларускае ***час*** – слова мнагазначнае; у нашым кантэксце – прамежак пэўнай працягласці, рускае ***часок*** – прамежак часу, роўны 60 мінутам. Часавая, як і іншыя, канкрэтызацыя пры перакладзе лексічнай адзінкі найчасцей матывуецца кантэкстам: У гэты ***час*** Васіль шкадаваў, што не пагаліўся… (Людзі на балоце). – В эту ***минуту*** Василь пожалел, что не побрился (пераклад Н.Кісліка). Зразумела, што канкрэтызацыя – ***час*** – ***минута*** – у гэтым выпадку абгрунтавана кантэкстуальна.

Кантэкстуальная матываванасць як падстава выкарыстання канкрэтызацыі выяўляецца найбольш пры замене няпэўнага займенніка на назоўнік: … у Крыўцоў акоп … ***хтосьці*** зваліўся (Мінскі напрамак). – в окоп Кривца свалился… ***Шашура*** (пераклад Л.Шапіры).

Пры ўжыванні канкрэтызацыі як тыпу трансфармацыі на перакладчыцкі выбар уплывае як вузкі (кантэкст сказа), так і больш шырокі кантэкст (кантэкст тэксту): Абапал дарогі ***ішлі*** палоскі жыта (Мінскі напрамак). – По сторонам дороги ***желтела*** рожь (пераклад Л.Шапіры). ***Ішлі*** – слова мнагазначнае, у кантэксце названага сказа – праходзілі, пралягалі. ***Жаўцела*** – вылучалася сваім жоўтым колерам, таму што ўжо быў жнівень, як вядома з больш шырокага кантэксту, і жыта выспела.

Сярод службовых слоў у перакладзе найчасцей канкрэтызуюцца прыназоўнікі: Хадоська паслухалася, села ***каля*** яго (Людзі на балоце). – Хадоська послушалась, села ***рядом с*** ним (пераклад Н.Кісліка). Параўнаем: ***каля яго*** – ***рядом с ним***. Канструкцыі з прыназоўнікам ***каля*** абазначаюць месца ў непасрэднай або адноснай блізкасці да аб'екта, у нашым кантэксце – у непасрэднай блізкасці. Спалучэнне ***рядом с*** і ўжываецца для абазначэння непасрэднай блізкасці. Напэўна, такі адпаведнік выбірае перакладчык для таго, каб перадаць сэнс кантактнага размяшчэння прадмета, асобы каля іншага прадмета, асобы.

Канкрэтызацыя значэння адзінкі перакладу можа быць выклікана не толькі кантэкстам, але і папярэднімі трансфармацыямі: У кузаве ***каля*** кабіны сядзелі поруч Лагуновіч і Сонцаў (Мінскі напрамак). – В кузове, ***спиной к*** кабине, сидели рядом Лагунович и Солнцев (пераклад аўтара). Сядзелі ***каля кабіны*** – знаходзіліся непадалёк, побач, у непасрэднай ці адноснай блізкасці да нечага. У якасці кампанента канструкцый з ***каля*** можа выступаць любы назоўнік (займеннік) лакальнага значэння ў шырокім сэнсе гэтага слова. Агульнапрынятыя адпаведнікі да канструкцый з ***каля*** – канструкцыі з ***у***, ***возле***, ***около***. У перакладзе заменены прыназоўнік (***каля*** – ***к***), што было выклікана ўвядзеннем

кампанента ***спиной***. Відаць, трэба прыняць пад увагу, што І.Мележ як перакладчык свайго твора імкнуўся пэўным чынам удасканаліць мову рамана ў цэлым, таму і выкарыстаў названыя змены.

Такім чынам, да канкрэтызацыі як тыпу лексічнай трасфармацыі перакладчыкі твораў І.Мележа звяртаюцца пры наяўнасці ў мове перакладу раўназначных адпаведнікаў, што тлумачыцца або кантэкстам, або своеасаблівасцю перакладчыцкага ўспрымання сэнсу выказвання. Пры гэтым семантычная суаднесенасць адзінак арыгінала і трасфармаваных адпаведнікаў перакладу рэалізавана часткова.

Слоўнікавы склад мовы ўяўляе сабой сістэму, «якая дапускае бясконца разнастайныя, але не любыя спалучэнні слоў у любым кантэксце… Гэтыя абставіны праяўляюцца пры перакладзе і часта не дазваляюць выкарыстоваць найбліжэйшы слоўны адпаведнік» [1, с. 180]. Аднак часам, на нашу думку, падстаў для канкрэтызацыі ў перакладзе проста няма.

***Літаратура***


1. Воінава, А.М. Моўныя асаблівасці перакладу паэмы «Медны коннік» А.С.Пушкіна Янкам Купалам / А.М.Воінава // Взаимодействие и взаимопроникновение языков и культур: состояние и перспективы: материалы Междунар. науч. конф., Минск, 20 – 21 марта 2008 г. / БГПУ; редкол. Т.В.Балуш (отв. ред.) [и др.]. – Минск: БГПУ, 2008 . – Ч. 1 – с. 178 – 181.

2. Рецкер, Я.И. Теория перевода и переводческая практика: очерки лингвистической теории перевода / Я.И.Рецкер. – М.: Р.Валент, 2004. – 273 с.



**В.П.Русак (Мінск, Інстытут мовы і літаратуры НАН Беларусі)**


## УНІКАЛЬНАЯ КРЫНІЦА ЛІНГВІСТЫЧНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ СЛАВЯНСКАГА СВЕТУ

Важнае месца ў лінгвістычнай літаратуры займае Агульнаславянскі лінгвістычны атлас (*АЛА*), які прадстаўляе багацейшы матэрыял для дакладнага вызначэння лексіка-словаўтваральных і фанетыка-граматычных адметнасцей сучасных славянскіх моў і іх дыялектаў, адкрываючы новыя магчымасці ў вывучэнні мінулага і сучаснага стану славянскага дыялектнага кантынуума. Адзінаццаць выпускаў атласа з’яўляюцца рэальным сведчаннем дзейнасці Міжнароднай камісіі АЛА пры Міжнародным камітэце славістаў на працягу апошніх пяцідзесяці гадоў. Гэта буйнейшы славістычны праект, які ажыццяўляецца зладжаным міжнародным калектывам лінгвістаў. Упершыню ў гісторыі славянскага мовазнаўства праведзена абследаванне ўсіх славянскіх дыялектаў на тэрыторыі, якую яны займаюць у Еўропе на аснове адзінай праграмы і транскрыпцыі. Ён з’яўляецца атласам вялікай групы родных моў і ахоплівае ў той ці іншай ступені ўсе ярусы моўнай сістэмы: фаналогію, лексіку, семантыку, словаўтварэнне, сінтаксіс.

Надрукаваныя выпускі *АЛА* фанетыка-граматычнай серыі складаюцца ў асноўным з карт, якія адлюстроўваюць рэфлексы праславянскіх фанем у асобных словаформах. Асноўным аб’ектам лінгвагеаграфічнага вывучэння сталі праславянскія галосныя:

рэфлексы *ě, назальныя галосныя, складовыя сананты *ьr, *ъr, *ьl, *ъl, рэдукаваныя *ъ і *ь, якія ў працэсе развіцця страцілі фаналагічную тоеснасць на большай частцы славянскай тэрыторыі [1]. Рэфлексы закартаграфаваных фанем адносяцца да ліку важнейшых паказчыкаў дыялектных адносін у генетычнай і тыпалагічнай класіфікацыі славянскіх моў/дыялектаў. Матэрыялы ўсіх шасці выпускаў арыентаваны на паказ славянскіх дыялектных адрозненняў, якія былі звязаны з рэфлексацыяй праславянскіх галосных, чые кантынуанты маглі мяняць фаналагічны статус зыходнага элемента і мелі дастаткова шырокую рэпрэзентацыю. Пяць выпускаў лексіка-словаўтваральнай серыі прадстаўляюць тэрытарыяльнае распаўсюджанне лексічных найменняў на прасторах Славіі: жывёльны свет, жывёлагадоўля, раслінны свет, прафесіі і грамадскае жыццё, дамашняя гаспадарка і прыгатаванне ежы [2].

На пачатку XXI ст. работа Міжнароднай камісіі *АЛА* пры Міжнародным камітэце славістаў, якую зараз узначальвае прафесар Т.І.Вендзіна, выйшла на новы ўзровень, і сёння ўжо можна падводзіць канкрэтныя вынікі і гаварыць аб рэальных перспектывах работы над *АЛА* ў бліжэйшыя гады. Да 50-годдзя навукова-даследчыцкай дзейнасці ў *АЛА* беларускіх вучоных выдадзена кніга «Раслінны свет. Матэрыялы Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа», якая падрыхтавана па матэрыялах 3 выпуску *АЛА* «Раслінны свет» [3]. Ідэйным імпульсам манаграфічнага даследавання па арэальнаму распаўсюджанню лексікі расліннага свету ў краінах Славіі стала кніга Б.Фалінскай «Лексіка гадоўлі на картах Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа» [4], у якой прадстаўлена першая спроба геаграфічнай характарыстыкі лексікі, змешчанай на картах II тама *АЛА*, прысвечанага лексіцы са сферы жывёлагадоўлі. Прапанаваную польскай даследчыцай методыку апрацоўкі лінгвістычных карт можна аднесці да лепшых і ўзорных. Яна дазваляе аднастайна апісаць дыялектныя матэрыялы розных тэматычных груп. У сувязі з гэтым вырашана апрацоўку матэрыялаў расліннага свету АЛА правесці па адзінай методыцы. Тым больш, што пры дапамозе статыстычных падлікаў з выкарыстаннем табліц можна паказаць тэрытарыяльную стратыфікацыю лексіка-словаўтваральных адрозненняў, а тым самым – размежаванне больш старажытных і / ці больш новых лексем і з'яў, у адпаведнасці з якімі ажыццяўляецца сучасная дыферэнцыяцыя славянскага дыялектнага адзінства і яго складнікаў.

Матэрыялы, прадстаўленыя ў аналітычнай кнізе, могуць быць выкарыстаны пры аналізе батанічных назваў паводле разнастайных крытэрыяў, напрыклад, лінгвагеаграфічнага распаўсюджання каранёў, функцыі суфіксаў, ужывання запазычаных слоў і інш. Пэўны інтарэс могуць уяўляць назвы, якія не зафіксаваны ў дыялектах, але прынятыя ў якасці літаратурных форм, як бел. *дзьмухавец*. На падставе аналітычных матэрыялаў *АЛА* можна таксама паказаць магчымасці лінгвагеаграфіі ў даследаванні марфаналагічных з'яў у славянскіх мовах/дыялектах, у тым ліку для характарыстыкі вынікаў фанетычных працэсаў, якія прывялі ў праславянскай мове да палаталізацыі заднеязычных зычных. Вынікі гэтых змен мелі важнае значэнне для станаўлення сістэмы кансанантызму ў славян: абумовілі яе папаўненне мяккімі зычнымі, парадзілі шматлікія пазіцыйныя чаргаванні розных па якасці зычных, якія, прайшоўшы працэс фаналагізацыі

шыпячых і свісцячых рэфлексаў, перайшлі на марфаналагічны ўзровень і замацаваліся за пэўнымі словазмяняльнымі катэгорыямі ў парадыгмах скланення іменных і спражэння дзеяслоўных форм ці за пэўнымі словаўтваральнымі тыпамі і мадэлямі ў славянскіх мовах. Натуральна, што пры агульным тыпалагічным адзінстве словаўтваральных і словазмяняльных сістэм славянскіх моў сістэма іх марфаналагічных змен мае шмат падобнага: марфаналагічныя сродкі носяць дастаткова ўпарадкаваны і рэгулярны характар; чаргаванні выяўляюцца як у парадыгме аднаго слова, так і ў розных дэрывацыйных утварэннях; у кожнай мове існуе строга акрэслены набор тыпаў чаргаванняў, якія рэалізуюцца ў канкрэтных альтэрнантах галосных і зычных фанем; марфаналагічныя характарыстыкі выкарыстоўваюцца ў якасці класіфікацыйных адзінак. Вынікі папярэдняга вывучэння марфаналагічнай структуры славянскіх моў падкрэсліваюць цэлы шэраг падабенстваў у будове марфаналагічнай структуры. У першую чаргу гэта датычыцца фармальных сродкаў, якія фарміруюць сегментныя марфаналагічныя чаргаванні і характарызуюць тыпы марфаналагічных мадыфікацый асновы ў сістэме словазмянення і словаўтварэння, а разам з тым маюцца істотныя марфаналагічныя адрозненні паміж імі [5, 6, 7, 8].

Матэрыялы *АЛА* адлюстроўваюць, як наяўнасць / адсутнасць вынікаў палаталізацыйных змен размяркоўваецца ў славянскім кантынууме ў цэлым. Устанаўленне марфаналагічных асаблівасцей функцыянавання трох палаталізацыйных змяненняў, заснаваных на агульнасці папярэдніх эпох, але працякаўшых у розных частках славянства ў значнай меры самастойна, а таму прывёўшых да розных вынікаў, паказвае найбольшую адчувальнасць да палаталізацыі заднеязычных зычных. Трэцяя ж палаталізацыя дэманструе разыходжанні не толькі на славянскай моўнай тэрыторыі, але і ў дыялектах адной моўнай групы, і нават адной мовы. Так, у беларускіх, рускіх, украінскіх гаворках распаўсюджаны назвы з канцавымі фанемамі асноў <c> і <k>: *brusnica* і *brusnika, sunica* і *sunika, zeml'anica* і *zeml'anika.* Асноўнымі словаўтваральнымі суфіксамі, уласцівымі гэтай катэгорыі назоўнікаў, ва ўсіх славянскіх мовах з'яўляюцца сінанімічныя (= функцыянальна тоесныя), «ягадныя» суфіксы *-ik(a)* і *-ic(a): čьrnika // čьrnica*. Несумненны інтарэс прадстаўляе вывучэнне ўзаемаадносін суфіксаў *-ik*(*a*) //*-ic*(*a*), а дакладней іх канкурэнцыі не толькі ў дыяхранічным, але і сінхронным аспекце, важнае для рашэння некаторых спрэчных пытанняў прагрэсіўнага змякчэння заднеязычных, а таксама для разумення агульнай карціны дыялектнай дыферэнцыяцыі славянскага моўнага свету. Такі стан славянскіх дыялектных моў выяўляецца пры дэталёвым лінгвагеаграфічным разглядзе марфаналагічнай варыянтнасці ў «ягадных» суфіксах *-ik(a) //-ic(a)* на большасці тэрыторыі. З'ява замяшчэння ці паралельнага выкарыстання <k> // <c> у лексіцы, звязанай з найменнямі ягад і іх пладоў, носіць агульнаславянскі характар. Немалаважную ролю ў паралельным ужыванні аднайменных назваў з <k> або <c> адыграла трэцяя прагрэсіўная палаталізацыя, рэфлексы якой былі сканцэнтраваны на стыку асновы і флексіі. Змяненне заднеязычнага [k] у [c'] у суфіксе *-ik(a)* назоўнікаў жаночага роду адбывалася пасля галоснага пярэдняга рада [i] перад непярэднім галосным. Працэс гэты адбываўся ў позні праславянскі перыяд, магчыма, нават у эпоху, калі пачаўся распад

агульнаславянскага адзінства. Акрамя таго, трэба ўлічваць, што больш старажытным словаўтваральным фармантам з'яўляецца суфікс *-ik(a)*, які ў праславянскай мове яшчэ да палаталізацыйных працэсаў атрымаў трывалае «батанічнае» значэнне. Фарміраванне разгледжаных тэматычных груп адносіцца да параўнальна позняга праславянскага перыяду, чым і тлумачыцца дыялектны разнабой у адлюстраванні вынікаў трэцяй палаталізацыі, прывёўшай да ўзнікнення ў праславянскай мове суфікса *-ic(a)*, які першапачаткова выконваў функцыі памяншальнага суфікса.

Супярэчлівасць выкарыстання суфіксаў у адных і тых жа найменнях, у абсалютна тоесных умовах, варыянтных канцавых элементаў <k> і <c> вымушае шукаць дадатковыя ўмовы, якімі можа тлумачыцца іх канкурэнтнасць, а разам з тым заканамернасці прагрэсіўнага змякчэння і зоны яго пашырэння. Менавіта наяўнасць той ці іншай мадыфікацыі марфаналагічных мадэлей <K ~ Č> і <K ~ C> дае магчымасць прасачыць дыяхранічную інфармацыю, звязаную з палаталізацыйнымі працэсамі заднеязычных зычных у кантэксце гісторыі ўсяго славянскага свету. Як этап да здзяйснення гэтай мэты можна разгледзець марфаналагічныя альтэрнацыі <k ~ č>, <k ~ c>, <c ~ č> у беларускіх і славацкіх дыялектных лексемах з ілюстрацыямі ўстойлівых вынікаў палаталізацыйных працэсаў: бел. *чарніка ~ чарнічына ~ чарніцы, брусніка ~ бруснічына ~ брусніцы, суніцы ~ сунічнік;* слвц.: *borovnik ~ borovička, borovnica ~ borovička, čьmica ~ čьmička, brusnica ~ brusničak*. Дыялектныя матэрыялы лексіка-семантычных груп найменняў ягад, якія даўно сфарміраваліся ў мове і прадстаўляюць у наш час закрыты, практычна не папаўняльны клас слоў, выяўляюць выразныя дыяхранічныя адрозненні. У беларускіх, часткова ўкраінскіх і паўднёваславянскіх мовах разнабой паралельнага выкарыстання лексем ліквідаваны на карысць ужывання асноў з канцавым <c>. У рускіх, польскіх дыялектах пераважае тэндэнцыя да зацвярджэння асноў з канцавым альтэрнантам <k> у ягадных найменнях. Распаўсюджанне ў дыялектах і замацаванне ў літаратурнай норме марфаналагічных чаргаванняў «заднеязычны ~ свісцячы», «заднеязычны ~ шыпячы» з'яўляецца асаблівасцю гістарычнага развіцця беларускай мовы. Альтэрнацыі зычных фанем адлюстроўваюць фаналагічную структуру зменных сегментаў, якія рэгулярна замяшчаюць адзін аднаго пры чаргаванні канцавых элементаў каранёвых і суфіксальных марфем і ўваходзяць у формаўтваральныя і словаўтваральныя асновы: *земляніка ~ землянічына ~ землянічка ~ земляніцы, суніца ~ сунічына ~ сунічка ~ суніцы, чарніка ~ чарнічына ~ чарнічынка ~ чарніцы.* Зразумела, што розныя прычыны маглі выклікаць непаслядоўнасць вынікаў трэцяга пераходнага памякчэння заднеязычных, але ўлічваючы часавыя і прасторавыя межы працэсу, этнатэрытарыяльныя суадносіны пашырэння адзначаных назваў дазваляюць устанавіць пэўную іерархічную паслядоўнасць. Тэрыторыя распаўсюджання найменняў ягад з альтэрнантам <c> далёка не аднолькавая па дыялектах славянскіх моў: калі на паўднёваславянскай тэрыторыі структура з альтэрнантам <c> з'яўляецца асноўнай, шырока распаўсюджанай на беларускай, украінскай, значнай частцы паўночнарускіх гаворак валагодскай групы і невялікай тэрыторыі паўднёварускіх гаворак заходняй групы, паўднёвай частцы славацкіх дыялектаў, адзначаецца ў гаворках усходняга і паўночна-ўсходняга пагранічча ў польскай

мове, то ў гаворках чэшскай, лужыцкай моў мадэль з <c> сустракаецца спарадычна. Пашыранае выкарыстанне лексем з канцавым альтэрнантам асновы <c> і наяўнасць адзінкавых лексем з <k> збліжаюць па гэтай прымеце беларускія гаворкі з паўднёваславянскімі.

Паслядоўнае выкарыстанне пэўнай марфаналагічнай мадэлі ў найменнях ягад указвае на архаічнасць/новаўтварэнне канкурэнтных канцавых сегментаў. На картах атласа паказана паралельнае ўжыванне канцавых суфіксальных сегментаў <k>, <c>, <č>, <*g*>, <*s*> у адной лексеме: рус. *brusnika ~ brusnica ~ brusniča ~ brusniga ~ brusnisa, zeml'anika ~ zeml'anica ~ zeml'aniča ~ zeml'aniga.* Велічыня арэалаў паралельных марфаналагічных мадэлей з <k>, <c>, <g> дазваляе гаварыць аб тым што, чым большая зона суцэльнага распаўсюджання адной з мадэлей у лексіка-семантычнай групе найменняў ягад, тым больш падстаў лічыць яе архаічнай. Па гэтай прымеце вядомыя толькі рускім дыялектам найменні ягад на *-ig(a)* з'яўляюцца больш позняй мадэллю, чым вытворныя назвы на *-ic(a) //-ik(a*). Зона іх суцэльнага распаўсюджання ахоплівае толькі частку ўсходніх сярэднярускіх гаворак (Уладзімірскай, Іванаўскай, Ніжагародскай абласцей). Найбольш паслядоўная фіксацыя найменняў з канцавым альтэрнантам <c> у паўднёваславянскіх дыялектах указвае на іх большую архаічнасць. Менавіта ў гэтых дыялектах наяўнасць альтэрнанта <c> пасля галосных пярэдняга рада на стыку асновы і флексіі прадстаўлена найбольшай колькасцю найменняў, што дазваляе гаварыць пра эпіцэнтр трэцяй палаталізацыі. Нашы вынікі супадаюць з традыцыйным поглядам, што «трэцяя палаталізацыя найбольш паслядоўна праходзіла ў тых дыялектах праславянскай мовы, якія ляжаць у аснове паўднёваславянскіх моў» [5, с. 211].

Лінгвагеаграфічны аналіз цэлай тэматычнай групы найменняў ягад і іх пладоў у славянскім дыялектным кантынууме паказвае, што ў групе ўсходнеславянскіх моў беларускія дыялекты найбольш паслядоўна захавалі вынікі трэцяй палаталізацыі заднеязычных. Пацвярджаецца тэзіс аб тым, што лігвагеаграфічны метад вывучэння моўных з'яў можа даць новыя дадзеныя для параўнальна-гістарычнага вывучэння славянскіх моў і дыялектаў. А з выхадам у свет новых выпускаў Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа праблемы вызначэння інфармацыйных магчымасцей, пошукі адказаў на пытанні, што даюць лінгвістычныя карты для пазнання мовы, дыялектнага драблення рэгіёнаў, гісторыі этнасаў набываюць асаблівае значэнне і прыцягваюць да сябе ўвагу перш за ўсё як кампактныя крыніцы моўнай інфармацыі. Такім чынам, АЛА не толькі мнагамерная панарама разнастайных адносін паміж славянскімі мовамі народаў Славіі, але і незвычайная скарбніца лінгвістычнага матэрыялу – крыніца новых лінгвагеаграфічных, а таксама розных іншых даследаванняў багатай і складанай славістычнай лінгваструктуры.

***Літаратура***

1. Общеславянский лингвистический атлас. Серия фонетико-грамматическая. Вып.1. Рефлексы *ě. – Белград, 1988; Вып. 2а. Рефлексы *ę. – М., 1990; Вып. 2б. Рефлексы *ą. – Wrocław-Warszawa-

Krakow, 1990; Вып. 3. Рефлексы *ьг, *ъг, *ы, *ъl. – Warszawa, 1994; Вып. 4б. Рефлексы *ъ, *ь. Вторичные гласные. Скопье 2003. Вып. 4а. Рефлексы *ь, *ъ. – Загреб, 2006.

2. Общеславянский лингвистический атлас: Серия лексико-словообразовательная. Вып.1. Животний мир. – М., 1988; Вып. 2. Животноводство. – Warszawa, 2000; Вып. 3. Растительный мир. – Мінск, 2000; Вып. 8. Профессии и общественная жизнь. – Warszawa 2003; Вып. 6. Домашнее хозяйство. Приготовление пищи. – М., 2007.

3. Раслінны свет. Матэрыялы Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа. – Мінск, 2009.

4. Falińska, B. Leksyka dotycząca hodowli na mapach ogólnosłowiańskiego atlasu językowego / B.Falińska. – Białystok, 2001.

5. Бернштейн, С.Б. Очерк сравнительной грамматики славянских языков / С.Б.Бернштейн. – Москва, 1961.

6. Kowalik, K. Struktura morfonologiczna współczesnej polszczyzny / K.Kowalik. – Kraków, 1997.

7. Славянская морфонология. Субстантивное словоизменение / под ред. Т.В.Поповой. – Москва.

8. Русак, В.П. Марфаналогія сучаснай беларускай мовы / В.П.Русак. – Мінск, 2003.

**В.У.Русак (Мінск, БДТУ)**

## КАНТЭКСТУАЛЬНАЯ ГРУПА ПРОСТЫХ СКАЗАЎ ЯК ЭКСПРЭСІЎНЫ СРОДАК У ПРАЗАІЧНЫМ КАНТЭКСЦЕ ЯНКІ СІПАКОВА

Да актуальных праблем сучаснай лінгвістычнай навукі адносіцца даследаванне экспрэсіўных сінтаксічных канструкцый – сінтаксічных сродкаў, якія ўдзельнічаюць у перадачы эмоцый, пачуццяў, ацэнак, надаюць паведамленню вобразнасць і выразнасць, дазваляюць эстэтычна і псіхалагічна ўздзейнічаць на рэцыпіента. Розныя аспекты гэтай праблемы сталі аб'ектам увагі вядомых вучоных беларускай і замежнай лінгвістыкі (Г.М.Акімавай, Ш.Балі, Э.М.Берагоўскай, В.А.Маславай, А.П.Скавароднікава і інш.), тым не менш поўнага пераліку экспрэсіўных сінтаксічных адзінак няма. Слушную думку на гэты конт выказала В.А.Маслава, якая заўважыла, што «ў канкрэтным мастацкім тэксце носьбітам экспрэсіўнай ідэі могуць стаць <...> любыя асаблівасці сінтаксічнай будовы фразы, усё залежыць ад тэмы тэксту, індывідуальнай манеры пісьменніка, яго намераў і сітуацыі, у якой тэкст узнікае і ўспрымаецца» [1, с. 67].

У творах вядомага сучаснага беларускага пісьменніка Янкі Сіпакова прыцягвае ўвагу экспрэсіўнае функцыянаванне кантэкстуальнай групы простых сказаў. Лаканізацыя паведамлення выкарыстоўваецца аўтарам, каб надаць маўленню выразнасць, эмацыянальны характар, стварыць глыбокі падтэкст.

Так, ужыванне ланцужкоў нескладаных, мінімальна развітых сінтаксічных канструкцый, якое фарміруе падачу матэрыялу паводле прынцыпаў «колькаснай эквівалентнасці» [2, с. 302] і «малой дазіроўкі інфармацыі» [2, с. 305], становіцца сродкам актуалізацыі настраёвай танальнасці кантэксту, у залежнасці ад зместу падкрэсліваючы радасны, узнёслы ці, наадварот, неспакойны, трывожны настрой сказанага: *Раніца. Шалёнасць колераў. Ласка сонца. Пераразвоньванне ручаёў. Мяккі туман над дальняй ракою. І ранішняя шматгалосая малітва птушак. А небяспечных звяроў (розных там дыназаўраў) паблізу няма. Ну, як тут не заспяваць!* («Па зялёную маланку»).

Прыведзены ўрывак прасякнуты радасцю, выкліканай прыгажосцю летняй раніцы. Эмацыянальны пад’ём у першую чаргу перадаецца лексічнымі сродкамі (словы *раніца, сонца, ручай, птушкі* і інш. характарызуюцца пазітыўным асацыятыўным фонам). Аднак агульны настрой паведамлення актуалізуецца яго сінтаксічнай будовай. Урывак пачынаецца чатырма намінатыўнымі сказамі: адным неразвітым і трыма мінімальна развітымі (развітымі толькі адным даданым членам). Усе астатнія сказы таксама простыя. Лаканізаванае маўленне, сінтаксічная аднакампанентнасць большасці сказаў даюць адчуць, як паступова герой фіксуе ўвагу на самых выразных дэталях малюнка летняга ранку: яркіх колерах, незвычайных гуках, гульні сонечных промняў і г.д. Паўзы паміж сказамі актуалізуюць працэс асэнсавання пералічаных з’яў, выяўляюць тое замілаванне і душэўны пад’ём, ад якога і нараджаецца песня.

Супрацьлеглы па настроі наступны ўрывак: *Васіліна засталася адна. Шмат даўгоў, не аддадзены выкупы. Здзекуецца войт… Няма чаго есці… А яна ўцяжку… Носіць у сабе князеву надзею!* («Зубрэвіцкая сага»). Тут за нешматслоўнымі радкамі – трывога і балючыя перажыванні жанчыны, якая страціла мужа і засталася адна ў няпросты і адказны для яе перыяд жыцця. Урывак складаецца з шасці сказаў, пяць з якіх простыя. Кароткія незакончаныя сказы, у канцы якіх шматкроп’е, ствараюць адрывісты рытм, які толькі ўзмацняе ноткі горычы і экспрэсівізуе маўленне.

Мастацкае маўленне становіцца сціслым, лаканічным тады, калі на першы план у творы выходзіць не столькі паведамленне пра нейкую падзею ці з’яву, колькі перадача эмацыянальнага ўражання ад яе**:** *У вайну Пеці не стала. А мне яшчэ і сёння памятаюцца два выбухі. Адзін – гулкі і моцны, які аж скалануў лес. Гэта Пеця з падлеткамі знайшлі недзе снарад і ўзарвалі яго ў лесе. Другі – ціхі, ледзь чутны... Гэта немцы, пачуўшы выбух, выехалі у лес і злавілі там Пецю* («Акно, расчыненае ў зіму»). Урывак-успамін прасякнуты трывожным перажываннем аўтара, горыччу і болем за трагічны лёс сябра. Сціслае маўленне (ва ўрыўку з шасці сказаў пяць простых) высвечвае экспрэсію нявыказаных пачуццяў. Эмацыянальная ўзрушанасць аўтара падкрэсліваецца і адметным рытмічным гучаннем: сінтаксічны паралелізм паміж трэцім і пятым, чацвёртым і шостым сказамі надае рытму адрывісты характар, дзякуючы чаму думка падаецца нібы штуршкамі, урыўкамі.

Яшчэ прыклад: *Яны [брацкія магілы] бачылі, як разлучалі фашысты матак з дзецьмі. На край магілы клалі дзяцей. За імі выстройвалі матак. І на матчыных вачах уздзявалі на штыкі блакіт наіўных дзіцячых вачэй, званочкі іхняга колішняга смеху* («Ціхая Акіянія»). Тут таксама адчуваецца пякучы і незабыўны боль пісьменніка, які ўспамінае пра гора, перажытае беларускім народам у час вайны. Нанізванне простых сказаў у гэтым урыўку актуалізуе канататыўны аспект выказвання, перадаючы ўзрушэнне апавядальніка.

Пры ампліфікацыі простых сказаў элементы паведамлення не аб’ядноўваюцца ў адзіную «гронку», не зводзяцца ў цыкл, а становяцца матэрыялам для ўтварэння асобных выказванняў. Даследчыца Н.Д.Аруцюнава назвала такі спосаб арганізацыі маўлення «сінтаксісам актуалізацыі выказвання» [3, с. 26], паколькі асобныя, часта неаб’яднаныя дэталі, перададзеныя простымі сказамі, паўстаюць у тэксце ў выглядзе яркіх штрыхоў.

Такімі ўласцівасцямі катэкстуальных груп простых сказаў Янка Сіпакоў у асобных выпадках карыстаецца, каб актывізаваць думку чытача, даць яму магчымасць самастойна падумаць пра сэнс інфармацыі. У апавяданні «Сівыя ў пілотках» знаходзім такія радкі: *Жанчына ва ўсім чорным. Сядзіць на машыне як мумія. Быццам нічога не бачыць, нічога не чуе. Быццам усё гэта ідзе міма яе – на твары ніякіх эмоцый. Твар мёртвы. Хто яна? Чаму без медалёў? Ваявала сама ці едзе з ветэранамі за свайго мужа, які не вярнуўся з таго пекла. Чаму яна не плача?* Аб'ектам апісання стала адна з удзельніц парада, прысвечанага Дню Перамогі. Урывак складаецца з кароткіх, пераважна простых сказаў. Аўтар не дае ні падрабязнага апісання жанчыны, на якой спынілася яго ўвага, ні глыбокіх разважанняў пра яе лёс. Апісанне асобных дэталей яе знешнасці (*ва ўсім чорным, як мумія, твар мёртвы*) змяняецца кароткімі пытаннямі пра яе жыццё, якія аўтар задае сам сабе і на якія не дае адказаў. Кантэкст дэманструе такі лаканізм сінтаксічных фігур, які дазваляе выклікаць складаныя і глыбокія асацыяцыі ў чытача і дапамагае зразумець падтэкст прачытаных радкоў. Чытач сам адказвае на пытанні, пастаўленыя аўтарам: жанчына, мабыць, на свае вочы бачыла ўсе жахі вайны і прайшла праз яе пекла; за доўгія гады боль яе так і не згас; 9 Мая падзеі вайны ажылі ў памяці з большай сілай, ад таго такі сур'ёзны твар, аднак яна не плача, бо за доўгі час навучылася жыць са сваім болем.

У асобных выпадках пісьменнік карыстаецца ампліфікацыяй простых сказаў, калі дае замалёўкі, якія ўзнікаюць у яго памяці. Шэрагам кароткіх сінтаксічных канструкцый аўтар падкрэслівае, што гэта вобразы-ўспаміны: *Я, малы, сяджу на печы і з-за коміна цікую за сталом. На лаўцы сядзіць ён <…> У хаце гоніцца самагонка. Госць ужо выпіў ладнага – некалькі кубкаў. Ён нейкі стараста ці памочнік старасты. Я разумею толькі, што ён служыць немцам* («Акно, расчыненае ў зіму»); *Раніца. Агарод. Агурэчнік. І ты ў ім, росным, – чакаеш нейкага цуду, усхвалявана заглядваючы пад шырокае, халаднаватае з начы лісцё… А яшчэ пад табой такое сіняе, глыбокае-глыбокае неба. Усяго толькі імгненне дзяцінства. Але яно хвалюе заўсёды: сонечная раніца, бучны агарод, росны агурэчнік і такое сіняе неба над табою* («Такое сіняе неба»). Ланцужок кароткіх сказаў перадае фрагментарнасць таго, што засталося ў памяці, дае апісанне рэчаіснасці пункцірам, асобнымі вехамі, называе дэталі, выхапленыя як асобныя факты рэчаіснасці, і тым самым засяроджвае ўвагу на найбольш істотным і важным.

Такім чынам, проза Янкі Сіпакова выяўляе стылістычна матываванае выкарыстанне груп семантычна звязаных простых сказаў. Нешматслоўнасць выкладу, зафіксаваная ў простых сінтаксемах, дазваляе лаканічна і дакладна абмалёўваць характэрныя прыметы, дэталі, абставіны і актывізуе экспрэсіўны падтэкст твораў: выяўляе настраёвую танальнасць кантэксту, перадае ўзрушанасць аўтара-апавядальніка, ствараючы эфект яго прысутнасці, надае маўленню вобразнасць і выразнасць.

***Літаратура***

1. Маслова, В.А. Лингвистический анализ экспрессивности художественного текста / В.А.Маслова. – Минск: Высш. шк., 1997. – 156 с.

2. Кожевникова, К. Формирование содержания и синтаксис художественного текста / К.Кожевникова // Синтаксис и стилистика: сб. ст. / отв. ред. Г.А.Золотова. – М., 1976. – С. 301 – 315.

3. Арутюнова, Н.Д. К проблеме связности прозаического текста / Н.Д.Арутюнова // Памяти академика В.В.Виноградова: сб. ст. / редкол.: В.Г.Костомаров (отв. ред.) [и др.]. – М., 1971. – С. 22 – 30.

**Руц К.Ф. (Мінск, БДПУ)**

## НАЦІСК ДЗЕЯСЛОВАЎ ТРЭЦЯГА ПРАДУКТЫЎНАГА КЛАСА Ў ГАВОРЦЫ ВЁСКІ БЕРАЖНОЕ СТОЛІНСКАГА РАЁНА

Як вядома, да дзеясловаў трэцяга прадуктыўнага класа адносяцца словы з канцавымі элементамі *-авать (-явать)* у форме інфінітыва, *ують (-юють)* – у форме 3 асобы множнага ліку ў цяперашнім і будучым простым часах [1].

У форме інфінітыва дзеясловы названага прадуктыўнага класа маюць націск або на суфіксе *-ава- (-ява-)* ці характэрнага для гэтай марфемы *-ова-*, або на корані. Такім чынам, вылучаецца 2 акцэнтныя тыпы: 1 – словы з насуфіксальным націскам: *сторожова́ть, шыбова́ть, торгова́ть, турбова́ть, пакова́ть*; 2 – дзеясловы з накаранёвым націскам – *дя́ковать, кома́ндовать, пора́дковать*. Варта адзначыць той факт, што прыведзеныя дзеясловы трэцяга прадуктыўнага класа з'яўляюцца вытворнымі моўнымі адзінкамі. Дзеясловы-дэрываты, як правіла, утвараюцца ад назоўнікавых асноў: *сто́рож – сторожова́ть, торг – торгова́ть; коле́га – колегова́ть, пора́док – порадкова́ть.* Націск у словах, ад якіх утвараюцца дадзеныя дзеясловы, размяшчаецца на корані. Ва ўтвораных словах ён перамяшчаецца на словаўтваральны суфікс *-ова-*.

А цяпер больш падрабязна спынімся на разглядзе асаблівасцяў націску ў кожным выдзеленым акцэнтным тыпе.

Дзеясловы 1 акцэнтнага тыпу ў парадыгме спражэння прошлага часу характарызуюцца сталым націскам на суфіксе: *сторожова́ў, сторожова́ла, сторожова́ло, сторожова́лі; шыбова́ў, шыбова́ла, шыбова́ло, шыбова́лі; торгова́ў, торгова́ла, торгова́ло, торгова́лі; турбова́ў, турбова́ла, турбова́ло, турбова́лі; колегова́ў, колегова́ла, колегова́ло, колегова́лі; пакова́ў, пакова́ла, пакова́ло, пакова́лі; трамбова́ў, трамбова́ла, трамбова́ло, трамбова́лі*. Пры ўтварэнні асабовых формаў дзеясловаў прошлага часу таксама не назіраецца зменаў месца націску: *отсторожова́ў, отсторожова́ла, отсторожова́ло, отсторожова́лі; пошыбова́ў, пошыбова́ла, пошыбова́ло, пошыбова́лі; наторгова́ў, наторгова́ла, наторгова́ло, наторгова́лі; потурбова́ў, потурбова́ла, потурбова́ло, потурбова́лі; напакова́ў, напакова́ла, напакова́ло, напакова́лі.* Пры далучэнні да ўтваральных асноў прэфікса *вы-* націск перамяшчаецца з суфікса на прыстаўку: *вы́шыбоваў, вы́шыбовала, вы́шыбовало, вы́шыбовалі; вы́торговаў, вы́торговала, вы́торговало, вы́торговалі; вы́паковаў, вы́паковала, вы́паковало, вы́паковалі.*

Пры спражэнні дзеясловаў у цяперашнім і будучым простым часах націск таксама знаходзіцца на суфіксе, але гэта ўжо суфікс *-у- (-ю-)*. Я.М.Івашуціч сцвярджае, што ў

дадзенай пазіцыі адбываецца чаргаванне суфіксаў *-ава- (-ява-) // -у- (-ю-)* (у дадзеным выпадку фанетычным адпаведнікам суфіксу *-ава- (-ява-)* у гаворцы в. Беражное з'яўляецца *-ова-*), то маем чаргаванне *-ова- // -у-*. На думку даследчыцы гістарычнае тлумачэнне гэтай з'явы заключаецца ў чаргаванні марфем, паколькі ў агульнаславянскі перыяд чаргаванне *-ава- // -у-* мела фанетычную аснову. Суфікс *-у-* ў гістарычным плане адпавядае не ўсяму *-ава-*, а толькі яго частцы *-ав-* (*-а-* выступае тут як прыкмета інфінітыва) [2, с. 28]: *рожу́ю, сторожу́ём, сторожу́еш, сторожу́ете, сторожу́е, сторожу́ють; шьıбу́ю, шьıбу́ём, шьıбу́еш, шьıбу́ете, шьıбу́е, шьıбу́юць; балю́ю, балю́ём, балю́еш, балю́ете, балю́е, балю́ють; торгу́ю, торгу́ём, торгу́еш, торгу́ете, торгу́е, торгу́ють; турбу́ю, турбу́ём, турбу́еш, турбу́ете, турбу́е, турбу́ють; колегу́ю, колегу́ём, колегу́ете, колегу́е, колегу́ють; паку́ю, паку́ём, паку́еш, паку́ете, паку́е, паку́ють; трамбу́ю, трамбу́ём, трамбу́еш, трамбу́ете, трамбу́е, трамбу́ють; пану́ю, пану́ём, пану́еш, пану́ете, пану́е, пану́ють.* Прыставачныя дзеясловы, якія спрагаюцца ў цяперашнім часе таксама маюць насуфіксальны націск на *-у-*: *отсторожу́ю, отсторожу́ём, отсторожу́еш, отсторожу́ете, отсторожу́е, отсторожу́ють; пошьıбу́ю, пошьıбу́ём, пошьıбу́еш, пошьıбу́ете, пошьıбу́е, пошьıбу́ють; наторгу́ю, наторгу́ём, наторгу́еш, наторгу́ете, наторгу́е, наторгу́ють; напаку́ю, напаку́ём, напаку́еш, напаку́ете, напаку́е, напаку́ють.*

Дзеясловы 2 акцэнтнага тыпу ў прошлым часе маюць акцэнт на той жа частцы слова, што і ў інфінітыве, г. зн. на корані: *дя́коваў, дя́ковала, дя́ковало, дя́ковалі; кома́ндоваў, кома́ндовала, кома́ндовало, кома́ндовалі; пора́дковаў, пора́дковала, пора́дковало, пора́дковалі.* Прыставачныя дзеясловы ў прошлым часе таксама захоўваюць націск на корані: *подя́коваў, подя́ковала, подя́ковало, подя́ковалі; накома́ндоваў, накома́ндовала, накома́ндовало, накома́ндовалі; отпора́дковаў, отпора́дковала, отпора́дковалі.*

У формах цяперашняга і будучага простага часу дзеясловы 2 акцэнтнага тыпу захоўваюць накаранёвы націск: *дя́кую, дя́куём, дя́куеш, дя́куете, дя́кує, дя́кують; кома́ндую, кома́дуём, кома́ндуеш, кома́ндуете, кома́ндуе, кома́ндують; пора́дкую, пора́дкуём, пора́дкуеш, пора́дкуете, пора́дкуе, пора́кують.* Прэфіксальныя дзеясловы таксама ў цяперашнім, будучым простым часах вымаўляюцца з накаранёвым націскам: *подя́кую, подя́куём, подя́куеш, подя́куете, подя́куе, подя́кують; накома́ндую, накома́ндуём, накома́ндуеш, накома́ндуете, накома́ндуе, накома́ндують; отпора́дкую, отпора́дкуём, отпора́дкуеш, отпора́дкуете, отпора́дкуе, отпора́дкують.*

Такім чынам, дзеясловы трэцяга прадуктыўнага класа ў гаворцы вёскі Беражное Столінскага раёна характарызуюцца сталым нерухомым націскам ва ўсіх асабовых і часавых формах.

***Літаратура***

1. Беларуская граматыка: у 2 ч. / рэд. М.В.Бірыла, П.П.Шуба. – Мінск, 1985. – Ч. 1: Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск.

2. Івашуціч, Я.М. Націск у дзеяслоўных формах сучаснай беларускай мовы / Я.М.Івашуціч. – Мінск, 1981.

**А.Э.Сабуць (Гродна, ГрДУ)**

## ПЕРАКЛАД ЯК ПРАБЛЕМА МІЖКУЛЬТУРНАЙ КАМУНІКАЦЫІ

Пераклад – самакаштоўная мастацкая з'ява, якая люструе тыпалагічнае вывучэнне культур, у прыватнасці, праблемнае, комплекснае вывучэнне сусветнай літаратуры (і – адпаведна – беларускага кантэксту). Заўважым, толькі на пачатку 90-х гадоў ХХ стагоддзя ў айчынным перакладазнаўстве пераклад пачынае разглядацца як дзейсны нацыяўтваральны фактар [4]. У зведанай беларускай сітуацыі з ілюзорнай самаізаляванасцю, засяроджанасцю толькі на сабе дылема сваё / чужое (як замежнае) якраз слаба спрыяла ўстойліваму статусу беларускага нацыянальнага менталітэту, светаадчування, урэшце, збядняла яе ўнутраныя патэнцыі. Недарэмна і своечасова падчас нашаніўскай дыскусіі 1913 года ставілася праблема еўрапеізацыі-самабытнасці беларускай літаратуры. Невыпадкова апошнім часам у беларускай кампаратывістыцы заявілі пра сябе праблемы інтэрпрэтацыі перакладчыка як сааўтара, праблема рэцэпцыі. У гэтай сувязі варта згадаць словы вядомага беларускага кампаратывіста, аўтара навуковых прац па славістыцы і сусветнай літаратуры ХХ ст. І.В.Шаблоўскай: «Мусім прызнаць, што энергія літаратурнага ўзаемадзеяння на Беларусі ледзьве адчувальная. Мала перакладалася на беларускую мову твораў сусветнай класікі, фрагментарна прадстаўленыя на ёй літаратуры свету, як заходнія, так і ўсходнія, выключэннем з'яўляецца, бадай што, літаратура руская... Беларуская сітуацыя, такім чынам, сведчыць пра абмежаванасць успрыняцця літаратуры сусветнай» [1, с. 19]. Сапраўды, разглядаючы літаратуры з living рознымі генетычнымі, тыпалагічнымі і кантакталагічнымі адметнасцямі, варта згадаць пра непадробную паэтыку верленаўскага верша ў М.Багдановіча, дантаўскія алюзіі ў творах Я.Купалы, найдасканалейшыя дубоўкавы пераклады санетаў У.Шэкспіра, праметэізм М.Танка і інш.

Пераклад мае сваю культуру творчасці (калі разглядаць пераклад як працэс мастацка-творчы і навуковы-даследчы). Як і кожная нацыя мае сваю адметную мастацкую сістэму, свой Нацыянальны Космас. Праблема перадачы «нацыянальнага», ці т.зв. глыбокая нацыянальнасць перакладу абумоўлены, зразумела, канкрэтна-нацыянальным выяўленнем. Так, англійскае паэтычнае слова надзвычай лірычнае, беларускае ж – эпічнае, «густое». Або ў беларускіх мастацкіх тэкстах як адметны знак нацыянальнай ландшафтнай прасторы – згарманізаванае спалучэнне зямнога і нябеснага, дзе, паводле Купалы, *«лунае мой дух»*. Напрыклад, любімая кветка ў Англіі – нарцыс, у Японіі – сакура. Тэма смерці – вечная тэма іспанскай і сусветнай паэзіі, фактычна, забароненая, у беларускай савецкай літаратуры. Згаданы пералік можна доўжыць.

Зразумела, у літаратурным дыялогу праблема рэцэпцыі (успрымання) праз пераклад досыць вагомая. Невыпадкова Уладзіміру Караткевічу ў артыкуле «І наш Фауст» карцела так годна, надзіва па-беларуску згадаць і пра *«нашага Фауста»*, Васіля Сёмуху, а іменна: *«...з намі гаворыць вялікі Германец, але адначасова гэта гаворыць Беларус, што выказвае думкі Гётэ, як выказваў бы іх ён, але па-беларуску»* [2, с. 409]. Так, пры

кантэкстуальным вывучэнні літаратуры (калі параўноўваць праўдзіва параўнальнае ў творы і ўмець бачыць «нацыянальнае» ў ім) мэтазгодна ўлічваць, што пэўная нацыянальная літаратура ўтрымлівае сваю ўнутраную стадыяльнасць развіцця, уласную спецыфіку светаадлюстравання. Відаць, згодна шэкспіраўскай максіме *«Сваёй прыродзе верны будзь».*

Засваенне здабыткаў сусветнай літаратуры ёсць ўзбагачэнне і нацыянальнае, і ўласна аўтарскае. Што да апошняга, дык пэўнае ўзбагачэнне не можа адбывацца праз перайманне, наследаванне, уплыў, а – найперш – праз неабходнае творчае пераплаўленне ў нечым роднаснага аўтарскаму стылю ўвогуле. Менавіта гэты ўзровень узбагачэння адлюстроўвае тыпалагічнае падабенства творчых штрыхоў (заўважым – не творчасці) пісьменнікаў зусім рознага ўзроўню мастацкага мыслення. Як вядома, пры перакладзе мастацка-творчы ўплыў жыватворны толькі пры ўмове адчування прыроды мыслення паэта. Так, В.П.Рагойша слушна заўважае наступнае: «Мова ў мастацкім творы выступае ў сваёй эстэтычнай, фармаўтваральнай сутнасці. І важна не толькі заўважыць «трансплантацыю» нейкага іншамоўнага элемента ў структуру мовы перакладу, але і ўсвядомасць функцыі гэтага элемента ў мастацкай структуры твора <...> А тут звычак <u>чыста лінгвістычнай</u> (падкрэслена намі – *А.С.*) працы яўна недасткова» [3, с. 190]. Заканамерна і важна тое, што кожны творца мае свой непаўторны мастацкі почырк, стыль. Перакладчык перадае жывую мелодыю арыгінала, належным чынам перастварыўшы яе на роднай мове. Нездарма ж адна нямецкая прыказка досыць смела агучыла: *«Пераклады – што жанчыны: калі яны прыгожыя – то няверныя, калі ж верныя – то непрыгожыя».*

Пераклад – своеасаблівы від кантакту (дыялогу, палілогу) паміж нацыянальнымі літаратурамі. Так, адзін з заснавальнікаў беларускай школы мастацкага перакладу Я.Семяжон мае багаты творчы вопыт: пераклад твораў з літаратур на 34-х мовах свету. Сёння нашы суайчыннікі могуць хваліцца шыкоўнымі перакладамі з Байрана, Гётэ, Дантэ. Апошнім часам беларусы перакладаюць украінцаў значна часцей, чым украінцы беларусаў. Паэта-інтэлектуала, *«самага небеларускага»* і адначасова нацыянальна-самабытнага Алеся Разанава ведаюць у Еўропе (па перакладах) не толькі славяне. Аўтар намінаванай на Нобелеўскую прэмію кнігі «Ксты» (2005), выдадзенай па-беларуску і па-англійску, якую рэдагавалі эксперты з ЗША і Велікабрытаніі, Р.Барадулін перастварыў Святое Пісьмо, фактычна праілюстраваў новую школу перакладу. Разам з тым, Вера Рыч і Уолтэр Мэй – стваральнікі паэтычных англамоўных анталогій, дзе самавіта выяўляецца *«краса і сіла»* беларускай паэзіі. На жаль, няма ў нас беларускіх перакладаў (за выключэннем адной песні) гераічнага сярэднявечнага эпасу паўднёвых славян пра Марка Каралевіча, пра Косава поле. Амаль што аддаленай застаецца ў айчынным літаратуразнаўстве беларуская мастацкая рэцэпцыя Чэхіі і чэхаў (Чэхія – прытулак для былых беларускіх прэзідэнтаў П.Крачэўскага і В.Захаркі, паэткі Л.Геніюш, якая, фактычна, паклала пачатак згаданай рэцэпцыі). У недастатковай, на наш погляд, ступені асэнсавана сучасным беларускім літаратуразнаўствам і творчасць С.Алексіевіч – лаўрэата 13 прэстыжных замежных прэмій.

Засваенне здабыткаў сусветнай (у тым ліку славянскай) паэзіі зусім не чужароднае беларусу. Аднак істотным падаецца тое, што ўзбагачэнне ідзе не праз перайманне, наследаванне, уплыў, а праз усведамленне ідэйна-творчага вопыту. Таму пераклад – форма творчых узаемасувязей, плённага ўзаемаўзбагачэння філасофска-эстэтычнымі каштоўнасцямі.

***Літаратура***

1. Шаблоўская, І.В. Сусветная літаратура ў беларускай прасторы: Рэцэпцыя. Тыпалогія. Кантакты / І.В.Шаблоўская. – Мінск: Радыёла-плюс, 2007. – 304 с.

2. Караткевіч, У. Збор твораў: у 8 т. / У.Караткевіч. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1991. – Т. 8. Кн. 2: З жыццяпісу, нарысы, эсэ, публіцыстыка, постаці, крытычныя творы, інтэрв'ю, летапіс жыцця і творчасці.

3. Рагойша, В.П. І адгукнецца слова ў слове...: літаратурна-крытычныя артыкулы, эсэ, дыялогі / В.П.Рагойша. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1992. – 287 с.

4. Рагойша, В. Пераклад як нацыяўтваральны фактар // Беларусіка = Albaruthenika: Кн. 1 / рэд. А.Мальдзіс і інш. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – С. 225 – 230.

**Е.В.Салей (Гродно, ГрГУ)**

## СПОСОБЫ ПЕРЕДАЧИ ОТРИЦАТЕЛЬНОЙ ОЦЕНКИ В РЕКЛАМНЫХ ТЕКСТАХ

Настоящая статья рассматривает специфику оценочных коннотаций в языке рекламы. Под языком рекламы в данной статье понимается английский язык, который существует в виде рекламных текстов, обладающих некоторыми лингвистическими особенностями. Эта специфика связана со стилистической отмеченностью языка рекламы, служащего для определённой социальной цели.

Оценочная коннотация сообщает о наличии ценности в объекте, о полезности объекта, его способности отвечать потребностям и т.д. [2, с. 51]. Основой оценки в языке рекламы является степень предполагаемой полезности товара для покупателя и субъективное отношение к товару, которое может испытывать копирайтер. Роль положительной оценки в языке рекламы несомненна. В данной статье рассматривается специфика передачи отрицательной оценки и случаи изменения направленности оценки в рекламном контексте.

Материалом для исследования послужили рекламные тексты английских и американских журналов 2004 – 2007 годов.

Реклама чаще всего звучит оптимистично и пользуется положительной апелляцией, которая находит своё лингвистическое выражение в положительной оценочности. Но и негативная апелляция, например, апелляция к страху, может оказаться очень эффективной. Рекламный лозунг *Don't risk infection … be safe with J.*

J. Red Cross Products оказался удачным, т.к. апелляция к страху психологически подготовила почву для положительного совета купить запатентованные медицинские средства [4, с. 201]. Задачей негативной апелляции является предупредить покупателя, призвать его избежать чего-либо неприятного, и чаще всего отрицательную оценочную характеристику получают свойства объекта, которые устраняет рекламируемый товар.

Определения описывают какие-то неприятные свойства, а высокая степень качества товара, предлагаемого для борьбы с ними, передаётся другими лингвистическими средствами. Проблема и её решение могут оказаться в одном предложении или в разных, но всегда в одном и том же рекламном тексте.

Осторожно, но настойчиво копирайтеры напоминают потенциальному покупателю об опасности лишнего веса: *fat-gone-wrong deposits* (бороться с нежелательным лишним весом предлагается с помощью физических упражнений и диеты), *gain-and-loss-cycles* (рекомендуемый комплекс физических упражнений сделает невозможным восстановление веса при предыдущей его потере), кариесе зубов: *cavity-prone years* (зубная паста «Эйм» предотвращает образование кариеса у детей) и даже о плохой погоде: *game-stopping-weather* (плохая погода не страшна для детей, играющих на улице, если они одеты в изделия из предлагаемой непромокаемой ткани). Очень часто определения с отрицательным значением описывают проблемы, связанные с уходом за кожей: *pore-clogging oils* (жир, забивающий поры, может быть удалён высококачественным лосьоном) и волосами: *brittle-looking hair* (ломкие волосы предлагается мыть шампунем для сухих и ослабленных волос), *coloured and damaged hair* (окрашенные и повреждённые волосы можно укрепить предлагаемой питательной маской), *a hit-or-miss proposition* (чтобы окраска волос была менее рискованным делом, не «пан или пропал», предлагаются всевозможные оттенки красителей на любой вкус). Неоправданная трата времени и энергии (*last-minute rush*), с точки зрения современного человека, – это зло, с которым надо бороться. И здесь предлагаются кулинарные рецепты, которые помогут избежать хлопот и суеты в последнюю минуту перед приходом гостей. Для того, чтобы реклама средства для чистки ковров была более убедительной, копирайтер говорит о том, что многие ковры плохо поддаются чистке, т.е. перед потенциальным покупателем стоят *soil-release problems.*

Отрицательная характеристика определений, которые были приведены выше, обеспечивается отрицательной оценочностью одного из компонентов: brittle-looking hair или всего словосочетания: *game-stopping weather*, или ситуативной оценочностью: *last-minute* в сочетании с определяемым существительным rush получает отрицательную оценочность.

Разновидностью определительных словосочетаний, содержащих отрицательную оценку, являются обозначения труднодоступных мест или указание на трудоёмкость процесса. Прилагательные со значением «трудный» являются обязательным компонентом определительных словосочетаний такого типа: *tough-to-clean foods* (предлагается моющее средство для отмываемых с трудом остатков пищи), *hard-to-get-to places* (рекламируется щётка для удаления пыли из труднодоступных мест), *hard-to-get-into-things* (особое приспособление в швейной машине даёт возможность шить с трудом поддающиеся строчению изделия).

Количественная характеристика оценочности в данных словосочетаниях, т.е. степень интенсивности качества, оказывается довольно низкой. Из двух видов оценки, при помощи которых передаётся субъективное отношение к объекту, эмоциональной и

интеллектуальной [1, с. 121], для языка рекламы более характерным является первый тип, т.е. эмоциональная оценка, но только в тех случаях, когда эта оценка положительная: *perfect-size door mat, high-shining extra-creamy lipstick*. Рекламные лозунги оказываются весьма сдержанными, когда речь идёт об отрицательных свойствах, даже если рекламируется товар, их устраняющий. Психологи рекламы считают, что привлечение слишком большого внимания к отрицательным свойствам может вызвать нежелательные ассоциации с рекламируемым товаром [5, с. 175]. Так, например, неэффективной оказалась реклама зубной пасты, где было употреблено словосочетание *bad-teeth dentifrice*, описывающее плохое состояние, в котором могут оказаться зубы потребителя без правильного ухода. Зубную пасту пришлось снять с продажи [3, с. 139]. Очевидно, полное отсутствие атрибутивных сочетаний с эмоциональной отрицательной оценочностью в приведённых примерах можно объяснить сдержанностью составителей рекламных текстов в отношении отрицательных свойств объекта. Единственный пример с эмоциональной оценочностью – *wishy-washy hair* – ломкие и тонкие волосы; *wishy-washy* – сложное атрибутивное сочетание, которое зафиксировано в словаре слэнга, имеющее устойчивую эмоциональность.

Неэмоциональность отрицательной оценки в языке рекламы можно объяснить тем, что рекламный Кодекс не позволяет явно отрицательно отзываться о товарах конкурирующих фирм [6, с. 124].

Со спецификой отрицательных коннотаций в рекламных текстах оценка может изменяться, и при этом почти всегда с отрицательной на положительную: *shined-up colours for show-off lids*. Определение show-off на уровне сочетания имеет отрицательное значение: пускающий пыль в глаза. В данном рекламном контексте *show-off lids* – это яркие, броские, т.е. красивые веки. Изменение отрицательной оценки на положительную обеспечивается нарушением привычной сочетаемости атрибутивного сочетания с определяемым словом и общей положительной направленностью рекламных текстов.

Словосочетание *fool-the-eye* – обманчивый, тоже содержит отрицательную оценку. Однако в предложении *on this fool- the- eye wall shiny stripes seem to stand away from the soft paper background* вышеупомянутое атрибутивное словосочетание становится оценочно-нейтральным или получает слегка положительный оттенок: стенка нарисованная, а выглядит как настоящая.

Очень разнообразными оказались атрибутивные сочетания, положительная оценка которых образована отрицанием отрицательного признака*: no-nonsense cigarettes, non-strick cooking, can't-go-wrong colours, a not-so-average-size hat, not-too-big ship* и др. Иногда положительная оценка образуется с помощью преуменьшения изначально положительного свойства, но получившего слегка отрицательный характер в рекламном контексте. Таким атрибутивным словосочетанием является *a not-so-innocent dress* – платье с низким вырезом, броское, «не сверхмодное», а с намёком на то, что это качество – положительное. Благодаря своей выразительности, этот способ используется в рекламных текстах.

Среди атрибутивных сочетаний есть определения, у которых положительная оценка появляется на основе «уничтожения» отрицательных свойств без отрицания. Так, в словосочетаниях *oil-blotting powder, decay-preventive dentifrice, anti-flee shampoo, anti-static fabrics* один компонент словосочетания содержит отрицательное свойство, а другой – средство, снимающее это свойство, т.е. в одном и том же комплексе имеется и проблема, и её решение.

Отрицание неприятного свойства часто передаётся прилагательным «free» со значением «без»: *vibration-free types, scratch-free polisher, worry-free vacation, trouble-free book club*.

Таким образом, можно сделать вывод, что в языке английской и американской рекламы оценочность обладает некоторыми специфическими особенностями. К ним относится преобладающее значение эмоциональной оценки в случае её положительной ориентированности; преобладающее значение интеллектуальной оценки в случае её отрицательной ориентированности; многочисленные примеры перераспределения оценочности в пользу положительной объясняются общей позитивной направленностью рекламы.

***Литература***

1. Вайгла, Э.А. О понятии эмоциональная лексика / Э.А.Вайгла. – М.: Просвещение, 1998. – 178.
2. Зубов, А.В. О языковых средствах выражения категории оценки в современном английском языке / А.В.Зубов. – М.: Высш. шк., 1997. – 120.
3. Тонкова, Н.И. Специфика языка рекламы / Н.И.Тонкова // Функциональные особенности лингвистических единиц. – С.-Пб: ЛГУ, 1999. – 180.
4. Hotchkiss G.B. An Outline of Advertising / G.B.Hotchkiss. – N.Y., 2001. – 258.
5. Lucas D.B. Advertising Psychology and Research / D.B.Lucas. – N.Y., 1995. – 211.
6. Mc Gregor E. Advertising / E. Mc Gregor. – L.: OUP, 1993. – 230.

**Н.Г.Слыхалова (Минск, БГАТУ)**

## СОМАТИЧЕСКИЕ РЕЧЕНИЯ СО ЗНАЧЕНИЕМ ЭМОЦИЙ В ХУДОЖЕСТВЕННОМ ТЕКСТЕ: ПРОБЛЕМА ПЕРЕВОДА

Среди соматических речений (СР) – номинативных единиц, закрепленных за отражением значимых жестов, мимики, поз, выражений лиц, симптомов душевных переживаний, – отдельное поле образуют СР со значением эмоционального состояния лица (*остолбенеть, побагроветь, улыбаться, открыть рот, стучать зубами*). Характерную особенность поля составляет общий компонент значения «испытывать какое-либо состояние» или «быть в каком-либо состоянии».

Концептуализация эмоций в значительной степени определяется языковыми факторами. Языковая фиксация симптоматических реакций и физических состояний, устойчиво ассоциируемых с теми или иными эмоциями, является основой, на которой в

наивной картине мира формируется представление о сущностных характеристиках эмоций.

Носитель той или иной культуры понимает и адекватно воспринимает не только вербальный текст, но и информацию других знаковых систем, в том числе и значение знаковых жестов, а в случае чтения текстов художественной литературы – значение соответствующих СР. Эмоциональное поведение персонажа в тексте может как подтверждать речевое поведение, так и противоречить ему, раскрывает истинное отношение говорящего к ситуации, его этические установки и принципы, создает его образ.

Тождественность или близость физической реализации отнюдь не означает, что семантика соответствующих жестов в каждой культуре, где они распространены, в точности одинакова. Даже такие универсальные человеческие реакции, как смех или улыбка, включаются в диалог в соответствии с особыми для данной культуры нормами. Еще большее несовпадение наблюдается у СР разных языков. Специфическими являются не только лексический состав и синтаксическое строение СР, но и их семантика, то есть зафиксированные в этих значениях связи между чувствами и физическими изменениями. В случае подобных языковых несовпадений стандартное выражение одного языка при прямом переводе на другой окажется нестандартным. Реконструкция иностранных соматических форм кинем по их вербальным манифестациям представляет собой воссоздание в сознании картины «родного» телодвижения. Аналогичная ситуация наблюдается и с номинацией кинем.

Являясь самым частотным вариантом описания эмоций в художественной литературе, СР сокращает вербальный текст, добавляя в него те или иные смыслы, включаясь в высказывание, СР демонстрирует богатейшие информационные и экспрессивные возможности.

В большинстве случаев такие соматические единицы являются фиксированными по своему составу, а также характеризуются дословной воспроизводимостью. План содержания СР состоит из двух плоскостей значения: поверхностного лексического и глубинного. Плоскость поверхностного лексического значения отражает соматизм (*побагроветь, позеленеть, нахмуриться, насупиться, сверкать глазами, сжигать глазами, смотреть исподлобья, буравить глазами*, *сжимать кулаки, стискивать зубы*), плоскость глубинного значения – значение эмоции (в приведенных примерах – эмоцию гнева). План выражения СР включает лексические единицы, обозначающие процесс и называющие часть тела, производящую соматизм, их семантика составляет плоскость поверхностного лексического значения СР. В составе СР также могут присутствовать компоненты, конкретизирующие глубинное значение. Это обстоятельственные наречия причины, а также существительные, называющие эмоциональное состояние, в форме родительного и предложного падежей (*весело, радостно, восхищенно, благоговейно, умиленно, восторженно, от удовольствия, от радости, в гневе*). Использование таких компонентов связано с необходимостью отграничения СР, отражающих разные эмоциональные состояния (*покраснеть от радости, гнева, стыда*), а также с целью

конкретизации эмоционального состояния из континуума эмоции (*злобно морщиться, остолбенеть от ужаса, открыть рот от изумления*).

Эмоции выступают в комплексах, при этом одна эмоция может вызывать другую. Эту закономерность К. Изард определяет как закономерность в континууме выражения эмоций. Компонент эмотивной семантики текста притягивает, а не отталкивает элементы, дублирующие и усиливающие его содержание, что говорит о некоторой семантической недостаточности любого эмотива для адекватного выражения эмоционального состояния. В этом случае СР могут отражать один и тот же или сходные по исполнению соматизмы, или СР отражается вся ситуативно возможная эмоциональная экспрессия.

Само отражение эмоции СР, а не указание на нее, свидетельствует о силе переживания. Гнев, ярость, злость, раздражение могут рассматриваться как различные по силе явления внутри континуума гнева, тревожность, испуг, страх, ужас – внутри континуума страха, удовлетворение, радость, восторг – внутри континуума радости.

Зачастую использование СР со значением той или иной эмоции наблюдается при описании ситуаций, когда в сознании субъекта доминируют эмоциональные паттерны: радость и удивление, гнев и отчаяние, гнев и страх, гнев и презрение, страх и удивление и др.

Один и тот же соматизм может или действительно производиться с повышенной или пониженной интенсивностью, или восприниматься как исполненный более или менее энергично, чем принято, что создает градационные отношения внутри синонимического ряда СР: *хихикать – смеяться – хохотать – давиться от хохота – трястись от хохота; скрипеть зубами – скрежетать зубами; отклониться – отшатнуться – шарахнуться; выкатить глаза – выпучить глаза – выпятить глаза – вылупить глаза – глаза выпрыгнули с лица.*

СР имеют высокую степень контекстуальной обусловленности значения. В зависимости от окружения семантика контекстуального СР каждый раз организуется по-новому, создавая варьирование эмотивного смысла.

СР со значением той или иной эмоции могут быть омонимичны СР со значением других эмоций. Так, СР с компонентами с корнем *-лыб-, -хмыл-*, *-сме-* отражают радость, гнев, страх, растерянность, снисхождение, иронию, безразличие, стыд.

СР могут подвергаться трансформации – целенаправленному видоизменению стабильной структуры и традиционной семантики с целью создания определенного семантико-стилистического эффекта в рамках специально организованного контекста.

Для адекватного перевода необходимо рассмотреть весь комплекс ассоциаций, возникающих в сознании носителей языка и культуры при появлении образа, вызываемого тем или иным СР. Богатые возможности, заложенные в единицах, отражающих значимые жесты, и позволяющие создать тонкое варьирование смысла, охарактеризовать персонаж, описав его эмоциональное состояние и поведение в той или иной ситуации, представляют значительную трудность для переводчика, требуя глубокого знания вербального и невербального языков.

**А.В.Солахаў (Баранавічы, БарДУ)**

# АСАБЛІВАСЦІ ПАПАЎНЕННЯ СІСТЭМЫ ІНІЦЫЯЛЬНЫХ АБРЭВІЯТУР У СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Дынамічныя працэсы, звязаныя са зменай на мяжы ХХ – ХХІ стагоддзяў сацыяльна-палітычных, эканамічных і псіхалагічных установак, з далейшым развіццём навукі і тэхнікі, пашырэннем сеткі Інтэрнэт, з інтэнсіфікацыяй культурнага і спартыўнага жыцця, узаемадзеяння з заходняй культурай, абумовілі узрастанне аб’ёму разнастайнай інфармацыі. Пошукі сродкаў эканомнага выражэння новых рэалій жыцця прадвызначылі ўтварэнне ў мове вялікай колькасці новых абрэвіятур.

Як вядома, ініцыяльныя абрэвіятуры, што з’яўляюцца аб’ектам гэтага даследавання, паводле асаблівасцей словаўтварэння падзяляюцца на літарныя, гукавыя і змешаныя.

Літарныя абрэвіятуры ўтвараюцца пераважна па наступных мадэлях:

**ttt** (***МВП*** – **м**ясцовыя **в**іды **п**аліва; ***МЗП*** – **м**інімальная **з**аработная **п**лата; ***ПВТ*** – **п**арк **в**ысокіх **т**эхналогій; ***ТПМ*** – **т**эхналогія **п**едагагічнага **м**айстэрства): *Стрымаць тарыфы дазволяць… **МВП*** (Зв. 2007. 12 вер.); *Цяпер памер **МЗП** у Беларусі ў два разы вышэйшы, чым у Расійскай Федэрацыі* (Зв. 2007. 14 лют.); *…візіт на будаўнічую пляцоўку **ПВТ** не быў спецыяльна запланаваным мерапрыемствам* (Зв. 2008. 19 студз.); *На ўроках можна абмежавацца толькі некаторымі элементамі **ТПМ*** (РС. 2002. № 7. С. 50);

**tt** (***КК*** – **К**рымінальны **к**одэкс; ***КС*** – **К**анстытуцыйны **с**уд; ***НЗ*** – **н**адзвычайнае **з**дарэнне; ***НС*** – **н**адзвычайныя **с**ітуацыі): *Вінаватасць Бурчыца А. М.… па ч. 3 арт. 426 **КК** кваліфікаваны правільна* (Зв. 2007. 8 лют.); *Дзейнасць **КС** накіравана на забеспячэнне вяршэнства Канстытуцыі…* (Зв. 2009. 13 лют.); *Прычынай **НЗ** стала кароткае замыканне электраправодкі* (Зв. 2009. 10 студз.); *Супрацоўнікі Наваполацкага гарадскога аддзела па **НС** выратавалі 12-гадовую дзяўчынку…* (Зв. 2007. 20 лют.);

**tttt** (***БТРК*** – **Б**еларуская **т**эле**р**адыё**к**ампанія; ***ССПЗ*** – **с**кладана**с**астаўны **п**рыназоўнікавы **з**варот): *Яшчэ адзін праект **БТРК**, радыёпраграма «Уласная справа» …перамагла ў намінацыі «Чалавек справы»* (Зв. 2007. 10 студз.); *Пры апісанні **ССПЗ** найбольш мэтазгодным, на нашу думку, будзе выкарыстанне прынцыпу поля…* (БМЛ. 2005. № 6. С. 51);

**tta** (***МГА*** – **м**аладзёжная **г**рамадская **а**рганізацыя; ***ПДУ*** – **П**алескі **д**зяржаўны **у**ніверсітэт): *Як паведаміў кіраўнік **МГА** «Альтэра» Кірыл Бабкоў, сёлета ў гэтай акцыі прымаюць удзел каля 20 школ Беларусі…* (НГ. 2006. 21 вер.); *На першае ж верасня прафесарска-выкладчыцкі састаў універсітэта быў прадстаўлены пераважна работнікамі рэарганізаваных структур, якія ўвайшлі ў склад **ПДУ**.* (НГ. 2006. 12 вер.);

**ttta** (***МДГА*** – **М**іжнароднае **д**абрачыннае **г**рамадскае **а**б’яднанне; ***НЦПІ*** – **Н**ацыянальны **ц**энтр **п**рававаой **і**нфармацыі): *Праект рэалізаваны Міжнародным дабрачынным грамадскім аб’яднаннем (**МДГА**) «Здароўе ў ХХІ стагоддзі»* (Зв. 2009.

11 сак.); *Выпускаецца банк даных на кампакт-дыску і распаўсюджваецца па заяўках праз сетку філіялаў **НЦПІ*** (Зв. 2006. 2 лют.);

**aat** (***ААБ*** – **а**кцыянерны **а**шчадны **б**анк, ***ААТ*** – **а**дкрытае **а**кцыянернае **т**аварыства): *Аб'яднаны прафсаюзны камітэт **ААТ** «**ААБ** Беларусбанк»…* (Зв. 2007. 13 кастр.).

Найбольш прадуктыўнымі мадэлямі ўтварэння гукавых абрэвіятур з'яўляюцца:

**tat** (***БЮЦ*** – **Б**лок **Ю**ліі **Ц**імашэнкі (Украіна); ***РУП*** – **р**эспубліканскае **у**нітарнае **п**радпрыемства; ***РЭП*** – **р**эгістрацыйна-**э**кзаменацыйнае **п**адраздзяленне): …*Юрый Луцэнка ўжо заявіў, што яго блок увойдзе ў кааліцыю з **БЮЦ**…* (Зв. 2007. 29 вер.); *Пракаментаваць сітуацыю мы папрасілі намесніка генеральнага дырэктара **РУП** «Беларуснафта»…* (Зв. 2007. 6 студз.); *Дапускаецца прыём экзаменаў у **РЭП** па месцы знаходжання вучэбнай арганізацыі…* (Зв. 2009. 12 сак.);

**atat** (***АНАК*** – Генеральная **а**самблея **н**ацыянальных **а**лімпійскіх **к**амітэтаў; ***ІМЭФ*** – **І**нстытут **м**астацтвазнаўства, **э**тнаграфіі і **ф**альклору): ***АНАК** таксама выказалася супраць спробы выкарыстаць Алімпіяду, імёны і імідж спартсменаў-удзельнікаў для рашэння палітычных задач* (Зв. 2008. 30 крас.); *Лія Мацвееўна працавала ў **ІМЭФ…*** (РС. 2005. № 9. С. 62);

**ttat** (***ДРАЦ*** – **д**зіцячы **р**эабілітацыйна-**а**здараўленчы **ц**энтр; **КСУП** –. **к**амунальнае **с**ельскагаспадарчае **у**нітарнае **п**радпрыемства): ***ДРАЦ** «Колас» пачаў працаваць два гады назад…* (НГ. 2006. 15 жн.); *Адзін з іх, рабочы **КСУПа** «Агракамбінат» Хойніцкага раёна, які раней сядзеў ужо на лаве падсудных…* (Зв. 2009. 4 сак.).

Змешаныя абрэвіятуры ўтвараюцца радзей і вызначаюцца больш складанай структурай, напрыклад: ***НРВЭГ*** – **Н**ацыянальны **р**ух за **в**ызваленне **Э**кватарыяльнай **Г**вінеі; ***ТЦСАН*** – **т**эрытарыяльны **ц**энтр **с**ацыяльнай **а**бароны **н**асельніцтва: *12. 10. 1968 абвешчана незалежнасць Экватарыяльнай Гвінеі, яе прэзідэнтам стаў лідэр **НРВЭГ** Ф. Масіяс Нгема Біёга…* (БелЭн. Т. 18. С. 65); *…ў Жлобінскім **ТЦСАН*** (НГ. 2006. 24 кастр.).

Асноўная функцыя абрэвіятур – пры дапамозе мінімальнага сродка выражэння змяшчаць найбольшую колькасць інфармацыі. Таму абрэвіятуры найбольш пашыраны ў публіцыстычных тэкстах, памер якіх абмежаваны газетнымі або часопіснымі плошчамі. На сучасным этапе абрэвіятуры інтэнсіўна пранікаюць у навуковыя тэксты, што выклікаецца неабходнасцю замены празмерна доўгіх (састаўных) тэрмінаў найбольш кампактнымі па форме сродкамі выражэння.

У педагагічнай тэрміналогіі, напрыклад, выкарыстоўваюцца абрэвіятуры, якія замяняюць 2–5-кампанентныя тэрміны (***АС*** – **а**порны **с**ігнал; ***АК*** – **а**порны **к**анспект; ***ПМК*** – **п**раграмна-**м**етадычны **к**омплекс; ***РКМЧП*** – **р**азвіццё **к**рытычнага **м**ыслення праз **ч**ытанне і **п**ісьмо): *Заданні бываюць калектыўныя і індывідуальныя: запісаць усе **АС**, падабраць прыклады да **АК** і інш.* (РС. 1992. № 5. С. 21); ***ПМК** «Беларуская мова» дазваляе настаўніку і вучню… пазнаёміцца з матэрыялам, авалодаць ім і праверыць засваенне* (БМЛ. 2005. № 9. С. 18); *Тэхналогія **РКМЧП** накіравана на тое, каб дзеці сталі думаць і задаваць пытанні* (НГ. 2006. 4 ліст.).

«Беларуская граматыка» адзначае, што «абрэвіятуры – гэта назоўнікі своеасаблівай будовы» [1, с. 293]. Фактычны матэрыял з тэкстаў беларускай публіцыстыкі паказвае, што сёння адбываецца часцінамоўнае пашырэнне іх за кошт утварэння абрэвіятур-прыметнікаў. Так, у мове сучасных беларускіх газет адзначаюцца прыметнікі абрэвіятурнага тыпу ***ВК*** – **в**ытворча-**к**амерцыйны; ***ГМ*** – **г**енна-**м**адыфікаваны; ***ПВХ*** – **п**олі**в**ініл**х**ларыдавы; ***НВ*** – **н**авукова-**в**ытворчы: *Аснова палітыкі **ВК** ТАА «Літапласт» – задавальненне ўсіх патрабаванняў і чаканняў спажыўцоў…* (Зв. 2006. 18 жн.); *У некаторых супермаркетах для харчовых прадуктаў з **ГМ** кампанентамі адвялі спецыяльныя паліцы…* (Зв. 2009. 16 студз.); *У Баранавічах з будпляцоўкі інтэрната мясцовага універсітэта знікла шэсць вокнаў **ПВХ*** (Зв. 2007. 7 лют.); ***НВ** РУП «Аптычнае станкабудаванне і вакуумная тэхніка»* (Зв. 2007. 12 сн.). Часцей за ўсё такія абрэвіятуры знаходзяцца ў прэпазіцыі да назоўніка і далучаюцца да яго праз дэфіс, утвараючы складаны комплекс «абрэвіятура + паўназначнае слова (назоўнік)» (***ГМ-*** – **г**енна-**м**адыфікаваны; ***ЗВЧ-*** – **з**вышвысока**ч**астотны; ***ПІ-*** – **п**апярэдне **і**заляваны; ***УФ-*** – **у**льтра**ф**іялетавы): *Пытанне небяспечнасці для здароўя чалавека **ГМ**-прадуктаў застаецца адкрытым. **ГМ**-соя, **ГМ**-бавоўна, **ГМ**-бульба, **ГМ**-кукуруза, **ГМ**-культуры, **ГМ**-насенне, **ГМ**-бактэрыі, **ГМ**-мікраарганізмы, **ГМ**-складальнікі, **ГМ**-кампаненты, **ГМ**-ліні.* (Зв. 2008. 2 студз.); *Асаблівасць **ЗВЧ**-выпраменьвання ў тым, што яно нябачнае…* (НГ. 2006. 27 ліп.); *…Сумарныя затраты на ўзвядзенне і эксплуатацыю цеплатрас з **ПІ**-труб… меншыя ў 6 разоў…* (Зв. 2007. 24 лют.); *Найбольш шкодны складнік **УФ**-дыяпазону – UVB-выпраменьванне…* (НГ. 2006. 22 ліп.).

Акрамя ўтварэння ініцыяльных абрэвіятур, адбываецца запазычванне іх у беларускую мову з іншых моў. Часта такія адзінкі функцыянуюць у тэкстах як графічна незасвоеныя, г. зн. перадаюцца лацінкай: ***SMS*** – **s**/hort/ **m**/essage/ **s**/ervice/ ‘служба кароткіх паведамленняў’; ***PR*** – **p**/ublic/ **r**/elations/ ‘грамадскія сувязі’ і інш. Разам з тым, адзначаюцца выпадкі іх транслітэрацыі беларускімі графічнымі сродкамі (***СМС*** ← SMS), а таксама перадачы метадам транскрыпцыі (***піар*** і ***піяр*** ← PR) [2, с. 63]. Метад транслітэрацыі шырока выкарыстоўваецца ў «Беларускай Энцыклапедыі»: ***ІМО*** [імо] – Міжнародная марская арганізацыя (з анг. ***IMO*** – **I**nternational **M**aritime **O**rganization) (БелЭн. Т. 10. С. 340); ***ІФАД*** [іфад] – Міжнародны фонд сельскага-гаспадарчага развіцця (з анг. ***IFAD*** – **I**nternational **F**und for **A**gricultural **D**evelopment) (БелЭн. Т. 10. С. 345); ***ІФАК*** [іфак] – Міжнародная федэрацыя па аўтаматычным кіраванні (з анг. ***IFAC*** – **I**nternational **F**ederation of **A**utomatic **C**ontrol) (БелЭн. Т. 10. С. 340) і інш.

***Крыніцы і скарачэнні***

**БелЭн** – «Беларуская Энцыклапедыя».
**БМЛ** – «Беларуская мова і літаратура».
**Зв**. – «Звязда».
**НГ** – «Настаўніцкая газета».
**РС** – «Роднае слова».

***Літаратура***

1. Беларуская граматыка: у 2-х ч. / Ін-т мовазнаўства імя Я.Коласа; рэд. М.В.Бірыла, П.П.Шуба. – Мінск: Навука і тэхніка, 1985. – Ч.1: Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск. – 431 с.
2. Мацюшэнка, М. В. Структурна-семантычны аналіз графічна незасвоеных запазычанняў ў мове сучаснай беларускай публіцыстыкі / М.В.Мацюшэнка // Веснік МДПУ. – 2008. – № 2. – С. 62 – 66.

**Т.Я.Старасценка (Мінск, БДПУ)**

## ПРЫЁМЫ ВЫЛУЧЭННЯ Ў ПАЭТЫЧНЫМ ДЫСКУРСЕ

Пры дэкадаванні мастацкага твора магчыма страта чытачом некаторай часткі інфармацыі. Яе аднаўленню садзейнічаюць прыёмы вылучэння сэнсавых момантаў. У стылістыцы дэкадавання да такіх прыёмаў адносяць канвергенцыю, эфект падманутага чакання і счапленне [1, с. 63 – 71].

Канвергенцыя – збыткоўная ўжывальнасць стылістычных сродкаў перадачы важнага для аўтара пачуцця, якая ўзмацняе чытацкае ўспрыманне паведамлення. У вузкім кантэксце беларускага паэтычнага дыскурсу пераважаюць тропы: *Дзень сцякае на вечар, / І вецер / Звесці дух дзесь за лесам / Прысеў. / Тлум жыццёвы – / Спрадвечнае смецце / Атрасаю з душы пакрысе* (В.Стрыжак. «На магіле бацькі»). Для перадачы нясцерпнага болю страты дарагога чалавека паэт выкарыстоўвае метафары і перыфразу. Яшчэ прыклады: *Сум ліецца з арганных грудзей, / Запаўняе душу маю, плоць, / Светла-сонечны сум-чарадзей – / Майго роздуму сэнс і плод* (К.Жук. «Паланез Агінскага»); *Дзверы восені адчыні / І прыгледзься, як на будынак / Наплываюць лісця чаўны, / Бы плывуць галасы у дыме* (Ю.Голуб. «Лістапад»); *Дзень спяшаўся, і ясны, і босы. / Пераняць бы не грэшна яго. / Жураўлямі плылі пракосы / За вясною тваёй наўздагон* (К.Камейша. «Той дзень»); *Яблыкам скоціцца сонца, / ціха прыляжа набок, – / там, дзе выскубвае сонна / цень свой стрыгун-жарабок* (М.Федзюковіч. «Да маладосці ў адведкі...»); *А прырэчча шалела ліўнямі, / захлыналіся берагі. / Нават яблыні сарамлівыя / з саду кінуліся ў лугі* (С.Панізнік. «А прырэчча шалела ліўнямі...»); *Павольна спее навальніца / Сярод засмяглай цішыні... / Буйнымі гронкамі зарніцаў / Змрок набухае ў вышыні* (М.Аўрамчык. «Рабінавая ноч»); *Зямля ссівелая ў дрымоце / Наткала з туманоў палоцен, / Каля нізін і каля рэчак / Бяліць павесіла пад вечар* (А.Астрэйка. «Грамы памерлі за ракою...»); *Парны, шэра-блакітны, / Змокшы да ніткі дзень. / Сцелецца на ракіты / Ліўня цыбаты цень* (М.Лужанін. «Кропля жывіцы»); *Свет повен пахаў мёду і ляўконій, / У жыце спяць зняможана вятры. / Нібы галоп ружовагрывых коней, / Імчацца дні маланкавай пары* (А.Звонак. «Смак хараства»); *Зіма. Снягі. Мароз. Завеі. / Дарога звонкая, як сталь. / Бярозы ў шэрані сівеюць, / Палі бялеюць, як паркаль* (П.Глебка. «Зіма»); *Машыны дружна праціраюць вочы. / Расплывістыя плямы – ліхтары. / Насунуў горад капялюш малочны / На зрэнкі вокнаў, як дзівак стары* (І.Багдановіч. «У завею»); *Зялёнай ніткай травень вышывае / Пяшчотныя, празрыстыя карункі. / Упала з неба пацерка жывая, / І дождж нахлынуў цёплым пацалункам* (І.Багдановіч. «Зялёнай ніткай травень вышывае...»).

Для эфекту падманутага чакання характэрна з'яўленне ў тэксце элемента малой верагоднасці, які стварае нечаканасць успрымання і ўздзейнічае на чытача. Таму непрадказальным элементам зместу ўласціва экспрэсіўнасць. У паэтычным дыскурсе эфект нечаканасці вынікае з кантрасту. Кантраст як важны кампазіцыйна-моўны прыём увасабляе пэўнае ўспрыманне свету і ўзмацняе вобразна-выяўленчую функцыю мовы пісьменніка. Ён можа рэалізоўвацца экспліцытна, пры дапамозе антанімічных і кантэкстуальных апазіцый, а таксама імпліцытна, на ўзроўні падтэкставай інфармацыі.

Разгледзім экспліцытнае выражэнне кантрасту на прыкладах з твораў А.Разанава: *Пакуль чалавек ёсць тым, кім ён ёсць, ён* ***пытаецца*** *і* ***адказвае****, кім ён ёсць.* («Пакуль чалавек ёсць тым...»); *Людзі* ***прыходзяць*** *міжволі / і* ***адыходзяць*** *міжволі* («Паэма святла»); *Стоячы на мосце, мастак Іў Клейн выціскае фарбу з цюбікаў у рачную плынь: на момант* ***утвараюцца*** *і* ***знікаюць*** *яму аднаму бачныя ўзоры* («Стоячы на мосце...»); *Як ні жыві, сваю тугу / той, хто жыве, не забрытае. / Я ўсё* ***бяру*** *і ўсё* ***вяртаю****. / А ўсё ў даўгу, ў даўгу, ў даўгу* («Пункцір»); *Болей няма на каго наракаць, / болей няма каму дзякаваць – за ўсё, што* ***давалася*** *і* ***адымалася****,* ***радавала*** *і* ***засмучала*** («Завея»); *Гляджу на знаёмую вёску, дзе між драўляных хацін паўсталі гіганты-дамы, / гляджу ў агонь пастухоўскі, што* ***супакойвае*** *і* ***непакоіць*** («Пастухі»); *Увесь час /* ***Забараняюць*** */ І* ***дазваляюць*** */ Нам акалічнасці нешта* («Гліна»). Антанімічныя пары дзеясловаў **пытаецца – адказвае**, **прыходзяць – адыходзяць**, **утвараюцца – знікаюць**, **бяру – вяртаю**, **давалася – адымалася**, **радавала – засмучала**, **супакойвае – непакоіць**, **абараняюць – дазваляюць** выражаюць вектарную супрацьлегласць, абазначаючы два супрацьлегла накіраваныя дзеянні.

Кампаненты альтэрнатэзы – стылістычнай фігуры кантрасту – прадстаўлены ў А.Разанава пераважна антонімамі: *Ключ – смык, замок – скрыпка, і куды б,* ***далёка ці блізка****, не адыходзіў ключ ад замка, сувязь, якая іх лучыць, не калечыцца і не камечыцца, і адкуль бы,* ***здалёк ці зблізку****, не вяртаўся ключ да замка, за гэтым вяртаннем сочыць музыка іхніх узаемадачыненняў* («Ключ і замок»); ***Высока*** *ў галінах дрэў* ***ці*** *недзе* ***нізка****, на самым доле, месіцца заснаваны птушкамі дом – гняздо* («Гняздо»); *Душа жадала / шчасця і пакут, / каб вырвацца / з надзённасці жабрачай / у новы час. / Ды сведчылі: / я – тут, – /* ***ці дзень****,* ***ці ноч****, / чыесьці справаздачы* («Паэма парушанай мяжы»); *Ключ кліча, замок адгукаецца, ключ шукае, замок чакае, ключ ведае, замок мае, ключ* ***то знікае****,* ***то*** *зноўку* ***ўзнікае****, замок застаецца заўсёды на тым самым месцы* («Ключ і замок»); *Жалеза мае мноства характараў, мноства кшталтаў: яно і лязо, яно і лыжка, яно і плуг, яно і жалеза, але які кшталт яно мусіць займець, у які характар ужыцца, чый бок узяць –* ***зла ці дабра*** *– залежыць не ад яго* («Жалеза»). Як вынікае з прыкладаў, альтэрнатэзы ўтвораны антонімамі-квалітатывамі **далёка – блізка**, **высока – нізка**, каардынатывамі **дзень – ноч**, кантратывамі **знікае – узнікае**, камплементатывамі **дабро – зло**.

Эфект падманутага чакання выражаецца і пры дапамозе імпліцытнага кантрасту: *Маглі быць у цябе косы даўжэйшыя / (А ты абрэзала, закручваеш папільёткі), / Маглі*

*быць і бровы цямнейшыя, / Носік – не такі задзёрысты, кароткі, / Вусны – не такія прыпухлыя, быццам / З іх можна вясновага сонца напіцца, / І вочы – не такія насцярожаныя... / Ну вось ты і пакрыўдзілася, самая прыгожая!* (Максім Танк. «Крытычныя заўвагі»). У гэтым творы адсутнічаюць антанімічныя або кантэкстуальныя апазіцыі, аднак апошнія словы *самая прыгожая* нечакана пераводзяць увагу чытача ў іншы сэнсавы план – захаплення каханай, яе прыгажосцю, хоць і не класічнай. Кантрастнасць твора відавочная: першае сямірадкоўе настройвае на адпаведнае «крытычнае» заключэнне, якое, тым не менш, паэт афармляе аналітычнай формай найвышэйшай ступені параўнання.

Счапленне як прыём вылучэння мае фанетычнае, семантычнае, структурнае падабенства элементаў твора, якія займаюць аднолькавыя пазіцыі і надаюць тэксту цэласнасць. У паэтычным дыскурсе значнай частотнасцю ўжывання характарызуецца анафара. Яна канцэнтруе чытацкую ўвагу на самых актуальных для аўтара момантах: ***Зялёныя*** *вусны шапталі: «Апошні». /* ***Зялёныя*** *вочы крычалі: «Апошні». /* ***Зялёныя*** *рукі заломвала: «Мой»* (Р.Тармола-Мірскі. «Балада пра яблыню»); ***Корань мой*** *– у палескай глебе, /* ***Корань мой*** *– у духмяным хлебе, /* ***Корань мой*** *– у бацькоўскай хаце* (С.Блатун. «Я вільготнай анучкай сціраю...»); ***Мне цябе не стае****, нібы сонечнай песні, /* ***Мне цябе не стае****, як самога жыцця* (В.Лукша. «Мне цябе не стае...»).

Прыёмы вылучэння, якія ўласцівы паэтычнаму дыскурсу, экспрэсіўна ўзмацняюць пэўныя элементы твора і садзейнічаюць адпаведнай сатворчасці аўтара і чытача.

***Літаратура***

1. Арнольд, И.В. Стилистика современного английского языка: (Стилистика декодирования) / И.В.Арнольд. – М.: Просвещение, 1990. – 300 с.

2. Стилистика и литературное редактирование / под ред. проф. В.И.Максимова. – М. : Гардарики, 2004. – С. 432 – 438.

3. Стилистический энциклопедический словарь русского языка / под ред. М.Н.Кожиной. – М.: Флинта: Наука, 2003. – С. 414 – 416.

**Д.С.Томчык (Мінск, БДПУ)**

## ЭЛЕМЕНТЫ ВЕТЛІВАСЦІ Ў ВЕРБАЛЬНЫХ АДЗІНКАХ ЭТЫКЕТНЫХ ЗНОСІН БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Ветлівасць – паняцце этыкі і філасофіі, якая праяўляецца ў залежнасці ад развіцця культуры, тэндэнцый моды, нацыянальнай спецыфікі паводзін. Аднак многія лінгвісты характарызуюць ветлівасць як моўную катэгорыю, прымаючы пад увагу аксіёму, што мова і грамадства – непарыўна звязаныя кампаненты. У любую эпоху і ў любым грамадстве адлюстраваная ў мове ветлівасць характарызуе ў цэлым ўзровень культуры нацыі. Дзякуючы таму, што, калі дзіця вучаць гаварыць, дадаецца і кампанент ветлівасці, яно адначасова спасцігае і маўленчы этыкет як частку нацыянальнай культуры свайго народа.

Аднак ветлівасць у той жа час з'яўляецца катэгорыяй зменнай, што пацвярджаюць назіранні філосафаў пры дыяхранічным вывучэнні этыкету [1].

Лінгвісты, разглядаючы ветлівасць як моўную катэгорыю, падкрэсліваюць, што яна можа выражацца не толькі з дапамогаю маўленчага этыкету, але і з выкарыстаннем невербальных сродкаў (пэўныя жэсты, рухі і г.д.), якія ўказваюць на прыналежнасць вербальных адзінак этыкетных зносін (ВАЭЗ) да функцыянальна-семантычнага поля ветлівасці. Адсюль вынікае, што паняцце 'ветлівасць' больш шырокае ў параўнанні з паняццем 'маўленчы этыкет' [2, с. 133].

Увогуле катэгорыя ветлівасці ў мове выражаецца з дапамогай займеннікаў, формаў ладоў дзеяслова, часціц і эўфемізмаў. Што да ВАЭЗ беларускай мовы, то ў ёй ветлівасць выражаецца двума спосабамі:1) выкарыстаннем выклічніка *калі ласка* для зніжэння загаднага характару выказвання; 2) ужываннем формы 2 асобы адзіночнага ці множнага ліку займеннікаў або дзеясловаў сучаснай беларускай мовы.

Найперш выклічнік *калі ласка* выкарыстоўваецца ў камунікатыўнай сітуацыі «Просьба», якая патрабуе ад адрасанта ўжывання формы загаднага ладу дзеяслова. Аднак патрабаванне што-небудзь выканаць будзе гучаць значна тактоўней, калі разам з ім выкарыстоўваць выклічнік *калі ласка*, напрыклад: *Зрабі!* і *Зрабі,* ***калі ласка****!* У традыцыйным слоўным этыкеце беларусаў прысутнічае некалькі варыянтных формаў дадзенага выклічніка: *калі ласка*, *калі будзе (ёсць) ласка*, *калі маеш ласку*.

1. Найбольш пашыраная форма *калі ла́ска*. Яна ўжываецца амаль на ўсёй тэрыторыі Беларусі і з'яўляецца нарматыўнай, адзінай у сучаснай беларускай літаратурнай мове. Гэтая этыкетная адзінка дазваляе выказаць просьбу без кантралявання яе выканання. Выклічнік *калі ласка* вымаўляецца як адно фанетычнае слова і мае даволі фармальны характар выражэння ветлівых маўленчых паводзін.

2. Выкарыстанне адзінкі *калі́ бу́дзе (ёсць) ла́ска* характэрна дыялектнаму маўленню жыхароў Гродзенскай і Брэсцкай абласцей. Дадзены выклічнік выражае спадзяванне на згоду выканаць просьбу ў залежнасці ад пэўнага эмацыянальнага настрою адрасата ў момант камунікатыўнага акта.

3. Функцыянаванне выклічніка *калі́ ма́еш ла́ску* зафіксавана на тэрыторыі Мінскай і Віцебскай абласцей. З дапамогай гэтай формы выражаецца просьба, здзяйсненне якой будзе залежаць ад сумлення адрасата.

Акрамя вышэй названых, намі зафіксаваны спарадычныя выпадкі выкарыстання ў маўленні вясковых жыхароў на тэрыторыі Магілёўскай вобласці выклічніка *бу́дзь (-це)* <*так*> *ласка́вы*, што, на нашую думку, паказвае на ўжыванне дадзенай ВАЭЗ пад уплывам рускай формы *будьте* <*так*> *добры*. На беларуска-польскім памежжы, відаць, пад уплывам польскай мовы выкарыстоўваецца форма *будзь ласка*.

Такім чынам, прыведзены фактычны матэрыял дазваляе выказаць меркаванне, што выражэнне просьбы ў беларусаў з дапамогай часціцы *калі ласка* мае дастаткова разгалінаваны характар, які залежыць ад чакаемага выніку камунікатыўнага акта.

Выказванне ветлівасці з выкарыстаннем ВАЭЗ ажыццяўляецца ў сучаснай беларускай мове з дапамогай займеннікаў або дзеясловаў у *форме 2 асобы адзіночнага ці множнага*

*ліку*. З гістарычнага пункту гледжання ўжыванне гэтых формаў у беларускай мове на думку Н.П.Старавойтавай, – з'ява новая, бо «не існавала раней у беларускай мове формаў на «ты» і «Вы» пры звароце да асобы: гэта русізмы» [3, с. 40]. Для сучаснай беларускай мовы падзел на ты- і Вы-формы дастаткова істотны, паколькі іх ужыванне рэгламентавана правіламі справавога этыкету і дыпламатычнымі адносінамі. Таму адзначаныя формы ўплываюць на выбар адпаведных ВАЭЗ з мэтай падкрэсліць афіцыйнасць або ўрачыстасць камунікатыўнага акта.

У сучаснай беларускай вёсцы назіраецца паслядоўнае ўжыванне формы 2-ой асобы адзіночнага ліку дзеясловаў незалежна ад полу ва ўсіх камунікатыўных сітуацыях пры ўмове сацыяльнай роўнасці (камуніканты аднолькавыя па сацыяльным статусе) і пры знаёмстве суразмоўцаў. Калі ж сацыяльнае становішча аднаго з камунікантаў змяняецца, то ў афіцыйных абставінах (праца ва ўстанове) ажыццяўляецца выбар формаў 2-ой асобы множнага ліку: [*з' м'іха́лам ја́ жыву́ прас ха́ту / жыв'э̲м до́бра з' јім / дру́жна / бо дапамага́јэм адз'ін аднаму́ / у јаго́ жо́нка пам'э̲рла / ц'а́шка јаму́ б'эз' јаје̲ // Во та́г з' јім гавару́ јак с табо́ју / к'эды вып'іва́јэм ц'і што јако́јэ // А во кал'і́ у́ ўпраўл'э̲н'э јду́ / то кажу́ М'іха́л Ыгна́ц'јіч / на вы̲ гавару́ да јаго́ п'эрад людз'а́м'і / а ја́г жа / бо јо́н нача́л'н'ік //*] (в. Шчанец, Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці).

Пры звароце малодшага суразмоўцы да старэйшага таксама ўжываецца форма 2-ой асобы множнага ліку. Аднак гэта адбываецца толькі пры ўмове, што камунікатыўны акт ажыццяўляецца не паміж дзецьмі і іх бацькамі. У сучаснай Беларусі зварот да бацькоў усё часцей суправаджаецца ўжываннем формы *ты*.

У беларускай дыялектнай мове пры звароце да незнаёмага чалавека выкарыстоўваецца форма *вы*, аднак калі гэты камунікант маладзейшы па ўзросце, то пасля некалькіх фраз суразмоўцы пераходзяць на форму *ты*, асабліва ў тым выпадку, калі госця запрашаюць у хату. Гэта сведчыць пра высокую ступень даверу ў беларусаў да незнаёмага чалавека, калі яго гаспадары запрашаюць ў дом, паколькі гэта азначае змену статусу незнаёмца на статус госця.

У выніку ўжыванне камунікантамі формы 2-ой асобы множнага ліку ў беларускай дыялектнай мове рэгламентуецца наступнымі ўмовамі: 1) сацыяльным становішчам; 2) узроставай дыферэнцыяцыяй; 3) ступенню знаёмства.




***Схема***. Умовы ўжывання формы *Вы* ў ВАЭЗ

Такім чынам, выяўленне катэгорыі ветлівасці ў мове пацвярджае аксіёму, што мова адлюстроўвае нацыянальнае багацце, менталітэт і культуру народа, які яна абслугоўвае. Ужыванне выклічніка *калі ласка* і формаў *ты* / *Вы* ў вербальных адзінках этыкетных зносін робіць маўленне больш ветлівым, лагодным і спрыяльным для дасягнення асноўнай функцыі маўленчага этыкету – устанавіць кантакт паміж суразмоўцамі.

***Літаратура***

1. Байбурин, А.К. У истоков этикета / А.К.Байбурин, А.Л.Топорков. – Л.: Наука, 1990. – 165 с.

2. Земская, Е.А. Русская разговорная речь: лингвистический анализ и проблемы обучения / Е.А.Земская. – М.: Русский язык, 1979. – 239 с.

3. Старавойтава, Н.П. Гісторыя і сучаснасць беларускага слоўнага этыкету / Н.П.Старавойтава // Роднае слова. – 2006. – № 6. – С. 39 – 42.

**Т.Г.Трофимович (Минск, БГПУ)**

## АКТОВЫЕ КНИГИ ГОРОДСКИХ МАГИСТРАТОВ СРЕДИ ИСТОЧНИКОВ ПО ИСТОРИИ БЕЛОРУССКОГО ЯЗЫКА

В истории белорусского литературного языка язык старобелорусской деловой письменности сыграл очень важную роль, став средством письменного общения, тесно связанным с народной речевой стихией. По сути, именно в деловом старобелорусском языке проходил отбор наиболее жизнеспособных языковых средств национального характера [1, с. 18].

Актовые книги – это особый вид документов, представляющих собой специальные книги, которые велись в судах ВКЛ в XVI – XVIII веках. В практику правовых отношений они были введены Статутом 1529 года (р.6, арт.3). Все записи в таких книгах осуществлялись по очереди, по мере поступления дел в суд. Статутом 1588 года был конкретизирован и детально оговорен характер ведения записей. В зависимости от вида судов актовые книги могли быть городскими (замковыми), земскими, трибунальскими, подкоморскими и др. Свое место среди них занимали и актовые книги городских магистратов или магистратские [2, с. 458].

Актовые книги городских магистратов дошли до нас в большом количестве. Сегодня, по свидетельству историков, в Национальном историческом архиве Беларуси хранятся актовые книги 33 населенных пунктов до 1795 года, всего 572 единицы хранения на 147 465 листах. К эпохе существования ВКЛ относится 5 книг могилевского магистрата, 51 книга различных других белорусских городов. В Национальном историческом архиве Беларуси в 1999 году была основана серия «Беларусь у актавых кнігах XVI – XVIII стст.», два первых выпуска которой посвящены могилевскому магистрату. Особое место в актовом наследии занимают актовые книги полоцкого магистрата, которые по количеству уступают лишь актовым книгам могилевского магистрата. Недавно в широкий научный оборот была введена актовая книга полоцкого магистрата 1650 года, подготовленная к изданию М.Ю.Гордеевым (Минск, 2006).

Попытаемся на примере уже упоминавшейся «Актовой книги полоцкого магистрата 1650 года» (далее АКПМ) и других актовых книг сформулировать основные проблемы, указать возможные направления изучения их языковых особенностей, оценить актовые книги как источники по истории языков ВКЛ.

АКПМ и ее язык представляет несомненный интерес для изучения языковой ситуации в ВКЛ позднего периода. Общеизвестные и общепринятые выводы о функционировании старобелорусского, старопольского (польского) и латинского языков могут и должны быть скорректированы. Есть основания считать, что на пограничных территориях складывалась особая языковая ситуация. Границы с Московской Русью в районе Полоцка были подвижны, часто менялись, наблюдалась, по свидетельствам историков, миграция населения. Все это создавало условия для проникновения в старобелорусский язык старорусских черт, формирования специфической территориальной разновидности старобелорусского языка.

Известно, что проблема существования особого языкового смоленско-полоцкого ареала в историческом языкознании вставала. Ей посвящена работа А.И.Соболевского «Смоленско-полоцкий говор в XIII – XIV вв.» (1886) [3]. Если согласиться с выдающимся исследователем и признать существование в древнерусскую эпоху такого говора, то что стало с ним в эпоху раздельного существования восточнославянских языков?

Специфика содержания актовых книг вообще и АКПМ в частности предполагает широкую фиксацию имен собственных. Записи, представлявшие собой документы разного рода, предназначались для конкретных людей, регулировали имущественные и правовые отношения между ними. Как известно, в XVII веке еще не существовало юридически закрепленных форм имен собственных. Старобелорусский антропонимикон к этому времени в качестве константы приобрел обусловленный в основном религиозной традицией состав имен. Фамилии же и отчества как средства идентификации лиц находились в стадии становления [4].

В актовых записях мы находим различные по своему составу средства именования людей: двучленные (имя + фамилия / прозвище), трехчленные (имя + отчество + фамилия), многочленные, модель которых определяется с трудом. Так, вполне современно выглядят такие образования, как *Агапонович Татьяна Яновна (92), Ходыка Артем Микулич (30), Коновал Данило Амбросович(38), Костюкович Федор (4), Храп Максим (66), Клюй Михаил (66), Блыха Стефан (66)* и др. Однако в актовых записях полоцкого магистрата 1650 года находим и такие антропонимические конструкции: *Кособуцкая Полонея Ивановна Наплошанка (74), Маруша Гаврыловна Васюковичовна (102), Люба Андреева Григорьевна Ахремовичова Царова (176), Щасновичовая Мартиновая Маря Стрелковна (96), Евдокия Мелешковна Дорофеевое Ахрамеевичовая (65), Шпакович Авдотя Грыгоревна Становчанка (229)* и др. В одной из актовых книг могилевского магистрата (далее АКММ) упоминается пани *Гелена Андреевна Порадняנка Яновая Туковичовая, мещанка государьская Могилевская Станиславовая Тиборовская Ганна Куприевна* и т.д.

Актовые записи позволят провести наблюдения над закономерностями возникновения таких многочленных антропонимических конструкций, особенностями их функционирования и эволюции. Однако этим «антропонимическая» ценность анализируемых памятников письменности не исчерпывается.

Уже отмечалось, что сохранилось большое количества актовых книг городских магистратов, они датированы, доподлинно известно место их возникновения. Все это в сочетании с высокой насыщенностью актовых записей антропонимами создает прекрасные условия для выяснения особенностей состава антропонимов различных белорусских территорий, получения выводов о характере старобелорусского антропонимикона вообще, о закономерностях и направлениях его эволюции, о происхождении и миграции различных фамилий и т.д. Следовательно, актовые книги являются ценными источниками по изучению старобелорусской антропонимики.

В актовых книгах городских магистратов широкое отражение нашли топонимические наименования. При этом важно принять во внимание, что только в них содержится региональное топонимическое богатство, которое должно быть выявлено и изучено. Такие актовые записи, как инвентари недвижимого имущества, подробно описывали место расположения селений, деревень, принадлежавшие тому или иному физическому или юридическому лицу, указывали при этом не только их названия, но и названия близлежащих рек, озер, лесов и т.п. Характер актовых записей, равно как и порядок оформления имущества в магистратах, обеспечили уникальную по полноте фиксацию географических названий разного рода.

Актовые книги городских магистратов имеют существенное значение для изучения системы номинативных средств старобелорусского языка. Особенно ценными они могут стать в изучении *названий документов, строений, имущества, лиц по профессии и роду занятий.* Так, например, в АКПМ и АКММ (Актовые книги могилевского магистрата) [5] находим славянские по происхождению однословные названия документов (*прызънане, справа, прысега, листъ, парука, позволенье, рукоемство, запис, оповедане, сознане, подтвержене* и др.*),* а также заимствованные, скорее всего, через польский из латинского: *протестация, актикация, декрет, инътромисия, квит, вексель* и др. По понятным причинам в актовых записях много наименований лиц по роду занятий: *балтушник, барышник, болдыш, будовничий, герштъ, дейца, деляторъ, дозорца, злотникъ, кравецъ, резникъ, челядникъ, цырульникъ* и др.

Среди актовых записей есть инвентари недвижимого имущества, которые в большом количестве содержат однословные и неоднословные названия различных строений и помещений. Так, например, в инвентаре недвижимого имущества полоцкой архиепископеи находим: *кухня, свиренъ, броваръ, пивница, пекарня, клеть, сырница, пунька, истобка, стайня, токовня* и др.

Язык актовых книг отражает и такую характерную особенность системы номинативных средств делового языка, как «серийные» выражения (Л.Я.Костючук). Это неоднословные субстантивно-атрибутивные словосочетания устойчивого типа. Например, в одной из АКММ обнаруживаем: *сукно блакитное, сукно брунатное, сукно влоское*

*зеленое, сукно люнское, сукно московское рыжевское, сукно рославское, сукно синегорское, сукно чешское, сукно чирвоное* или *шуба дхоровая, шуба беличья, шуба кроликовая, шуба лисья, шуба медвежья* и др. Серийными могут быть и наименования документов: *листъ волный, листъ вызнанный, листъ добровольный, листъ еднальный, листъ корлевский, листъ купчий, листъ, оттвористый, листъ продажный, листъ судовый* и т.д.

Исследование универбальных и бивербальных средств наименования, отраженных в актовых книгах интересен, как нам представляется, прежде всего, с ономасиологических позиций, поскольку именно этот ракурс анализа позволяет выявить приоритетные понятийные категории, подвергающиеся актуализации в процессах номинативной деривации [6].

Нами уже отмечалось своеобразие системы предметной номинации делового языка, состоящее в существовании разветвленной системы субстантивно-атрибутивных бивербов. Их «серийный» характер и высокая значимость в номинативных процессах привели к тому, что такие единицы пытаются зафиксировать в исторических словарях. Однако их точное количество с трудом поддается определению, поэтому словарные статьи содержат перечни, заканчивающиеся сокращениями «и др.», «и под.» или «и т.п.». Не обратить внимания на эти единицы невозможно, как и невозможно все их лексикографически учесть. Присутствие у таких наименований черт устойчивых единиц укрепляет их номинативный статус. Такие неоднословные наименования являются ценным материалом для изучения способов экспликации предметно-познавательной деятельности человека, дискретизации окружающей действительности, актов вторичной неавтономной номинации, приемов использования в них комбинаторной техники. Старобелорусский деловой язык – возможность последовательно проанализировать субстантивно-атрибутивные словосочетания, выявить их ономасиологические свойства, проследить характер отношений между универбами и бивербами в системе номинативной деривации.

Особенности системы предметной номинации, отразившейся в языке правовой письменности, позволяют провести изучение того, как в пределах этой системы взаимодействуют слово и словосочетание. Двухсловные наименования субстантивно-атрибутивного типа называли, применительно к старорусскому деловому языку, в основном документы (около 20% от общего количества), людей (около 20%), места (около 15%), пошлины (около 15%) и некоторые другие предметы. Достаточно определенно вырисовывается круг базовых имен, т.е. тех слов, на основе которых чаще всего возникали субстантивно-атрибутивные бивербы. Старобелорусский материал в этом смысле изучен недостаточно.

Предпринятый нами обзор формулирует лишь некоторые проблемы лингвистического исследования актовых книг. Ясно одно: актовые книги городских магистратов являются ценными источниками по изучению, прежде всего, старобелорусского языка, в истории которого деловая письменность сыграла важную роль.

***Литература***

1. Журавский, А.И. О канцелярском языке Великого княжества Литовского / А.И.Журавский // Ежегодник истории Литвы. Год 1983. – Вильнюс, 1984.
2. Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя.– Мінск, 2005. – Т.1.
3. Соболевский, А.І. Смоленско-полоцкий говор в XIII – XIV вв. / А.И.Соболевский // Русский филологический вестник. – Варшава, 1886. – Т. XV, № 1.
4. Магілёўскі магістрат. – Мінск, 2006. – В. 1
5. Ляшкевіч, В.М. Антрапанімная сістэма Віцебска і Магілёва XVI – XVIII стст. / В.М.Ляшкевіч. – Мінск, 2004.
6. Трофимович, Т.Г. Типы предметных наименований в языке старорусской деловой письменности / Т.Г.Трофимович. – Минск, 2003.

**А.А.Трусь (Минск, БГПУ)**

## КОРПОРАТИВНЫЙ ЯЗЫК КАК ОТРАЖЕНИЕ ОРГАНИЗАЦИОННЫХ РЕАЛИЙ И ЭФФЕКТИВНЫЙ УПРАВЛЕНЧЕСКИЙ ИНСТРУМЕНТ

Язык, являясь средством деловой коммуникации, выступает важным показателем положения дел на предприятии, состояния организационно-управленческой среды, индикатором текущего этапа его развития. Кроме этого, корпоративный язык сотрудников компании в определенной степени демонстрирует уровень их приверженности (лояльности) своему предприятию.

Корпоративный язык возникает с момента рождения организации и развивается вместе с ней. Он является одним из элементов организационной культуры, в котором находят отражение цели, нормы, правила, принципы, ценности и смыслы компании. Корпоративный мета-язык изначально формируется, исходя из речевых паттернов людей, стоящих у его истоков – учредителей, первых руководителей и сотрудников молодого предприятия. Они являются носителями языковых шаблонов, которые, как мозаика, складываются в общую картину организационного языка.

Например, в одной компании, с которой автор работал, как тренер и консультант, сотрудники в разговорной речи буквально в каждом предложении использовали словосочетание «как бы»: «Мы как бы солидная организация, которая выпускает как бы качественный продукт. Мы как бы динамично развиваемся…». Эти два вводных слова засоряли речь руководителей и сотрудников, создавали непривлекательный образ предприятия в глазах деловых партнеров. Причиной такого речевого явления явилась вербальная модель первого лица предприятия – его учредителя и генерального директора, который, являясь сильной личностью и руководителем харизматического типа, «заразил» этим вирусом своих подчиненных. Потребовалось серьезная работа по прополке этого «сорняка» на речевом организационном поле.

Приходя на предприятие, новый сотрудник вместе с корпоративными стандартами, касающимися различных сторон его жизнедеятельности (распорядок дня, трудовая дисциплина, форма одежды и т.п.) должен освоить язык своей компании. На некоторых предприятиях новички проходят адаптационные семинары, на которых особое внимание

обращается разговорным нормам, принятым в компании, презентации своего предприятия при взаимодействии с внешней средой – клиентами, деловыми партнерами, конкурентами и т.п. Это очень важный момент позиционирования компании в деловой среде, так как вербальный имидж ее представителя формирует представление в целом об организации, сотрудником которой он является.

Например, презентуя свое предприятие, сотрудник говорит: «Эта фирма существует на рынке десять лет». У делового партнера может сложиться нейтральный или даже отрицательный образ организации, как делового партнера, по следующим причинам:

– употребление сотрудником в отношении представляемого им предприятия (компании) местоимений «это, эта» создает впечатление его нелояльности, сотрудник отделяет себя от предприятия: оно само по себе, сотрудник сам по себе. Одно из правил деловой коммуникации гласит: «Только лояльный сотрудник может сделать делового партнера лояльным своей компании»;

– существительное «фирма» в общественном сознании ассоциируется с небольшим, несерьезным предприятием: «фирмочка», «фирма-однодневка»;

– синонимом глагола «существует» опять же в общественном сознании является выражение «влачить существование» с добавлением прилагательного «жалкое».

Все это в совокупности не работает на создание привлекательного имиджа предприятия. Заменив в своей презентации отмеченные речевые элементы на другие, более грамотные и удачные с точки зрения психолингвистики, сотрудник формирует образ своего предприятия, как солидного игрока на бизнес-пространстве региона, с которым можно и нужно сотрудничать: «Наша Компания успешно работает на белорусском рынке второе десятилетие». Представитель предприятия, произнося данную фразу, никоим образом не вводит в заблуждение своего делового партнера, напротив, он демонстрирует свой профессионализм, а также открытость и честность по отношению к нему.

Опыт взаимодействия автора с различными организациями, работающими на белорусском рынке, показывает, что практически все они ведут коммуникацию на русском языке – как внутри предприятия, так и с деловыми партнерами. В отличие от аналогичных российских предприятий, особенно тех, которые осуществляют свою деятельность в Москве, в языке руководителей и сотрудников белорусских бизнес-структур англицизмы («HR-менеджер», а не «специалист по работе с персоналом»; «митинг», а не «собрание», «апгрейд», а не «обновление» и т.п.) являются довольно редким явлением.

Помимо организационного мета-языка, который характерен для всех руководителей и сотрудников, на предприятии складываются и сосуществуют языки, на которых разговаривают специалисты различных структурных подразделений. Наиболее ярко выделяющимися языками с точки зрения специфичности употребляемой лексики являются языки сотрудников отделов программного обеспечения и логистики. Нередко этот феномен является причиной как непониманий и различного рода конфликтных ситуаций на межличностном уровне, так и неоптимальных, неэффективных коммуникаций между структурными подразделениями компании.

Корпоративный язык является показателем отношения сотрудников к внутренним и внешним бизнес-реалиям. Приведем некоторые примеры:

– отношения сотрудников к клиентам: «Клиент всегда прав», «Куда он от нас денется!», «Ходят, звонят тут всякие, только работать мешают»;

– отношения сотрудников к партнерам: «Я не выполнил план, потому что поставщик подвел», «Герой компании тот, кто умеет наладить оптимальную для компании систему взаимодействий с поставщиками, покупателями, средствами массовой информации, другими партнерами»;

– отношения сотрудников к руководству: «Ты начальник, я рабочий, вот возьми и поворочай», «Не спеши выполнять приказ начальства, каждая бумажка должна отлежаться», «Перед лицом начальства вид имей придурковатый, чтобы своим умом начальство не смущать», «Расслабься, не сопротивляйся и получи удовольствие», «Все мы звенья одной цепи, команда – великая вещь», «Если они думают, что они нам платят, пусть они думают, что мы работаем»;

– взаимоотношения руководства с подчиненными: «Сытый голодного не разумеет», «Всякий сверчок знай свой шесток», «Незаменимых людей нет», «Успех зависит от профессионализма персонала», «Инициатива наказуема»;

– отношение к делу: «Солдат спит, служба идет», «Работа не волк – в лес не убежит», «Бери больше – кидай дальше», «Для достижения цели любые средства хороши», «Как платят, так и работаем», «Мой личный успех – это успех Компании»;

– отношение к новому, к изменениям: «Лучше синица в руках, чем журавль в небе», «Пока гром не грянет, мужик не перекрестится», «Быстрые съедают медленных».

Руководитель, понимающий значимость корпоративной культуры в повышении успешности деятельности возглавляемого им предприятия и уделяющий в своей работе особое внимание ее формированию и развитию, использует для этой цели различные средства, в том числе корпоративный язык, как значимый инструмент. Грамотно выстроенное языковое организационное пространство позволяет руководителю эффективно решать деловые, мотивационные, управленческие и иные задачи.

**В.В.Урбан (Мінск, БДПУ)**

## АЦЭНАЧНЫЯ ДЭРЫВАТЫ З ФАРМАНТАМІ -УЛЬ (-ЮЛЬ), -УЛ-Я (-ЮЛ-Я) / -УЛЛ-Я (-ЮЛЛ-Я) / -УЛ-А Ў БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЕ

Характарыстычныя назвы асобы са значэннем суб'ектыўнай ацэнкі змяшчаюць інфармацыю аб суб'ектыўным адлюстраванні аб'ектыўнага свету і эмацыянальных адносінах утваральніка маўлення да прадмета гаворкі. У аснове працэсу кваліфікацыі ляжыць параўнанне аб'екта з пэўным эталонам, прынятым у грамадстве. Такое суаднясенне непазбежна прыводзіць да ўзнікнення суб'ектыўнай ацэнкі – станоўчай або адмоўнай. Даследаванне ацэначных субстантываў-характарыстык асобы на словаўтваральным узроўні дазваляе ўстанавіць асаблівасці і спецыфіку дэрывацыйных

працэсаў, якія адбываюцца ў беларускай дыялектнай мове. У артыкуле разглядаюцца канататыўна афарбаваныя адзінкі, якія сустракаюцца ў народных гаворках, утвораныя пры дапамозе фармантаў *-уль* (*-юль*), *-ул-я* (*-юл-я*) / *-улл-я* (*-юлл-я*) / *-ул-а*.

Ацэначныя субстантывы з націскам на суфіксе (радзей на корані), утвораныя пры дапамозе фармантаў *-уль* (*-юль*), матывуюцца дзеясловамі, назоўнікамі і прыметнікамі:

1. Назоўнікі-пеяратывы, утвораныя ад дзеясловаў, характарызуюць асоб па выразнай знешняй прыкмеце і маюць адценні асуджэння і неадабрэння. У якасці матывавальных выступаюць асновы інфінітываў без канцавога галоснага і фіналі -ыт- утваральнай асновы: ківацца – *ківу́ль* 'кульгавы' (БНС), маргаць – *маргу́ль* (БНС), мармытаць – *марму́ль* 'негаваркі, нелюдзімы чалавек' (СЦР, СПЗБ), мянціць – *манцю́ль* 'ілгун' (СЦР), *смаргу́ль* 'вельмі скупы чалавек' перан. ад сморгаць 'абрываць вяршкі (бацвіння, аўса, травы)' (БДС).

2. Ад назоўнікаў утвараецца невялікая колькасць ацэначных дэрыватаў з рознымі ацэначнымі адценнямі:

а) зневажальнасці і неадабрэння: бык − *бычу́ль* 'гультай, непатрэбны чалавек' (ЗНС), карака 'ануча' − *кара́куль* 'няўдаліца' (НЛ), рагач 'вілкі' − *рагу́ль* 'непаваротлівы, марудлівы чалавек; непрыгожы чалавек' (ЖНС), хата − *хату́ль* 'дамасед' (БНС). Утваральнымі выступаюць асновы неасабовых назоўнікаў;

б) ласкальнасці: дзед − *дзяду́ль* і *діду́ль* 'стары чалавек або бацька маці ці бацькі'.(СПЗБ). У якасці ўтваральнай выступае аснова адушаўлёнага назоўніка.

3. Матываваныя прыметнікамі назоўнікі са значэннем суб'ектыўнай ацэнкі абазначаюць асоб па выразных прыкметах знешнасці. У працэсе дэрывацыі фіналь -ат- утваральнай асновы адсякаецца: барадаты – *бараду́ль* (СПЗБ), гамзаты – *гамзу́ль* 'гугнявы' (СПЗБ), гарбаты – *гарбу́ль* (БДС), касматы – *касму́ль* (БНС), насаты – *насу́ль* (ЗНС), смаркаты – *смарку́ль* 'малады, нявопытны; смаркач' (СПЗБ). Дэрываты маюць экспрэсію асуджэння, пагардлівасці, неадабрэння.

Ацэначныя назоўнікі з фармантамі *-ул-я* (*-юл-я*) / *-улл-я* (*-юлл-я*) / *-ул-а* прадстаўлены ў беларускай дыялектнай мове адпрыметнікавымі, аддзеяслоўнымі і адназоўнікавымі дэрыватамі:

1. Ацэначныя адзінкі са значэннем суб’ектыўнай ацэнкі, матываваныя прыметнікамі, абазначаюць асоб жаночага і мужчынскага полу паводле прыкметы, названай утваральным словам. Фіналі -ат-, -л- матывавальных асноў адсякаюцца: гарбаты – *гарбуля́* (ЖС, СРЛГ), гразны – *гразну́ля* 'брудны, мурзаты' (ЗНС), дзыгаты – *дзыгу́ля* 'цыбатая асоба' (ДС III), дурны – *дурну́ля* з адценнем ласкальнасці (НЛГФ), касматы – *касму́ля* 'касматая асоба' (МДСГ), крывы – *крыву́ля* 'кульгавы' (ЗНС), мурзаты – *мурзу́ля* (МДСГ), насаты – *насу́ля* (СГВ, ЗНС), сівы – *сіву́ля* 'дзяўчына, якая паводзіць сябе так, як малое дзіцё; перастарка' (ДС III, МАСМ), смуглы – *смагу́ла* 'цёмнаскуры, смуглы' (ЗНС), смаргаты – *смаргуля́* 'смаркатая асоба' (ДСЗ), тошчы – *тошчу́ля* 'худая, сухая жанчына' (ТС), хітры – *хітру́ля* 'той, хто надта хітры' (СПЗБ), чорны – *чарну́ля* 'чорнавалосая жанчына' (ЗНС). У маўленні дэрываты набываюць экспрэсію асуджэння, зневажальнасці,

іроніі, у выключных выпадках – ласкальнасці. Націск на суфіксе, у зэльвенскіх гаворках на канчатку.

2. Суб'ектыўна-ацэначныя назоўнікі, якія абазначаюць асоб-выканаўцаў дзеяння або носьбітаў негатыўнай працэсуальнай прыкметы, маюць адценні пагардлівасці, неадабрэння, іроніі, спачувальнасці. Фіналі -ава-, -ну-, -а-, -ы-, -я-, -і- ўтваральных асноў інфінітываў адсякаюцца; пры дэрывацыі магчыма чаргаванне перад суфіксам парных мяккіх зычных з цвёрдымі: лындзіць 'швэндацца без справы' – *лындýля* 'гультай' (НВС), фарсіць – *фарсýля* і *фарсýлля* 'фарсістая жанчына' (ЗНС), храпець – *храпýля* (ЗНС) і *храпуля́* (БНС). Націск на суфіксе, на канчатку – у зэльвенскіх гаворках: бедаваць – *бядýла* 'небарака' (СПЗБ), гуляць – *гулю́ля* 'гуляка' (НС-Т), ірзаць 'ёрзаць' – *ірзýля* 'гарэза, свавольніца' (НВС), комшыцца 'капацца, марудзіць' – *камшýля* 'маруда' (НС-Т), пець – *пяю́лля* (НЛ), рассасаць – *рассасýля* 'хто любіць шмат пагаварыць, паразважаць' (ЗНС), цягнуцца (цягацца) – *цягýла* і *цягýля* 'той, хто марудны, адстае, ідзе ззаду' (СПЗБ).

3. Адсубстантыўныя назоўнікі з націскам на ўтваральным суфіксе можна падзяліць на два падтыпы:

а) дэрываты, якія ўжываюцца ў маўленні з адценнем ласкальнасці, утваральнымі для якіх выступаюць назвы асоб мужчынскага і жаночага полу па лініі роднасці або сваяцтва: баба – *бабýля* (ВКС), брат – *братýля* (КСУМ), дзед – *дзядýля* (СПЗБ), дачка – *дочýля* (ТС), маці – *матýля* (ТС), сын – *сынýля* (МКТ), тата – *татýля* (МАСМ);

б) пеяратывы, якія ўжываюцца ў маўленні з адценнямі абражальнасці, пагардлівасці, зневажальнасці, іроніі. Базавымі для іх утварэння выступаюць асновы назоўнікаў жаночага і мужчынскага роду, якія маюць адмоўную ацэнку (біз – *бязýля* 'гультай'; СРЛГ; дрыпса – *дрыпсýля* 'няўклюдная, неахайная асоба'; НВС; крыкса – *крыксýля* 'жанчына, якая любіць пакрычаць, гучна пагаварыць'; ЗНС; рабза – *рабзýля* 'жанчына з рабым тварам'; НВС ІІ, рагіза – *рагізýля* 'растропа'; ВКС; рассявень – *рассявýля* 'рассеяны'; ЗНС; цытра – *цытрýля* 'сварлівая асоба'; НВС ІІІ; цямця – *цямцю́ля* 'маўклівая, марудлівая асоба'; ЖНС), або назвы асоб жаночага і мужчынскага полу па лініі роднасці: дзеўка – *дзявýля* 'вялікая дзяўчына, але ні да чаго не здольная, няўмелая' (ЗНС, ЖС, МДСГ, МКТ, МАСМ), *дзявýлля* 'дарослая дзяўчына-гультайка' (МСД), *дзевуля́* 'сталая дзяўчына' (ЖНС), зяць – *зяцю́ля* (ДСЗ), мама – *мамýля* (СНЛ), сястра – *сястрýля* (МАСМ, ДС І).

Такім чынам, можна зрабіць вывад, што словаўтваральныя *фарманты -уль (-юль), -ул-я (-юл-я) / -улл-я (-юлл-я) / -ул-а ў беларускай дыялектнай мове маюць шырокія канструкцыйныя магчымасці: яны спалучаюцца з разнастайнымі тыпамі* ўтваральных асноў і набываюць шырокае кола дэрывацыйных значэнняў.

***Умоўныя скарачэнні***

**БДС** – Шаталава Л.Ф. Беларускае дыялектнае слова. – Мінск, 1975; **БНС** – Сцяцко П.У. Беларускае народнае словаўтварэнне: Афіксальныя назоўнікі – Мінск, 1977; **ВКС** – Касьпяровіч М.І. Віцебскі краёвы слоўнік. – Віцебск, 1927; **ДС І** – Янкоўскі Ф.М. Дыялектны слоўнік. – Мінск, 1958; **ДС ІІІ** – Янкоўскі Ф.М. Дыялектны слоўнік ІІІ. – Мінск, 1970; **ДСЗ** – Сцяцко П. Дыялектны слоўнік: З гаворак Зэльвеншчыны. – Мінск, 1970; **ЖНС** – Жывое народнае слова: Дыялекталагічны зборнік. – Мінск,

1992; **ЗНС** – З народнага слоўніка. – Мінск, 1975; **КСУМ** – Бялькевіч І.К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. – Мінск, 1970; **МАСМ** – Матэрыялы да абласнога слоўніка Магілёўшчыны.– Мінск, 1981; **МДСГ** – Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны // Беларуская мова: вып. 5, 1977; вып. 8, 1980; **МКТ** – Яўсееў Р.М. Маці казала так...: З гаворкі Бялыніцкага раёна. – Мінск, 1978; **МСД** – Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы. – Мінск, 1960; **НВС** – Юрчанка Г.Ф. Народнае вытворнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны. А – Л. – Мінск, 1981; **НВС II** – Юрчанка Г.Ф. Народнае вытворнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны. М – Р (разбарона). – Мінск, 1983; **НВС III** – Юрчанка Г.Ф. Народнае вытворнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны. Р – Я.– Мінск, 1985; **НЛ** – Народная лексіка. – Мінск, 1977; **НЛГФ** – Народная лексіка Гомельшчыны ў фальклоры і мастацкай літаратуры: Слоўнік. – Мінск, 1983; **НС-Т** – Народная словатворчасць. – Мінск, 1979; **СГВ** – Сцяшковіч Т.Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці. – Мінск, 1983; **СНЛ** – Юрчанка Г.Ф. Сучасная народная лексіка: З гаворкі Мсціслаўшчыны: Слоўнік. А – Н. – Мінск, 1993; **СПЗБ** – Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: У 5 т. – Мінск, 1979 – 1986. Т.1 – 5; **СРЛГ** – Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны. – Гродна, 1999; **СЦР** – Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі: У 2 т. / Пад рэд. Е.С.Мяцельскай. – Мінск, 1990. – Т. 1; **ТС** – Тураўскі слоўнік: У 5 т. – Мінск, 1982 – 1987. Т. 1 – 5.

**Г. У.Федарэнка (Мінск, Інстытут мовы і літаратуры НАН Беларусі)**

## СІСТЭМА СКЛАНЕННЯ НЕАСАБОВЫХ ЗАЙМЕННІКАЎ У СЛУЦКІМ ЕВАНГЕЛЛІ (канец XVI ст.)

З'яўляючыся своеасаблівай часцінай мовы, займеннік, у адрозненне ад іншых часцін мовы (назоўніка, прыметніка, дзеяслова), не мае самастойнага значэння, а толькі выражае адносіны да таго ці іншага прадмета. Таму займеннікі ў большасці выпадкаў выступаюць у якасці замяшчэння назоўнікаў, прыметнікаў і лічэбнікаў.

У Слуцкім Евангеллі (XVI ст.) выяўлена вялікая колькасць займеннікаў, якія па сваіх марфалагічных адзнаках і сінтаксічных функцыях падзяляюцца на асабовыя і неасабовыя. Самую вялікую групу па колькасці выяўленых адзінак складаюць неасабовыя займеннікі, якія падзяляюцца на наступныя разрады: пытальна-адносныя, няпэўныя, адмоўныя, прыналежныя, указальныя, азначальныя. У дадзеным артыкуле разглядаюцца першыя тры з пералічаных разрадаў.

Да *пытальна-адносных займеннікаў*, прадстаўленых у помніку, адносяцца наступныя: êòî, ÷òî; êûè, êàà, êîå; êîòîðûè; åëèêà, åëèêî; êàêîâà, êàêîâî; êîëèêî; **ч**¿è – àmå êòî õîmåòü ïî ìíh èòè (40б); ÷òî åñ ïðèò$^s$÷à ñ¿à (142); êûè ÷ëêú wò âàñ (163б); êàà âàì$^s$ õâàëà åñ (137); êîå èõ ähëî (216б); êîòîðûè îóáî á@äåò wò íèõü (179б); àmå òâîðèòå åëèêà çàïîâhäàþ âàì (227); âñè åëèêî èõ ïð¿èäå ïðhæäå ìåíå, òàòèå ñîóò è ðàçáîèíèöè (215б); âèæäü êàêîâî êàìåí¿å, è êàêîâà çäàí¿à (105б); îí$^s$ æå ðå÷ èìü, êîëèêî õëháû èìàòå, èähòå è âèähòå (89б); ÷¿è åñ ñíú (53).

У марфалагічных адносінах сярод іх вылучаюцца займеннікі êòî, ÷òî, якія не змяняюцца па родах і не маюць катэгорыі множнага ліку. Займеннік êòî суадносіцца з адушаўлёнымі назоўнікамі і скланяецца па цвёрдаму тыпу скланення, а займеннік ÷òî – з

неадушаўлёнымі і мае склонавыя формы мяккага тыпу скланення. Сістэма склонавых форм гэтых займеннікаў выглядае наступным чынам:

Н.: êòî (êòw); ÷òî: êòî åñòü wò âàñ ÷ëâåêú (19); êòw ìîæåòü wñòàâë#òè ãðhõè (79); ÷òî åñ ïðèòs÷à ñ¿à (142); Р.: êîãî; ÷åñî (÷üñî): êîãî õîmåòå wò wáîþ wòïîómîó âàìs (65б); íå èìàòü áî ÷åñî >ñòè (89б); ÷üñî èmåøè (199б); Д.: êîìó (êîìu); ÷åñîìó (÷åñîìu): êú êîìó èäåì (207); êîìu îóïwäîáëþ ÷ëêû ðîäà ñåãî (140); êú ÷åñîìó ðå÷å åìu (224); ÷åñîìu îóïîäîáèì öðñòâ¿å áæèå (84); В.: êîãî; ÷òî (÷òw): êîãî èmåòå (231б); íå ïåöhòå ñ# äøåþ âàøåþ ÷òî >ñòå è ÷òw ïèåòå (18); Тв.: ÷èìü (÷èì): àmå êîãî ÷èìü wáèähõ (172); íå ñëàíà áîóäåò, ÷èì îñîëèò ñ# (98) (займеннік êòî ў дадзенай пазіцыі не зафіксаваны); М.: w êîì; âú ÷åìü: è íå ðàäèøè íè w êîì æå (103б); àmå ñîëü wáîóàåòü, â ÷åìü îñîëèò ñ# (163).

Займеннікі мужчынскага і ніякага роду êûè, êîå ў адзіночным ліку прадстаўлены ў помніку наступным чынам: Н.: êûè: êûè öðü èäûè êú èíîìó öðþ (163) (м. р.); êîå: êîå èõ äheî (216б) (н. р.); Р.: êîåãî: êîåãî äõà åñòà âû (148б) (м. р.); Д.: êîåìó (êîåìu): êîåìó òàîðèøè ñëóæsáîó (248б); òâîðèòè ëèòîðã¿þ êîåìu ëèáî ñòîìó (248б) (м. р.); В.: êîå: êîå çíàìåí¿å >âë>åøè íàì (195б) (н. р.); Тв: êîèìs, êûìs: ñòûìs èçsáðàísíûìü, êîèìs åñ ïèñàíî (248) (н. р.); åãäà çâàíú áîóäåøè êûìs íà áðàêú (161б) (м. р.). Месны склон не адлюстраваны.

Займеннік жаночага роду ў адзіночным ліку ўжываецца толькі ў назоўным і творным склонах: êàà âàìs õâàëà åñ (137); êîåþ ñìðò¿þ õîò#øå îóìðhòè (221б).

У множным ліку выяўлены формы роднага і меснага склонаў, агульныя для ўсіх трох родаў – êûèõ; êîèõú: öàð¿å çåìñò¿è, wò êûèõ ïðèåìëþòü äàíè (42) (Р. скл.); âs êîèõú íå åä¿íî ãëàñîóþòü (5б) (М. скл.).

Таксама нешматлікім у помніку па прадстаўленых склонавых формах з'яўляецца займеннік êîòîðûè, ÷¿è: Н.: êîòîðûè (êîòîðû¿$); ÷¿è: êîòîðûè îóáî á@äåò wò íèõü (179б); êîòîðû¿ îóáî ðöè ïà÷å âúçëþáèòü åãî (141); ÷¿è åñ ñíú (53); Р.: êîòîðàãî: wòâhmàâú ê íèì ðå÷å, êîòîðàãî wò âàñ îñåëú èëè âîëú âú ñòîóäåíåöú âúïàäåòü (161б); В.: êîòîðûè: âúïðîøàøå îóáî wò íèõ ÷àñ, â êîòîðûè ëåã÷å åìó áûñ (201).

Пытальна-адносныя займеннікі ў старажытнасці служылі базай для ўтварэння няпэўных займеннікаў шляхам далучэння часціцы íh: íhêòî, íh÷òî; íhêûè, íhêàà, íhêîå – ïðèêúñíîó ñ# ìíh íhêòî (144б); êîçü íhêûè ïðèøåä êëàí#øå ñ# (23б); È ñå æåíà íhêàà (86).

Займеннікі íhêòî (íhêüòî), íh÷òî не маюць катэгорый роду і множнага ліку і скланяюцца па ўзору пытальна-адносных займеннікаў êòî, ÷òî. У помніку яны адлюстраваны толькі ў назоўным і вінавальным склонах: Н.: åäèís æå íhêòî wò íèõ êà¿àôà (219б); åäèís æå íhêüòî þíîøà èäå ïî íåì (110); В.: íèmèì äà íh÷òî äàñ (224).

Няпэўныя займеннікі íhêûè, íhêàà ў адрозненне ад вышэй пералічаных змяняюцца па родах і ліках і маюць тыя ж канчаткі, што і пытальна-адносныя êûè, êàà, ад якіх яны ўтвораны. Звяртае на сябе ўвагу паралельнае ўжыванне канчаткаў множнага ліку роднага склону -ûèõ, -îèõ: ãëåìî áh wò íhêûèõ (145б); wò âåëèêûà íåäë# ïàñõû ðàçâå íhêîèõ òðåõ äíå¿ (249б).

У табліцы пададзены склонавыя формы займенніка íhêûè:

| | адзіночны лік | множны лік |
|---|---|---|

| Склон | м. р. | ж. р. | н. р. | м. р. | ж. р. | н. р. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | íhêûè (íhêû¿) | íhêàà | — | íhö¿è | íhêûà | íhêû¹# |
| Р. | íhêîåãî | — | — | íhêûèõ, íhêîèõ | | |
| Д. | íhêîåìq | — | — | íhêîèì | | |
| В. | — | íhêîóþ | íhêîå | íhêû# (íhêûà) | — | — |
| Тв. | — | — | — | — | — | — |
| М. | íhêîåì | — | íhêîåìü | — | — | — |

Парны лік прадстаўлены адным прыкладам: ïðèçâà äâà íhêàà wò îó÷íêú ñâîèõ (139б) (Р. скл., м. р.).

Адмоўныя займеннікі: íèêüòî, íè÷òî; íèêûè, íèêà>: íèêüòî íå ìîæåò ïðèèòè êî ìíh (206); è ñå íè÷òwæ<sup>s</sup> äîñòîèíî ñìðòè (182б); íèêûèæ áî ðààú ìîæåò äâhìà ãîñïîäîìà ðààîòàòè (18). Як і няпэўныя, адмоўныя займеннікі ўтварыліся ад пытальна-адносных пры дапамозе часціцы íè. Займеннікі íèêüòî, íè÷òî не маюць катэгорыі роду, у адзіночным ліку маюць такія ж формы, як займеннікі êòî і ÷òî.

Н.: íèêüòî (íèêòw): È íèêüòî æå âúçûäå íà íáî; íèêüòî æå ìîæåò<sup>s</sup> ïð¿èòè êú ìíh (206); íèêòw æå âúëèâàåòü âèíà íîâà âú ìhõû âhòõû (80) (родны склон не зафіксаваны); Д.: íèêîìîó (íèêîì@, íèêwìîó): äà íèêîìîó íå ðåêîóòü (40); çàïðhòè èìü, äà íèêîì@ æå ïîâhä#òü (92б); íèêwìîóæå ïîâhæäü (20б); В.: íèêîãî (íèêîãw): íèêîãî æå õîòhàøå äààû åãî ÷@ëú (92); íèêîãwæ îáèäèòh (128б).

Н.: íè÷òî: íè÷òî æå áîëå wò ïîâåëhí<sup>s</sup>íàãî âàì òâîðèòå (128б); äà íå ïîãûáíåò íè÷òîæ<sup>s</sup> (204); Р.: íè÷üñî (íè÷üñw), íè÷åñî: íè÷üñîæ íå òâîðþ (211); âú òîó íîmü íå >øà íè÷üñwæ (238); íèêîìîó æå íè÷åñî æå ðhøà (114б); В.: íè÷òw: èæå íè÷òwæ èìûè (188б); Тв.: íè÷èì: íè÷èì æå ìåíøà åñè âú âëäêàõú ¿þäîâàõ (9б). У давальным і месным склонах названыя займеннікі не зафіксаваны.

Адмоўныя займеннікі íèêûè, íèêà> змяняюцца па родах і маюць тыя ж склонавыя формы, што і пытальна-адносныя займеннікі êûè, êàà, ад якіх яны ўтвораны. Яны ў тэксце прадстаўлены толькі ў наступных склонах: Н.: íèêûè; íèêàà: íèêûèæ áî ðààú ìîæåò äâhìà ãîñïîäîìà ðààîòàòè (18) (м. р.); Р.: íèêîå#, íèêw>: ðå÷ êú àðõ¿åðåwì è íàðîä@, íèêîå#æ îáðhòàþ âèíû âú ÷ëöh ñåì (182); wò ïëîòè æå íhñòü ïëúçû íèêw> æå (206б) (ж. р.).

Такім чынам, прыведзены матэрыял сведчыць аб ужыванні названых займеннікаў у Слуцкім Евангеллі ў традыцыйнай царкоўна-славянскай форме.

**К.Л.Хазанава (Гомель, ГДУ)**

## СТРУКТУРНА-СІНТАКСІЧНАЕ ВАР'ІРАВАННЕ ПЕРАКЛАДУ А.КУЛЯШОВА ПАЭМЫ М.Ю.ЛЕРМАНТАВА «МЦЫРЫ»

У творчай спадчыне Аркадзя Куляшова асобнае месца належыць перакладам, сярод якіх выдзяляюцца пераклады класічных паэм вялікага рускага паэта М.Ю.Лермантава «Мцыры» і «Дэман». Пераклады Куляшоў рабіў з рускай мовы на беларускую, а гэта

абазначае, што ў творчай лабараторыі паэта-перакладчыка дзейнічалі дзве блізкароднасныя мовы. Адказнасць беларускага паэта тым больш павялічвалася, што практычна любы чытач яго перакладнога твора ўжо быў знаёмы з арыгіналам і меў магчымасць параўнаць, супаставіць лермантаўскія паэмы і куляшоўскія пераклады. Беларускі паэт, безумоўна, улічыў гэтыя фактары ў працэсе сваёй творчай работы. У выніку паэмы Лермантава на беларускай мове ўяўляюць сабой самастойныя перакладныя творы, у якіх, несумненна, захаваўся і «почырк» рускага паэта, але і з'явіўся адбітак перакладчыцкай творчасці.

Мэтай нашага даследавання з'яўляецца аналіз перакладчыцкага структурна-сінтаксічнага вар'іравання перакладу паэмы Лермантава «Мцыры».

Пад структурна-сінтаксічным вар'іраваннем намі разумеецца замена адзінкавых слоў мовы арыгінала (МА) словазлучэннем ці спалучэннем слоў у мове перакладу (МП), а таксама адваротныя выпадкі, калі словазлучэнню ці словаспалучэнню МА адпавядае слова МП. Такія замены ў перакладзе Куляшова сустракаюцца даволі часта. Напрыклад, лексема МА *Отчизна* ў МП заменена словазлучэннем *родны край*: *Я видел у других* ***Отчизну****, дом, друзей, родных* [1, с. 54] – *У іншых, бачыў я, Ёсць* ***родны край****, сябры, сям'я* [2, с. 10]. Лексічнае значэнне слова ў перакладзе поўнасцю захоўваецца. Увядзенне сінтаксічнай канструкцыі абумоўлена патрабаваннем захавання рытмікі вершаванага твора. Адметна, што пры замене слова словазлучэннем перакладчык абапіраўся на МА, вярнуўшы ў МП субстантываванаму прыметніку *родной* ад'ектыўныя магчымасці дапасавання да назоўніка. А ў якасці адпаведніка субстантываванаму прыметніку МП падае назоўнік *сям'я*. Такі пераклад перадаў інфармацыйны змест кантэксту.

Своеасаблівы адпаведнік знайшоў Куляшоў для рускага выклічніка *Увы*! [1, с. 55] У МА выклічнік нясе канататыўны цяжар, перадае расчараванне, незадавальненне, засмучанасць героя. Разам з тым выклічнік мае адценне ўрачыстасці і ўзнёсласці, што дасягаецца яго кніжнаславянскім паходжаннем. Напрыклад, У. Даль падаў выклічніку наступнае тлумачэнне і сінанімічныя выразы: «***Увы*** – междометье сетованья, ахъ, о, охъ, горе мне, о горе, о бедствие» [3, IV, с. 463]. Расійскі філолаг устанавіў паходжанне выклічніка з дзеяслова *увыкать* 'вохкаць, бедаваць, смуткаваць, гараваць з воклічамі, енкамі, стогнамі' [3, IV, с. 463]. Тутсама У. Даль падаў аднакарэнны назоўнік *увыканье* 'стогны, плач' [3, IV, с. 463]. Указаныя лексемы не сталі прыналежнасцю беларускага слоўніка. У МП варыянтам перакладу выклічніка стаў цэлы выраз: *Ды толькі дзе там!* [2, с. 11]. МП перадало амаль усе эмоцыі і перажыванні, закладзеныя ў МА. Магчыма, выразу перакладу бракуе толькі некаторай узнёсласці МА. Аднак важней за ўрачыстасць перадаць у МП смутак, адчай і боль юнака, што ў перакладчыка атрымалася.

У некаторых выпадках на месцы адзінкавых слоў МА назіраем ужыванне шматслоўнай канструкцыі МП: *С высокой башни* ***угловой*** [1, с. 55] – *З той вежы,* ***што глядзіць на ўсход*** [2, с. 11]. Перакладчык дапусціў увядзенне інфармацыі, адсутнай у мікракантэксце арыгінала (*на ўсход*). Гэта інфармацыя другасная, яна з'яўляецца рэлевантнай у макракантэксце твора. Увядзенне яе ў тэкст перакладу мела на мэце падкрэсліць тугу героя па ўсходу, дзе знаходзяцца яго родныя мясціны.

Іншы раз пад структурную замену словаспалучэннем трапіла ў МП прыслоўе: *и* ***кругом*** *В тени рассыпанный аул* [1, с. 56] – ***там і тут*** *Пад ёй* [цяснінай] *ляпіўся наш аул* [2, с. 13]. Адпаведнікі *кругом – там і тут* з'яўляюцца прыкладамі магчымасці варыянтнай перадачы аднаго зместу.

Часам у перакладзе Куляшоў замяніў адзінкавыя дзеясловы МА вербоідамі, дзеяслоўнымі словазлучэннямі: *шум его* [потока] *сотне голосов* ***подобился*** [1, с. 59] – *ягоны* [патоку] *шум.. Да сотні.. галасоў* ***Падобны быў*** [2, с. 15]; *восток* ***озолотился*** [1, с. 59] – ***Зямлю азалаціў*** *усход* [2, с. 16]; ***Запели*** *птички* [1, с. 59] – ***Пачуўся*** *птушак ранні* ***спеў*** [2, с. 16]. Гэтыя тры перакладчыцкія мадыфікацыі ўяўляюць сабой прыклады ўмення Куляшова-перакладчыка працаваць з перакладным тэкстам творча, прымяняючы разнастайныя спосабы і прыёмы перакладчыцкіх змяненняў. У першых двух выпадках перакладчык зрабіў трансфармацыю па мадэлі *слова МА = словазлучэнне МП* (*подобился – падобны быў, озолотился – зямлю азалаціў*). У першым выпадку адбылася толькі структурнае змяненне. Інфармацыйна-сэнсавае напаўненне МП роўнае МА. У другім выпадку ў МП назіраем з'яўленне дадатковай інфармацыі ў параўнанні з МА, якая ўтрымліваецца ў дапаўненні *зямлю*. Апошні, трэці, адпаведнік – прыклад структурна-сінтаксічнага змянення, пры якім у працэсе перакладу зрушыўся суб'ект дзеяння. Пры гэтым інфармацыйны змест кантэксту ў трох адзначаных выпадках не апынуўся ў перакладзе скажоным. Гэтыя замены захоўваюць інфармацыйны змест і зроблены перакладчыкам з мэтай перадаць у МП вобразнасць і эмацыянальнасць лермантаўскага арыгінала.

У перакладзе Куляшова сустракаюцца, як намі ўжо адзначалася, і адваротныя выпадкі, калі некалькі слоў МА маюць у МП аднаслоўны адпаведнік: ***Отрадный сон*** *сомкнул глаза* [1, с. 62] – *І* ***супакой*** *Ужо заплюшчыў вочы мне* [2, с. 19]. У МП не захавана вобразнае азначэнне МА *отрадный* 'які прыносіць *отраду* ('суцяшэнне, заспакаенне, асалода')' [3, II, с. 749]. Для падбору адпаведніка лексеме МА *сон* ўзята за аснову яе сема 'спакой', якая, дарэчы, захоўваецца і ў сэнсавым напаўненні слова МА *отрадный* і якая стала асноўнай у семантыцы слова МП *супакой*.

Прыкладна тую самую сітуацыю маем і ў наступным адпаведніку: *Где* ***воздух свеж*** [1, с. 55] – *Дзе* ***воля*** [2, с. 11]. Пераклад закліканы падкрэсліць імкненне героя паэмы вырвацца з-за манастырскіх сцен, трапіць на свабоду, аб якой ён марыць. Таму Куляшоў не ідзе за арыгіналам дакладна, а прапануе адпаведнік, які не адпавядае МА даслоўна, а выражае тыя ж эмоцыі і перажыванні.

Ёсць у МП выпадкі, калі вербоід МА заменены адным дзеясловам: *В душе я* ***клятву произнёс*** [1, с. 54] – *Тады* ***пакляўся*** *я без слёз* [2, с. 11]. Патрабаванне рытму прывяло перакладчыка ў працэсе працы над гэтымі радкамі да ўвядзення дадатковай у параўнанні з арыгіналам акалічнасці *без слёз*, што не сапсавала перакладны тэкст, бо гэтая дэталь падкрэсліла ўзрушаны эмацыянальны стан героя.

Указаныя структурныя замены, дапушчаныя Куляшовым у працэсе перакладу паэмы Лермантава «Мцыры», сведчаць пра творчы падыход беларускга паэта да арыгінала.

Куляшоў «прапусціў» лермантаўскі тэкст скрозь уласнае паэтычнае светаразуменне і стварыў беларускамоўны тэкст, адпаведны рускамоўнаму арыгіналу. Куляшоў не транскрыбіраваў арыгінал, а падышоў да яго па-мастацку, стварыў паэму Лерманатава па-беларуску і даказаў, што па-беларуску «Мцыры» можа гучаць прыгожа і ўзнёсла, эмацыянальна і ўрачыста.

***Літаратура***

1. Лермонтов, М.Ю. Собрание сочинений: в 4 т. / М.Ю.Лермонтов – М.: Худ. лит., 1964. – Т. 2: поэмы и повести в стихах. – 606 с.

2. Куляшоў, А. Збор твораў: у 5 т. / А.Куляшоў. – Мн: Маст. літ., 1976. – Т. 5: пераклады. – 504 с.

3. Даль, В. Толковый словарь живого великорусского языка: в 4 т. / В.Даль. - М.: Русский язык, 1978 – 1980. Т. 1. – А – З, 1978. – 779 с. Т. 2. – И – О, 1979. – 779 с. Т. 3. – П, 1980. – 555 с. Т. 4. – Р – Y, 1980. – 683 с.

**О.В.Холодов (Слов'янськ, СДПУ)**

## ОСОБЛИВОСТІ ВПЛИВУ СУБСТРАТУ НА ЛЕКСИЧНУ СИСТЕМУ МОВИ-РЕЦИПІЄНТА

Проблема субстрату, його особливостей та включення в мову-реципієнт є надзвичайно важливою для багатьох мов світу. Як зазначає О.В.Востриков, до лексики як до джерела відомостей про субстратну мову слід звертатися, якщо дані фонетики та граматики виявляються неспроможними дати однозначну відповідь, як, наприклад, у випадку фінно-угорського субстрату в російській мові [3, с. 70]. Як засвідчують сучасні дослідження, перспектива теоретичного осмислення лексичного субстрату для розв'язання загальної проблеми етно-мовного субстрату на сьогодні є беззаперечною.

О.Б.Ткаченко поділяє лексичні субстратні одиниці на дві групи. До першої групи він відносить слова, що позначають реалії загальнопоширені та відомі носіям обох мов – субстратної та мови-реципієнта. Цей тип О.Б.Ткаченко називає *лексичними реліктами.* Це не те, що було взято, а те, що через різні причини залишилося від своєї мови, наприклад, мерянські *лейма* «корова» чи *урма* «білка», які раніше були доволі поширені в північноросійських говорах [7, с. 42]. До другої групи належать слова, що позначають реалії, невідомі народу, носію мови, що перемогла. Такі субстратні вкраплення важко відрізнити від звичайних запозичень. Прикладом подібних лексичних вкраплень є такі слова швидше за все мерянської субстратної мови, як *тохта* «гниле дерево» та *шохра* «низькорослий ліс на болоті», що трапляються в низці північноруських говорів.

В історії мовознавства знаходимо чимало спроб відокремити лексичний субстрат від запозичення. Як стверджує В.О.Виноградов, субстрат відрізняється від запозичення тим, що передбачає широке етнічне змішування та мовну асиміляцію прибульцями корінного населення через стадію двомовності [2, с. 497]. М.Е.Рут, яка спеціально розглядала проблему критеріїв для розрізнення субстрату й запозичення, запропонувала використовувати ознаки так званого «системного лексичного впливу», а саме наявність синонімії субстратних включень (пор. *сараки*, *шорпаки*, *ригачи* «сучкуваті палки, що

закріплюють стіг», синоніми, відомі у витегорських говорах), наявність похідних субстратних включень, рясність дескриптивних дієслів. Це так званий лексичний надлишок [6, с. 37].

Один з критеріїв для диференціації субстрату та запозичення ще в середині XX ст. запропонував В.І.Абаєв: «Якщо в основному лексичному фонді мови широко представлені слова, що не сягають споконвічної системи, далекі їй, то перше, що має прийти в голову, – це думка про субстрат. Саме субстрат і пов'язана з ним двомовність створюють передумови для проникнення з однієї системи в іншу елементів основного лексичного фонду» [1, с. 65]. В.І.Абаєв ілюстрував це на прикладі назв ноги, рота, губи, носа, людини, вогню, каменя в осетинській мові (іранська група), які сягають кавказьких мов. Проте як стверджує О.В.Востриков, особливо важко за допомогою тематичних критеріїв відрізнити субстрат від адстрату, адже вони обидва пов'язані з явищем довгої двомовності. Як приклад він наводить російські говори Карелії, що увібрали в себе як субстратні, так і адстратні карельські риси. Тому при виявленні фінно-угорських субстратних включень тематичний критерій може використовуватися як додатковий, але не як основний [3, с. 74].

Очевидно, що жоден із вищеназваних критеріїв не може претендувати на роль провідного під час визначення субстратних елементів. Кожен з них має доповнювати один одного і відігравати роль основного лише в певному випадку. Так, для С.О.Мизникова пріоритетним чинником при визначенні субстратних слідів є апелятивна лексика: «Субстратна лексика має низку характеристик, що є властивими лише для неї, – вона статична і стабільна в просторі, завжди відбиває субстратний тип мови-донора, не виходить за межі його поширення в минулому» [5, с. 27].

В ономастичній лексиці ми маємо справу насамперед з топонімією, менше, через слабкий ступінь їх дослідження, з антропонімією та гідронімією. О.К.Матвєєв у одному із своїх досліджень писав, що за походженням топонімічний субстрат нічим не відрізняється від будь-якого іншого субстратного явища, але через свою стійкість він краще зберігає свої особливості в іншомовному оточенні. Саме тому топонімію слід вважати достатньо надійним і доказовим випадком субстрату. Особливо це стосується випадків, коли топонімія належить до далеко споріднених або зовсім неспоріднених мов [4, с. 94].

На ґрунті топонімічних досліджень виникає широке коло нових питань. Найважливішими серед них є: виявлення різних шарів субстратної топонімії; співвідношення субстрату і запозичень у топонімії.

Через те що топоніми є більш системні порівняно з апелятивами, у мовознавців з'являється можливість використовувати деякі спеціальні методи, які можуть дати значні результати. Це так звані формантний метод та метод моделювання. О.К.Матвєєв зазначає, що топонімічний субстрат є показовим лише при очевидних залишках субстрату у фонології та граматиці. Також не слід протиставляти топонімічний субстрат субстрату загальномовному, адже «топонімічний субстрат є лише найпростішим та найпоширенішим його різновидом» [4, с. 94]. Розв'язанню проблеми співвідношення загальномовного й топонімічного субстрату частково сприяє розрізнення *субстрату* і *квазісубстрату*. Квазісубстратними О.К.Матвєєв називає топоніми, які нагадують субстратні (*Лена*, *Обь*),

але не є ними. Квазісубстратні топоніми можуть включати в себе не лише адстратні елементи, що виникають при маргінальному контакті, а й запозичення, пов'язані з хвильовою іррадіацією.

Отже, дослідження субстратної топонімії та субстратної апелятивної лексики мають взаємно доповнювати одне одного. Субстратна топонімія дозволяє окреслити зону поширення в минулому тієї чи іншої вимерлої мови, а апелятивна лексика дозволяє інтерпретувати деякі компоненти субстратної топонімічної системи.

На лексику мови-переможниці може впливати також семантика субстратної мови. Так, О.Б.Ткаченко зазначає, що «зміна форм французьких слів народно-латинського походження, а також часто пов'язана з цим їх семантична незрозумілість (пор. фр. дав. *è* «бджола» < лат. **ape(m)* «те саме») викликали якоюсь мірою необхідність у заміні частини з них більш повними формами, запозиченими з латині чи інших романських мов (пор. суч. фр. *abeille* «бджола», запозичене з провансальської, – пор. praованс. *abelha* «те саме»), а також дублетність частини народних та книжних форм типу *sûretè* та *sècuritè*, і *frèle* та *fragile* под.» [7, с. 49]. Проте це питання на сьогодні ще тільки починає досліджуватися.

***Література***

1. Абаев, В.И. О языковом субстрате / В.И.Абаев // Доклады и сообщения Института языкознания АН СССР. – 1956. – Т. 9. – С. 57 – 69.

2. Виноградов, В. А. Субстрат / В.А.Виноградов // Лингвистический энциклопедический словарь / гл. ред. В.Н.Ярцева. – М.: Сов. энциклопедия, 1990. – С. 497.

3. Востриков, О.В. Финно-угорский субстрат в русском языке / О.В.Востриков. – Свердловск: УрГУ, 1990. – 100 с.

4. Матвеев, А.К. Субстрат и заимствование в топонимии / А.К.Матвеев // Вопросы языкознания. – 1993. – № 3. – С. 86 – 95.

5. Мызников, С.А. Лексика финно-угорского происхождения в русских говорах Северо-Запада: этимологический и лингвогеографический анализ / С.А.Мызников. – СПб.: Наука, 2004. – 482 с.

6. Рут, М.Э. К проблеме разграничения субстратной и заимствованной лексики финно-угорского происхождения на территории русского Севера / М.Э.Рут // Этимологические исследования. – Свердловск, 1984. – С. 31 – 41.

7. Ткаченко, О.Б. Очерки теории языкового субстрата / О.Б.Ткаченко; Институт языкознания им. А.А.Потебни; отв. ред. В.М.Русановский. – К.: Наукова думка, 1989. – 208 с.

**Н.В.Холодова (Слов'янськ, СДПУ)**

## ДО ПИТАННЯ СПІВВІДНОШЕННЯ МОРФОЛОГІЧНИХ ТИПІВ МОВ ТА ГРАМАТИЧНИХ КАТЕГОРІЙ: ЛІНГВОІСТОРІОГРАФІЧНИЙ АСПЕКТ

Постановка та розгляд питання співвідношення морфологічних типів мов та граматичних категорій набуває свого особливого значення в другій половині XX ст. за умов підвищення загального наукового інтересу лінгвістів до проблем вивчення вже існуючих та побудови нових типологічних класифікацій мов за різними ознаками, а також до проблеми мовних універсалій. Якщо говорити про хронологію подій, то питання співвідношення

морфологічних типів мов та граматичних категорій вперше в радянському мовознавстві детально розглядалось на Мєщаніновських читаннях: типологія граматичних (морфологічних) категорій, що відбулися у м. Ленінграді 23 січня 1974 року. На конференції було запропоновано розглянути питання граматичних категорій зовсім під іншим кутом, а саме у співвідношенні з морфологічною класифікацією мов. Із спогадів Т.С.Шарадзенідзе, такий підхід водночас полегшував та ускладнював завдання, висунуті на конференції: полегшував, бо за відсутності сталих теорій відкрилося широке поле для нових досліджень, а ускладнював, бо сутність граматичних категорій, засоби їх вираження, тенденції їх розвитку неодноразово розглядалися в мовознавстві та знаходили неодностайне рішення в різних лінгвістичних школах [3, с. 94].

Бракує праць, де б розглядалися теоретичні твердження лінгвістів другої половини XX ст. щодо питання співвідношення морфологічних типів мов та граматичних категорій у лінгвоісторіографічному аспекті. Такий аналіз допоможе розв'язати низку завдань: по-перше, системно та стисло висвітлити неупорядковані накопичені матеріали з цієї проблеми, співвіднести висунуті різнобічні положення, по-друге, дослідити проблему атрибуції певних мов до того чи іншого морфологічного типу.

Науковий інтерес до цієї проблеми в сучасному мовознавстві засвідчують дослідження цілого ряду українських та російських лінгвістів, зокрема «Контрастивний аналіз українських відмінків і їх функціональних еквівалентів в англійській мові» (1979 р.) В.П.Березинського, «Категорія стану (україно-чеські паралелі» (1987 р.) В.М.Русанівського, «Аспектуальні категорії українського дієслова на тлі інших слов'янських мов» (2003 р.) С.Соколової, дисертаційне дослідження М.Ю.Черткової «Типология категории вида / аспекта в разноструктурных языках мира» (2005 р.) та ін.

Передумовою розгляду питання про співвідношення граматичних категорій та морфологічних типів мов у 70 - ті рр. XX ст. в радянському мовознавстві слугувало, на нашу думку, ознайомлення провідних радянських лінгвістів-типологів із працями таких зарубіжних мовознавців, як Ч.Е.Базелл «Лінгвістична типологія» (1958 р.), Л.Єльмслєв «О категории личности-неличности и одушевленности-неодушевленности» 1956 р.), а також, безперечно, з роботою Б.Л.Уорфа «Граматичні категорії» (1956 р.). Але було б невірним з нашого боку не згадати також праці М.С.Поспєлова «Понятие грамматической категории у Н.Я.Марра и его последователей» (1951 р.), В.М.Ярцевої «Смешение лексики с грамматикой в «теории» Н.Я.Марра» (1952 р.), А.А.Кварчелія «Некоторые ошибки Н.Я.Марра в исследовании абхазского языка», (1952), які хоча й непрямо, але все ж таки стосуються проблеми співвідношення граматичних категорій та морфологічних типів мов.

Мови світу різняться за кількістю та складом граматичних категорій. Специфічною, наприклад, для слов'янських мов є категорія дієслівного виду, у деяких іберо-кавказьких мовах є категорія «граматичного класу» – людини або речі. Наглядно видно, що існує певна залежність між граматичними категоріями і морфологічним типом мови. На думку Ю.В.Рождественського, класичні граматичні категорії роду і відмінку фактично завжди слугували фундаментом для побудови морфологічної класифікації мов [1, с. 187].

Так, традиційна морфологічна класифікація, у якій розподілено мови світу на аморфні, флективні, аглютинативні, синтетичні та аналітичні, є родо-відмінковою класифікацією. Маємо також відзначити, що термін *категорія роду* застосовується до індоєвропейських і семітських мов, оскільки в них ця категорія ґрунтується на статевих відмінностях. Стосовно інших мов вживається термін *категорія класу*.

За Ю.В.Рождественським, родо-відмінкова класифікація може інтерпретувати класичну класифікацію (мається на увазі морфологічна класифікація мов) у такий спосіб: 1) аморфні мови – немає категорій роду та відмінку; 2) флективні мови – є категорії роду та відмінку; 3) аглютинативні – є категорії відмінку та числа, немає категорії роду; 4) аналітичні мови – є категорія роду та обов'язково присутня категорія числа [там же, с. 189].

Розбіжність у граматичних категоріях мов одного морфологічного типу пояснюється впливом ряду факторів. По-перше, у граматичній будові мов виражаються не всі, а тільки деякі відношення між предметами, до того ж кожна мова має можливість самостійного вибору. Доречно зазначити, що немає нічого дивного в тому, що в мовах різного походження, які не мають тісного контакту, виникають різні граматичні категорії. Але також можна пояснити розбіжності в граматичних категоріях споріднених мов, що зумовлено їх самостійним розвитком. Так, на думку Т.С.Шарадзенідзе, у процесі дивергенції у споріднених мовах виникають нові категорії та зникають деякі зі старих категорій. Тому у споріднених мовах може змінитися навіть їх морфологічний тип, але ця зміна відбувається набагато повільніше, ніж зміна граматичних категорій, оскільки споріднені мови довше зберігають єдність граматичного типу [2, с. 9].

Розгляд питання співвідношення морфологічних типів та граматичних категорій у лінгвоісторіографічному аспекті беззаперечно надасть змогу прослідкувати за розвитком загальнотипологічної теорії у мовознавстві другої половини XX ст. та зробити значний внесок у дослідження проблеми атрибуції певних мов до того чи іншого морфологічного типу.

***Література***

1. Рождественский, Ю.В. Типология слова / Ю.В.Рождественский / под ред. В.В.Виноградова. – М.: КомКнига, 2007. – 288 с.

2. Шарадзенидзе, Т.С. Грамматические категории и морфологические типы языков / Т.С.Шарадзенидзе // Типология грамматических категорий (Мещаниновские чтения): тезисы докл. – М., 1973. – С. 8 – 11.

3. Шарадзенидзе, Т.С. Типология языков в синхроническом и диахроническом плане / Т.С.Шарадзенидзе. – Тбилиси.: Мецниереба, 1982. – 181 с.

**А.Г.Цымбал (Мінск, БДПУ)**

## СПРОБЫ БЕЛАРУСІЗАЦЫІ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ (1921 – 1939 гг.)

У II Рэчы Паспалітай рух за беларускае нацыянальнае адраджэнне, які выспяваў на працягу XIX і пачатку XX ст. набыў даволі масавы характар. Яго мэтай з'яўлялася самасцвярджэнне беларусаў як самастойнай нацыі ў межах этнічнага рассялення, прызнанне факта яе існавання іншымі народамі і дзяржавамі, а разам з тым і права беларусаў на нацыянальную дзяржаўнасць. У польскай дзяржаве апынулася шмат беларускіх нацыянальных дзеячаў, якія працягвалі барацьбу за адраджэнне і ўз'яднанне Беларусі. Разумеючы ўплыў Царквы на свядомасць людзей і яе ролю ў грамадскім жыцці, яны распачалі актыўную працу, накіраваную на беларусізацыю Праваслаўнай Царквы як магчымасць супрацьстаяць гвалтоўнай паланізацыі.

Важнай праблемай для беларускай грамадскасці з'яўлялася пытанне мовы набажэнстваў і пропаведзяў. Пытанне аб увядзенні нацыянальных моў уздымалася яшчэ на Маскоўскім Памесным Саборы 1917 – 1918 гг. і было вырашана станоўча. Заахвочвалася выкарыстоўваць мясцовыя мовы вернікаў у пропаведзі [0, с. 43].

Першыя патрабаванні адносна беларусізацыі Царквы ў II Рэчы Паспалітай адносяцца да чэрвеня 1919 г., калі адбыўся з'езд прадстаўнікоў беларускага насельніцтва Віленшчыны і Гродзеншчыны. Дэлегаты дамагаліся ўвядзення беларускай мовы ў пропаведзі і навучанні рэлігіі. Акрамя таго, было прапанавана прызначыць епіскапам святара беларускай нацыянальнасці. Арганізаваць навучанне ў Віленскай семінарыі таксама прапанавалі ў нацыянальным духу [0, с. 87]. 10 жніўня 1919 г. архіепіскап Еляферый у царкве Св. Троіцы ў Вільні прамаўляў пропаведзь па-беларуску [0, с. 551].

Падчас польска-беларускіх перамоў 20 – 24 сакавіка 1920 г. абмяркоўвалася пытанне стварэння праваслаўнай беларускай епархіі ў межах польскай дзяржавы. Польскі ўрад абяцаў нават фінансавую дапамогу пры выданні царкоўных кніг. Аднак пасля заключэння Рыжскага дагавора ў сакавіку 1921 г. і вызначэння ўсходняй мяжы Польшчы пытанне страціла сваю актуальнасць, а ўлады ўзялі курс на поўнае падпарадкаванне Праваслаўнай Царквы ўраду [0, с. 180].

27 студзеня 1922 г. урад Беларускай Народнай Рэспублікі даслаў Маскоўскаму Патрыярху Ціхану мемарандум, у якім прадстаўлялася цяжкае становішча Праваслаўнай Царквы ў Заходняй Беларусі пад польскай акупацыяй. У ім выказвалася неабходнасць беларусізацыі рэлігійнага жыцця. Падкрэслівалася, што такі крок спрыяў бы росту свядомасці беларусаў, узмацніў пазіцыі Праваслаўнай Царквы і стаў перашкодай на шляху экспансіі каталіцызму і паланізацыйнай палітыкі польскіх улад. Сцвярджалася, што беларусізацыя царкоўнага жыцця дазволіць змяніць меркаванне аб русіфікатарскай ролі Царквы, якое актыўна выкарыстоўвае польская прапаганда [0, арк. 37 – 40]. Прапановы БНР патрыярх пераслаў у Сінод епіскапаў, а затым у Вышэйшую царкоўную раду для разгляду. Сінодам было дазволена выкарыстоўваць беларускую мову ў дадатковых набажэнствах, пропаведзях і навучанні рэлігіі. Маскоўскія царкоўныя ўлады звярнуліся таксама да епіскапаў беларускіх епархій з прапановай выдаць зборнікі пропаведзяў, малітоўнікаў і Новы Запавет на мове вернікаў. Што датычыцца патрабавання прызначэння на епіскапскія пасады святароў, якія валодалі беларускай мовай, то Сінод палічыў яго справядлівым, аднак неадкладнае яго вырашэнне было немагчымым, бо

патрабавала беспадстаўнага адхілення епіскапаў, прызначаных раней. Патрыярх Ціхан абяцаў лічыцца з вылучанымі прапановамі беларусаў пры будучых прызначэннях [0, арк. 67-68].

Патрабаванні беларусізацыі Царквы вылучала першае беларускамоўнае праваслаўнае выданне ў II Рэчы Паспалітай – «Праваслаўны беларус». Выдаваўся ён два разы ў месяц з 1 лютага 1925 г. у Варшаве. Рэдактарам быў І.Пачопка. Графічны праект зрабіў Я.Драздовіч. Удзел у яго стварэнні прымаў і пасол беларускага клуба ў Сейме П.Мятла. Часопіс сімвалізаваў пэўны пералом у развіцці праваслаўнага беларускага руху. Праваслаўе ўсе часцей станавілася сінонімам беларускасці. Яшчэ большаму збліжэнню праваслаўя з беларускім народам павінен быў служыць штомесячны дадатак «Царкоўныя казанні», які выходзіў па ініцыятыве і са згоды мітрапаліта Дзіянісія з чэрвеня 1925 г. У ім змяшчаліся тэксты беларускамоўных пропаведзяў [0, с. 550].

Адзінай партыяй, якая ўзнікла ў Заходняй Беларусі і вылучала патрабаванні надання Праваслаўнай Царкве беларускіх нацыянальных рысаў, было створанае па ініцыятыве В.Багдановіча ў 1927 г. Праваслаўнае беларускае дэмакратычнае аб’яднанне. Друкаваным органам яго было выданне «Праваслаўная Беларусь» (выдавалася ў 1927 – 1928 гг.). Рэдактарам быў протаіерэй Лука Голад. У першым нумары адзначалася, што падзел беларускага народа на дзве рэлігійныя плыні стаў прычынай узнікнення двух «культурна-гістарычных тыпаў беларусаў». Партыя ставіла перад сабой за мэту нівеліраванне гэтых адрозненняў і аб’яднанне ўсіх беларусаў у адзіную «нацыянальную беларускую сям’ю» [6].

Царкоўная праграма ПБДА ўтрымлівала наступныя патрабаванні: мінімальнае падпарадкаванне Праваслаўнай Царквы дзяржаўным уладам; мовай культу павінна была заставацца царкоўна-славянская; беларуская мова павінна была стаць мовай навучання рэлігіі і пропаведзей. Дзеля ўнармавання юрыдычнага становішча Царквы была створана камісія з членаў Беларускага нацыянальнага камітэта і Рускага народнага аб’яднання ў Вільні. Ёй быў выдадзены мемарыял, якім патрабавалася скліканне Сабора Царквы ў Польшчы на падставе рашэнняў Маскоўскага Сабора 1917 – 1918 гг., распрацоўка ўнутранага статута Царквы, прызнанне царкоўных уладанняў за ўласнасць Царквы, дазвол на дзейнасць царкоўных брацтваў, прыхадскіх рад і епархіяльных з’ездаў. Духоўная адукацыя ў семінарыях павінна была быць падпарадкавана Праваслаўнай Царкве з прызнаннем беларускай мовы ў якасці мовы навучання [0, с. 554].

Акрамя камітэта, патрабаванні беларусізацыі Царквы вылучалі шматлікія дробныя арганізацыі, якія не мелі шырокай грамадскай падтрымкі: таварыства «Прасвета», Беларускі праваслаўны камітэт, Беларускі нацыянальны камітэт і інш.

Такім чынам, беларускія дзеячы, якія апынуліся ў польскай дзяржаве пасля Першай сусветнай вайны, спрабавалі скарыстаць магчымасці ўплыву Праваслаўнай Царквы на грамадства для справы абуджэння беларускай нацыянальнай свядомасці сярод пераважна сельскага беларускага насельніцтва і супрацьстаяння гвалтоўнай паланізацыі. Царква ў іх планах – мабілізуючы фактар этнічнай кансалідацыі беларусаў, носьбіт беларускай мовы і культуры. Праграма беларусізацыі Праваслаўнай Царквы была даволі

сціплай і ў асноўным зводзілася да ўвядзення пропаведзей і навучання рэлігіі на беларускай мове, а таксама прызначэння ў Віленскую кансісторыю і на пасады вайсковых капеланаў святароў-беларусаў. З патрабаваннямі беларусізацыі Царквы выступалі шматлікія арганізацыі і грамадскія аб'яднанні. Аднак яны не мелі шырокай грамадскай падтрымкі ў сувязі з слабасцю, абмежаванасцю і лакальным характарам самога беларускага руху ў Царкве.

***Літаратура***

1. Поспеловский, Д.В. Русская православная церковь в XX веке / Д.В. Поспеловский. – М.: Республика, 1995. – 509 с.

2. Давідзюк, М. Справа беларусізацыі праваслаўнай царквы ў святле палітыкі польскіх дзяржаўных улад 1918 – 1939 / М. Давідзюк // Беларускі каляндар. – Беласток, 1990. – С. 67 – 92.

3. Traczuk, J. «Prawasiaunaja Biełaruś» jako organ Prawosiawnego Biaioruskiego Zjednoczenia Demokratycznego / J.Traczuk // Slavia Orientalis. – 1989. – Rocznik XXXVIII, № 3 – 4. – S. 543 – 562.

4. Mironowicz, A. Kościół prawosławny na ziemłach polskich w XIX i XX wieku / A.Mironowicz. – Białystok : Wydawnictwo Uniwersytetu w Białymstoku, 2005. – 379 s.

5. НАРБ. – Фонд 325. – Воп. 1. – Спр. 128. Рэлігійныя пытанні 1921 – 1922 гг.

6. Праваслаўная Беларусь. – 1 кастр. 1927 г. – № 1.

**Ю.В.Чарнякевіч (Мінск, БДПУ)**

## ГРУПОЎКА ГАВОРАК ПАЎНОЧНА-ЎСХОДНЯЙ БРЭСТЧЫНЫ

Паўночна-ўсходняя Брэстчына – тэрыторыя на памежжы гістарычна-этнаграфічных рэгіёнаў Панямоння і Палесся. Мясцовыя гаворкі знаходзяцца ў зоне міждыялектных кантактаў. На поўдні названага рэгіёна навукоўцы праводзяць мяжу паміж асноўным масівам беларускіх гаворак і заходнепалескімі гаворкамі. [6, к. 75].

Пагранічныя з адзначаным рэгіёнам гаворкі былі прадметам лінгвагеаграфічных даследаванняў Я.Р.Самуйліка (Выганаўскае Палессе), Л.В.Леванцэвіч (Бярозаўшчына), А.А.Босак (Пружаншчына), у выніку чаго асобнымі выданнямі апублікаваны атласы Бярозаўскага і Пружанскага раёнаў Брэсцкай вобласці [1; 5].

Лінгвагеаграфічнае вывучэнне маўлення жыхароў паўночна-ўсходняй Брэстчыны дазволіла ўстанавіць групоўку гаворак рэгіёна на ўсіх узроўнях мовы. Картаграфаванне матэрыялаў выявіла неаднароднасць гаворак даследаванай тэрыторыі. У гэтым рэгіёне выразна вылучаюцца 7 груп і 11 падгруп гаворак, што тлумачыцца іх пераходным характарам паміж двума буйнымі моўнымі масівамі: паўднёва-заходнім дыялектам і брэсцка-пінскімі гаворкамі.

Аналіз сабранага дыялектнага матэрыялу дазваляе вылучыць на тэрыторыі паўночна-ўсходняй Брэстчыны сем груп гаворак, у тым ліку ў межах гаворак з аканнем тры групы: сялявіцкая, коўбавіцка-альхоўская і альшаніцка-боркаўская, а ў межах гаворак з оканнем – чатыры групы: паўночнабрэсцкая, верхнеясельдская, аброўска-рудненская і сярэднезагародская (брэсцка-пінская). У сваю чаргу коўбавіцка-альхоўская група гаворак падзяляецца на коўбавіцкую і альхоўскую падгрупы, а альшаніцка-боркаўская адпаведна –

на альшаніцкую і боркаўскую падгрупы. У гаворках з оканнем паўночнабрэсцкая група прадстаўлена трыма падгрупамі: корачынская, баброміцкая, хатыніцкая; верхнеясельдская – дзвюма падгрупамі: плехаўшчынская, сакалоўская; аброўска-рудненская група гаворак таксама падзяляецца на дзве падгрупы: аброўскаую і рудненскую. Адзначым асноўныя моўныя асаблівасці, на падставе якіх вылучаецца кожная асобная група.

Для **сялявіцкай групы гаворак** у складзе паўднёва-заходняга дыялекту характэрны: адсутнасць закрытых галосных [ô], [ê] у закрытых складах: *ко́т, л'эс*; моцнае яканне: *в'арац'ано́, во́с'ан'*; вымаўленне гука [э] на месцы [а] у слове *скнара*: *скнэра*; адсутнасць [j] перад губнымі: *м'а́со, п'ац'*; назоўнікі ж. роду мн. л. у форме Р. склону ўжываюцца з націскам на канчатку: *хато́ў, сц'ано́ў*; наяўнасць суфікса *-ць* у формах інфінітыва з асновай на галосны: *жац', хадз'і́ц'* і формаў інфінітыва з асновай на [к]: *п'акчы́, таўкчы́.* **Коўбавіцка-альхоўскай групе гаворак** уласцівы: наяўнасць закрытых галосных [ô], [ê] у закрытых складах: *кôт, л'êс*; моцнае яканне ў паслянаціскным складзе: *во́с'ан'*; вымаўленне гука [ы] на месцы [у] у слове *субота*: *сыбо́та*; наяўнасць [j] перад губнымі: *мйа́со, пйац'*; суфікс *-ць* у формах інфінітыва з асновай на галосны: *жац', хадз'і́ц'*; наяўнасць формаў інфінітыва з асновай на [к]: *п'ачы́, таўчы́.* **Альшаніцка-боркаўскай групе гаворак** характэрны: наяўнасць закрытых галосных [ô], [ê] у закрытых складах: *кôт, л'êс*; моцнае яканне ў паслянаціскным складзе: *во́с'ан'*; наяўнасць [j] перад губнымі: *мйа́со, пйац'*; суфікса *-ці* ў формах інфінітыва з асновай на галосны: *жа́ц'і, хадз'і́ц'і*; наяўнасць формаў інфінітыва з асновай на [к]: *п'ачы́, таўчы́.*

Окаючым гаворкам **верхнеясельдскай групы** уласцівы: наяўнасць закрытых галосных [ô], [ê] у закрытых складах: *кôт, л'êс*; вымаўленне цвёрдага губнога зычнага перад этымалагічным [э]: *бэда́*; наяўнасць этымалагічна мяккіх [т'], [д'] перад *[і]: *т'і́хо, д'і́к'і*; вымаўленне на месцы этымалагічна мяккіх [т'], [д'] цвёрдых зычных [т], [д] перад *[э]: *дэн', тэпэр*; назоўнікі н. роду адз. л. у форме М. склону прадстаўлены з канчаткам *-у*: *на пл'эчу́, у вэдру́*; наяўнасць эпентычнага [j] у формах дзеясловаў цяп. часу 1 асобы адз. ліку I спражэння з асновай на губны: *драмйу́*; формы інфінітыва з асновай на [к]: *пэчы́, тоўчы́.* Для **аброўска-рудненскай групы** характэрны: наяўнасць закрытых галосных [ô], [ê] у закрытых складах: *кôт, л'êс*; вымаўленне на месцы этымалагічнага [ы] у пазіцыі перад губнымі галоснага [і] пад націскам, у першым і другім складах перад націскам: *м'і, п'іл, в'ісо́к'і, в'ïб'іва́ц'і*; назоўнікі н. роду адз. л. у форме М. склону прадстаўлены з канчаткам -у: *на пл'эчу́, у вэдру́*; наяўнасць формаў інфінітыва з асновай на [к]: *п'экц'і́, тоўкц'і́* і формаў інфінітыва з асновай на [г]: *стры́гц'і.* **Загародская група** характарызуецца: наяўнасцю галосных [ы] ([ê]), [і] у закрытых складах: *кыт (кэт), л'іс*; вымаўленнем цвёрдага зычнага [н] перад зычнымі пярэдняга рада: *нэхто, ньтк'і*; адсутнасцю асіміляцыі па глухасці ў сярэдзіне і на канцы слова: *ка́зка, дуб*; назоўнікі муж. роду адз. л. у Д. склоне адзначаны з канчаткам *-у* або *-ові: бра́ту, сы́ну; бра́тов'і, сы́нов'і;* наяўнасцю формаў інфінітыва з асновай на [г]: *стры́гц'і.*

Пераходнай **паўночнабрэсцкай групе гаворак** уласцівы: наяўнасць галоснага [ê] у закрытых складах: *л'êс*; вымаўленне этымалагічнага [ы] у пазіцыі перад губнымі пад націскам, у першым і другім складах перад націскам: *мы, пыл, высóк'і, выб'івáц'і*; вымаўленне галоснага [а] на месцы этымалагічнай фанемы [э] у пазіцыі перад цвёрдым губным зычным: *бадá, вадрó*; вымаўленне мяккіх зычных [з'], [с'], [н'] перад галоснымі пярэдняга рада [і], [э]: *з'іма, з'эмл'á; с'íла, с'эмйэ; н'эхто; н'íткі*; наяўнасць націскных канчаткаў *-эе* прыметнікаў н. р. адз. л. у форме Н. скл.: *старэйэ.*

Паводле фанетычных, марфалагічных і лексічных карт атласа ў гаворках з аканнем выдзелены тры групы гаворак, а ў паўночнабрэсцкай групе гаворак з оканнем вызначаны тры падгрупы. Раней Н.Т.Вайтовіч, А.А.Крывіцкім [2, с. 81; 4, с. 174] на гэтай тэрыторыі адзначалася толькі гродзенска-баранавіцкая група гаворак паўднёва-заходняга дыялекту і паўночнабрэсцкая група гаворак. Матэрыялы карт і інтэрпрэтацыя ізаглос дазволілі правесці дакладныя межы паміж дыялектнымі групамі і істотна ўдакладніць класіфікацыю груп гаворак. У прыватнасці, аб'яднаны ў адну групу (аброўска-рудненскую) гаворкі, якія звычайна размяжоўваліся на дзве: паўднёвацеляханскую і паўночналагішанскую (класіфікацыя Ф.Д.Клімчука [3, с. 7 – 11]).

Такім чынам, на тэрыторыі паўночна-ўсходняй Брэстчыны намі вылучаны новыя групы і падгрупы гаворак. Акрамя таго пацверджана правамернасць выдзялення асобных груп гаворак Ф.Д.Клімчуком, Л.В.Леванцэвіч, А.А.Босак, прычым не толькі на фанетычным, але і на граматычным і лексічным узроўнях дыялектнай мовы.

***Літаратура***

1. Атлас гаворак Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці і сумежжа (Верхняга Над'ясельдзя). Фанетыка і марфалогія / А.А.Босак, В.М.Босак. – Мінск: ІВЦ Мінфіна, 2005. – 94 с; Лексіка. – Мінск: ІВЦ Мінфіна, 2006. – 124 с.
2. Войтович, Н.Т. Безударный вокализм народных говоров Белоруссии: автореф. дис. … докт. филол. наук / Н.Т.Войтовіч. – Минск, 1966. – 56 с.
3. Клімчук, Ф.Д. Гаворкі Заходняга Палесся: фанетычны нарыс. / Ф.Д.Клімчук. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 127 с.
4. Крывіцкі, А.А. Дыялекталогія беларускай мовы / А.А.Крывіцкі. – Мінск: Выш. шк., 2003. – 294 с.
5. Леванцэвіч, Л.В. Атлас гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці / Л.В.Леванцэвіч. – Брэст: БрДУ, 1993 – 2001; Фанетыка. – Брэст, 1993; Марфалогія. – Брэст, 1994; Лексіка. – Брэст, 2001.
6. Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. – Мінск: Навука і тэхніка, 1969. – 80 карт.

**А.И.Черниговская (Гродно, ГрГУ)**

## THE CONTRIBUTION OF THE THEORY «CULTURE AND PERSONALITY» TO THE EVOLUTION OF CULTURE PHILOSOPHY

В предлагаемой читателю статье анализируется направление «Культура и личность», ставшее этапом эволюции американской философии культуры. Автор раскрывает социокультурные и методологические предпосылки становления данной

свидетельствует о ее актуальности и распространенности. Во всех версиях переводов Декларации сохраняется главная суть документа.

Перевод, главным образом, связан с трансформациями языковых кодов как семиотических систем со своеобразной структурной организацией. Так, при переводах существенно ощущается смещение рода существительных в белорусском и русском языках, многообразие времен в испанском языке и их количественная ограниченность (прошедшее, настоящее, будущее) во всех восточнославянских языках.

Наиболее значительные трансформации кодов прослеживаются при переводах с языков искусства, где невозможно полное соответствие между семиотическими системами, как, иногда, и полное понимание. В процессе перевода, при введении в текст добавочных кодов – дополнительных правил организации семиотических систем – в исходном коде прослеживаются более значительные модификации. Например, поэтический язык выдвигает жесткие законы ритмической и структурной организации литературного сообщения, что влечет более свободный перевод и интерпретацию текста. В этом отношении примечательны творческие переводы отечественных писателей на белорусский язык, к примеру, перевод А.Кулешова романа «Евгений Онегин» А.С.Пушкина, «Песнь о Гайовате» Г.У.Лонгфелло на белорусский язык. В данном случае владение естественными языками других культур – русским, английским – недостаточно, необходимо также знание законов организации поэтического текста.

Принципиальное несовпадение языков семиотических систем (например, литературы и музыки) является предпосылкой несовпадения смыслов сообщений или предельно свободной их интерпретации. Исходный и конечный смыслы (коды) в таком случае могут оцениваться как предельно отдаленные, или же могут быть рассмотрены как глубокое проникновение в один и тот же смысл. Ярким примером перевода литературного на музыкальный язык выступает творчество композиторов-романтиков, особенно Ф.Листа, который создал значительное количество фортепианных транскрипций на основе произведений, принадлежащих различным видам искусства, главным образом литературных: фантазию-сонату «После прочтения Данте», «Три сонета Петрарки» и др.

Фортепианная транскрипция Ф.Листа *«Посвящение»* написана по мотивам одноименного романса Р.Шумана из вокального цикла «Мирты» op.25 №1. Р.Шуман, в свою очередь, обратившись к поэзии Ф.Рюккерта, сохранил название первоисточника. (Перевод на русский язык осуществлен А.Ефремовым – I, III строфы; Д.Усовым – II). Ф.Лист в собственной транскрипции отказался от поэтического текста Ф.Рюккерта, но сохранил музыкальный текст Р.Шумана. Таким образом, литературный язык Ф.Рюккерта и музыкальный язык Ф.Листа оказались настолько отдалены, насколько глубоко Ф.Лист возможно постижение содержание поэзии Ф.Рюккерта. Экспрессия, оркестрово-симфоническая трактовка фортепиано в транскрипции Ф.Листа вывели эмоционально-чувственное содержание поэзии на новый уровень. Содержание музыки предельно абстрактно, но это абстрактность является обобщением схожих чувств; в музыкальных интонациях не заключены значения, но заключен эмоциональный смысл.

Интерпретация как перевод текста культуры на различные языки искусства реализует себя во всех видах, включая синтетические. Трансформацию первичного смысла культуры, выявление его новых граней можно проследить на многочисленных интерпретациях образа Кармен. Впервые созданный в новелле П.Мериме, развит Ж.Бизе в опере «Кармен», а также в поэтическом цикле «Кармен» А.Блоком, экранизациях «Кармен» К.Сауры и «Имя: Кармен» Ж.-Л.Годара, женственный, страстный образ достиг апогея своей эволюции в балете Матса Эка «Car man», что означает «человек-машина» со всей пресущей совокупностью характеристик.

С точки зрения теории семиотических процессов и концепции вторичного знака Р.Барта, интерпретации произведений Ф.Рюккерта «Посвящение», новеллы «Кармен» П.Мериме можно представить как вторичные знаковые системы, где означающее предстает в двойственном виде, будучи одновременно смыслом и формой, с одной стороны полной, с другой – пустой. Означающее во вторичной знаковой системе рассматривается либо как итоговый член первичной знаковой системы (называемый смыслом), либо как исходный член вторичной знаковой системы (называемый формой, способом обозначения). Означаемым для первичной знаковой системы выступает понятие, для вторичной – значение [1]. Так, в процессе интерпретации исходный смысл приобретает, с одной стороны, новую форму, с другой – новое значение.

Определяющим для вторичной знаковой системы является не предмет сообщения, а способ, которым сообщение высказывается. Сам способ представления информации становится также значимой информацией о тексте. К тому же вторичная знаковая система – система с размытыми границами: у вторичного знака есть формальные границы, но нет субстанциальных [1, с. 265], т.е. интерпретация предстает как исследование глубины и широты исходного знака.

По сути, первичный знак (код) существует как динамическая совокупность интерпретантов, а семиозис – коммуникативный универсум, создающий своего рода бескрайнюю голограмму [3].

Примечательно, что разные виды искусств обращаются к различным типам мышления. В таком случае разнообразие видов искусств необходимо настолько, насколько широк спектр типов человеческого мышления и многовекторно индивидуальное человеческое сознание.

Семиотические тексты требуют перевода, поскольку только в коммуникативном процессе можно дешифровать и понять их сущность; только процессе перевода происходит генерация новых языков и кодов, то есть развитие культуры в целом.

***Литература***

1. Барт, Р. Мифологии / Р.Барт М.: Академический Проект, 2008. – 351 с.

2. Жинкин, В.И. О кодовых переходах во внутренней речи / В.И.Жинкин // Вопросы языкознания. – 1964. – №6. – С. 26 – 38

3. Клюканов, И.Э. Динамика межкультурного общения: системно-семиотическое исследование / И.Э.Клюканов. – Тверь: ТГУ. – 1998. – 92 с.

**В.А.Шклярык (Мінск, Інстытут мовы
і літаратуры НАН Беларусі)**

# ПРЫНАЗОЎНІКАВА-ІМЕННЫЯ КАНСТРУКЦЫІ Ў МІКРАТАПАНІМІІ: ТЭРМІНАЛАГІЧНЫ І ТЫПАЛАГІЧНЫ АСПЕКТЫ

Мікратапонімы ў форме прыназоўнікава-іменных канструкцый адзначаюцца ва ўсіх рэгіёнах Беларусі, дзе назвы дробных геаграфічных аб'ектаў станавіліся прадметам мэтанакіраванага вывучэння. Гэты факт дазваляе гаварыць пра тыповую рысу словаўтваральнай сістэмы айчыннай мікратапаніміі. Такія найменні з'яўляюцца лексічна і граматычна няўстойлівымі і часта знаходзяцца толькі на шляху да пераўтварэння ва ўласнае імя [6, с. 7].

Некаторыя даследчыкі беларускай мікратапаніміі выкарыстоўваюць у дачыненні да прыназоўнікава-іменных канструкцый (а ў некаторых працах – і пры разглядзе прэфіксальных і прэфіксальна-суфіксальных утварэнняў) тэрмін «назва-арыенцір» (Я.М.Адамовіч [1], В.М.Емельяновіч [3], Н.А.Харошка [9] і іншыя). Аднак гэты выраз, на нашу думку, з'яўляецца не зусім карэктным.

На недакладнасць тэрміна «назва-арыенцір» указваў яшчэ ў 1967 годзе Ю.А.Карпенка [5, с. 21]. Паводле справядлівай заўвагі ўкраінскага даследчыка, арыенцірамі ў такіх канструкцыях выступаюць аб'екты, найменне якіх выкарыстоўваецца ў якасці іменнай часткі мікратапоніма (поле *За Во'зерам* – арыенцірам з'яўляецца возера; сенакос *Ля Лядо'ў* – арыенцірам з'яўляецца вёска Ляды).

Больш за тое, любы мікратапонім незалежна ад структуры выкарыстоўваецца выключна для арыентацыі ў прасторы, таму арыенцірамі (у шырокім сэнсе) выступаюць усе назвы дробных геаграфічных аб'ектаў, а не толькі прыназоўнікава-іменныя канструкцыі і суадносныя з імі афіксальныя ўтварэнні.

У даследуемай намі мікратапаніміі сумежжа слуцкіх і мазырскіх гаворак паўднёва-заходняга дыялекту таксама выяўлены найменні ў форме прыназоўнікава-іменных канструкцый. У якасці іменнай часткі такіх назваў часцей за ўсё выступаюць апелятывы, радзей – онімы (антрапонімы, тапонімы). У залежнасці ад выражаных адносін гэтыя словы (у адз. або мн. ліку) маюць форму пэўнага ўскоснага склону.

Да ліку найбольш пашыраных ва ўказаным рэгіёне канструкцый адносяцца найменні з прыназоўнікамі *за* (+ іменная частка ў форме тв. скл.: *За Вярбо'ю*, *За Шля'хом*; *За Дані'ліхаю*, *За Міхале'нкам*), *ля / ле* (+ іменная частка ў форме род. скл.: *Ля Крыні'цы*, *Ле Бро'ду*; *Ля Мікі'ты*, *Ле Прахо'ра*), *пад / под / пуд* (+ іменная частка ў форме він. або тв. скл.: *Пад Лясо'к*, *Под Ду'ба*; *Пад Мшка'мі*, *Пуд Ваўкаўне'ю*), *на* (+ іменная частка ў форме він. або мес. скл.: *На Баро'к*, *На Пярэ'спу*; *На Нанда'чы*, *На Губаро'х*), *у* (+ іменная частка ў форме род., він. або мес. скл.: *У Брадка'*, *У Рэ'чкі*; *У Брады'*, *У Ду'браўку*; *У Надда'тках*, *У Саду'*).

Адзінкавымі мікратапонімамі прадстаўлены канструкцыі з прыназоўнікамі *каля* і *між*. Іменныя часткі ў гэтых назвах маюць форму род. скл. (*Каля Бяро'з*, *Каля Рэ'чкі*; *Між Шляхо'ў*).

Мікратапонімы ў форме прыназоўнікава-іменных канструкцый складаюць усяго 2,8% ад усёй колькасці найменняў*, зафіксаваных на тэрыторыі сумежжа слуцкіх і мазырскіх гаворак. Прычым больш за ўсё такіх назваў у Старадарожскім, Петрыкаўскім, Глускім і Акцябрскім раёнах, адзінкавыя назвы зафіксаваны ў Любанскім і Жыткавіцкім раёнах (левабярэжжа Прыпяці), а ў Салігорскім раёне не адзначана ніводнай.

У мікратапаніміі Тураўшчыны [8, с. 368 – 395] прыназоўнікава-іменныя канструкцыі складаюць таксама каля 3%. На іншых тэрыторыях іх крыху больш: на Мазырскім Палессі – 7,24% [4, с. 168], Случчыне – 8,5% [1, с. 96], паўночна-заходняй Брэстчыне – 9,07% [2, с. 74]. На Стаўбцоўшчыне зафіксавана прыблізна 20% такіх мікратапонімаў [7, с. 80].

Прыведзеныя звесткі дазваляюць сцвярджаць наступнае. Паколькі найменні ў форме прыназоўнікава-іменных канструкцый прынята лічыць прамежкавай ступенню ў працэсе ўтварэння назваў дробных геаграфічных аб'ектаў [6, с. 7], мікратапанімічная сістэма тых рэгіёнаў, дзе такіх назваў зафіксавана параўнальна больш, сфарміравалася адносна нядаўна.

Ускосным паказчыкам ступені развіцця мікратапанімікона з'яўляюцца і зафіксаваныя на такіх тэрыторыях канструкцыі з вытворнымі прыназоўнікамі *паміж*, *супроць* (Случчына), *насупраць*, *проці*, *процію*, *просто* (паўночна-заходняя Брэстчына), *напроці*, *проці, процію*, *окала*, *паміж*, *узверх* (Стаўбцоўшчына), а таксама шматкампанентныя канструкцыі з некалькімі іменнымі часткамі (*Ад Кучкуноўскай граніцы*, *За Воўчы хвост*; *Лес каля Маяка*, *Пад Чортаваю гарою ў Церабузе*; *Вялікія выбоіны за дарогаю, У лозцы на лужках*).

Прыназоўнікава-іменныя канструкцыі, адзначаныя на Тураўшчыне, Мазырскім Палессі і на тэрыторыі сумежжа слуцкіх і мазырскіх гаворак, аформлены выключна пры дапамозе невытворных прыназоўнікаў (*за*, *каля*, *на*, *пад*, *у* і іншых), а невялікая колькасць шматкампанентных канструкцый прадстаўлена пераважна трохчленнымі назвамі (*За Цэнтральнаю Канаваю*, *Каля Савіных Хвояў*, *Пад Насыпістай Дарогай*).

Разам з тым параўнальна вялікая колькасць прыназоўнікава-іменных канструкцый у мікратапаніміі некаторых рэгіёнаў можа сведчыць і пра паступовае змяненне ўжо сфарміраванай раней сістэмы назваў дробных геаграфічных аб'ектаў пад уплывам тых або іншых фактараў (як лінгвістычных, так і экстралінгвістычных).

У любым выпадку для таго, каб устанавіць прычыны неаднолькавай ступені распаўсюджанасці мікратапонімаў у форме прыназоўнікава-іменных канструкцый на розных тэрыторыях, трэба абапірацца не толькі на факты мовы. Не менш важнай у гэтых адносінах з'яўляецца неабходнасць уліку адметнасцей культурна-гістарычнага развіцця і прыродна-геаграфічных асаблівасцей канкрэтнага рэгіёна.

***Заўвага***

Намі прааналізавана каля 3700 мікратапонімаў, большая частка якіх запісана ўласнаручна падчас палявых экспедыцый у шэраг раёнаў Гомельскай і Мінскай абласцей летам 2007 г. Таксама

выкарыстаны матэрыялы, узятыя са зборніка «Мікратапанімія Беларусі» (Мн., 1974), «Слоўніка мікратапонімаў Магілёўшчыны» (Магілёў, 2004) і дыялекталагічнага архіва кафедры беларускага мовазнаўства БДПУ імя Максіма Танка.

***Літаратура***

1. Адамовіч, Я.М. Мікратапанімічныя назвы / Я.М.Адамовіч; пад рэд. Ф.М.Янкоўскага. – Мінск: Выш. шк., 1971. – 112 с.

2. Емельянович, В.М. Микротопонимия северо-западной части Брестской области: дис. ... канд. филол. наук: 10.02.02 / В.М.Емельянович. – Минск, 1982. – 308 л.

3. Емельяновіч, В.М. Назвы-арыенціры ў мікратапаніміі Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці / В.М.Емельяновіч // Беларуская мова. Вып. 7. – Мінск: БДУ, 1980. – С. 76 – 84.

4. Иванова, А.А. Микротопонимия Мозырского Полесья: дисс. ... канд. филол. наук: 10.02.02 / А.А.Иванова. – Минск, 1986. – 201 л.

5. Карпенко, Ю.А. Свойства и источники микротопонимии / Ю.А.Карпенко // Микротопонимия: материалы совещания / отв. ред. О.С.Ахманова. – М.: Моск. ун-т, 1967. – С. 15 – 22.

6. Никонов, В.А. Научное значение микротопонимии / В.А.Никонов // Микротопонимия: материалы совещания / отв. ред. О.С.Ахманова. – М.: Моск. ун-т, 1967. – С. 5 – 14.

7. Прышчэпчык, А.М. Мікратапанімія Стаўбцоўшчыны: дыс. ... канд. філал. навук: 10.02.02 / А.М.Прышчэпчык. – Мінск, 1970. – 294 л.

8. Тураўскі слоўнік: у 5 т. – Мінск: Навука і тэхніка, 1987. – Т. 5. – 423 с.

9. Харошка, Н.А. Да пытання аб назвах-арыенцірах у мікратапаніміі / Н.А.Харошка // Спадчына Івана Насовіча і беларускае мовазнаўства: матэр. навук. чыт., прысвечаных 220-годдзю з дня нараджэння І.І.Насовіча / адк. рэд. М.Р.Прыгодзіч. – Мінск: Права і эканоміка, 2008. – С. 107 – 110.

**Н.В.Шульга (Минск, БГПУ)**

## РИФМА И СТИХОТВОРНЫЙ РАЗМЕР ПРИ ПЕРЕВОДЕ ПРОЗЫ

Среди заметок М. Горького о переводе, опубликованных К.И.Чуковским, есть следующие:

«*Переводчик находит возможным писать: «актри**с** **с** **с**трастными взглядами» – фраза, где три **с** невыносимо свистят.*

*…Едва ли красивы и такие фразы: «**Ж**ан **ж**адно с**ж**ал ее». Может быть, в стихах это назвали бы аллитерацией, в прозе – это небрежность.*

*…«О**н**а **н**еожида**нн**о **н**ашла, что **н**аши от**н**оше**н**ия **н**уж**н**о – даже **н**еобходимо по**н**ять и**н**аче». Здесь – на-не-нно-на-на-но-ну-не-на – нечленораздельны, а такие построения не редки.*

*…Иногда переводчик (прозы) заботится о музыкальности – получаются стихи: «Синие зимние тени ложились от сосен на снег».* [4, с. 350 – 351]

Данные примеры, относящиеся к специфическому различию между стихом и прозой с точки зрения звука и ритма, являются практическим предостережением для переводчика – указанием на необходимость проверки перевода на слух.

За исключением определенного ряда случаев, когда автор-прозаик ритмизирует речь, придает своему стилю известную стиховую окраску или даже – что встречается редко – сознательно прибегает к рифме (как Р.Роллан в книге «Кола Брюньон»), прозаическая речь характеризуется отсутствием строгой и постоянной ритмической организации [3, с. 342].

Правда, иногда в произведении прозаиков мелькнет созвучие окончаний – «рифма» – или произойдет скопление одинаковых звуков – нечто вроде стихотворной аллитерации. Чаще всего такое явление – случайность, не отражающая специального намерения, не служащая художественным целям. При переводе вывод из этого может быть лишь один: случайная рифма или случайное созвучие не есть черта стиля автора и тем самым не требует воспроизведения. А если так, то противоречием принципу прозы, свидетельством переводческой небрежности пренебрежения к стилю автора становится появление рифм, аллитераций, ритмизированных строк там, где их в прозаическом подлиннике даже и нет.

В переводе книги Марио Пьюзо «Крестный отец» встречаются следующие примеры использования рифмы и стихотворного размера в прозе:

«***На****д* ***на****ми* ***на****дсмеялись*» [1, с. 4] (в оригинале: *«They have made fools of us»* [5, с. 3]).

«*Хороша шту****чка*** *его до****чка***!» [1, с. 7] (в оригинале: «*She was a "hot number" this daughter of his»* [5, с. 6]).

«*Для американца итальянского происхождения он был выс****ок*** *…словно молодой быч****ок****»* [1, с. 9]. В оригинале ничего подобного нет: «*Sonny Corleone was tall for a first-generation American of Italian parentage, almost six feet, and his crop of bushy, curly hair made him look even taller»* [5, с. 8].

У переводчика получилась богатая и заметная рифма, но эффект такой рифмы, случайно вторгающейся в прозу, безусловно комичен и противоречит принципам перевода – адекватности передаваемого текста.

«*У него было лицо Купидона, маска с правильными черт****ами****, но с чувственно изогнутыми, точно лук, капризными губ****ами***» [1, с. 9] (в оригинале: *«His face was that of a gross Cupid, the features even but the bow-shaped lips thickly sensual, the dimpled cleft chin in some curious way obscene»* [5, с. 8]).

«***Шел****ковый ко****шел****ь невесты с интересом изучал и один из молодых гостей в толпе, смахивающий несколько на прилизанного хорька»* [1, с. 14] (в оригинале: *«In the crowd of guests a dapper young man with the sleek head of a ferret was also studying the silk purse»* [5, с. 12]).

«*Он вежливо вернул водителю и книжку и права*» [2, с. 228]. В оригинале же ничего похожего на рифму нет: «*Neri gave the driver his registration and license*» [5, с. 432].

Таким образом, переводчикам художественной литературы следует помнить, что в прозе недопустимо заметное повторение звуковых комплексов, если только автор

оригинального произведения сознательно не прибегает к рифме для создания выразительности.

***Литература***

1. Пьюзо, М. Крестный отец: в 2 т. / М.Пьюзо. – Киев: Арфа, 1992. – Т. 1. – 239 с.
2. Пьюзо, М. Крестный отец: в 2 т. / М.Пьюзо. – Киев: Арфа, 1992. – Т. 2. – 255 с.
3. Федоров, А.В. Основы общей теории перевода / А.В.Федоров. – М.: Высш. шк., 1968. – 395 с.
4. Чуковский, К.И. Высокое искусство. О принципах художественного перевода / К.И.Чуковский. – М.: Искусство, 1964. – 406 с.
5. Puzo, M. The Godfather / M.Puzo. – Putnam Adult, 1969. – 448 p.

**В.Ф.Шумчык (Мінск, БДПУ)**

## ЛІНГВІСТЫЧНАЯ СУТНАСЦЬ ПАРАЎНАННЯ ЯК СРОДКУ МАСТАЦКАЙ ВЫРАЗНАСЦІ

Параўнанне – адзінка мовы, якая валодае шматаспектнымі семантыкай і спосабамі выражэння (ад слова да тэксту), адлюстроўвае вобразнае ўспрыманне свету і мае здольнасць павялічваць аб’ём інфармацыі праз узаемадзеянне тэма-рэматычных сегментаў уласнай структуры. Семантыка, форма, лексічная выражанасць, асацыятыўныя ўяўленні што і як параўноўваецца становіцца зразумелым, рэальным працэсам праз псіхалогію ўспрымання і стварэння маўлення. Развіццё дадзенай ідэі належыць рускаму лінгвісту А.А.Патабні [11]. У залежнасці ад светаадчування чытача і аўтара, агульнай псіхалагічнай інфармацыі тэкста, у якім параўнанне выконвае часам вядучую ролю, залежыць і апісанне структурна-семантычнай разнастайнасці параўнання, семантычныя варыянты, магчымасць атрымання інфармацыі аб семантыцы параўнання, успрыманне самога параўнання як мастацкай адзінкі.

У лінгвістыцы параўнанне традыцыйна разглядаецца як адзін са сродкаў пазнання і ўспрымання рэчаіснасці, спосабаў характарыстыкі прадметаў і з’яў праз супастаўленне з іншымі, нечым падобнымі прадметамі і з’явамі жыцця; параўнанне, як і метафару, «можна параўнаць з адзеннем, якое спачатку вынайшлі з неабходнасці, а потым сталі асэнсоўваць як «акрасу» (Цыцэрон)» [8, с. 415].

Сутнасць параўнання заключаецца ў супастаўленні аднаго прадмета (з’явы, дзеяння) з другім па інтэгральных прыкметах. У адрозненне ад іншых тропаў параўнанне мае суб’ект, г.зн. прадмет, які параўноўваецца, і аб’ект – тое, з чым параўноўваецца прадмет. Граматычна афармленае супастаўленне грунтуецца на вобразнай трансфармацыі паняцця, якое набывае ў адпаведнай маўленчай сітуацыі новае значэнне па прымеце асіміляцыі дзвюх сем [6, с. 24].

Некаторыя даследчыкі лічаць параўнанне як сінтакічна расчлянёную структуру, у якой выдзяляюцца 3 інгрэдыенты: 1. рэферэнт (тэма; тое, што параўноўваецца); 2. агент (вобразны сродак; тое, з чым параўноўваецца); 3. модуль (падстава для параўнання) [7, с. 129 – 130; 5, с. 6]. Першыя два інгрэдыенты з’яўляюцца эксплліцытна выражанымі, трэці

можа прысутнічаць толькі імпліцытна і пры гэтым насіць аказіянальны характар. У аснову намінацыі ў гэтым выпадку кладзецца не найбольш істотная, а індывідуальная, нетрадыцыйная, часта нечаканая і выпадковая прыкмета [16, с. 31] (між іншым, у беларускім мовазнаўстве ў якасці тэрмінаў, якія абазначаюць кампаненты параўнання, шырэй выкарыстоўваюцца «суб'ект параўнання», «аб'ект параўнання», «аснова параўнання» [13, с. 7 – 8; 2, с. 175; 6, с. 24]).

Па традыцыі, якая ідзе з антычнасці, параўнанне разглядаецца ў цеснай сувязі з метафарай [4, с. 299 – 305]. Параўнанне з'яўляецца пачатковым этапам утварэння метафары, стрыжнем для далейшых семантычных пераўтварэнняў слова [7, с. 127 – 134]. У метафары фармальна не акрэслены суб'ект, яна мае толькі аб'ект параўнання. На падставе гэтага некаторыя даследчыкі, апіраючыся на ідэі Арыстоцеля, пад метафарай разумеюць скарочанае або скрытае параўнанне [1, с. 297]. Сапраўды, метафара грунтуецца на адным з універсальных сродкаў чалавечага ўсведамлення – параўнанні, супастаўленні новага прадмета з ужо вядомым і выдзяленні пры гэтым агульных іх уласцівасцей. Некаторыя даследчыкі разглядаюць метафару як эліптычнае параўнанне, у якім выражаюцца адносіны дадзенага калектыву да аб'ектыўнай рэальнасці [9, с. 94].

Параўнанне з'яўляецца асновай для далейшага семантыка-метафарычнага развіцця слова. Калі асацыятыўныя сувязі набываюць стабільны і ўстойлівы характар, замацоўваюцца ў свядомасці моўнага калектыву, то адбываецца рэдукцыя эксплліцытнага параўнання ў метафару. Пры гэтым першы інгрэдыент параўнальнага звароту як бы адсоўваецца на другі план, паступова затухае і пераўтвараецца ў імпліцытны. Пэўны перыяд параўнанне і метафара могуць суіснаваць у межах адзінага сінхроннага зрэзу. Працэдура параўнання не тоесная эфекту метафары, і не кожнае параўнанне можа быць рэдуцыравана ў метафару [15, с. 15 – 16].

Наяўнасць імпліцытнага значэння ў параўнанні дае магчымасць адрозніваць вобразныя параўнальныя канструкцыі ад параўнальна-раўналежных, нявобразных, якія ўказваюць толькі на адпаведнасць прымет або дзеянняў адных прадметаў і з'яў з другімі без іх вобразнага суаднясення [12].

Параўнанне па-рознаму класіфікуецца ў лінгвістыцы: яго адносяць то да тропаў, то да фігур. Супярэчнасць у класіфікацыі выклікана тым, што адны даследчыкі не бачаць у параўнанні змянення значэння слова, іншыя лічаць, што ў параўнанні адбываецца семантычнае прырашчэнне сэнсу слова і вобразнае параўнанне з'яўляецца семантычнай адзінкай. Аналіз лінгвістычных прац па данай праблеме дае падставу сцвярджаць, што большасць даследчыкаў лічыць параўнанне тропам, таму што ў ім яўна выражаны механізм трапеізацыі [14, с. 337; 16, с. 24].

У беларускім мовазнаўстве да нядаўняга часу пераважала традыцыйнае тлумачэнне параўнання і давалася больш у літаратуразнаўчым аспекце. Характарыстыка параўнання засноўвалася на прыкметах не столькі моўнага, колькі прадметна-лагічнага характару. Трапеізацыя як прадмет лінгвістычнага даследавання з'яўляецца куды больш складаным працэсам. Гэта не проста вышукванне разнастайных аналагаў, а глыбокае ўнутранае семантычнае пераўтварэнне, калі матывацыя значэння слова можа выяўляцца

імпліцытна. Услед за расійскімі даследчыкамі ў аснову лінгвістычнай характарыстыкі параўнанняў бяруцца прыметы моўнага характару: прыналежнасць слова да лексіка-граматычнага класа, тып адносін лексічных сувязей і г.д. [17].

Да сённяшняга часу ў беларускай лінгвістыцы неадназначна разглядаецца сінтаксічная прырода параўнальных канструкцый. Гэту праблему, на нашу думку, правільна акрэсліла Т.П.Бандарэнка, якая лічыць, што сінтаксічную прыроду параўнальных канструкцый неабходна разглядаць у комлексе семантычных, сінтаксічных і марфалагічных прымет, улічваючы дамінуючую ролю семантычнага фактару [2, с. 179].

У залежнасці ад спосабу граматычнага афармлення параўнанні падзяляюцца на злучнікавыя і бяззлучнікавыя.

Злучнікавыя параўнанні афармляюцца пры дапамозе параўнальных злучнікаў *як, нібы, нібыта, бы, быццам, што* і інш. Злучнікавыя параўнанні як частка простага сказа атрымалі назву «параўнальныя звароты». Традыцыйна параўнальныя звароты разглядаюцца як сінтаксічная з’ява, але пры гэтым звяртаецца ўвага і на лексічную суаднесенасць, якая з’яўляецца асноўным паказчыкам наяўнасці ў сказе параўнальнага звароту. Лексічная суаднесенасць складае сэнсавую, рэчыўную аснову для параўнальнага звароту. Гэта вельмі важна ўлічваць, бо параўнальнымі злучнікамі могуць уводзіцца не толькі параўнальныя звароты, што нярэдка прыводзіць да змешвання разнародных сінтаксічных з’яў [2, с. 174].

Граматычна бяззлучнікавыя параўнанні афармляюцца лексічнымі сродкамі *падобны да (падобны на), выдаваць (выдаваў на, выдаваючы), здаецца, нападобе, нагадваць*, назоўнікамі ў форме творнага склону, прыназоўнікава-склонавымі формамі імя (параўнальныя адносіны выражаюцца з дапамогай прыназоўнікаў *з, на, у, накшталт, на манер, на ўзор* і інш.).

У беларускім мовазнаўстве параўнальныя канструкцыі разглядаюцца таксама па спосабе марфалагічнага выражэння інтэгральнай прыметы (асновы параўнання). У адпаведнасці з марфалагічным выражэннем інтэгральнай прыметы параўнанні падзяляюцца на дзеяслоўныя, прыметнікавыя, прыслоўныя і назоўнікавыя [13, с. 9 – 11; 10, с. 9 – 10].

Параўнанне – складаная лексіка-семантычная і структурна-граматычная адзінка мовы. З’яўляючыся сродкам мастацкай выразнасці, яно служыць асновай для стварэння іншых тропаў, у прыватнасці метафары. У сувязі з гэтым параўнанне займае адно з цэнтральных месцаў у сістэме моўных вобразных сродкаў мастацкага тэксту.

***Літаратура***

1. Арутюнова, Н.Д. Метафора / Н.Д.Арутюнова // Лингвистический энциклопедический словарь / гл. ред. В.Н.Ярцева. – М., 1990.

2. Бандарэнка, Т.П. Параўнальныя канструкцыі / Т.П.Бандарэнка // Беларуская граматыка. – Ч. 2. – Мінск, 1986.

3. Барысенка, В.Я. Моўна-выяўленчыя сродкі ў паэзіі Васіля Віткі: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / В.Я.Барысенка; МДПІ. – Мазыр, 2002. – 20 с.

4. Будагов, Р.А. Метафора и сравнение в контексте художественного целого / Р.А.Будагов // Человек и его язык. – М., 1976.
5. Бузук, Н.П. Сравнение в языке современной белорусской художественной прозы (структурно-грамматический и стилистический анализ): автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02 / Н.П.Бузук; Ин-т языкознания НАН. – Мінск, 1990. – 21 с.
6. Іўчанкаў, В.І. Тыпы параўнанняў у творах У.Караткевіча і іх структура / В.І.Іўчанкаў // Беларуская лінгвістыка. – 1987. – Вып. 32. – С. 24 – 30.
7. Купина, Н.А. Сравнение как этап, предшествующий возникновению метафорического слова / Н.А.Купина // Научные труды Курского педагогического ин-та. – Т. 62 (155). – Курск, 1976.
8. Малажай, Г.М. Параўнальныя канструкцыі / Г.М.Малажай // Беларуская мова: энцыкл. / пад рэд. А.Я.Міхневіча. – Мінск, 1994.
9. Никитин, М.В. О семантике метафоры / М.В.Никитин // Вопросы языкознания. – 1979. – № 1. – С. 91 – 102.
10. Паплаўная, Л.В. Моўныя сродкі выяўленчай выразнасці ў паэзіі Пімена Панчанкі: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук: 10.02.01 / Л.В.Паплаўная; ГДУ. – Гомель, 2003. – 22 с.
11. Потебня, А.А. Эстетика и поэтика / А.А.Потебня. – М., 1976.
12. Рабкевіч, В.І. Параўнальныя звароты / В.І.Рабкевіч // Навук. працы педінстытута імя А.М.Горкага. Філалогія. – Мінск, 1975. – Вып. 1, Т.5. – С. 42 – 48.
13. Рабкевич, В.И. Сравнительные конструкции в языке белорусской художественной литературы: структурно-грамматический анализ: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02 / В.И.Рабкевич; Ин-т языкознания АН БССР. – Мінск, 1973. – 27 с.
14. Розенталь, Д.Э. Словарь-справочник лингвистических терминов / Д.Э.Розенталь, М.А.Теленкова. – М., 1985.
15. Старычонак, В.Д. Метафара ў беларускай мове: на матэрыяле субстантываў: манаграфія / В.Д.Старычонак. – Мінск, 2007.
16. Старычонак, В.Д. Полісемія ў беларускай мове (на матэрыяле субстантываў) / В.Д.Старычонак. – Мінск, 1997.
17. Черкасова, Е.Т. Опыт лингвистической интерпретации тропов / Е.Т.Черкасова // Вопросы языкознания. – 1968. – № 2. – С. 28 – 38.

**Ф.С.Шумчык, М.М.Круталевіч (Мінск, БДПУ)**

## СЭНСАВАЯ ДАКЛАДНАСЦЬ СЛОВАЎЖЫВАННЯ ЯК ФАКТАР ФАРМІРАВАННЯ МАЎЛЕНЧАЙ КУЛЬТУРЫ

Лексічная стылістыка як раздзел стылістыкі беларускай мовы вывучае лексічныя сродкі мовы, ацэньвае правільнасць «выкарыстання слова ў канкрэтнай маўленчай сітуацыі і выпрацоўвае рэкамендацыі нарматыўнага словаўжывання ў розных функцыянальных стылях» [1, с. 4]. Адным з найбольш важных патрабаванняў лексічнай стылістыкі з’яўляецца выбар дакладнага слова, якое б найбольш поўна адпавядала зместу выказвання. Недакладны выбар слова зацямняе сэнс выказвання, у выніку чаго ўзнікаюць не толькі лексічныя, але і лагічныя памылкі ў маўленні. Агульнавядома, што невыразнасць маўлення сведчыць аб невыразнасці думкі, а таму словы неабходна

выкарыстоўваць у строгай адпаведнасці з іх семантыкай. Пры дакладным выказванні думкі словы цалкам адпавядаюць свайму прадметна-лагічнаму значэнню.

Пошук адзінага, неабходнага ў тэксце слова патрабуе ад аўтараў значных высілкаў. Гэта пацвярджаюць рукапісы твораў, якія дазваляюць пазнаёміцца з лексічнымі заменамі, праўкамі. Патрабавальна ставіліся да выбару трапнага слова Янка Купала, Якуб Колас, Кузьма Чорны, Іван Мележ і многія іншыя майстры прыгожага пісьменства. Зайздроснай нястомнасці, з якой класікі беларускай літаратуры пастаянна шліфавалі стыль твораў, павінны павучыцца сёння ўсе, чыя праца непасрэдна звязана са словам, – пісьменнікі, журналісты, настаўнікі і г.д. Няўважлівасць да слова, стылістычная неахайнасць, дрэннае валоданне мовай з'яўляюцца прычынай узнікнення шматлікіх маўленчых памылак. Хранічна нізкай маўленчай культурай вылучаюцца некаторыя СМІ раённага і ведамаснага падпарадкавання. Аналізу тыповых маўленчых памылак, выкліканых няправільным выбарам слова, і прысвечаны гэты артыкул.

Няправільны выбар слова робіць маўленне недакладным, а часам і памылковым: *Я хачу працягваць сямейную <u>дынастыю</u> і таму вырашыла стаць настаўніцай* (трэба *традыцыю*); *Пачатак восені быў адзначаны пагаршэннем <u>кліматычных</u> умоў – дажджамі, халодным ветрам* (маецца на ўвазе *пагодных*, але лепей замест *кліматычных умоў* выкарыстаць слова *надвор'е*). Пра падобныя памылкі прынята гаварыць: слова выкарыстана без уліку яго семантыкі.

Ужыванне слова без уліку яго семантыкі з'яўляецца прычынай нелагічнасці і абсурднасці выказвання: *Сёння мы можам ганарыцца, што <u>продкі</u> Я. Коласа – гэта сумленныя людзі* (тут мелася на ўвазе *нашчадкі*). З-за недакладнага словаўжывання можа ўзнікнуць такая маўленчая памылка, як **анахранізм** – «парушэнне храналагічнай дакладнасці, памылковае аднясенне якіх-небудзь падзей, з'яў адной эпохі ў іншы гістарычны час» [2, с. 48]: *Пасля Падуанскага універсітэта Ф. Скарына, магчыма, вярнуўся ў <u>Беларусь</u>* (назва *Беларусь* у гады жыцця ўсходнеславянскага першадрукара была невядомай). Няправільнае словаўжыванне можа прывесці і да лагічнай памылкі **алагізм** – «думка, якая парушае законы і правілы логікі, г.зн. выключае магчымасць пазнання ісціны» [3, с. 16]: *Эмацыйнасць вясельных песень адрозніваецца ад іншых фальклорных твораў* (атрымліваецца, што эмацыйнасць параўноўваецца з фальклорнымі творамі). Аналагічную памылку можна выправіць наступным чынам: *Эмацыйнасць вясельных песень мае асаблівасці, нехарактэрныя эмацыйнасці іншых фальклорных твораў*.

Прычынай нелагічнасці выказвання можа стаць **падмена паняцця**, якая часта ўзнікае ў выніку недакладнай дыферэнцыяцыі паняццяў: *Пасля канцэрта мастацкай самадзейнасці кіраўніцтва гаспадаркі ўручыла пераможцам традыцыйны <u>набор</u> нацыянальных сувеніраў.* Уручаюць, як вядома, не наборы, а сувеніры. У гэтым выпадку лепей так сказаць: *Па традыцыі пераможцы мастацкай самадзейнасці атрымалі ад кіраўніцтва гаспадаркі нацыянальныя сувеніры*.

Нелагічным наша маўленне робіць і неапраўданае **пашырэнне** ці **звужэнне аб'ёму значэння слова**, якое ўзнікае ў выніку ўжывання родавых найменняў замест відавых.

Падобнае словаўжыванне надае выказванню афіцыйнасць, штучнасць. Родавыя найменні чамусьці некаторым аўтарам здаюцца больш значнымі, ствараюць уражанне «важнасці», «культурнасці» выказвання: *Без <u>галаўнога ўбору</u> навабранцы выглядаюць зусім як падлеткі…* (не менш «культурным», як нам падаецца, было б выказванне, калі б замест *галаўны ўбор* аўтар выкарыстаў слова *шапка*). Між іншым, неабгрунтаваная цяга да родавых найменняў сведчыць аб трафарэтным і казённым мысленні людзей. Таму пажадана замест *атмасферныя ападкі* ўжываць у залежнасці ад характару надвор'я словы *дождж, снег* і г.д., *гаруча-змазачныя матэрыялы* канкрэтызаваць словамі *бензін, салярка, маторнае масла* і т.п.

Прычына нелагічнасці выказвання, скажэнне яго сэнсу часам хаваецца і ў **невыразным размежаванні канкрэтных і адцягненых паняццяў**: *План па нарыхтоўцы кармоў на зіму для <u>жывёлагадоўлі</u> выконваецца з апераджэннем графіка* (тут маецца на ўвазе нарыхтоўка кармоў для *жывёлы (скаціны)*); *Навагодняя ялінка стала любімым святам нашага <u>дзяцінства</u>* (замест *нашага дзяцінства* лепей *нашых дзяцей*).

Скажэнне сэнсу і нават абсурднасць выказвання ўзнікаюць у выніку **неадпаведнасці тэмы выказвання і вываду**: *Рост захворванняў школьнікаў залежыць ад таго, наколькі своечасова і аператыўна была праведзена вакцынацыя.* Атрымліваецца, што своечасовая і аператыўная вакцынацыя садзейнічае росту захворванняў школьнікаў. У гэтым выпадку трэба было пісаць не аб росце захворванняў, а пра яго змяншэнне, тады думка была б сфармулявана правільна.

Такім чынам, уважлівыя адносіны да лексікі, правільны выбар слова, удумлівы аналіз лагічнасці выказвання памогуць пазбегнуць прыкрых памылак у маўленчай практыцы.

***Літаратура***

1. Голуб, И.Б. Стилистика русского языка / И.Б.Голуб. – М., 1997.

2. Стариченок, В.Д. Большой лингвистический словарь / В.Д.Стариченок. – Ростов н/Д, 2008.

3. Сцяцко, П.У. Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў / П.У.Сцяцко, М.Ф.Гуліцкі, Л.А.Антанюк. – Мн., 1990.

**В.Ю.Шыманская (Мінск, БДПУ)**

## ЭЛЕКТРОННЫ ДВУХМОЎНЫ СЛОЎНІК МЕТАФАР ПСІХАЛАГІЧНАГА ТЫПУ: СТРУКТУРА І КАРЫСТАННЕ

Электронны двухмоўны слоўнік метафар псіхалагічнага тыпу, створаны ў выніку апрацоўкі і сістэматызацыі узуальных і аказіянальных метафар псіхалагічнага тыпу (далей – МПТ), мае практычную накіраванасць і дае звесткі пра спосабы метафарычнай рэпрэзентацыі феноменаў псіхалогіі чалавека ў беларускай і англійскай мовах. Электронны слоўнік (далей – ЭС) арыентаваны на шырокае кола карыстальнікаў і служыць даведачнай крыніцай пры вызначэнні семантыкі, ужывальнасці, сінанімічных варыянтаў і перакладу метафар псіхалагічнага тыпу ў беларускай і англійскай мовах, а таксама пры выбары сродкаў метафарычнай рэпрэзентацыі псіхалогіі чалавека.

ЭС з'яўляецца першай у беларускай лексікаграфіі спробай аб'яднання метафарычнага, сінанімічнага і тэматычнага перакладнога беларуска-англійскага і англа-беларускага слоўнікаў. Крыніцамі для ЭС паслужылі дэфінітыўна-ілюстратыўныя матэрыялы, вылучаныя шляхам скразной выбаркі з Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы [4] і Oxford Dictionary of English [6]. Таксама былі выкарыстаны матэрыялы Тлумачальнага слоўніка беларускай літаратурнай мовы [3], Слоўніка мовы Янкі Купалы [2], Metaphors Dictionary [5] прыклады з мастацкіх і публіцыстычных тэкстаў.

Сістэматызацыя матэрыялаў ЭС ажыццяўлялася метадамі камп'ютэрнай апрацоўкі з апорай на дэскрыптарную тэорыю метафары А.М.Баранава [1], для чаго была створана база дадзеных у Сістэме кіравання базамі дадзеных Microsoft Access. Выкарыстанне каля 100 дэнататыўных дэскрыптараў дазволіла сістэматызаваць псіхалагічны метафарыкон адносна мэты метафарызацыі і ажыццявіць падбор сінонімаў і эквівалентаў да кожнай метафары. Сігніфікатыўныя дэскрыптары, заснаваныя на класіфікацыі МПТ адносна першаснага (неметафарычнага) лексіка-семантычнага варыянта, дапамагаюць ажыццявіць пошук метафар паводле крыніцы матывацыі. Дэнататыўныя і сінгніфікатыўныя дэскрыптары прысвойваліся кожнаму слову на аснове дэфініцый і ілюстрацый. Напрыклад, метафара *саладосць* ('прыемнае адчуванне, задавальненне') мае дэнататыўны дэскрыптар <прыемнае пачуццё> і сігніфікатыўныя дэскрыптары <чалавек>, <фізіялагічныя працэсы і станы>, <сінестэзія>, <смакавае ўспрыманне>; метафара *dart* ('a sudden, intense pang of a particular emotion') мае дэнататыўны дэскрыптар <раптоўнае інтэнсіўнае пачуццё> і сігніфікатыўныя <прадмет>, <паляўнічыя і ваенныя рэаліі>, <зброя і прыстасаванні>.

У акне ЭС змешчана шэсць электронных піктаграм: «Слоўнік», «Пошук», «Кароткі тэарэтычны экскурс», «Тэставыя заданні», «Кіраўніцтва карыстальніка».

База дадзеных «Слоўнік» утрымлівае карткі узуальных і патэнцыяльных моўных метафар, суадносныя са слоўнікавымі артыкуламі. У «Слоўніку» магчыма ажыццяўляць хуткі пошук патрэбнай карткі шляхам уводу слова ў радок пошуку ці выкарыстання паласы пракруткі. Рэестр ЭС складаюць беларускія і англійскія метафары псіхалагічнага тыпу, змешчаныя ў алфавітным парадку. У ЭС пададзена 490 беларускіх і 548 англійскіх метафары псіхалагічнага тыпу, да кожнай з якіх прыведзена да 25 сінанімічных і эквівалентных метафар. У агульны рэестр, а таксама ў рэестр сінанімічных і эквівалентных метафар уключаны 142 беларускія і 105 англійскіх патэнцыяльных моўных метафар псіхалагічнага тыпу, якія маюць памету *.

Структура электроннай слоўнікавай карткі наступная: загаловачнае слова, дэфініцыя, прыклады, сінонімы (адзначаны ○) і эквіваленты (адзначаны ●). Калі метафара мае два ці больш значэнняў, кожная дэфініцыя прыводзіцца з новага радка ў паслядоўнай нумарацыі. Ілюстрацыйны матэрыял, сінанімічныя і эквівалентныя варыянты прыводзяцца пасля дэфініцыі, да якой яны адносяцца. Напрыклад: **ХМАРНАСЦЬ** 1) непаразуменне, напружанасць у адносінах. *У дачыненнях між бацькамі і дзецьмі наступіла нядобрая хмарнасць. (І.Мележ).* ○ *дысананс, дысгармонія, непаладкі, перагародка, расколіна, сутычка, трэшчына, цень, шурпатасць* ● *clash, collision, discord,*

*dissonance, distance, fissure, friction, gap, gulf, rift.* 2) праяўленне пачуццяў (звыч. суму, незадаволенасці) у выразе твару. *Нікне хмарнасць на твары панурым. (У.Жылка).* ○ *абалонка, воблачка, вуаль*, ільдзінка*, імгла, павалока, пахмурасць, смуга, спахмурнеласць, хмара, хмурнасць, хмурынка, холад, цень* ● *cloud, cloudiness, dimness, haziness, shadow.*

База дадзеных «Пошук» дае магчымасць сартыроўкі метафар псіхалагічнага тыпу ў адпаведнасці з запытам карыстальніка. У акне базы дадзеных «Пошук» змешчаны рэестр дэнататыўных і сігніфікатыўных дэскрыптараў, суадносных з мэтай і крыніцай матывацыі метафар псіхалагічнага тыпу. Напрыклад, выбар дэнататыўнага дэскрыптара *непрыветнасць* дапамагае атрымаць пералік метафар з адпаведным значэннем. Выбар сігніфікатыўнага дэскрыптара *вада і плынь* вылучыць усе метафары, першаснае (неметафарычнае) значэнне якіх адносіцца да адпаведнай семантычнай сферы. Магчыма ажыццяўляць комплексны пошук метафар, для чаго неабходна выбраць опцыю *шукаць у знойдзеным*. Напрыклад: *хваробы і выздараўленне (крыніца матывацыі) → шукаць у знойдзеным → хваляванне (мэта)*. Такі алгарытм дапаможа атрымаць пералік метафар з агульным першасным значэннем ‘хваробы і выздараўленне’.

«Кароткі тэарэтычны экскурс» уключае асноўныя тэарэтычныя вывады, дыяграмы і схемы, якія дапамогуць карыстальніку атрымаць звесткі пра сутнасць паняццяў «метафара псіхалагічнага тыпу», «псіхалагічны метафарыкон», «метафарычная мадэль» і інш., азнаёміцца з метафарычным мадэляваннем псіхалогіі чалавека ў беларускай і англійскай мовах, супаставіць колькасны і якасны склад псіхалагічнага метафарыкону дзвюх моў.

Блок «Тэставыя заданні» арыентаваны на прамежкавы і выніковы кантроль ведаў па тэме «Метафары псіхалагічнага тыпу ў беларускай і англійскай мовах» і можа выкарыстоўвацца як у навучальным працэсе, так і для самакантролю. У тэсце змешчаны заданні на падбор сінанімічных і эквівалентных метафар, замену неметафарычнай намінацыі метафарычнай, выяўленне значэння метафары ў кантэксце і інш.

Электронны слоўнік МПТ з’яўляецца не толькі крыніцай інфармацыі пра псіхалагічны метафарыкон беларускай і англійскай моў, але і служыць першым прыкладам электроннага рэсурса, які дае магчымасць структураваць лексікаграфічны матэрыял у адпаведнасці з запытам карыстальніка, што можа паслужыць прыкладам для стварэння падобных баз дадзеных з прадстаўленнем іншых метафарычных палёў беларускай і англійскай моў.

***Літаратура***

1. Баранов, А.Н. Дескрипторная теория метафоры и типология метафорических моделей [Электронный ресурс] / А.Н. Баранов // Научно-образовательный портал «Лингвистика в России»: ресурсы для исследователей. – 2004. – Рэжым доступу: http://www.uisrussia.msu.ru/linguist/_A1_2_4_1_metaphor.jsp. – Дата доступу: 20.03.2008.

2. Слоўнік мовы Янкі Купалы: у 8 т. / рэдкал.: У.В. Анічэнка (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Белар. навука, 1997 – 2002. – Т. 1: А – Г. – 1997. – 340 с.; Т. 2: Д – К. – 1999. – 416 с.; Т. 3: Л – П. – 2001. – 413 с.; Т. 4: Р – Я. – 2002. – 398 с.

3. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / пад рэд. М.Р.Судніка, М.Н.Крыўко. – Мінск: БелЭн, 2002. – 784 с.

4. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. / пад аг. рэд. К.К. Атраховіча. – Мінск: БелСЭ, 1977 – 1984. – 5 т.

6. Metaphors Dictionary / ed. by E.Sommer, D.Weiss. – Detroit: Visible Ink Press, 1994. – 612 p.

7. Oxford Dictionary of English / edited by C.Soanes , A.Stevenson. – Oxford: Oxford University Press, 2003. – 2088 p.

**Т.П.Шэўчык (Гродна, ГрДУ)**

## ФУНКЦЫІ ФРАЗЕАЛАГІЧНЫХ СІНОНІМАЎ

Тое, што розныя тыпы семантычных збліжэнняў адзінак магчымы на розных моўных ўзроўнях, было заўважана даўно. Але дагэтуль не высветлена пытанне, ці мэтазгодна адносіць усе выпадкі такіх збліжэнняў да сферы сінаніміі, ці гэта з'ява мае якасна іншыя характарыстыкі. Да гэтага часу няма таксама адзінага погляду на такое, здавалася б, яснае пытанне як функцыі сінанімічных адзінак, без разумення якіх не магчыма растлумачыць прыроду сінаніміі ці даць поўнае азначэнне тэрміну «сінонім».

На сучасным этапе лінгвісты ў даследаванні функцый сінанімічных адзінак выходзяць далёка за межы ўласна лінгвістыкі. Г.І.Іванова ў сваёй працы падрабязна прааналізавала магчымыя функцыі сінонімаў і прыйшла да высновы, што выдзяленне той ці іншай функцыі залежыць ад вобласці навуковых ведаў, у ракурсе якой мы разглядаем сінанімічныя адзінкі [2, с. 18]; яна таксама распрацавала класіфікацыю гэтых функцый у залежнасці ад ракурсу аналізу.

Традыцыйным лічыцца падзяленне ўсіх функцый сінонімаў на наступныя: функцыя замяшчэння, удакладнення і стылістычная. Тым не менш трэба адзначыць, што пад апошняй з названых функцый аб'ядноўваецца занадта шырокае кола дадатковых семантычных адценняў сінонімаў, не ўсе з якіх маюць дачыненне менавіта да стылістычнай прыналежнасці адзінак. А.Я.Баханькоў пашырыў гэту класіфікацыю і падзяліў стылістычную функцыю на функцыю ацэнкі і стылеадрозную функцыю [1, с. 106]. Але пашырэнне прадстаўленай тыпалогіі можна працягваць. Відавочна, што нават ў межах аднаго стылю пара сінонімаў можа адрозніваццa ацэначнымі ці эмацыянальнымі характарыстыкамі. Пры дэталёвым аналізе сінанімічных адзінак і кантэкстаў іх ўжывання становіцца зразумелым, што ўсе функцыі сінонімаў, што выдзяляюцца тымі ці іншымі даследчыкамі, мэтазгодна звесці да чатырох асноўных: функцыя замяшчэння, функцыя ўдакладнення, стылістычная функцыя і ацэначна-экспрэсіўная функцыя. Спынімся падрабязней на кожнай з іх.

Л.А.Новікаў адзначае, што функцыя замяшчэння ўласціва толькі абсалютным сінанімічным адзінкам, бо толькі яны здольны замяшчаць адна адну без ўнясення семантычных змяненняў у любым кантэксце. Даследчык заўважае, што «выкарыстанне

сінонімаў у функцыі іх узаемнага замяшэння дазваляе пазбегнуць паўтарэння адных і тых жа слоў, аднастайнасці ў апавяданні» [4, с. 230]. Таму можна зрабіць выснову, што замена адной сінанімічнай адзінкі другой мае месца толькі для таго, каб мова тэксту была багацейшай.

Функцыя ўдакладнення можа рэалізавацца толькі ў тых сінанімічных адзінак, у семантыцы якіх маюцца пэўныя разыходжанні. Абсалютныя сінонімы гэтую функцыю выконваць не могуць. Дастаткова часта сінанімічныя адзінкі ўжываюцца ў адным кантэксце адна за другой (так званая моцная пазіцыя сінонімаў). Менавіта ў такім выпадку становяцца відавочнымі семантычныя адрозненні паміж гэтымі адзінкамі, яны ўдакладняюць адна адну. Прыклады выкарыстання сінанімічных адзінак ў моцнай пазіцыі можна знайсці як сярод сінанімічных слоў, так і сярод сінанімічных фразеалагізмаў.

Семантычныя разыходжанні паміж сінанімічнымі адзінкамі могуць нейтралізавацца ў некаторых кантэкстах, але ў такіх выпадках зноў-такі дзейнічае функцыя замяшчэння, бо з заменай аднаго сіноніма другім змест выказвання нічога не набывае і нічога не страчвае. Калі ж такія сэнсавыя разыходжанні актуалізуюцца, то гаворка ўжо павінна ісці менавіта пра функцыю ўдакладнення. Такія адносіны ў чыстым выглядзе могуць усталёўвацца паміж сінанімічнымі адзінкамі, што знаходзяцца ў градуальнай апазіцыі. Але яны ўласцівы таксама і адзінкам у прыватыўнай ці эквіпалентнай апазіцыях.

Удакладненне можа ісці двума шляхамі: ад немаркіраванага члена апазіцыі да маркіраванага (дэталізацыя, спесіфікацыя або уласна ўдакладненне) ці наадварот – маркіраваны член апазіцыі замяняецца немаркіраваным, каб пазбегнуць паўтарэння, і тады ўжо гаворка ідзе пра абагульненне ці адваротнае ўдакладненне. У абодвух выпадках змест выказвання змяняецца, набываючы (страчваючы) пэўныя семантычныя прыкметы.

Стылістычная функцыя асабліва важную ролю выконвае ў мастацкім тэксце, калі, замяніўшы нейтральную адзінку яе сінонімам, што належыць да пэўнага стылю, мы можам дасягнуць пэўнага стылістычнага эфекту. Напрыклад, фразеалагізмы ў значэнні «паміраць» яскрава адрозніваюцца сваёй стылістычнай афарбоўкай. ФА *адыходзіць (адысці) у вечнасць* пазначаецца ў Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы [3] як кніжны, а *выпростваць (выпрастаць) ногі* – як прастамоўны.

Вельмі цесна са стылістычнай звязана ацэначна-экспрэсіўная функцыя. Яе можна было б раскласці на дзве (функцыю ацэнкі і экспрэсіўную функцыю). Але справа ў тым, што абазначаныя функцыі могуць сустракацца ў сінанімічных апазіцыях як разам, так і паасобку, таму іх часта мэтазгодна разглядаць як суадносныя. Адзін і той жа змест можа перадавацца ў маўленчай плыні рознымі спосабамі ў залежнасці ад нашых адносін да зместу выказвання або да сітуацыі. Калі мы возьмем усё той жа рад сінанімічных фразеалагізмаў (*аддаваць богу душу, аддаваць канцы, аддаваць духі, адкідваць капыты, адкідваць хвост, адпраўляцца да абрама на піва, адпраўляцца на той свет, адыходзіць на той свет, адыходзіць у вечнасць, адыходзіць у іншы свет, выцягнуць ногі, даваць дуба, дух выпусціць, дух спускаць, духу не ўказаць, загавець душой, загадаць доўга жыць, задзіраць капыты, задзіраць ногі, заснуць вечным сном, заснуць навекі, згарнуць рукі, з капылоў далоў, лажыцца ў магілу, пайсці ў магілу, пачыць у бозе, складваць рукі,*

*сыходзіць са сцэны, трапіць да абрама на піва*) і параўнаем іх, то заўважым, што некаторыя з іх (найчасцей кніжныя) могуць разглядацца як эўфемізмы. Да гэтай групы можна аднесці наступныя звароты: *аддаваць богу душу, адыходзіць у вечнасць, заснуць вечным сном, сыходзіць са сцэны.* Але ў тым жа сінанімічным радзе можна знайсці і адзінкі з відавочна пагардлівым адценнем значэння: *адкідваць капыты, даваць дуба, задзіраць капыты, задзіраць ногі* і іншыя. Нельга сказаць, што любая адзінка з першай групы можа лёгка замяшчацца зваротам з другой групы, бо тады мы атрымаем палярную апазіцыю, а ў маўленчай плыні паміж гэтымі адзінкамі будуць усталёўвацца зусім не сінанімічныя, а ўвогуле часам нават антанімічныя адносіны.

Прааналізаваўшы розныя тыпы сінанімічных апазіцый, можна заўважыць, што, як правіла, дыферэнцыяльныя элементы ў семантыцы фразеалагічных сінонімаў выяўляюцца ці ў дэнатаце, ці ў канатацыі. Ад тыпу адрозненняў залежаць функцыі, якія выконваюць сінанімічныя адзінкі ў тым ці іншым кантэксце. Калі мы маем справу з адрозненнямі (ці з іх адсутнасцю ў выпадку з абсалютнымі сінонімамі) у дэнатаце адзінак, то сінонім можа выконваць функцыю удакладнення (супрацьпастаўлення ці градацыі пэўнай прыкметы) і замяшчэння. Калі ж гаворка ідзе пра адрозненні ў канатацыі, то могуць выконвацца наступныя функцыі: стылістычная, экспрэсіўная ці эмацыянальная.

Можна зрабіць выснову, што традыцыйны погляд на функцыі сінанімічных адзінак не з’яўляецца дасканалым. Для поўнага разумення гэтых функцый і механізму іх дзеяння патрэбны больш глыбокі і ўсебаковы аналіз з’явы сінанімічнасці адзінак розных моўных ўзроўняў.

***Літаратура***


1. Баханькоў, А.Я. Функцыі сінонімаў у мове / А.Я.Баханькоў // Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук. – 1990. – №2. – С. 104 – 111.
2. Иванова, А.И. Контекстуальная синонимия как проявление номинативного варьирования в тексте: автореф. дис. … канд. филол. наук / А.И.Иванова. – Тверь, 2006. – 19 с.
3. Лепешаў, І.Я. Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы: у 2 т. / І.Я.Лепешаў. – Мінск: БелЭн, 1993.
4. Новиков, Л.А. Семантика русского языка / Л.А.Новиков. – М.: Высшая школа, 1982. – 272 с.


**Г.В.Юдзянкова (Мазыр, МДПУ)**

## ФУНКЦЫЯНАВАННЕ ПРЭЦЭДЭНТНЫХ АНТРАПОНІМАЎ БІБЛЕЙСКАГА ПАХОДЖАННЯ Ў МАСТАЦКІМ ТЭКСЦЕ

На працягу многіх стагоддзяў адбываецца працэс непарыўнага ўнутранага звароту чалавека да тэксту Біблii як асновы хрысціянскай рэлігіі. Для літаратуры Біблія здаўна з’яўляецца невычэрпнай крыніцай шматлікіх тэм і вобразаў, якія, уваходзячы ў мастацкі тэкст, могуць набываць новыя сэнсавыя адценні і пэўным чынам трансфармавацца.

У межах тэорыі прэцэдэнтнасці (Ю.Караулаў, Д.Гудкоў, В.Красных і інш.) мы разглядаем *тэкст* Кнігі кніг як адзін з відаў прэцэдэнтнага феномена (ПФ), вылучаючы ў

ім прэцэдэнтныя *сітуацыі* (ПС) (пагібель Садома, здрадніцтва Іуды і інш.), прэцэдэнтныя *выразы* (ПВ) (Калі хочаш прамудраваць, прытрымлівайся запаветаў; Няма нічога патемнага, што не зрабілася б відавочным; блудны сын; несці крыж і інш.), прэцэдэнтныя *імёны* (ПІ) (Ісус, Адам, Ева, Ірад, Галгофа і інш.). ПФ біблейскага паходжання вылучаюцца ў асобную сферу-крыніцу ў даследаваннях А.Супруна [1, с. 25], Ю.Пікулевай [2, с. 11], А.Нахімавай [3, с. 89], С.Сянкевіч [4, с. 241].

Гэты артыкул прысвечаны аналізу прэцэдэнтных антрапонімаў (ПА) (як аднаго з відаў ПІ) біблейскага паходжання, ужытых у мове мастацкіх тэкстаў беларускіх пісьменнікаў 2-й паловы XIX стагоддзя (В.Дуніна-Марцінкевіча, Ф.Багушэвіча, В.Каратынскага, Я.Лучыны, Г.Марцінкевіча і інш.). Фактычны матэрыял складаюць 13 ПА, якія звязаны са старазапаветнымі паданнямі ці ўзыходзяць да біблейскіх легендаў з Новага Запавету, рэпрэзентуюць прытчавыя тэксты, якія адлюстроўваюць міфалогію хрысціянскай рэлігіі: *Адам, Бетсабея, Галіяф, Давід, Даліля, Ева, Іона, Маісей, Ной, Самсон, Святы Юрый, Святы Ян, Юда.*

Біблейскае імя, уведзенае ў мастацкі тэкст, з'яўляецца крытэрыем ацэнкі, прыкладам паводзін, арыентуе ў сітуацыі, дапамагае здзейсніць выбар паміж дабром і злом. Абапіраючыся на класіфікацыю В.Красных [5, с. 173], такія адзінкі мы адносім (з некаторай умоўнасцю) да універсальна-прэцэдэнтных, паколькі яны ўваходзяць ва «універсальную» кагнітыўную прастору чалавецтва і вядомы любому сярэдняму сучаснаму homo sapiens. Улічваючы прагматычны патэнцыял ПА, якія генетычна ўзыходзяць да сферы-крыніцы «Біблія» (у шырокім сэнсе слова), і прасачыўшы асаблівасці іх ужывання, мы прыйшлі да высновы, што такія адзінкі выкарыстоўваюцца ў межах мастацкага твора для прамой ці ўскоснай характарыстыкі персанажаў. Разгледзім два спосабы функцыянавання ПА біблейскага паходжання ў мастацкіх тэкстах беларускіх пісьменнікаў 2-й паловы XIX ст.:

**1. Дэнататыўны** – ПА захоўвае сваё экстэнсіянальнае (прамое) значэнне, сувязь з дэнататам, аднак характарызуе персанаж шляхам семантычнага паралелізму. Такое ўжыванне характэрна для так званых парных ПА, якія скіроўваюць чытача да пэўнай ПС, суадноснай з тэкстам Бібліі, і тлумачацца аўтарам:

а) дакладна, у даданай частцы складаназалежнага сказа: *Чорт бабу, пэўне, добра знаў / Яшчэ тагды, як яблык крала* *__Эва__* */ У раі божым, гдзесьці там, / З таго праклятага праз Бога дрэва, / Што праз яго прапаў* *__Адам__!* («Гдзе чорт не можа, там бабу пашле») [6, с. 46]; *__Самсон__, што льва раздзёр, загінуў у бяссіллі, / Бо лішне давяраўся здрадніцкай* *__Далілі__* (Эдмунд, «Апантаны») [7, с. 105]; *__Давіда__, што з* *__Галіяфам__* *так змагаўся смела, / Красуня Бетсабея гнула, як хацела* (Эдмунд, «Апантаны») [7, с. 105];

б) алюзійна: *__Адам__, найпершы чалавек, праз словы* *__Евы__* */ Сцягнуў на цэлы род людскі нябёсаў гневы* (Эдмунд, «Апантаны») [7, с. 105]; *Хрыстос вам нарадзіўся, а ярмо не знята. / «Братамі будзьце, людзі!» – гэта голас* *__Юды__* («Пярэдадне Божага нараджэння») [8, с. 95].

**2. Канатацыйны** (інтэнсіянальны) – ПА выкарыстоўваецца для характарыстыкі таго ці іншага персанажа і ўваходзіць у склад:

а) параўнання, маркёрам якога з’яўляецца злучнік *як, так як,* а падставай – падабенства сітуацый: *Яна* [Аліна Паэтніцкая – Г.Ю.] *вось, як Адама Ева, спакусіла / Мяне* [Эдмунда – Г.Ю.], *сірэны вокам глянуўшы зламала / І да кахання палымянага ўскрасіла!* (Эдмунд, «Апантаны») [7, с. 103]; *Тут між звяр’я ляснога, / Як Ян святы, жыць строга / Сваёй пастаўлю мэтай* (Эдмунд, «Апантаны») [7, с. 108]; *А што ж тоураднік за велькі індык? / Як ён каго трэсне, дык гэта нічога, / Яго ж не даткні, так як Юр’я святога* («У астрозе») [6, с. 66];

б) метафары: *Праўда, панна Адэля і пекная і разумная дзяўчына, дык што… каб не мела звінячай прыманкі, то, напэўна, я нават і не падумаў бы, каб ажаніцца з ёю. І яна, мне здаецца, таксама, дык што… родная дачка Евы* (Сабковіч, «Залёты») [7, с. 165].

Такім чынам, прэцэдэнтныя антрапонімы біблейскага паходжання як з адмоўнай *(Даліля, Ева, Бетсабея, Юда)* так і са станоўчай *(Адам, Галіяф, Давід, Іона, Маісей, Ной, Самсон, Святы Юрый, Святы Ян)* канатацыяй маюць дакладна акрэсленую маральна-этычную накіраванасць, паколькі ўзыходзяць да такіх рэлігійна-філасофскіх катэгорый, як «дабро» і «зло». Акрамя характарызуючай, такія адзінкі, з’яўляючыся лёгка распазнавальнымі і шырока ўжывальнымі ў мастацкім тэксце, выконваюць і валюнтатыўную функцыю, уздзейнічаючы на ўспрыманне і эмацыйны стан рэцыпіента (слухача ці чытача).

***Літаратура***

1. Супрун, А.Е. Текстовые реминисценции как языковое явление / А.Е.Супрун // Вопросы языкознания. – 1995. – №6. – С. 17 – 29.

2. Пикулева, Ю.Б. Прецедентный культурный знак в современной телевизионной рекламе: лингвокультурологический анализ: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.01 / Ю.Б.Пикулева. – Екатеринбург, 2003 – 22 с.

3. Нахимова, Е.А. Прецедентные имена в массовой коммуникации [Текст] : монография; ГОУ ВПО «Урал. гос. пед. ун-т» ; Ин-т социального образования / Е.А.Нахимова. – Екатеринбург, 2007. – 207 с.

4. Сянкевіч, С.А. Прэцэдэнтныя адзінкі публіцыстычных тэкстаў / С.А.Сянкевіч // Имя и слово (проблемы семантико-прагматического взаимодействия в славянских языках): материалы междунар. научн. конф., Брест, 19–20 апр. 2007 г.: в 2 ч. / Брестский гос. ун-т; ред. В.И.Сенкевич [и др.]. – Брест, 2007. – Ч. 1. – С. 239 – 242.

5. Красных, В.В. «Свой» среди «чужих»: миф или реальность? / В.В.Красных. – М.: Гнозис, 2003. – 369 с.

6. Багушэвіч, Ф. Творы: вершы, паэмы, апавяданні, артыкулы, лісты / Ф.Багушэвіч. – Мінск : Маст. літ., 1991. – 309 с.

7. Дунін-Марцінкевіч, В. Творы / В.Дунін-Марцінкевіч. – Мінск : Маст. літ., 1984. – 527 с.

8. Каратынскі, В. Творы / В.Каратынскі. – Мінск : Маст. літ., 1994. – 406 с.